28 чэрвеня 2017 года
памёр

**Сымон Раманчук**
**(1936—2017)**

Архіяпіскап Лодзьскі і Познаньскі,
беларускі пісьменнік,
настаўнік

# Т Э Р М А П І Л Ы

Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс

№ 21 Беласток 2017

## ЗМЕСТ

---

Р э д а к т а р
***Ян ЧЫКВІН***

**Галіна САМОЙЛА**

## Рубаі

Кілішак гора выпіла да дна:
На паўпакоя – трэцяя труна.
У хаце свечкі, звонку вокны плачуць.
І ўжо не плачу толькі я адна.

Без ножкі стул, гітара без струны.
Ляжыць мой муж п’яны, і брат п’яны.
А я з нічога есці наварыла.
Жыву. Можа, парадуюць сыны…

Дзіцятка трэцяе не нарадзіла я,
А сёння ў сне пад вокнамі хадзіла я,
Дзе плакала дзяўчынка не мая.
Не прыняла яе, не адпусціла я…

Не заўважала ў роднай хаце,
Як пастарэлі бацька з маці.
Калі ж убачыла ў дарозе –
Падумала аб хуткай страце…

Сказала “не” табе, хоць і нясмела.
Прабач, але ў каханні я хацела
Аддаць сваю, забраць тваю душу,
А ты мне прапануеш толькі цела…

Дастала з шафы наш альбом стары:
Юнацтва маміна, сяброўкі і сябры.
Не распытала я пра іх у мамы –
З альбомам не магу пагаварыць…

Як доўга я чакала дапамогі
Ад сваякоў, сяброў, знаёмых, Бога.
Калі ж нарэшце папракаць іх стала,
Пачула: "Не прасіла ж ты нічога…"

Тут Зямлі лепш не трэба быць маці,
Бо хваробы свае дасць дзіцяці,
Бо збылася тут Чорная Быль.
Толькі Бог Бацька веры не траціць…

## Трохрадковікі

Спіць страказа на стрэлцы асакі.
Калыша яе ветрык трапяткі.
Трывожыць сон струменьчык гаваркі.

Цярусяць сосны гонкія ігліцу
На пень у кропельках смалы-жывіцы,
Бы плачуць над магілаю сястрыцы.

Дзве палкі вядуць бабку па падворку.
Суніцы ў блзікім лесе на пагорку
Ёй сталі недасяжнымі, як зоркі.

Стуліла ліпа кветкі пад дажджом.
Стаю перад зачыненым акном
І слухаю: "Бом-дом, ёсць дом, твой дом".

Дубы на кронах воблакі ўзнялі,
А гэты нахіліўся да зямлі.
Яго не бачылі… Пасля "знайшлі"…

Па кастрычніку час цячэ.
Маргарыткі цвітуць яшчэ.
Сад па лісці плыве, як каўчэг.

Неба сіняе па-над вёскаю.
Дзень у інеі – цуда Боскае.
Сталі дрэвы ўсе-ўсе бярозкамі...

Снег ішоў усю ноч і прыстаў.
Спіць на лузе, дарозе, на дрэвах, кустах
І на возеры, дзе качаня-сірата.

Плача снег – да вясны гэта ўздым.
Снег маўчыць – скутасць гора-бяды.
І ў мяне натура вады…

Жылі-былі ўва мне Любоў і Боль.
А я ўсё іх дзяліла між сабой
І выганяла Боль. Пайшла Любоў…

## Двухрадковікі

Я адна. На сэрцы ноч, а я адна.
Зберажы мяне, жыццё, да відна.

Пад смутным Небам смутная Зямля.
І цягнецца з Зямлі да Неба шлях.

Мяне ў вясне маёй не адбылося.
Я адбылася, як настала мая восень.

Спакой прыйшоў як вынік цвёрдых ведаў:
Свет чалавечы з міфаў і легендаў.

Зіма віхурыць, беліць, студзіць, снежыць.
А мне ў ёй відарыс з акна належыць.

Ці ў нашых дзеях розум быў, ці глупства,
Пабачым мы, дажыўшы да наступстваў.

Бягуць па свеце самастойна рэкі.
Шляхі бягуць заўсёды з чалавекам.

Сынок хацеў падняць прамень з падлогі.
Хацеў так моцна… Паднімаў так доўга…

Свой яблык падабрала я пад дрэвам.
Адам яго не еў. І я не Ева…



*ТАНЕЦ*. Фота з архіва Т. М.

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

# "ВОСЬ ЯНА КАЗКА – ДАВЫД-ГАРАДОК..."

Буслы

Буслоў у Давыд-Гарадку называюць бу́ськамі, а старыя людзі яшчэ называлі іх і антонамі.

Чаму гэтак?

Загадка.

Памятаю, калі ўпершыню я ўбачыў бусла, бацька сказаў:

– О, Лёнік, антон прыляцеў!

Буслянка (па давыд-гарадоцку – кублó) знаходзілася вельмі высока, так проста ў яе не зазірнеш, і заўсёды здавалася, што буслы, маючы яшчэ і чалавечае імя Антон, нешта каштоўнае ў сваім кубле хаваюць – не адных жа толькі буслянят выседжваюць!

Думалася, што сярод іншых яек хаваюць і залатое яйка, якое зусім невыпадкова згадвалася ў гэтым, чутым ад бабы Просі, бойкім вершыку:

*Бусько-клечко,*
*Знясі мне яечко,*
*І ні белэе, ні тэ,*
*А яечко золотэ!*
*Бусько-клечко,*
*Знясі мне яечко,*
*Тобе два, а мне аднэ,*
*Коб садзеў у кубле!*

Так, буслінае імя Антон загадкавае, як і даволі загадкавы Просін вершык, у якім разумны чалавек просіць сабе толькі адно залатое яйка, буслу ж пакідае два і з абавязковай

умовай, каб заставаўся ў гняздзе, – маўляў, выводзь патомства!

Магчыма, сэнс тут у тым, што чалавеку, залежнаму ад прыроды, трэба заўсёды нешта мець, але мець удвая менш, чым птушцы, якая ўвасабляе прыроду – сілу, большую за чалавека.

Вударкі

Свежыя людзі адразу ж прыкмячаюць у Давыд-Гарадку такую маляўнічую карціну: на гарынскіх берагах часцей стаяць не мужчыны-вудары, а жанкі.

Так, гарадчанкі любяць вудзіць рыбу, і ўсё што да вударства ім звыклае – умеюць да вудзільна прымацаваць капронавую жылку, а да жылкі прывязаць зазубец, а на зазубец начапіць чарвяка, муху ці галушку цеста; могуць таксама і месца прыкарміць як след, так што рыба ў іх “тоўка́е” – гэта значыць, клюе – вельмі добра, не горш, чым у мужчын, і якая хочаш – і плотка, і акунь, і верхаводка, а пры нагодзе можа і “шва́йка” (шчупак) узяцца.

“Ні тая рыба, шчо ў рацэ, а тая рыба, шчо ў руцэ!” – гэтак думаючы, давыд-гарадоцкія вударкі закідаюць у абмялелую Гарынь свае доўгія вуды, і калі шанцуе, то вудзільны з тонкай арэшыны згінаюцца ў дугу, а пры сапраўднай удачы могуць сагнуцца і куплёныя бамбукавыя вудзільны.

Свежыя людзі толькі ахаюць ад здзіўлення.

Гарадчук – майстар агародніцтва

Спрадвеку нашы мужчыны былі добрымі рыбакамі, паляўнічымі і (аб чым не раз гаварылася!) рамеснікамі.

І спрадвеку ж яны – проста выдатныя агароднікі!

На першы погляд, агародніцтва – справа чыста жаночая, аднак жа гэта ў нейкім іншым краі агародніцтва толькі жаночы клопат, а ў Давыд-Гарадку – прывычная карціна, калі мужчына завіхаецца з жалезняком ці сапачкай!

Новыя грады (каб роўныя былі!) гарадчук робіць пад шнур, і гэта нагадвае цяслярскі прыём, калі шнуром, нама-

заным вугалем, адбіваюць на бервяне лінію для роўнага часання.

Вясною перад самым капаннем гарадчук старанна прыбірае гарод, граблямі зграбае ламачча, смецце, да апошняга белага кораня вырывае пырнік ды іншае шкоднае пустазелле, бо навучаны стогадовым вопытам – зямля перад сяўнем павінна быць чыстай!

Такую ж прыборку, дарэчы, праводзіць і восенню, калі збіраецца капаць на зіму…

Дык вось, прасцей за простае – і гной прыкапае, і межы выплешча, і пасее, і забаранue, і любую расаду з парніка ў пару высадзіць, і палье, і праполе, і збярэ, і прасушыць, і прапала́е, і ў торбачкі сабранае насенне ўсыпле, і кітайкай[1] завяжа.

Так і хочацца сказаць: гарадзецкі мужчына – майстар на ўсе рукі!

Давыды

У “Статыстыцы імёнаў Беларусі”, змешчанай на сайце “Ребенок. Ву”, імя Давыд у 2006 і 2007 гадах сустракаецца адзін раз, а ў наступным 2008 годзе яно зафіксавана два разы. Нейкі рост (мікраскапічны!) можна заўважыць пазней – у 2014 годзе бацькі ажно шэсць разоў называлі сваіх хлопчыкаў Давыдамі.

Словам, імя даволі рэдкае!

Паводле сектара архіва органаў, якія рэгіструюць акты грамадзянскага стану, галоўнага ўпраўлення юстыцыі Мінгарвыканкама – у двухмільённым Мінску ў 2016 годзе пражываў усяго толькі 121 Давыд…

А што ў нашым гарынскім гарадку?

На сённяшні дзень маем восем Давыдаў.

Дарэчы, самы першы хлопчык з такім царскім імем нарадзіўся ў нас у 1998 годзе, і прозвішча ў яго адпаведнае – Царык!

Ужо стала прыкметнай традыцыяй тое, што бацькам, у якіх з’яўляюцца на свет Давыды, гарсавет у якасці падарунка

[1] Кітайка (давыд-гарадоцкае) – матузок.

ўручае кнігу гісторыка М.У. Шэлехава “Давыд-Гарадок. Час і людзі”.

Давыд-гарадоцкая кухня

Гарадчукі на гурманства не хварэюць, ласавацца нейкай асаблівай ежай не імкнуцца, больш думаюць пра работу, чым пра тое, што ў печы ці на газавай пліце стаіць, аднак жа ведаюць толк у ядзе і маюць сваю кухню.

Першая страва іхняй кухні – бульба-“мóчанка”!

Простая, вельмі смачная ежа…

Варта адно зварыць бульбу, а на патэльні да залацістага хрусту падпякці сала з дробна пакрышанай цыбулінай і, як той казаў, на стол пададзена!

Мачай бульбу ў сала і цыбулю і еш сабе на здароўе, толькі глядзі, нічога не закапай гарачым тлушчам – гаспадыня насварыцца!

Гэта я са свайго дзіцячага вопыту – аднойчы заліў салам лаву і падлогу, і мне ўляцела ад бабы Лесі.

А якая другая гарадзецкая страва?

Бабка!

Яна таксама з варанай бульбы, але ўжо тоўчанай таўкачом і запраўленай падсквараным салам і цыбуляй, зноў жа дробна пакрышанай; бабку на нейкі час пакідаюць у печы (прынамсі, так раней рабілі), і яна пакрываецца румянай прыгаркай.

Дух на ўсю хату!

Бабку можна есці і з квашанай капустай, і з гурком (свежым ці салёным), і з кіслым малаком, і так можна есці – без нічога.

Трэцяя адметная страва – разкí!

Гэта бульбяны суп – без бульбы, як бачна, і гарадчук абысціся не можа; кожная бульбіна ў разках на некалькі разоў разразаецца, адсюль і назва.

Прыгатаванне ж мае свой сакрэт – на кухоннай дошцы крышаць часнок і елкае, жоўтае, леташняе, салёнае сала, а тады ўжо таўкачыкам таўкуць накрышанае, кладуць у згатаваны суп, даюць трохі пакіпець – і разкі гатовыя.

Можна частаваць імі нават і пераборлівых да яды гасцей!

Заўважу негарадчукам: калі хочаце зварыць разкі, то ў якасці заправы спажывайце менавіта елкае, пажоўклае сала.

Мой брат Іван Бразоўскі расказаў мне, як ягоныя госці (украінцы!) вярнуліся дадому і захацелі згатаваць беларускіх разок, якія так ім спадабаліся.

Аднак жа нічога путнага ў іх не выйшла, бо ў страву паклалі не леташняе, а свежае сала.

Варта яшчэ і аб тым памятаць, што ў разкі не трэба сыпаць крупы!

А чым яшчэ багаты давыд-гарадоцкі стол?

Каша́нкай і кішча́нкай!

Гэта хатнія каўбасы.

Памятаю, каб іх зрабіць, бацькі выварочвалі свіныя кішкі і доўга мылі іх цёплай вадой, а каб зусім адбіць непатрэбны пах – на гадзіны дзве-тры кішкі апускалі ў салёную ваду.

Кашанка – крывяная каўбаса, напоўненая зваранай грэцкай кашай, мясам, здорам і падсмажанай цыбулькай; завязаўшы яе канцы ніткамі і склаўшы на блясе ў некалькі ста́лак, кашанку ставяць у зыркую печ; каб не лопнула і не выцекла на бляху, час ад часу кашанку трэба праколваць голкай – выпускаць лішні крывяны дух.

Каўбаса шыпіць, як гусак, адно паглядзіш на яе і тут жа адчуваеш – смаката поўная!

Кашанку робяць з тоўстых кішак, а вось кішчанку з тонкіх, фізіялогія якіх мае сваю асаблівасць, таму іх не толькі мыюць, але і чысцяць адмысловай драўлянай лёстачкай.

Рэцэпт кішчанкі такі – свіны кіндзюк, шкуркі ад сала, лішнія кішкі на хвілін пяць кідаюць у кроп (вар), і, як прынята казаць у Давыд-Гарадку, трохі прыварваюць, а тады ўжо дробна рэжуць і з вострымі прыправамі напіхваюць у тонкую кішку, канцы якой зноў-такі завязваюць ніткамі, выкладваюць на бляху і ставяць у печ.

Часам бывала і такое – захопленыя работай, гаспадары не заўважалі, што парэзалі ўсе кішкі, ніводнай не пакінулі, і няма куды напіхваць прыгатаванае для кішчанкі, таму хуценька беглі па суседзях, шукалі, каб купіць у каго хоць бы метр які тонкай свіной кішкі…

Кашанка і кішчанка – кулінарны цуд!

І ў Парыжы не еў я каўбас, якія былі б лепшымі за кашанку і кішчанку!

Смачная ў Давыд-Гарадку і верашчака, але гэта не тая мучная страва, пра якую Якуб Колас у сваёй знакамітай паэме “Новая зямля” сказаў:

*Тым часам маці даставала*
*Чыгунчык з печы, лыжку брала*
*І верашчаку налівала.*
*А за сталом на верашчаку*
*Падгатаўлялі ўжо атаку…*

Верашчакай у Давыд-Гарадку называюць яечню…

Варта асобна сказаць пра сухую або “в’ялу” рыбу – асаблівасць прыгатавання яе ў тым, што яе сушаць на сонцы без лускі і вантробаў.

Мае маскоўскія сябры-аднакурснікі моцна здзіўляліся:

– А ў нас не толькі з луской рыбу сушаць, нават з трыбухамі?!

– У вас і з кабана ўсё выкідваюць, як заколюць яго! Каўбас не робяць! – мякка смяяўся я.

Аднак рыба рыбай, а давыд-гарадоцкая кухня – гэта й бульбяныя млінцы (вядомыя ўсім дранікі), і налiснікі з тварагом, а яшчэ й вялікія абаранкі, якія доўга не чарсцвелі – некалі іх пяклі на продаж; некалі ж на радасць дзецям вылівалі з цукру і чырвоных пеўнікаў – тых самых, на палачцы, па пяць і пятнаццаць капеек за штуку.

Ну, калі гаворка пайшла пра салодкае, то як тут не ўспомніць пра “ма́йнікі” – любімы пачастунак дзяцінства!

І сёння я параіў бы – калі хочаце адчуць сябе па-дзіцячаму шчаслівымі, зрабіце сабе давыд-гарадоцкія “майнікі” і не бойцеся, што растаўсцееце!

У “майніках” жа мукі ні грама.

Кіслым малаком трэба развесці манныя крупы, убіць у іх пару яечак (а можа, і дзве пары!), усыпаць, не шкадуючы, цукру, дадаць пітной соды, выліць на бляху і на пэўны час пакінуць у напаленай печы.

Разразаючы спечанае нажом, памятайце – самыя смачныя “майнікі” знаходзяцца ў кутках бляхі!

Гэты вельмі сціслы нарыс я збольшага спісаў з матчынай кухні, а таксама з падказаў Іванавай жонкі Таццяны, і, мяркую, – нарыс можа ўспрымацца асобным раздзелам у кнізе агульнабеларускага кулінарнага майстэрства.

Жалязняк

Невядома, калі ў Давыд-Гарадку з’явіліся першыя жалезнякі, але вядома, чаму яны з’явіліся – каб лягчэй і зручней было капаць грады!

Нейкі здагадлівы каваль выкаваў з жалеза трохвугольнай формы ёмкую рыдлёўку, і з таго даўняга часу гарадчукі свае соткі ўскопваюць толькі гэтай адметнай прыладай.

Вядома, цяпер шырока пушчаны ў ход мотаблокі і ўсялякія культыватары, аднак самая сучасная тэхніка ніколі не заменіць гэту простую прыладу для капання.

Вострым вуглом жалязняк лёгка (што вельмі важна!) уваходзіць у глебу; жалезняком даволі зручна “чохры́ць сці́ж’е” (драбніць камлыгі), бо ў яго даўжэйшае, чым у звычайнай рыдлёўкі, дзяржальна і да таго ж ён лягчэйшы за рыдлёўку; урэшце – толькі жалезняком можна выплескаць межы.

А межы – гэта вам не дробязь якая!

Культура давыд-гарадоцкага агародніцтва строга патрабуе, каб града ад грады заўсёды аддзялялася роўнай, як нацягнуты шнур, мяжой…

Калісьці па Давыд-Гарадку хадзілі капальнікі – гэта былі тыя людзі, якія наймаліся капаць агароды.

Калі капальнік меў пры сабе якую-небудзь ржавую “копані́цу” (квадратную лапату), то такога і не вельмі хацелі браць, а вось капальніка з бліскучым жалезняком гаспадар з большай ахвотай пускаў на свой вясновы пляц.

Жалязняк – яшчэ адзін сімвал Давыд-Гарадка, і таму да жалезняка ставіліся, можна сказаць, з рытуальным шанаваннем: пасля работы не пакідалі ў гародзе, хавалі ў адрыне і,

каб не было на ім рудых плям, жалезняка не мылі вадой – да вясёлага сухога бляску насуха праціралі шматай…

Царква і цяпліца

Гадамі і дзесяцігоддзямі, а можна сказаць і так: заўсёды ў Давыд-Гарадку існавала праблема з працаўладкаваннем.

Прадпрыемстваў было вельмі мала, часам яны закрываліся, найбольш тады, калі быў ліквідаваны Давыд-Гарадоцкі раён, і ўсё гэта спрыяла міграцыі.

Скажам, калі ў лютым 1952 года не стала верфі, дзясяткі выдатных карабелаў мусілі ехаць у Карэла-Фінскую рэспубліку – там яшчэ працавала падобнае суднабудаўнічае прадпрыемства.

Дзяржава не магла ўсіх забяспечыць неабходнай работай, таму людзі шукалі яе самі: ездзілі “на вэ́сну”[2] і займаліся розным саматужніцтвам – рабілі цеслярамі, сталярамі, мулярамі, краўцамі, кушнярамі, бляхарамі ці тымі ж кавалямі.

Дарэчы, раней (той час я добра памятаю) па ўсяму Давыд-Гарадку стаялі кузні.

Карміла, канешне, рака, агарод, поле і лес, а яшчэ выбіраліся на “цаліну”.

Я знарок узяў у двукоссе гэта прыкметнае слова, бо тут маецца на ўвазе не асвойванне цалінных зямель на ўсходзе Савецкага Саюза – “цалінай” мае землякі зазвычай называлі тыя будаўнічыя работы, якія яны брыгадай, чалавек па семвосем, выконвалі на Урале ці ў Сібіры.

Прыкладна з красавіка і па кастрычнік (недзе з паўгода!) у Цюменскай або Омскай вобласці, у калгасах ці саўгасах, па дамоўленасці з мясцовым кіраўніцтвам гарадчукі муравалі кароўнікі і свінарнікі, будавалі збожжасховішчы і цялятнікі, ставілі дамы; дадому прывозілі і грошы, і зерне – іншым разам па дзве тоны пшаніцы…

Так некалі было, і тое жыццё (жыццё дзядоў і бацькоў) мінула…

---

[2] Вясною на розных базарах прадавалі насенне кветак і гародніны.

А што сёння, калі працаўладкаванне – па-ранейшаму праблемнае пытанне?

Як з гэтым разбіраецца сённяшні малады жыхар Давыд-Гарадка?

Збірае будаўнічую брыгаду і на паўгода едзе туды – за Урал, на “цаліну”?!

Не, ён выйшаў на іншую ніву.

Новыя эканамічныя ўмовы падказалі не ўжываны раней спосаб дзеяння, і малады гарадчук аказаўся гатовым (што вельмі важна!) да новага жыцця.

Зрэшты, па-іншаму і быць не магло, бо ён не лянуецца, як не ленаваўся ягоны бацька і дзед; скажу для цвёрдасці партрэта яшчэ раз: сённяшні малады гарадчук ў аснове сваёй не лайдак, ён кемлівы, умее працаваць, клопату не баіцца – вырабляе поліэтыленавую плёнку на парнікі і цяпліцы, займаецца аўтаперавозкамі, рамантуе машыны, гандлюе…

Гандаль жа ў Давыд-Гарадку (і гэта ніякая не навіна) – вечная з’ява; гандлявалі калісь, гандлююць і зараз…

Адам Кіркор пісаў, што ў XIX стагоддзі гарадчукі прадавалі ў Вільні сваёй работы непрамакальныя высокія з доўгімі халявамі боты, прывозілі таксама сушаныя грыбы і рыбу.

Цяпер боты не шыюць, грыбы і рыбу ў прамысловых маштабах не сушаць, дый у Вільню свой тавар не павязеш – дзяржаўная мяжа.

Які гандаль цяпер скажу пасля таго, як дадам да партрэта майго маладога земляка такую рысу – і ў яго, як і ў ягоных бацькоў, зямля вакол дома ніколі не пустуе, не зарастае зеллем; у агародзе ж цвітуць усё тыя ж кветкі, насенне якіх ён ашчадна з жонкай збірае, часам наракаючы на замежныя насенныя фірмы, бо фірмы гэтыя хутка напаўняюць рынак сваім бліскуча-фасованым таварам.

І як тут захаваць спакой і не наракаць, калі гэта канкурэнты, а вытрымаць канкурэнцыю з еўрапейцамі не заўсёды ўдаецца.

Вось і думай: ці варта ў такіх не зусім спрыяльных умовах ездзіць “на вэ́сну”?

Так яна і з’явілася – новая працоўная ніва, фермерская дарога, а фермерства, да слова сказаць, – не цукровыя пеўнікі з кошыка прадаваць.

Гэта клопат і клопат, сціснуты чаканнем!

Вось, напрыклад, ты заняўся садам і для пачатку высадзіў на трох гектарах слівы, то і не забывай, што садаводства – справа марудная, і ўраджаю дачакаешся, магчыма, на пяты год, тады і зазывай закупшчыкаў.

Аднак гарадчукі нічога не баяцца і садзяць не толькі слівы…

Можна выйсці за горад і ўбачыць, як на шырокім абшары вабна раскінуліся шпалерныя яблыні так званага вытворчага гатунку, яны, трэба думаць, уродзяць недзе на трэці год.

Намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення раслінаводства Міністэрства сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь Васіль Ядлоўскі паведаміў мне, што ў давыд-гарадоцкай акрузе прадукцыйнасць з аднаго гектара складае сорак-пяцьдзясят тон яблыкаў, гэта еўрапейскі ўзровень, у той час, як у рэспубліцы з гектара саду атрымліваюць у сярэднім па тры-чатыры тоны.

А вось яшчэ адна плантацыя, паўтара гектара чорна-сініх буякоў – спажыўныя, каштоўныя, смачныя ягады; прадукт нядоўгага захоўвання, аднак жа і замарожаныя яны не страчваюць свайго смаку.

Так, не толькі слівы і яблыні – ягады ж таксама даюць прыбытак (не давалі б – ніхто над імі і не гнуўся б!), аднак жа трэба і тут умець чакаць; той, хто заняўся буякамі, арандуючы пад іх зямлю, на прыбытак выйшаў толькі на пяты год…

Наогул жа ў наваколлі гэтых ягад высаджваюць да сотні гектараў.

Трэба заўважыць: садавіна і ягады – не галоўная турбота нашых прадпрыемцаў, значна больш сіл яны аддаюць на вырошчванне гародніны – морквы, буракоў, цыбулі, асабліва капусты.

І тут, як той казаў, які пляц, якія рукі – такі й плён!

У каго менш сотак і менш рук – у таго вырасла 30 тон, а ў каго усяго больш – той мае ажно 500…

А далей свая тэхналогія – каб, скажам, вывезці 500 тон капусты, напрыклад, у Санкт-Пецярбург, Маскву ці ў бліжэйшы Бранск патрэбна прыблізна 25 аўтафур. І фуры гэтыя ў тыя дні, у якія трэба, загружаюцца неадкладна.

Наогул жа геаграфія развозу даволі шырокая – скажам, яблыкі з Давыд-Гарадка на тых жа вялізных фурах і нават на малатанажным транспарце (аўтамабіль "Газель") дастаўляюць і ў Варонеж, і ў Ліпецк, і ў Пензу…

Кожны ў сваім неадчэпным штодзённым клопаце – і стратэг, і тактык адначасова; кожны шукае сваю выгаду, а то і двайную, а як жа іначай; адзін старанны фермер у 2016 годзе нарыхтаваў 1000 тон капусты, палову ўраджаю прадаў проста з поля, а рэшту забуртаваў, спадзеючыся на новы грашовы даход; заўважу: калі раней было буртавое захоўванне бульбы і буракоў, то цяпер ёсць і буртавое захоўванне капусты.

Зрэшты, гэта дзень учарашні.

Сёння гародніну мае землякі захоўваюць у прасторных складах і ў сучасных сховішчах з аўтаматычнай сістэмай рэгулявання тэмпературы.

Рынак жа часта паказвае працаўніку свой круты нораў.

Мне расказваў вадзіцель аўтобуса, жыхар Столінскага раёна, як восенню 2007 года ён хацеў прадаць у Мінску, на Камароўцы, чатыры тоны морквы, якую выбраў са свайго поля.

Самому прадаць не далі, запрапанавалі купіць яго тавар оптам, але за такую малую (проста зневажальную) цану, што вадзіцель абурыўся і вярнуўся з морквай дадому…

Фермерства патрабуе зямлі, прычым шмат, свайго агарода адразу ж робіцца мала, таму сітуацыя з зямлёй складваецца прыкладна такая – фермер атрымлівае зямлю ў дзяржаўным фондзе, а калі зямлі яму не хапае, тады ён арандуе яе ў сельгаспрадпрыемствах за плату, роўную кошту 30 – 40 цэнтнераў збожжа з гектара.

Што й казаць, плата вялікая!

А яшчэ ўсталявалася й такая завядзёнка – набываць нежылыя хаты з пакінутымі пляцамі…

І вось у сваіх агародах і на прыдбанай зямлі, як у казцы якой, хутка з'яўляюцца, на вачах вырастаюць парнікі і

цяпліцы – іх у Давыд-Гарадку і ў бліжэйшым наваколлі (Высокае, Альшаны, Вялікае Малешава, Лісовічы) мноства, часам, здаецца, што ім ліку няма.

Рост цяплічнай вытворчасці (менавіта вытворчасці – гэта не перабольшанне) проста-такі ўражвае!

Часам нават цяжка стрымацца, каб не ўсклікнуць: “Як жа змяніліся маштабы!”

Калі дзед паблізу сваёй прызбы некалі калупаўся на шасці сотках, ну няхай на дзесяці, то цяпер унук ягоны ў сакавіку зацягвае пад поліэтыленавую плёнку 50 сотак, а то і больш, і ў такім агромністым збудаванні ставіць ажно дзясяткі грубак і, каб хутчэй выспелі гуркі і памідоры, абаграваючы сваю цяпліцу, спальвае страшэнную гару дроў.

Праўда, як і ў любой добрай справе, ёсць і тут адваротны бок медаля.

Красавіцкай ноччу можна выйсці на ганак і назіраць такую карціну: з процьмы парніковых і цяплічных комінаў, з усіх бакоў, цягнецца і цягнецца ўгору шызы бясконцы дым, чуецца густы цяжкі дух – паляць усім, але ў асноўным падсочанай так званай “сіняй” сасной, бо гэта даволі танныя дровы.

Едкі дым засцілае ўсё неба, не бачна ні зор, ні месяца; дыму столькі, што вельмі цяжка дыхаць…

Хочаш – не хочаш, а падумаеш: “А ці не парушаецца і тут экалагічны баланс прыроды?”

Чыстага паветра, чыстай вады, як і чыстай зямлі – робіцца ўсё менш і менш!

І не толькі, вядома, у Столінскім раёне!

А колькі ўжыванай, ужо непатрэбнай плёнкі (кіламетры і кіламетры!) скрозь валяецца па нашай роднай Беларусі?!

Гэта вельмі важныя (балючыя!) пытанні, і пра іх таксама павінны думаць фермеры, і яны, здаецца, думаюць, бо ўжо адзін-другі гаспадар плёнку памяняў на шкло – узвёў на галандскі манер высокія, зімовыя, шкляныя цяпліцы…

Але вярнуся да выніку цяжкой працы маіх землякоў…

Што вырастае ў цяпліцах?

Як ужо сказана, гуркі і памідоры, але гуркоў значна больш, і іх з рук у рукі забіраюць закупшчыкі, і вязуць у Ма-

скву, Санкт-Пецярбург, Мурманск, Архангельск…

І так з году ў год і, як не стала Савецкага Саюза, ужо не адно дзесяцігоддзе!

Людзі па-іншаму працуюць, па-іншаму зарабляюць, па-іншаму нават адпачываюць – калі той жа дзед аднаўляў сілы ў якім-небудзь гарынскім урочышчы з востраю касой, ці на Прыпяці, ірвучы свінням га́ваз[3], то ягоны ўнук едзе на курорты Егіпта і Грэцыі.

Дабрабыт паўплываў на псіхалогію і паспрыяў таму, што малады гарадчук павысіў сваю самаацэнку, адчуў самаасалоду.

Так, свет адкрыўся яму, але ён, заўважу, не вельмі верыць свету, верыць сабе і вышэй за ўсё ставіць сям'ю – "сваю родзіну".

Ён будуе для сям'і дом і не проста дом, а прыгожы двухпавярховы катэдж з мансардай, у якім пад адзенне не шафу адводзіць, а цэлы пакой!

Яго дзед і баба маліліся на печ, бацька і маці паступова замянілі печ на газавую пліту, а ён аздабляе жытло камінам.

Сваё для яго даражэй за чужое, і ён больш думае пра сябе, і часам хоча мець усё адразу і, здаецца, сённяшні дзень для яго важнейшы, чым заўтрашні.

А часам, уздыхнуўшы, можа падумаць, што ўсё бо́льшае людзей, якія жывуць на ўсім гатовым, а людзей, якія ствараюць неабходнае, робіцца ўсё менш і менш.

Так, ён мала верыць вялікаму свету, аднак жа ў нейкім сваім раптоўным жаданні спрабуе быць падобным на еўрапейца і амерыканца, з міжвольнай радасцю і дзяцей на тое настройвае, не зважаючы пры гэтым на такую драбязу, як страта нацыянальнай адметнасці.

Давыд-гарадоцкая гаворка жыве ў ягонай крыві, але з дзецьмі сваімі "по-городзецку" ён ужо і не вельмі хоча гаварыць – ці саромеецца, ці лічыць, што гэта сёння зусім непатрэбна.

А можна сказаць і так: ён забывае давыд-гарадоцкую гаворку і, страшна мне падумаць, нашчадкам яе не перадасць.

---

[3] Гаваз – расліна з лапушыстым лісцем.

Багаты і на самаіронію, разумее, што самае лепшае слова пра сябе пачуеш, як памрэш; хоча, каб яго не чапала дзяржава і не ўспрымае багацце як з'яву, вартую асуджэння.

Якраз наадварот: багацце – ягоная мэта!

І такая мэта ўсё больш і больш аддаляе яго ад праваслаўнай этыкі з яе кодэксам цярплівасці, пакуты і сціпласці, і ўсё больш і больш набліжае да пратэстанцтва, дзе вядомы прынцып: Богу заўгодна, каб ты быў і паспяховы, і заможны!

Аднак жа душа ў ім застаецца, бо ён умее, калі трэба, і зразумець, і паспачуваць, і дапамагчы, і, кажучы словамі Якуба Коласа, падтрымаць свой род.

Ён можа глядзець на Давыд-Гарадок не толькі з вышыні ўласнай цяпліцы, але (у думках) і з высі Васкрасенскай царквы – так, з вышыні той святыні, якая згарэла 6 траўня 1936 года; страта гэтая пакінула ў давыд-гарадоцкай памяці след смутку.

Малады гарадчук марыць адбудаваць гэты храм, які аздабляў не толькі Царкоўную гару – упрыгожваў увесь Давыд-Гарадок.

Цудоўная мара!

Яна сведчыць аб тым, што эканамічна-гаспадарчае развіццё мястэчка павінна мець і культурна-духоўны працяг. Хай жа гэтую шчырую мару ўмацуе і мой вершаваны заклік:

*Паслухайце, людзі*
*З Давыд-Гарадка, –*
*Гарынь памяць будзіць…*
*Святая рака!*

*Мае дарагія.*
*Ідзіце, сябры,*
*На схілы крутыя*
*Царкоўнай гары.*

*І ў роздуме гожым*
*Успомніце там*
*Пра страчаны божы –*
*Пра вогненны храм!*

*Хвілінаю горкай*
*Адчуеце вы:*
*Ён – брат Закаморскай,*
*Казанскай царквы!*
*Як хорам палескі*
*У сне-харастве*
*Той храм Васкрасенскі*
*У сэрцы жыве…*
*Мой заклік пачуйце,*
*Гарадчукі,*
*І храм адбудуйце*
*Ля роднай ракі!*

15 красавіка 2017 г.,
субота, 18 г. 30 хв.; Менск




Уладзімір Правідохін (Хін), *Воспоминание, 1990-91*

**Васіль ДЭБІШ**

# ЗА ПОЦЕМКАМ ЧАСУ

***

Дождж ідзе ды ідзе – наганяе тугу.
Нечы прывідны цень прытуліўся да брамы.
Я гляджу на той дождж, на яго мітульгу
І дзяцінства сваё ўспамінаю, і маму.

Помню вечар маркотны і ветру парыў,
Ну, а мама не йшла ўсё. І я, небарача,
Да аконца заплаканы твар свой туліў,
Прагна шыбіну гладзіў далонькай дзіцячай.

Адышла ў іншасвет мая мама даўно,
Аддала мне цяпло і любоў дaастачы.
Як тады, узіраюся пільна ў акно,
Каб за поцемкам часу – мінулае ўбачыць.

## СУСЕДКА

1

Як бачу я плечы яе і мадонны аблічча, –
Нямоты нястача, абдымкі мае яе клічуць.
Трымціць маё цела, палонена палкім жаданнем.
Быць хочацца смелым, вачэй дакрануцца
дыханнем.
Паненкаю стала. Была дзіцяняткам, суседкай.

Хоць вырасла ўжо, ды яшчэ не раскрылася
кветка.
Дзіця, што ў князёўны ўвабралася лёгкія строі,
І ёй нецікава цяпер захапляцца гульнёю.
Карысці няма ў ланцужках залатых зіхатлівых.
Ці могуць прымусіць мужчыну яны быць
шчаслівым?..
Не жэмчугу ніці мужчынскай душы асалода,
А цела жаночага ранішні сонечны водар.

2

Суседка мая! У акно зазірнула зноў лета.
Маю маладосць і каханне напомніла. Дзе ты?
Духмяныя кветкі, маланка бліскучая, ложак.
І з ружаў вяночак дзявочыя грудзі ўпрыгожваў.
Уздыхі і ласкі. І слоў залатое праменне.
Так ноч праляцела, нібы праляцела імгненне.
А ранкам прачнуўся: няма, ты згубілася ў вёснах,
І толькі адзін на пасцелі прымяты пялёстак.

3

Суседка мая! Ад мяне ты далёка-далёка.
Нябёсы засланы густою начной павалокай.
Грувасцяцца хмары, сутонне зямлю абдымае.
Мінаецца ўсё. Ды кахання святло не згасае.
Ты ў Мінску, напэўна, цяпер або ў іншым дзе
месцы.
А я пра цябе ўспамінаю так часта ў Бярэсці.
Сяджу ля каміна і мару пра дзіўную кветку…
Жанчынаю стала мая дарагая суседка.

## ГОСЦЬ

Пастукае мне ў акно,
Сярод ночы,

Чалавек,
Поўны роспачы,
Назавецца імем маім…
Я   адчыню дзверы
І скамянею:
Гэты чалавек
Так падобны да мяне,
Нібыта адзін твар –
Я і Ён.
– Не, – скажу,–
Я не магу цябе
Пусціць:
Я ўжо ёсць…
Чалавек
Растворыцца
У цемені ночы.
А я  і не заўважу,
Што іду за ім,
Што за сабой
Мяне вядзе
Прабітая  цвіком
Рука.

## СУЧАСНАЯ КАЗКА

“Кароль – голы…!?”
Г.Х. Андарсан

Да смяхотнага пекны, нібыта  царэўна,
Невідушчы Гамер з сваёй лютняю спеўнай.
Ён спявае і танчыць, ды так адмыслова,
Што бы лыжачка мёду – кажнюткае слова.
А на ўзбочыне ўсюды шчаслівыя крыкі,
Дзе натоўп вар’яцее ад радасці дзікай.
Людзі цягнуць далоні, гатовыя пляскаць…
Тут знікае мяжа паміж явай і казкай.

Па краіне маёй блазен з лютняй ступае,
Сам сляпы, ды празорцам сябе выстаўляе.
І не здатны пабачыць  брыдоты наўкола:
Што народ танчыць голы  і сам танчыць – голы!

## БУЛГАКАЎСКАЕ

Пятніца сёння. Трынаццаты дзень.
Ранак. Туманлівасць. Воланда цень.
Рэйкі трамвайныя. Дзве каляі.
Мокрыя крошкі дзяўбуць вераб'і.
Шэрае неба. Размытыя твары.
Плямы алею на тратуары.
Роўная лінія, раптам – крывая.
Злосна, крыклiва трамвай ад'язджае.
Лёгкіх паводзінаў  побач  паненкі.
Мітынг гудзе на бульвары Шаўчэнкі.
Слухае моўчкі  натоўп разявак.
Мёртвая ў снезе ляжыць галава.
Можа, мая?  Я рукою кранаю…
Кроў пунсавее на колах трамвая.

## МАНАЛОГ  М. КУПРЭЯВА

Не быў я белым пацуком,
Прывыклым да пакоры.
Не рупіўся пра ўласны дом, –
Ды  неба меў і зоры.

Галодным быў, не баляваў.
Еў, што расло на ніве,
Ды рук ніколі не лізаў
Гаспадарам  "зычлівым".

Парою сіверна было,
Даймаў скразняк бясконцы.

З нары – праз дрот калючы, шкло –
Я выпаўзаў да сонца.

Мяне травілі – не маліў
Даць літасці ніколі.
І больш за ўсё ў жыцці цаніў
Я скарб адзіны – волю.

## ДУША

За поўнач. А душа не спіць.
Вядзе з нябёсамі гамонку.
Імгненне – і яна ляціць,
Парвала цела абалонку.

Крычу: – “Вярніся!”. Не ўтрымаць.
Яе палоніць свет дзівосны.
Яна мяне не хоча знаць.
Ёй краты цела невыносны.

Яшчэ ёй невядомы страх, –
Страх вышыні і адзіноты.
Усё магутней крылля ўзмах,
І ўсё мацней жаданне лёту.

***

Маці мне кашульку вышывала,
Пазірала ў цёмнае акно
(Ноч глухая за сцяной стаяла)
І слязьмі бяліла палатно.

Сівер замятаў дарогі ў полі.
“Божа, сына ты абарані!”
Выплакаць хацела шчасце-долю,
Светлую, як сонца прамяні.

Той узор мазольнымі рукамі
Гладзіла з пяшчотаю, дабром,
Нібы да галоўкі любай самай
Прыкладала рук сваіх цяпло.

Нітачку за нітачкаю клала
Тонка, хоць у сны па іх плыві.
Маці, мне кашульку вышывала
Светлымі жарынкамі любві.

## ЗОЛАК

Абудзіўся, чапурыцца ранак.
Прытуліў да шыбы голле бэз.
Цёхкаюць салоўкі апантана,
Іх харал сягае да нябес.

Сонейка ўсміхаецца зычліва.
Гойсаюць па залацістым шкле
Прамяні гарэзліва, імкліва.
Прыварак духмяны на стале.

На абрусе горкаю прысмакі:
Вафлі з абаранкамі ды ўрук.
Шчасна завіхляў хвастом сабака.
Скігатнуў у хляўчуку япрук.

Між высокіх траў прачнуўся мятлік.
Узляцеў на кветку, як на трон.
Золак. Маці цэдзіць далікатна
Сонейка праз сіта дня ў вядро.

## ЗІМА

Ранак. Раскошысты снегу паркаль.
Ярыцца звабнай красой наваколле.

Шэлях  датклівы, душы мілажаль,
Сэрца няўтрымна нямоцячы, воліць.

Нібы  цыркоўны таемны факір
Вабіць дзівосамі мройна, гулліва.
Выпархнуў з гусцежы белай вяхір
Згадкай крыляе над лесам маўклівым.

Вусціш такая, што неба чутно.
Нерушы боскай гучыць адыёза.
Снежным аздобіла замяць радном
Пожні, дарогі , кусты і бярозы.

Любасна сэрцу. Жаль – скрыдлаў няма!
У неба ўзняўся б, услед за вяхірам.
Дзе ні зірні, раскашуе зіма.
Жэмчугу сыпле крупіначкі шчыра.



**Ала НІКІПОРЧЫК**

# З ВОСЕНЬСКАГА – З МАМІНАГА...

***

Дождж... Жнівень не падобны на жнівень… Вада ў рэчцы ледзяная: абціскае як жалезам…

Правая рука балела ўночы невыносна…

Ціск у мамы – найніжэйшы… Зрабіла ўкол (для сэрца) – ціатрыазалін. І вось так трасе кожны дзень: то высокі, то нізкі…

15 жніўня 2016 г.

***

Суха…(На вуліцы.) Не было дажджу. Проста не верыцца, што на зямлі можа быць дзень без дажджу…

Затое дома – вайна… Маня – у найцяжэйшым стане… А ўчора так добра сябе паводзіла, так правільна… А сёння немагчыма быць дома. Хадзіла да цёці Валі толькі дзеля таго, каб хоць куды-небудзь выйсці…

Учора пахавалі Геніка Гараўцовага… Цёця Валя сказала, што Людвікаўна будзе прасіць сабе сацыяльнага работніка… Яна не бачыць. Але чым ёй дапаможа сацыяльны работнік? Гэтую працу можа выконваць толькі блізкі чалавек…

Канчаецца лета… Ні адной радаснай падзеі за ўсё лета… За ўсё жыццё…

17.08.2016

***

Сёння сон… Недзе на выгане, за вёскай, чутны стрэлы. Каля нашых веснічак ляжаць дровы – вялікія тоўстыя калоды… Я, падыходзячы да дому, са здзіўленнем:

– А гэта што такое?!.

Нечы голас:

– Каля Гараўца забілі дзіка. А потым выманілі і забілі двух брацікаў…

Цэлы дзень спрабавала расшыфраваць гэта. Быццам бы ідзе паляванне… У другім канцы вёскі чутныя стрэлы… Я нават бачыла статак дзікіх свіней. Калі па ўзросту: забілі малодшых?.. Дзіка – брацікаў…Дзяцей дзіка? Але чаму тады гэтыя дровы ляжалі каля нас? А калі па радстве?.. Нават не магу напісаць (вымавіць), так страшны гэтыя думкі-здагадкі… І чаму тады – брацікаў, а не сястрычак?.. Але ка-лі чалавека можна назваць дзікам, то чаму нельга сясцёр назваць брацікамі?.. Гэта ж – сон: усё – на вобразах, на метафарах. Амаль літаратура…

Чаму прысніўся такі сон? Мне здаецца, як адказ на маю думку: пасля Геніка наступнымі будуць мае… Праўда, я ўжо даўно так прымяраю пасля кожнага, хто адыходзіць…

18.08.2016

***

Господи, я думала, что жизнь – это праздник… А это изнурительный труд…

Господи, я думала, что жизнь – это радость… А это – горести, скорби, испытания…

Господи, я думала, что жизнь – это пространство без преград и границ… А это – узкая и тесная дорога… И даже не дорога – почти невидимая тропинка…

19.08.2916

***

Господи, в день Твоего Преображения моя душа не преобразилась – на добро, на терпение, на милость… Закаменевшая, иссушенная почва… Задохнулась от боли…

*

Господи, эти слёзы уже больше похожи на росы, чем на слёзы…

*

Отче небесный, я знаю, что Ты не пришлёшь мне Твоей помощи – в мою жизнь…

Я не заслужила…
Я не захотела…

*

в этом мире людей
восходит одиночество
солнцем

19.08.2016

***

Господи, зачем я оказалась в этом мире?.. Для чего я сюда попала?.. Вышел сбой в Твоей программе?.. Или в Твоей программе сбоев не бывает?.. Может это в моей программе вышел сбой… И где та грань – меж Твоей и моей программой?.. Как это – разделить?.. И вообще – делимо ли это?..

По чьей ошибке мне была дарована жизнь?.. Но у меня её никогда не было… Я ничего не обрела и ничего не достигла… Боюсь, что я даже ничего не постигла… Всё оказалось под замком – огромным и железным. Я не сумела открыть?.. Или ключ был спрятан настолько глубоко и далеко, что это человеку не по силам?..

Все мои вопросы, как эти вконцесентябрьские листья, потемнели и пожухли, и почти осыпались под ноги…

25.09.2016

***

22-га хацелі ехаць на Гродна… Збіралася, як заўсёды, дні два-тры… І не паехалі… Мама – восеньская павуцінка – слабенькая, худзенькая. Паміраючы лебедзь. Страх – перавозіць… Шкада – варушыць… Ды і навошта ёй пераезд – на імгненне?..

Рашылі – пачакаць… Рашалі мы з Колем, маім хроснікам. Сказаў: “Алачка, пацярпі, пачакай, дай ёй памярці ў сваёй роднай хаце.”

Раніцай хацела благаславіць на ад’езд, як гэта раблю звычайна. Узяла іконку Уладзімірскай Божай Маці – падышла да Манюні, падышла да мамы… Мама яшчэ спала, і я спячую не захацела благаслаўляць: вырашыла пачакаць, пакуль яна прачнецца. Я так і не адважылася потым падысці да мамы: так відавочна, што чалавек на апошнім дыханні…Як гэта вытлумачыць – не ведаю… Божая Маці не дала благаславення?..

Трэба ехаць у Гродна па адзенне…

25.09.2016

***

Учора са Светай з’ездзілі ў Гродна… Узяла адзенне – нават не асенняе, а ўжо зімовае, заплаціла доўг за рамонт пад’езда… Банк, аптэка, магазін, Еўраопт… Цэлы дзень спяшалася і трывожылася… У “Дабрабыт” мы не паехалі: было позна. Сёння тэлефанавала Наташы, каб паглядзела абоі і калі яны будуць, купіла…

Вярнуліся ў сем (вечара). З вуліцы ўжо было чуваць, што Маня плача і крычыць…Слава Богу, і мама, і Маня былі жывыя…

Быццам бы ўсё было нядрэнна. Але які удар атрымала раніцай!.. Аказваецца, сёння ў 13.00 пасяджэнне Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў. Паехаць у Мінск ужо ніяк немагчыма… Не ведаю, як было б, калі б мне паведамілі за тыдзень… Вялікае шкадаванне…

У час майго кароткага, каб не сказаць – імгненнага, знаходжання ў Гродна, пакуль я збірала неабходныя мне рэчы, раздаўся званок – з Саюза… З паведамленнем пра пасяджэнне Рады…

Я: На вялікі жаль, не магу… Паміраe мама…

Ці прымуць мяне без мяне? Напэўна, прымуць… Але мне вельмі хацелася бачыць людзей, чуць, што яны скажуць, як аднясуцца да тых маіх нікому непатрэбных кніжак…

Цяпер якраз ідзе тая Рада… Няхай усё будзе па волі Божай…

*

Недзе ў палове пятай патэлефанавалі Юрка Голуб і Валянцін Дубатоўка: мяне прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў… Павіншавалі…

Здаецца, што мне ўжо ўсё – усё роўна, радасць даўно ўва мне не жыве, але ўнутры я палыхнула нейкім святлом– моцным, уладным, што яно нават адбілася на губах усмешкай…

27.09.2016

***

За суткі мама паміраla двойчы: уночы (я не спала да трох), ціск упаў, калола кафеін, і ўдзень – пасля трох… Такіх момантаў было ўжо многа, але сённяшні, дзённы – самы страшны: твар быў халодны, вочы закрыты, яна не адклікалася, ляжала нерухома. Маня спалохалася і ўцякла на вуліцу. А мне няма куды ўцякаць. Дакладней, няма за кім уцякаць. Я чытала Псалтыр, а пасля Канон на разлучэнне душы ад цела. Перад гэтым зрабіла два ўколы…

Яшчэ да ўсяго сёння выпаліла лазню, вымыла Маню, а пасля шасці і сама памылася.

Каля сямі амаль над хатай праляталі жураўы… Вялікі і стройны клін, яшчэ нябачны, здалёк прынёс нейкага шуму і шуршання – адным словам, парушэння цішыні… Я аглядалася і

на магла зразумець, што гэта… А потым пачаў вырысоўвацца ў небе выстраены па самай дасканалай геаметрыі жураўліны клін… Сэрца зайшлося болем: журавы адляталі ў вырай… Благаславіла іх у дарогу – каб не згубіліся, каб не загінулі, каб вярнуліся на наступны год. Стаяла і хрысціла, пакуль не зніклі. Ледзь ні слёзы былі на вачах… Нейкі вырадак – я – усіх шкада: людзей, сабак, журавоў…

Засынаю. Спала сёння толькі тры гадзіны. Палова дванаццатай…

29.09.2016

***

Учора (і пазаўчора)  была такая цудоўная восень, такая разнастайнасць жоўтага, зялёнага і чырвонага – хоць карціну пішы. Калі б умела. А сёння за ноч вецер знішчыў гэтую бясконцасць фарбаў, і ад гэтага светлага – паветрана-жоўтага амаль нічога не засталося. Чаму сонечнае падлягае найбольшым ранам?

Густая сцяна сліваў цяпер прасвечвае неба чорнымі агаленымі лініямі… Ясень страціў і прыгажосць, і высакароднасць адначасова… Цэлы дзень парывісты вецер і лавінамі лісце пад нагамі… Восень раптоўна пастарэла, у адно імгненне змяніла свой узрост.  Усяго за адну ноч…

Толькі клён выглядае ганаровым і стойкім. Я таксама надламалася, як гэтая восень: ні сіл, ні мужнасці… Мама пакутуе нясцерпна…

4.10.2016

***

Прыпынак у дажджы… Не дождж, а лівень. Пасля шасці раніцы. Можа ён ішоў і ў ночы, таму што лужы стаяць. Цяпер крыху сцішылася. Бо і вецер рваў з усёй сілы. Ясень стаіць галюткі…

З чацвёртага кастрычніка пачалася восень…

Выехаць у Гродна не можам… Вымушаны прыпынак – у дажджы, у лавіне лісцяў, што бязлітасна злятаюць з дрэў, у трывожным поклічы журавоў, якія пралятаюць чамусьці толькі над нашай хатай…

5.10.2016

***

Пятая гадзіна.  Не спіцца. Прачнулася каля трох. Крычала ў сне Маня… Мерала ціск маме, давала драбок таблеткі… Бяссонне нараджае думкі, падчас дае імпульс нейкай справе ці

неажыццёўленай задуме. Думкі майго сённяшняга бяссоння скіраваліся на кнігу А. Шчарбацэвіча “Зямля, дзе ўздымаюць крылы буслы”. Я так пра яе і не напісала… Можа не так пра яе, як пра самога чалавека – аўтара, укладальніка, рупліўца свайго краю, з якім лёс звёў яго на кароткі час: на працягу 1959 –1965 гг. працаваў дырэктарам Руда-Яварскай сярэдняй школы.

Неаплачаны доўг – нявыкананы абавязак – вынырнуў, як з глыбіні рачной, з майго асенняга бяссоння… Хоць я і не абяцала, хутчэй – сказала: гэта было ва ўмоўным ладзе, як маё пажаданне – напісаць пра кнігу…

А як гэтую кнігу чакала мама! Баялася, каб не памерці – да кнігі… Там жа быў абзац і пра яе… Кніга выйшла летам 2014-га. Аляксей Пятровіч помніў маіх і тату, і маму, папрасіў, каб я пра іх таксама напісала… Даруй мне, Божа, я яшчэ і пра Маню (не пакідаць жа яе адну!) ўставіла два сказы і пра той, нямецкі, з чорным дулам, кулямёт, з якога маглі расстраляць дзяцей… Ды і сама я ў гэтыя “крылы буслоў” патрапіла выпадкам – з зямнога бачання…А з нябеснага – Божым усюдыісным зрокам – провідам – промыслам… Аляксей Пятровіч з дачкой былі ў Брэсце, у выдавецтве “Альтэрнатыва”, па справах, звязаных з выданнем яго кнігі пра вёску Палонку Баранавіцкага раёна, дзе ён працаваў з 1965 года і жыў да канца сваіх дзён… Каб чаканне не здалося доўгім і нудным, ім падалі кнігу “Созвучье слов живых 2009”, дзе сабраны вершы ўдзельнікаў III Міжнароднага фестывалю рускай паэзіі… З тых 240 старонак дачка выхапіла менавіта тое, што падыходзіла да наступнай бацькавай кнігі: “А вось паэтка з вёскі Капці!..” Ліст ад Аляксея Шчарбацэвіча я атрымала на Саюз пісьменнікаў у Гродна…

П’ю цыкорый – у ночы… Хачу пісаць (пасля дзесяцігадовага перапынку), хачу жыць, хачу мець свабоду і святло…

6.10.2016

***

Не спала да трох ночы. Яшчэ раз чытала Канон. Мама, было падобна, што памірае: цяжка дыхала, стагнала… Немагчыма гэта чуць, не стае сіл… Пакутуе моцна…

І сёння цэлы дзень (а ўжо пяць – вечар) ляжыць неру-хома, худая, бледная…

Я – раніцай:

– Мама, вазьмі хоць вадзічкі (давала артас і святую ваду), табе будзе лягчэй.

– Мне і так лёгка…

Я ледзь не ўпала (ці то ў обмарак, ці так – без обмарака) Якое цярпенне!.. Якая пакора! І чаму Гасподзь не можа ўзяць чалавека?.. Усё роўна ўжо зварот да жыцця немагчымы. Божанька, панясі нашы грахі… Зменшы яе пакуты… Аблегчы ёй пераход ад зямнога да вечнага…

Цэлы дзень – дождж.

Званіла Таня.

Хочацца спаць. Хочацца нарадзіцца нанова… Мець шчасце і жыццё…

7.10.2016

***

Учора падвечар хадзіла з Шарыкам на прагулку… Па былой дарозе – да школы, дакладней, да таго месца, дзе была школа. Да таго дуба, пра які казаў Валодзя, што мы яго пасадзілі, як вучыліся ў школе – у 1967 годзе. Гэты лік нават не хоча выпісвацца… Неверагодна, што ён, па-першае, быў (г. зн. існаваў), а па-другое, што ў ім – гэтым часе – ужо была я, хадзіла ў Капцёўскую пачатковую школу… Я чамусьці гэту падзею не запомніла, не занясла ў сваю памяць…

Каля дуба яшчэ ляжаў вялікі камень, на якім было напісана: Вялікаму Кастрычніку – 50. Але гадоў некалькі назад яго адсюль забралі, напэўна, для нейкага будаўнічага выкарыстання…

7.10.2016

***

Што было ў суботу – ужо не помню… (Абазначана дата 8.10.2016, а запіс не зроблены: не было магчымасці). Усе дні зліты ў адно цэлае – пакуту, пакуту, пакуту… Недзе крыху адпускае ( і то – умоўна), але амаль кожны дзень мама памірае… І сёння калола кафеін, пасля чаго пацяплелі рукі, твар… Але – ужо нічога не дапамагае… У яе амаль не адкрываюцца вочы. Жыццё сышло на нет… Амаль што нічога не есць. Дыханне цяжкое… Ціск бясконца падае…

11.10.2016

***

(амаль калыханка для мамы
на адыход з жыцця)

спі мая харошая
апошнія твае сны
на гэтай зямлі
у гэтым жыцці – доўгім і пакутным
шчокі запалі
бледная – да нейкай нежывой белізны
рукі як нітачкі
(як у ненароджанай Максімавай Ані)
будзеш лёгка скакаць па воблачках
будзеш слухаць райскія спевы
там не далятаюць пракляцці
там не паміраюць дзеці
там збываюцца жыцці
там Божанька залечыць раначкі
там Божанька суцішыць боль
і можа адкажа табе
вызначаючы тваё месца на вечнасць
тваім любімым словам
як ты на ўсе мае пытанні
спавітая болем
адказвала ледзь чутным голасам
– добра

кастрычнік 2016

***

Мама памірае… Асабліва гэта яўна цяпер, вечарам…

Сёння ў другой палове ночы моцна стагнала, крычала… Гэтыя адкрытыя раны – пролежні – знішчылі яе цалкам, забралі апошнія сілы…

Раніцай яшчэ крыху ўзяла чаю, а перад ім – маннай кашы… Цэлы дзень спала, ціск быў 140/ 60, падвечар – 130 /60, вачэй фактычна ўжо не адкрывала, не рэагавала на мой голас… Нічога не з’ела за дзень, падвечар некалькі чайных лыжак кефіру ўзяла… (Кармлю чайнымі лыжкамі, сталовыя для яе ўжо завялікія: ёй цяжка глытаць, цяжка адкрываць рот. Кармленне – на мяжы майстэрства: на гэты секундны ўздых, як рыба – паветра, патрэбна паспець падаць лыжачку ў рот). Вечарам таксама – нічога, чаю некалькі лыжак і то выліўся на падушку. Пяжыць на

баку – карміць амаль немагчыма: усё выпадае з рота, а тым болей – выліваецца…

*

Днём чытала акафіст Божай Маці Іверскай – сёння яе дзень.

У панядзелак чытала акафіст Прападобным опцінскім старцам, прасіла спыніць і зменшыць пакуты маёй маме, узяць яе душу, дапамагчы яе душы адолець шлях на Неба… У ранішніх малітвах аб гэтым жа прасіла ўсіх святых… Вячэрнія малітвы не атрымліваюцца: ні часу не стае, ні сіл.

Цяпер прачытала Канон пакаяннi і дала яшчэ раз артас… Раніцай давала, але наперадзе ноч…

*

Сёння ў сне другая палова фразы была: хутка паедзеце на Гродна… Першую – не запомніла…

Паедзем. Але ўжо без мамы. Неяк Таня (з аўталаўкі): А калі вы паедзеце? – Я: Танечка, мама ўжо нікуды не паедзе… Гэта, сапраўды, так. Усе маміны дарогі ўжо адбыліся. Апошні яе прыстанак… А далей толькі – шлях у вечнасць…

Восень – час страт… Бацька – у лістападзе… Мама… Мне здаецца, што да лістапада не пацягне. Занадта далёка для яе – спакутаванай і аслабленай. Раніцай, праўда, яшчэ ўкалола цэфтрыаксон і дала чацвярцінку дзігаксіна. Удзень зрабіла спіс таго, што мне трэба купіць у аптэцы… Думаю, што ён застанецца нявыкананым…

Чытала Канон на разлучэнне душы ад цела. Пачала ў дзевяць. Было падобна, што мама памірае. Цяпер – каля дванаццаці. Цяжка дыхае, ціхенька стогне… Ужо – моцна стогне…

26.10.2016

***

Хадзіла на Мішыку “сядзібу”, нарвала крыху пятрушкі. Ішла назад і – о цуд! – на небе вясёлка. Яна толькі нараджалася, яна да канца і не нарадзілася: не паявілася ва ўсю сваю моц і велічыню. Але – шырылася, вырастала ўверх, амаль да пераходу ў дугу (арку), і знікла. Гэта быў такі цуд! У восеньскім, амаль вечаровым змроку на свінцовым халодным небе з арэхава-апельсінавымі і блакітна-сінімі падсветкамі – вясёлка. У маёй замкнёнасці – пакінутасці – і людзьмі, і Богам – як знак – ад Госпада…

Асвяціла нейкім святлом знутры… На імгненне…

29.10.2016 (субота)

***

Учора вечарам зноў чытала Канон… Напэўна, ужо разоў пяць… І днямі чытала ўночы…

Мама цэлы дзень спала, падвечар я яе разбудзіла. Ціск быў 140. Чайнымі ложачкамі дала чаю і крошку сыра – як вераб'ю… А потым уся пахаладзела, і твар, і рукі… Ціск упаў да 110… Зрабіла ўкол, у час чытання Канона змагла даць каплі, потым – артас… Хоць і раніцай давала артас…

Думала, што ночы яна не переажыве…

У палове трэцяй ночы я прачнулася. Чытала Псалтыр – адну кафізму, на больш не было сіл. Пасядзела каля яе. У палове пятай лягла. Цяпер – каля васьмі… Галава цяжкая, вочы закрываюцца…

*

Увечары зноў тэлефанавала Лена. Я падзякавала ёй за частую (тэлефонную) прысутнасць і спачуванне… Казала: я ўжо і Свеце (сястры) расказала пра тваю маму…

3.11.2016 (чацвер)

***

Пятага, у суботу, хадзіла на Волю: прыязджаў бацюшка, служыў паніхіду – асенняе памінанне… У канцы даваў цалаваць крыж, падыходжу…

– Ну, как Ваши дела?

– Страшно плохо. Мама вся на ранах… Может причастить ещё раз?

Запомніў… У мінулую восень, у кастрычніку, прычашчаў абедзвюх – і маму, і Маню. Па той жа прычыне – памірала мама. У гэтым верасні ён хварэў, і таму прыязджаў а. Алексій… Дамовіліся, што я патэлефаную, пры ўмове, што маміна жыццё будзе доўжыцца да нядзелі… (У нядзелю а. Іаан павінен служыць літургію ў Рудзе.)

*

Яшчэ адна "падзея": згубіўся сабака. Я пайшла з ім на Волю, а назад Надзя з Толікам узялі мяне ў машыну. Я спяшалася дадому… Я думала, што Шарык прыйдзе адзін – па слядах, па той самай сцежачцы…Я не сумнявалася, што Шарык-2 такі ж разумны, як і наш Шарык, якога ўжо няма. А ён не прыйшоў. Пакарміла маму і яшчэ раз пайшла на Волю… Два кіламетры туды і назад, плюс два ранейшыя… Усяго – шэсць… "Ускоры-

ла"… Рвала голас ва ўсю моц – клікала, і дарэмна… Маня адразу казала: "За гэты час ён забег невядома куды, ты яго не знойдзеш." Вельмі шкадавала. І я шкадавала… Нягледзячы на цяжкія хатнія абставіны гэтае шкадаванне так і прарывалася ў наступныя дні – у размове, у маўчанні…

Шарык-2 з'явіўся ў нашым жыцці сам – без дазволу, без нашай згоды… Нехта выкінуў яго напрадвесні, як непатрэбную рэч, з машыны ў нашай цяпер маленькай вёсачцы з 5 – 6 – 7 двароў, у залежнасці ад сезону года… Толік яго ледзь не забіў: сабака ўлез у хлеў – галодная жывёліна шукала цяпла і яды… Ён папоўз, не мог ісці, ніхто не думаў, што ён пасля гэтага выжыве…

Сцяпанаўна вярталася пасля зімы рана, і сабака знайшоў прытулак каля яе… А па суседству яшчэ прыязджаў з Гродна Толік, які вельмі любіць сабак. Мы вярнуліся ў сярэдзіне чэрвеня пасля доўгай варажбы – ехаць ці не ехаць… Мама ляжала… І каб не гэтае вясновае (а можа зімовае?) абкраданне – вырваны прабой з дзвярэй, разбітае акно, мы не зрушыліся б з месца. Як толькі Шарык выявіў, што ў другім канцы вёскі пасяліліся людзі, ён пачаў прыходзіць кожны дзень. Яды яму, вядома, не хапала: сабака вялікі, дужы. (І вельмі разумны…) Прыходзіў звычайна вечарам. Я за дзень збірала ўсю непатрэбную яду і дабаўляла і патрэбную…Старалася кампенсаваць: тое, што не дадала свайму Шарыку, дадаць чужому. Зрэдку прыходзіў і па два разы. А калі Сцяпанаўна паехала на зімоўку да дачкі, прытым вельмі рана, ён з кастрычніка перасяліўся да нас назусім…

З той вандроўкі на Вялікую Волю Шарык вярнуўся на трэці дзень. У панядзелак, у гадзіны тры, ён ляжаў каля веснічак. "Ах, ты, блуднік!" – прывітала я яго, выйшаўшы з хаты. На спіне вырваны шматок поўсці, крыху паказалася кроў. Потым даведалася, што Шарык разам з другім сабакам (і яго гаспадыняй) хадзілі ў суседнюю вёску – праз мост, за Шчару…

Тыя вярнуліся ў той жа дзень, а ён пабыў у гасцях… Была рада, што ён вярнуўся: яшчэ крыху пажыве, пакуль мы тут… Але болей была рада таму, што ён не такі дурны, як мне падалося…

8.11.2016

***

З маміных калыханак…

Спі, мая раначка.
Спі, мая болечка.
Спі, долечка, – нешчаслівая
на цэлы свет…

8.11.2016

***

Не пасцілася. Толькі прысела. Каля чатырох… Работа, работа, работа.

Гатавала на верандзе. (Нехта ж прыдумаў – устанавіць газавую пліту на верандзе!) Холад люты… Выпаў снег. Дакладней, падаў. Доўга… Хлоп'ямі – амаль аўсянымі…

І ў гэтым змроку беспрасветным – белым, зімовым – невядома адкуль – з мяне – з прасторы – з другога свету – ці то песняю, ці то гукам – ува мне ці па-за мною…

мой Боже высокий
мой Боже далёкий
мой Боже – мне – свет – из глубин…

І спявалася – вялося – не голасам, а нейкім тонкім унутраным дзеяннем – адчуваннем – душою… І было светла і спакойна… Ледзь не радасна… І мама ляжыць – памірае…

І гэтае святло – як акенца: само адчынілася і само зачынілася…

Пайду лячыць маміны раны…

9.11.2016 (серада)

***

Быў а. Іаан. Прычасціў абедзвюх – і маму, і Маню, сабораваў – толькі маму. Маню не ўгаварыла на сабораванне: ёй здаецца, як пасаборуешся – дык адразу і памрэш… А сілай не прымушала… І бацюшку не ўгаварыла на поўны чын… Не хоча. Доўга – гадзіны паўтары са споведдзю… У канцы (пасля ўсяго) сказаў: Вы зрабілі ўсё, што можна. Яшчэ ўспомніў пра двух евангельскіх разбойнікаў… Гэта да таго, што Маня не сабаравалася.

У чацвер тэлефанавала Лёня, яна выказала гэтую думку пра сабораванне. Я і сама думала пра гэта, але хто мне іх будзе тут сабораваць… Гэта патрэбна было рабіць у Гродна. Рашыла пагаварыць з а. Іаанам. Згадзіўся на непоўны чын, і з нядзелі перанёс на суботу…

Учора прыбірала ў хаце. Многа трывогі… Каб мама вытрымала – і ціскам, і свядомасцю, і мовай… І Маня – таксама: учора ціск на 190.

Айцец Іаан – мне пасля некалькіх спроб, не пачуўшы адказу: А мама гаворыць? Я: Гаворыць. Толькі моцна кажыце – на вуха… Выходжу, як таго патрабуе тайна споведзі… Вярнуўшыся: Ну што? Ён: Усё выдатна.

Цяпер – вечар. Стамленне. Хочацца маўчаць і не рухацца…

Мама ляжыць цэлы дзень нерухома. Амаль нічога не ела.

(Была пенсія сёння.)

12.11.2016 (субота)

***

У мінулы год у гэты дзень мы паехалі ў Гродна. Як я адважылася на гэта, я і цяпер не магу ўявіць. Але гэта было правільнае рашэнне, правільнае дзеянне, адзіна правільнае…

А ў гэтым годзе – ні рашэння, ні дзеяння. Усё нявызначана, усё ненадзейна. І ніхто нічога не падкажа. Праўда, лепшай падказкай з’яўляецца сама мама: яе нельга ні вязці, ні варушыць… Уся – на ранах. Уся – на болю. Відавочней і дакладней падказкі не можа быць…

*

У Горкага ёсць “Мае універсітэты”, а ў мяне па аналогіі з гэтым могуць быць “Мае манастыры”… Яны – ёсць… Было б лагічней – у адзіночным ліку, але па схеме Горкага – пакідаю ў множным. Мае манастыры… Сцены тоўстыя, моцныя. Тэрыторыі вялізныя… Паслушанні – суровыя і шматлікія. Свабоды – ні хвіліны, адпачынку – тым больш, прыналежнасці самой сабе – ніякай… Зіма і блакада… У кожнага – свая вайна, і кожнаму – свой ГУЛаг…

*

Госпадзі, нікога няма мне ў дапамогу…
Госпадзі, нікога няма мне – ў радасць…

15.11.2016 (аўторак)

***

Спаць, спаць, спаць…
Какое глубокое каждодневное недосыпание…
Какое изнурительное каждодневное изнеможение…
Спать, спать, спать…

15.11.2016 (23.35)

***

Была зіма. Пачалася 9-га (ці 8-га), а сёння закончылася… Вярнулася восень. Снег растаў, толькі дзе-нідзе белыя маленькія плямкі… На градусніку +8… Няхай бы так і было на працягу ўсяго нашага тут знаходжання…

Мама слабенькая… Хоць – гэта не тое слова, трэба нейкае горшае, болей ненадзейнае…

Сёння роўна шэсць гадоў, як памёр бацька*. Нічым не памянула. Усё тут недасяжна: царква, магазіны, аптэка… Поўная ізаляцыя ад свету…

*

Учора прыязджала Таня… Выканала ўвесь мой заказ, можа дзе і не так, але слава Богу, што яна ўсё гэта зрабіла…

Заходзіла Зіна: запрасіла на суботу на гадзіну да іх… Гадавіна па Андрэеўне… Сказала, што не прыйду: не магу я з гэтай пачварай (зладзейкай) сесці за адзін стол, быць у адной кампаніі… Усе яе прымаюць, ніхто ад яе не адвярнуўся… І Бог яе не пакараў… Можна красці, можна трушчыць дзверы, вокны – нічога не бывае за гэта…

18.11.2016

***

прыношу ваду з калодзежа
адны вёдры прыношу
другія выношу і выліваю
нашу дровы ў хату
каб было на сёння і на заўтра
нешта перастаўляю
нешта выбіваю
сную бясконца з хаты на вуліцу
з вуліцы ў хату
дзе бягом
дзе подбягам

Шарык ляжыць і думае:
як цяжка быць чалавекам

канец кастрычніка 2016

---

* Бацька памёр 17-га, 18- га хавалі.

***

помилуй Боже тишину
чтобы мама не стонала
чтобы раны не болели
умири болезни
исцели души и телеса
чтобы тишина была
светлой и лёгкой
исполненной Духа Святаго

помилуй Боже тишину
ночную

24.11.2016 (почти полночь)

***

*Сотвори Господи из меня человека...*

Запіс застаўся незакончаным… Думка згубілася ў няспынным калаўротку майго часу (лепш – у няспынным калаўротку маіх абавязкаў) і не знайшлася…

Хутчэй за ўсё – 24.11.2016

***

Мама амаль што не адкрывае вачэй… Сёння першы раз на маё пытанне:

– Будзем піць чай?

Адказала:

– Не будзем…

Сілы яе пакідаюць… Дапамагчы ёй нічым не магу…

Купіць “детское питание»? Але як?

*

Яшяэ адно незвычайнае і дрэннае здарэнне ў сённяшнім дні… Маміна правая рука ўпала з ложка – апусцілася ўніз, яна ўся заледзянела і ацякла. Ложак пастаўлены так, каб я магла падыходзіць з абудвух бакоў, таму што мне трэба перасцілаць, пераварочваць маму. Калі б не гэтая акалічнасць – рука не ўпала б… Занятая бясконцай працай, я ўбачыла гэта толькі ў другой палове дня. Мама сама, напэўна, не адчула: вельмі слабенькая сёння. Я думала гэтага жаху не перажыву. Плакала. Руку ўкутвала і саграваала… Ацёк “перамяшчаўся”, не знікаў, а руку паступова адагрэла…

25.11.2016

***

Падвечар упаў ціск, выклікала Хуткую: дайце чалавека з вялікім досведам… Прыехала жанчына ва ўзросце: калола прад- нізалон (я першы раз пра яго чула), сказала, што можна выклі- каць участковага доктара (на пролежні)… Паказала ёй учарашні ацёк: рука стала тоўстай і няўклюднай… Яна сказала, што так ўжо і застанецца…

Чамусьці мне здаецца, калі б я не выклікала Хуткую, мама магла б сёння памерці… Я стамілася ваяваць за яе жыццё, ужо не маю ні сіл, ні сродкаў… (Лекавых сродкаў… У тым плане, што яны ўжо не дзейнічаюць.)

26.11.2016 (субота)

***

Ездзіла са Светай у Дзятлава: рынак, аптэка. Еўраопт. Вяр- нулася – вялікі кош бульбы на парозе… Маня сказала, што пры- вёз Толік. Яна бачыла праз акно. Але, каб яна і не бачыла, я адразу здагадалася, хто гэта: Толік з Надзяю – Дзеды Марозы – апрача іх ніхто гэтага не зробіць…

27.11.2016 (нядзеля)

***

Пачаўся пост. Нягледзячы на гэта, дзень пачаўся з граху: у Мані сёння “буйны” дзень і намірна з ёю ніяк не зладзіш…

Прыязджала Хуткая – маладая доктарка з Казлоўшчыны. Потым хадзіла да цёці Валі: тэлефанавала доктару, а пасля – галоўнаму ўрачу Дзятлаўскай бальніцы. Прасіла прыслаць хі- рурга – на пролежні…

Званіла Лена, сказала, што выбрала мне тэлефон у АЛМІ – Nokia, за 600 тысяч. Мой ўжо знасіўся: часам прападае гук…

Сёння выпаў снег, пакрыў зямлю, на градусніку -1. Гэтага снегу мама ўжо не бачыла. Яна бачыла той, папярэдні, на пачатку месяца. Я на імгненне прыпадняла яе, амаль пасадзіла, хоць зрабіць гэта было вельмі цяжка. “О, колькі снегу!” – здзівілася яна. Болей снегу яна не бачыла. Гэта быў апошні снег у яе жыцці. Снег – праз акно. Збоку жыцця. З яго адыходу.

28.11.2016 (панядзелак)

***

29-га, аўторак: Таня забрала рэцэпты з рэгістратуры, але аўторак і сераду не магла мне перадаць уколы і іншыя лякарствы… Два дні нерваў, чакання і няўдачы…

*

30-га, серада… Каля трох (дня) – Хуткая: хірург з медсястрою… (Адправіла Марыя Станіславаўна). Агледзеў маміны раны, медсястра перавязала. Маму я павярнула на бок, а яна палажыла руку на калена хірургу. Ёй жа трэба было неяк замацавацца ў прасторы. Я ўбачыла – не стрымалася, каб не засмяяцца… Адняла руку…

– Нічога, нічога…

Хірург – малады, неславянскай знешнасці, але, відаць, што мае душу…

Я рашыла не вязці маму ў бальніцу… Які сэнс! Памрэ пад кропельніцай, ці па дарозе ў бальніцу… Лепш ужо – на сваім ложку, у родных сценах…

Пасля іх – адразу яшчэ адна машына: жанчыны з Руды збіралі грошы на рамонт даху царквы. Адразу – прыслаў бацюшка, а потым – пра збор грошай. А пачынаць патрэбна было з другой часткі…

*

1 снежня, чацвер. З самай раніцы Таня прывязла лякарствы. Але ўзнікла другая праблема: мама не спала ўсю ноч, кетаралак не дапамог. Раны, апрацаваныя і мазямі, і зялёнкай, нясцерпна балелі. Тэлефанавала на Хуткую, потым – у кабінет хірурга, потым – участковаму тэрапеўту…

Званкі, званкі, званкі… У выніку – з Казлоўшчыны трэба забраць рэцэпт на абезбольваючыя ўколы.

*

2 снежня, пятніца. Сёння Таня забрала рэцэпт, дакладней, ёй перадалі. Позна вечарам яна купіла гэтыя ўколы плюс тое, што я прасіла. Удзень цёця Валя абуралася каля аўталаўкі, што не там прыпынак. Са злосцю… З варожасцю…

– Калі гэта скончыцца!...

У перакладзе на прамы сэнс гэта адзначае: ну, калі ўжо яна памрэ!... Або: ну, калі ўжо яны паедуць у Гродна!... (Другая фраза выцякае з першай.)

З нашым вяртаннем прыпынак для аўталаўкі пераносіўся бліжэй да нас, паколькі Маня – інвалід 1-й групы, мама – яшчэ большы інвалід, хоць і без групы. Цёцю Валю гэта не задавальняла. Маня, калі я ёй расказала пра гэты выпадак, сказала: “А як мы хадзілі!.. І чакалі тую аўталаўку і холадам, і марозам…”

Потым я пайшла па ваду, і Шарык, як заўсёды, пайшоў са мной. Ён страшэнна любіць хадзіць са мною – па ваду і асабліва на вячэрнія прагулкі, хоць яны вельмі кароткія і нячастыя. Убачыўшы ў маіх руках пасудзіну ці сумку, ён разумее, што адбудзецца нейкае падарожжа… Ад радасці пачынае скакаць, лашчыцца, падае сваімі дужымі лапамі на сумку. Але сёння – не мой дзень! Сабакі пачалі грызціся. Ніколі гэтага не рабілі. Калі Жук сядзеў на Шарыкавай спіне – усё было добра, а калі яны памяняліся месцамі, цёця Валя схапіла палку: – Мусіць, нашага сабаку пакаціў? – і пабегла…Сабакі, убачыўшы ўзброеную цёцю Валю, спынілі бойку…

– Ала, навяжы свайго сабаку!

Слава Богу, я была знешне стрыманай (унутры, вядома, не), мы перакінуліся некалькімі фразамі і на гэтым усё закончылася. Да ўсяго я разумела: цёця Валя проста параўнавала – бачыла, як я купляла Шарыку вялізны таўкач ліvернай каўбасы…

…І чаму свет поўны зла і несправядлівасці? Неаб’ектыўнасці і ўласнай выгады. Я і сёння, як дурніца, задаю гэтыя пытанні…

2.12.2016 (пятніца, пасля 23-х)

***

3-га, субота. Перадалі ўколы. У сем раніцы. Людзі ехалі на Зэльву – Таніна супрацоўніца.

4-га, нядзеля. Ніякага адчування, што – свята. Не пасцілася, не прычасцілася – ніякага ўнутранага святла не атрымала.

Лена патэлефанавала падвечар. Я на верандзе паласкала падсцілкі. Я іх называю – маміны плашчаніцы. Усе – на крыві. А цяпер яшчэ дабавілася і зялёнка. Жахлівае спалучэнне…

5-га, панядзелак. Патэлефанавала Таццяне Сяргееўне (уч. тэрапеўту), падзякавала за рэцэпт і сказала, што ў мамы левая нага ледзяная… Выклікала Хуткую, але зноў прыехала Таццяна Сяргееўна (Дзятлава пераадрасавала выклік на Казлоўшчыну),

яна сама ўжо тэлефанавала, каб прыслалі хірурга, паколькі хутчэй за ўсё – трамбоз…

6-га, аўторак. Сёння амаль тры гадзіны дня – ніхто не прыехаў…

Я тэлефанавала ў гадзіну на Хуткую і уч. Тэрапеўту. Нага да калена чорная, фіялетавая…Хуткая пасля перазваніла: да трох будзе хірург…

6.12.2016

***

Мама памірае па частках: цяпер вечарам перасцілала і ўбачыла, што і другая нага абледзянела… Да калена. Я ўсё баялася, каб не было інфаркта ці інсульта. Гэта ўяўлялася самым страшным… Аказваецца, што без гэтых хвароб можа быць яшчэ страшней…

Дзве мёртвыя нагі… Галасіла голасам… І прычытала на ўсю хату: А мае вы, ножачкі! Колькі вы папахадзілі… Ведаю, што гэта не дапаможа, але па-іншаму не магла…

Калі ўжо пераслала, спытала ў мамы: “Ты зразумела, чаго я галасіла? Абледзянела і другая нага…“Яна толькі кіўнула галавой…

Дыханне цяжкое, перарывістае… Нягледзячы на цяжкі стан, мама ў свядомасці… Вырашалі, як будзем спаць: на баку ці на спіне… Вырашылі, што на баку…

Раны не перавязвала, абвяла зялёнкаю, памазала маззю. Які сэнс!.. Навошта яе надарэмна мучыць! Цэлы тыдзень апрацоўвала пролежні – так, як мне паказалі, закрывала бінтам, фіксавала лейкапластырам… Плюс – пераслаць пасцель… Гадзіна – паўтары ішло на гэта. Спіна, якая і без таго баліць, станавілася колам. Сёння гэтага не рабіла: пашкадавала не сябе, а маму… (Так і хочацца напісаць: апошняе шкадаванне…)

Зрабіла ўкол – абязболіла… Хутчэй за ўсё – часткова.

Анямела ад жаху – і не магу маліцца…

8.12.2016 (чацвер)

***

Учора памярла мама…

Сёння пахавалі…

Такая пустэча…

Памёр адзін чалавек, а як быццам памёр увесь свет…

10.12.2016 (субота)

P.S. Сёння – дзень нараджэння ў бацькі… Атрымаў падарунак…

***

13-га ездзіла са Светай у Дзятлава і ў Хвінявічы, каб атрымаць выплаты – дапамогу і апошнюю маміну пенсію… Другая серыя або другі дзень пахавання – так я назвала… Таму што гэты другі дзень не лягчэйшы за першы – 9 снежня. І сельскі савет, перанесены з Руды-Яварскай у Хвінявічы, стварае адлегласцевыя цяжкасці… І ўся гэтая дакументацыя – суцэльная марока… Але слава Богу – справіліся.

Сёння – ўсё з той жа Светай – ездзілі ў Жыровічы. Жыровічы – гэта неадступнасць маёй душы: захацела, каб менавіта там чыталіся за маму саракауст і псалтыр… Хоць яны ўжо чытаюцца ў Гродна. (А можа гэта не я захацела, а Божая Маці: менавіта маленькай іконкай Жыровіцкай Божай Маці апошнія тыдні два я благаслаўляла маму на ноч…) Падала запіскі, купіла свечы… (Ах, як яны пахнуць мёдам – ці раем! – гэтыя жыровіцкія свечы! Ах, як я люблю, каб яны заўсёды былі ў мяне дома!) І акунулася. Зімой ніколі гэтага не рабіла, але падстрыкнула Света: “І што – ты не будзеш акунацца!?” А сама не акунулася ні разу за жыццё, хоць і жыве побач – у Слоніме. Акунулася… Я і хацела акунуцца, і благаславення прасіла ў Божай Маці…

Два разы прылажылася да іконы Божай Маці ў Свята-Нікольскім храме (Свята-Успенскі – на рамонце), нешта (нехта?) штурхала мяне яшчэ раз падысці да іконы, але я адмахнулася. Ну, навошта столькі! Якая розніца: раз ці два, ці тры… Выйшлі, трохі адышліся па двары – адной пальчаткі няма. Пагледзела вакол, вярнулася ў царкву – пры дзвярах, на ступеньках, ляжала мая пальчатка. Зразумела: Божая Маці ўладна не адпускала… Падышла да іконы ў трэці раз…

15.12.2016 (чацвер)

***

Мамы няма нідзе: ні дома, ні ў Гродна…

Дома: хата стала пустой і халоднай – няўтульнай… Чужой… Асабліва палохаў ложак, шчыльна прысунуты да сцяны – на сваё ранейшае месца, засланы горшым, старым пакрывалам – як

на ад'езд… Зусім нядаўна на ім трапятала жыццё, білася апошнімі ўздыхамі, як пташка, злоўленая ў сіло…

У Гродна: тая ж ледзяная пустэча… Добра, што не стае часу, каб гэта адчуваць ва ўсю моц. Пасля адсутнасці ў паўгода колькі трэба прыкласці намаганняў, каб наладзіць жыццё, каб дайсці да нейкага ладу!..

Некалі мама казала: "Я і тут – дома". Я была рада: значыць, ёй тут добра. Мае дзяўчата, качуючы ад пятага снежня 2010 года на працягу амаль шасці гадоў з вёскі ў горад, з горада ў вёску, сталі гарадскімі: навучыліся добра разбірацца ў тартах, любілі ўсё салодкае, смачнае – новае, а таксама – розныя фрукты. Мама – болей салодкае, а Манюня – фрукты. Але грушы і вінаград любілі абедзве. У апошнія тыдні – дні – свайго жыцця, калі я пыталася ў мамы, чаго яна хацела б, яна адказвала: вінаграду… Я знімала скурачку з ягад, даставала костачкі і клала мякаць у рот. З цяжкасцю яна яшчэ нешта магла глыкнуць, а потым і гэта было не пад сілу.

Калі мы доўга былі дома – а здаралася, што і па паўгода – мама прызнавалася: "А я ўжо хачу ў Гродна". Адразу, прыехаўшы ў першую зіму пасля смерці бацькі, усё называла на свой лад: прыхожая і калідор – сені, ванная – баня (лазня), балкон – камора… Адпаведнікі былі знойдзены вельмі дакладна.

У апошні свой прыезд мама ў асноўным ляжала ў ложку, крыху сядзела ў крэсле – калі я туды яе садзіла, разы два-тры самастойна перайшла ад ложка да канапы, адлегласць паміж якімі таксама ў два-тры крокі… І толькі адзін раз быў вельмі няўдалы паход на кухню – у маю адсутнасць… І быў удалы – апошні, таксама – у маю адсутнасць…

У вялікі пост гады тры-чатыры падрад я іх абавязкова прычашчала – прыходзіў айцец Дзімітрый з Сабора Ўсіх Беларускіх Святых… Так было і 25 красавіка 2016 года – у панядзелак, за дзень да мамінага 90-гадовага юбілею. Я паехала купіла кветкі, можа і яшчэ што – не помню, адкрываю дзверы, ступіла крок і абмярла… Ложак пусты, коўдра адкінута з размахам… Чалавека нідзе не відаць… (Як рэмарка: дзверы ў кватэру і дзверы ў пакой знаходзяцца насупраць – на адной лініі, дзверы ў пакой адчынены). Першая думка – як маланка: дзе ж яна будзе ляжаць? Каля канапы? на падлозе? І баюся ступіць крок… Нейкім чынам пагляд падае ўбок… І не шок, і не здзіўленне, і не ведаю што – у крэсле ў прыхожай (за шафай было не відаць) сядзіць

мама… Ці выгаварыла, ці выдыхнула: “Як ты сюды прыйшла!?.” Адказ я ўжо знаходзіла сама: Бог даў сілу, Бог прысутнічаў у ёй самой святым і высокім прычасцем… Сядзела ў сарочцы і маечцы, і крыху даўно, і было ёй холадна… Я дапамагла зайсці на ложак. Гэта быў яе апошні самастойны паход. Тое, што мы з Колем яе вывелі пад рукі ў машыну ў дзень нашага ад’езду дадому, не лічыцца: мы амаль што яе вынеслі… А дома ўняслі ў хату на крэсле. Шляхі скарачаліся і знікалі зусім. Назусім.

22.12.2016

***

Нядзеля. Хадзіла ў царкву. Людзей было вельмі многа, усе прычашчаліся… Такое адчуванне, што толькі я адна – не. Непрыемнае адчуванне: не люблю, калі не прычашчаюся…

Падала́ запіску аб упакаенні і паставіла свечку…

Назад ішла – дождж, амаль лівень, а пасля – снег з дажджом, калючы, халодны…

Пазваніла Лене, мне пазваніла Света, у два ўключыла навіны – крушэнне самалёта… 92 жыцці ў адно імгненне перарваліся, спыніліся. Плакала, патокам… Самае страшнае, што – маладыя жыцці… Чужое гора засланіла маё ўласнае. Госпадзі, аберажы нас ад дарэмных смерцяў і пустых страт…

25.12.2016

***

Нерухомы дзень…

Святочны дзень…

Прычасцілася – і свята… Вялікае, непарушнае, усёаб’ёмнае, усеабдымнае – бязмежнае ў прасторы… (Праекцыя душы – на прастору). Бог не мае межаў і абмежаванняў. Якая вялікая сіла! Моц… Магутнасць… Адсутнічаюць словы – не створаны, не названы – каб гэта абазначыць…

Сёння дваццаць першы дзень, як няма мамы. У Жыровічах пакінута (заказана) запіска – на абедню. Вырашыла прычасціцца тут, паколькі да Жыровіч недасяжна. Засталася яшчэ і на паніхіду, пастаяла са свечачкай, памалілася…Хоць паніхіда служылася па іншым чалавеку…

…Каля трох вокны асвяціла сонца. Нават здзівілася… Так даўно не было сонца...

Мамачка, ці сонечна табе там? Ці асвяціў цябе залаты Божы праменьчык? 29.12.2016

***

Патэлефанавала Галя Самойла на мабільны: не ведала, што я ўжо ў Гродна… Потым набрала на хатні… Казала, што ў снежні хадзіла на імпрэзу, прысвечаную Максіму Багдановічу, якую ладзіў Саюз беларускіх пісьменнікаў…

І толькі сёння да мяне дайшло, што дзень смерці мамы 9 снежня – гэта дзень нараджэння Максіма Багдановіча. І нават не здзіўленне – лёгкі шок быў: як даты накладваюцца на даты!.. Максіма Багдановіча лічу вельмі блізкім – амаль родным – чалавекам – паэтам – асобай…

4.01.2017

***

7.01.2017 года, аўторак – сорак дзён па маме. Хадзілі ў царкву – я, Наталля (траюрадная сястра, прыехала 12-га з Запарожжа) і Лёня – мая аднакласніца…

Прычашчалася я адна з нас траіх…

Перад самай Херувімскай з вачэй хлынулі слёзы – быццам кранікі хто адкрыў… Хачу спыніцца і не магу. Але слёзы не гора, не бяды, а як бы святлом па мне хто паласнуў. Захлынулася нейкай радасцю…Спалохалася гэтага адчування – незнаёмага і вялікага… Ці то мама яго – гэтую лавіну святла – прыслала, ці то Гасподзь…

Крыху прыціхла да “Ойча наш…”, а потым на паніхідзе зноў з вачэй ліўся дождж... Было светла і лёгка…

Мама пасля сарака дзён ні разу не прыснілася. Якое месца прызначыў ёй Гасподзь, як ёй там – я не ведаю… Але, калі меркаваць па той лавіне святла, – можа і добра…Вельмі хацелася б, каб так… Мне было б тады лягчэй жыць на зямлі…

27.01.2017 (пятніца)

***

Апошнія дні лютага… Хто так хутка перагортвае старонкі календара? І тая назва “З восеньскага – з мамінага” захапіла (заняла? заваявала?) сабой і зіму… Але я лічу, што толькі дзевяць дзён… Дзевяць дзён снежня – як post scriptum да мамінай восені. А дзевяты дзень так і застаўся ненапісаным. Да яго так і не магу падступіцца. Чаму? Ён такі страшны? Ці ён выратавальны? Ён жа ў нейкім родзе як збаўленне ад цяжкога зямнога прыгону– ад бярэмя лёсу… Ці ж не я дзве раніцы хадзіла па хаце (не, не шпацыравала, а выконвала нейкую работу і біла сваім стомленым голасам у святое Неба, як у звон: Госпадзі,

памілуй! Я не прасіла ні жыцця, ні смерці… Айцец Іаан тады, на Волі, на Дзімітрыеўскую суботу, калі я спытала, ці можна маліць Госпада аб смерці пры такіх нясцерпных пакутах, адказаў: не… Я крычала не толькі за маму, я крычала, стукалася да Госпада за нас траіх: Госпадзі, памілуй нас...

Госпадзі, памілуй нас – самых грэшных, самых апошніх… Таму што трываць далей ужо не было сіл – ні фізічных, ні духоўных… *Госпадзі, памілуй нас* адзначала – Госпадзі, зрабі з намі тое, што Ты хочаш, зрабі з намі тое, што Ты лічыш патрэбным ці правільным… Толькі дай нейкае выйсце…

У палове пятай раніцы – 9 снежня – мама стагнала, я зрабіла ёй уколік (лёгкі – кетаралак), каб абязболіць. Я яшчэ тэлефанавала участковаму доктару, каб выпісаць уколы. Званок мой быў дарэмны. Мама першы раз на мой голас не адклікнулася… Не адкрыла вачэй… Дыханне ў ёй яшчэ было… Апошняе дыханне… Я разумела, што мама ўжо ніколі болей не адклікнецца на мой голас, што мама ніколі болей не адкрые вачэй. Я спрабавала яшчэ даць ёй артас, але наўрад ці мне гэта ўдалося. Я палажыла яе з боку на спіну, выпраміла ногі, чамусьці зняла з галавы хустачку. Тую самую мягенькую бэзавую хустачку, якой саграваала яе ледзяныя шчокі начамі: прыкладвала хустачку да цёплай кафельнай печкі – награвала, а потым завязвала маме на галаву  і старалася пры гэтым прыкрыць шчокі – сагрэць іх). У дванаццаць гадзін закончыла чытаць Канон (на разлучэнне душы ад цела). Нешта спрабавала рабіць… Да ўсяго – трэба было чакаць аўталаўку: другі чалавек жывы, ён жа хоча есці… За хвілін дзесяць-пятнаццаць да прыходу аўталаўкі я заходзіла ў спальню: мама яшчэ дыхала… Мама памярла недзе ў гадзіну дня, ці крыху пазней – на хвілін пяць-дзесяць. Я вярнулася ад аўталаўкі – мама ўжо не дыхала… Яна была цёплай… Душа толькі што пакінула цела. Я закрыла ёй вочы, толькі падбародак не слухаўся – не падвязваўся хусткай. Потым усё-такі падвязала… Хусткай закрыла твар…

Часта раніцай – пароль? – жарт? (горкі) – гульня? – я пытала: – Ці жывенька?

І яна адказвала:

– Жывенька…

Гульня спынілася назаўсёды…

Далей усё было стандартным, па правілах… Хаця…  Мыла маму я сама, апраналі з Тамарай Канстанцінаўнай, цёця Валя

дапамагала. Дол даставалі ўвечары – цёмна, рытуальная служба з Мастоў. Ездзіла з імі вечарам на могілкі паказваць месца. Гэтыя ж хлопцы палажылі маму ў труну. Тамара Канстанцінаўна паехала з імі назад у Масты, цёця Валя пайшла дадому. Я адна прычэсвала маму, завязвала хустку…

У гадзін дзевяць прыйшлі Касачы: Коля (мой хроснік) з жонкай, яго брат Саша, які невядома чаго прыехаў са Смаргоні (Бог прыслаў у нашу несусветную адзіноту!), і Ядзя – маміна дваюрадная сястра. Ядзя засталася са мной – з мамай – на ноч. Чытала Канон о усопшем і наколькі гэта было магчымым – Псалтыр…

Потым, у тэлефоннай размове Тамара Канстанцінаўна спытала: “Ці была мама прыгожай?” Пытанне было нечаканым… Напэўна была… Ціхая, засяроджаная, адляцеўшая назаўсёды… У правым воку толькі праступіла малюсенькая кропелька крыві. Пры ёй было светла, лёгка – нейкай няўлоўнай незямной лёгкасцю…

У час адной з восеньскіх, амаль вечаровых, вандровак, гледзячы на халоднае металёвае неба, пакрытае грознымі хмарамі, неяк падумалася: і куды тая душа будзе ведаць ляцець? У халодным і чужым – беспрытульным Сусвеце дзе тая дарога да Бога?.. Як яе знайсці?..

Можа яна ўжо адолела яе той ноччу…

*

Я часта – з сарказмам – з іроніяй – з вялікім жалем – у залежнасці ад абставін, у залежнасці ад суадносін маіх уласных сіл і жыцця – гаварыла: у мяне дзве дзяўчынкі – дзяўчынка Манечка і дзяўчынка Зіначка… Жыццё не перакроіш па ўласнаму сцэнарыю. Па крайняй меры, у нашым родзе такога не бывае… Я – апошняя з гэтага роду…

Круцяцца жорны часу. Перамельваюцца гады – месяцы – дні – хвіліны… Кожны дзень зачэпіць нейкай памяццю пра маму. Спадніца – як на калочку… Туфелькі пачапіла толькі на пальцы, бо пяткі – усе на ранах…

Працягваецца свята зямнога жыцця. Усходзіць і заходзіць сонца. Растаюць і нараджаюцца аблокі, і атульваюць высокае горняе Неба… Недзе там – у вечнасці – жыве дзяўчынка Зіначка…

26.02.2017



Уладзімір Правідохін (Хін), *В красном–2,* 1993-95

**Сяргей КАЛЕНДА**

# ДЖУСТУС, ВЯЛІКІ І НЕПАКОРЛІВЫ

### *Пра маленькага Флорыяна, які змагаўся з часам*

– Флорыян, дарагі мой, ты дзе?! Фло-о-оры-ы-ыя-ан! Мы можам спазніцца, сынку! Давай хутчэй, варта было б ужо нам ня толькі сесці ў машыну, але й праехаць палову дарогі да кірмашу! Мы неверагодна спазняемся! – маці ціўкала, хвалявалася і лётала па кватэры ўтрая шпарчэй звычайнага…

Сённяшні вечар – асобны дзень, свята, сённяшні вечар – незвычайны вечар, бо так супала, што ў горад прыехаў велічэзны парк забаваў, самы сапраўдны, падобны да перадкаляднага кірмашу, але толькі летам, і не проста парк з каруселямі, але парк з цыркам і нават сваім колам агляду, якое, калі яго змантавалі, стала відочным амаль усім жыхарам з любой ускраіны гораду. Гэтае кола на колькі тыдняў ператварылася ў сімвал гораду, такая свая, мясцовая Эйфэлева вежа.

Сённяшні вечар асаблівы яшчэ і таму, што ў мамы дзень нараджэння, які яна збіралася адзначаць дома. Але раніцай, калі маленькі Фло толькі расплюшчыў вочкі, ён убачыў перад сваім тварам бацькаву зарослую медзьвядзіную пысу ў акулярах і маміну птушыную дзюбку… і бацька такі:

– Сынку, сёння мы адзначаем дзень нараджэння мамы не дома! Усе паедзем забаўляцца ў парк! Кола агляду, горкі… салодкая вата! Цір!

Флорыян спачатку і не чуў бацькаў голас, які цяжкім рэхам аддаваўся недзе ўнутры жывата, але паступова, як прачынаўся, усё больш ясна разумеў сэнс бацькавых словаў.

Яшчэ колькі імгненняў – і малы ўжо скакаў на ложку да столі!

Парк! Парк! Парк!

Значыцца, так, трэба сёння заняць сябе рознымі справамі, каб час да паездкі найхутчэй настаў, і каб яны былі ўжо ў машыне, весела імчалі ў кірунку свята…

Флорыян пачысціў зубы тройчы… першым разам па коле, як круціцца тое ж кола агляду ў парку дзівосаў! Спачатку ў адзін бок спераду, потым па паверхні зубоў ніжняй сківіцы… потым углыб… потым па коле ў іншым кірунку…

Потым Флорыянчык пачаў чысціць зубы, паўтараючы рух вагончыкаў падчас пад'ёму і спуску на Супэргорках…. Уверх, павольна, марудна, але з чаканнем рэзкага падзення ўніз… і так ён паўтарыў на ўсіх сваіх зубках, палова з якіх былі яшчэ малочныя…

Потым хлопчык пачаў кружляць па зубах і дзяснах хаатычна, то ўверх, то ўбок, то па коле, то рэзка па дыяганалі… такім чынам ён ужо ездзіў на электракары, збіваючы іншых са шляху, а часам трапляючы пад чыйсьці трапны фінт. Гумовыя бампэры машынак адскоквалі адзін ад аднаго, ну літаральна як шчотка ад вуснаў.

Потым Флорыян еў кукурузныя шакаладныя шарыкі з малаком і расцянуў задавальненне настолькі, што шарыкі размоклі і ўся смаката ператварылася ў кашу, толькі парэзаныя кавалачкі яблыка заставаліся належнай формы… Фло сачыў за часам і паціху вылоўліваў лыжкай кавалачкі яблыка ды накіроўваў іх у рот, быццам гэта і не лыжка зусім, але беспілотнік, які лётае над кірмашом.

Маці з бацькам не звярталі ўвагі на сына, той мог так і да вечара праседзець за кухонным сталом.

Мама гутарыла па тэлефоне, паглядаючы на сябе ў люстэрка каля шафы, аўтаматычна папраўляла на галаве пер'е і рабіла вуснамі дзюбку вераб'я, а часам гэта нагадвала Флорыяну рыбіны вусны. Маці клала слухаўку толькі для таго, каб перавесці дыханне і ізноў набраць сяброўку, каб паведаміць пра новыя планы на святочны вечар альбо ўзгадніць час.

Тата, заваліўшыся на канапу так, што тая ажно зарыпела і рассунула свае маленечкія ножкі ў розныя бакі, збіраўся крыху адпачыць пасля цяжкага сняданку: смажаныя яйкі, курыная катлета, салата, кавалак вішнёвага пірага і два кубкі кавы. Прычым два кубкі моцнай кавы – каб не цягнула на сон пасля ежы, бо выходны дзень такі сонечны, радасны… хочацца паназіраць за ім, пражыць. Але праз пяць хвілін бацька ўжо па-мядзведжы соп і хроп, яму нават ніякі плед не патрэбны быў, каб не змерзнуць падчас пасняданкавага сну, ягоная поўсць была такою шчыльнаю, што магла сагрэць дзесяць такіх дзетак, як Флорыян.

Хлопчык назіраў за бацькамі і думаў, што, калі ён хутка скончыць есці, у яго не будзе ніякай новай справы, каб час прайшоў непрыкметна, а не ў марудным чаканні… трэба тэрмінова што прыдумаць. Напэўна, можна да пяці гадзін пабудаваць з усяго Лега, якое ў яго ёсць, велічэзную вежу. Самую вялікую, вышэй за ягоны рост.

Флорыян, як вучыла яго маці, паставіў талерку з малочна-шакаладна-кукурузнай кашай у чарупіну, забыўшыся, што ставіць талеркі з недаедзенай ежай забаронена, паназіраў, як ягоны сняданак сцякае па іншым посудзе ў кірунку зліўной трубы… і хуценька пабег у свой пакой, абмінуўшы ложак са спячым бацькам і праслізнуўшы за спінай мамы, якая чарговым разам аглядала свой твар у люстэрка, шчабечучы пра штосьці адной са сваіх сяброўак.

Флорыян, доўга не разважаючы, вываліў з каробкі ўвесь свой канструктар на дыван і збоку, на больш роўнай паверхні падлогі, пачаў будаваць вежу… спачатку падмурак… вось пад рукой знайшоўся адразу куб, дадамо яго да прамавугольніка, потым зверху для прыгажосці можна насыпаць бліскучых кружочкаў, яны будуць выконваць ролю натуральных камянёў, якія ўмацоўваюць падмурак… так, вось можна яшчэ гэтых плястынак пакласьці і замацаваць усё цэлым шэрагам паралелепіпедаў.

Справа пайшла, але марудна… як шмат гэтых маленькіх дэталек… што рабіць… зусім не засяроджваешся на будоўлі.

Флo паглядаў на гадзіннікі, але хвілінная стрэлка не руха-

лася, час не спяшаецца, у адрозненне ад яго. На цыферблатах знерахомелі дванаццаць нуль пяць – і нікуды…

Хлопчык яшчэ колькі хвілін памарудзіў, гуляючы з канструктарам, пакуль пад руку не трапіўся маленькі лега-самалёцік, які ён на днях сам прыдумаў і сабраў з таго, што знаходзіў. Самалёцік атрымаўся смешны, непрадказальны ў сваіх магчымасцях лётаць, але затое свой, уласны, той, які бліжэй за астатнія цацкі, бо створаны сваімі рукамі. Крылы самалёціка былі пазычаныя ад дзвярэй грузавіка, колы – з лега-джыпа, кабіна – ад будаўнічага лега-крана.

Флорыян паглядзеў на самалёт і вырашыў, што ў яго не атрымаецца пяць гадзін запар праседзець з Лега, трэба знайсці сабе нейкую іншую справу, якая будзе адцягваць яго ад падліку хвілін. І тады хлопчык успомніў, што калі ён гуляе ў касманаўта пад ложкам, то час праносіцца неверагодна хутка, бо як ты ў космасе і ўсе рухі марудныя – час пачынае ад цябе збягаць… Хлопчык палез пад ложак, рухамі і дыханнем распалохаўшы пылавых трусікаў, якія кінуліся ўроссып круглымі камякамі…

Ён залез пад ложак, звесіў зверху сваю коўдру, каб дакладна ніякага святла не трапляла сюды, і разгарнуў пакет, адкуль разлівалася белае святло… Гэта былі фосфарныя зоркі, налепкі, якія цяпер абмалявалі рысы космасу, сталі ягоным светам у абсалютнай цемры бясконцасці.

– Зямля, як чутна? Зямля! Гэта касманаўт капітан Ніл Флорыян!

### *Пра тое, як звычайна цяжка хутка сабрацца кудысьці цэлай сям'і*

– Флоша, сынку! А-а-а-у-у-у! – маці не магла дакрычацца з залі, дзе сядзела за пісьмовым сталом і з кампутара раздрукоўвала план сённяшняга свята, а плюс яшчэ кошты, якія яна загадзя даведалася па тэлефоне, змарудзіўшы паўгадзіны свайго жыцця і жыцця і нерваў касіркі ў парку забаваў.

– Іво, слухай, ён ізноў у касманаўта гуляе! Напэўна, паснуў там са сваімі зоркамі! Пайду пагляджу, – і бацька, цяжка ступаючы, пакрочыў у пакой сына.

– Добра, Якаб, схадзі па яго, а я пакуль падлічу ўсю нашу наяўнасць у гаманцах.

Крок па кроку, павольна падымаючыся на другі паверх, бацька напяваў сабе штосьці да болю знаёмае… ён быў у добрым настроі, у прадчуванні сваіх забаваў на кірмашы.

Вядома ж, ён не збіраўся хадзіць на атракцыёны і не быў настроены страляць у ціры альбо закідваць баскетбольны мяч у карзіну, напалову заблакаваную, каб цяжэй трапіць. Якаб бачыў перад сваімі вачыма кебаб, і не проста нейкі невядомы кебаб, ён бачыў кебаб каралеўскі, неверагодных памераў і смаку такога, як быццам ты каштуеш мяса маленькага анёла.

І калі да кебаба дадаць самыя што ні ёсьць саграваючыя сто грам брэндзі, то вечар ператворыцца ў незабыўнае свята!

А потым, падсілкаваўшыся, паўтарыць: сто брэндзі і ўжо грэчаскую салату замовіць… ммм… смаката! А вакол яркія агні, гоман, смех, трэск, стрэлы і петарды, і ты такі сабе сядзіш за сталом каля кавярні, і назіраеш за мінакамі, балёнікамі, хлапушкамі, і часам да цябе прыбягае сынок і распавядае, на чым яшчэ ён паспеў пакатацца, а потым праз секунду з натоўпу выходзіць Іво, уся стомленая праз тое, што даводзіцца бегаць паўсюль і кантраляваць Фло, і вы мяняецеся, і жонка сядае за стол, каб пагутарыць са сваімі сяброўкамі, якія таксама прыйшлі адзначыць свята… але табе так не хочацца ўставаць з-за стала, хочацца яшчэ паесці, выпіць. І Якаб ведае, што трэба проста Флорыяна пакінуць на старэйшых дзяцей сяброўак Іво, і тыя па мабільным вызвоньваюць сваіх дзетак, каб тыя вярнуліся ў кавярню і забралі Фло гуляць разам з сабой.

Якаб усё прадумаў наперад, ніштo не мусіць замінаць яму адпачываць і весяліцца.

Вось мужчына адчыняе вялікай лапай дзверы ў пакой сына і адразу здагадваецца: напалову ссунутая долу коўдра хавае пад ложкам Флорыяна, які там даўно ўжо спіць.

– Капітан, прашу прызямлення, капітан! Капітан Флорыян! Як мяне чуць? Гэта Зямля!

І тут па коўдры прабягае хваля, спачатку лёгкая і амаль непрыкметная, затым другая, і вось на трэцяй коўдра з’язджае цалкам на падлогу і з-пад ложка выскоквае Флорыян.

– Татку, наш карабель паспяхова прызямліўся! Колькі часу? Я гатовы ехаць!

– Так, спачатку належна апранаемся, потым прыбіраемся ў пакоі! Што гэта тут? А? Паўсюль кавалкі Лега раскіданы, шкарпэткі вунь! Пыл! Коўдра на падлозе…

Як заўсёды, трэба прыбірацца… Навошта прыбіраць у пакоі, калі ўсё роўна потым будзе ізноў брудна!? Але бацькі звычайна на гэта адкажуць, што не жыць жа ўсё жыццё ў гразюцы, як парасяты нейкія… Флорыян коўзае па дыване і ў каробку збірае свой канструктар… Вось ён натрапіў на сваю рознакаляровую шкарпэтку, тую самую, даўгую і ў палосачкі.

“І зусім гэта не шкарпэтка, гэта мой вясёлкавы сабачка, у яго і вочкі ёсць, я сам іх яму прышыў”, – прамаўляе пустому пакою Флорыян, нацягваючы шкарпэтку сабе на руку. Бацька цяжка спусціўся на першы паверх, цяжар яго спуску быў гучным, з трэскам і болем, але Якаб здолеў… спусціўся і, як толькі ступіў на больш-менш цвёрдую паверхню, чым лесвіца, атрымаў ад жонкі традыцыйнае: “Ты калі нарэшце на дыету сядзеш? А? Ледзь ходзіш ужо! Натуральна! Мядзведзіна!”

І вось магічным чынам рука хлопчыка ператварылася ў смешнага рознакаляровага шчанюка, зваць якога Старкі, бо гэта не проста сабака, гэта касмічны вясёлкавы Старкі, які заўсёды падарожнічае разам з Флорыянам.

– Усё, Старкі, ты сёння будзеш увесь вечар са мною! – прамовіў Фло сваёй руцэ, і тая весела гаўкнула.

Хвіліна – і хлопчык весела бег па лесвіцы ўніз… і так ён шпарка бег, што ледзь не збіў з ног маці, якая палічыўшы ўсе грошы, і дадаткова ўпэўніўшыся, што крэдытныя карткі ўсе на месцы, ізноў стаяла каля люстэрка. Флорыян літаральна ў сантыметры ад маці куляю пранёсся і паляцеў на мяккі пухнаты белы дыван, які быў пакладзены акурат пасярэдзіне вялікай залі. Пакуль хлопчык ляцеў, Старкі скокнуў наперад і не даў яму пабіць лоб і нос, акуратна падклаўшыся пад галаву.

– Фло, а ну не лётаць! – сказала маці, а сама, не адрываючыся ад люстэрка, рабіла сабе масаж павекаў, на якія нанесла антыўзроставы крэм.

Іво, натуральна, прадчувала, як сяброўкі будуць яе разглядаць, у думках абмяркоўваць яе дзень народзінаў, яе ўзрост. Але ж насамрэч няма чаго тут абмяркоўваць, бо яна ў прыўкраснай форме, яе прыгажосць, як і ў дваццаць, усё такая ж свежая і непаўторная… хм… яна яшчэ пакажа ім, дзяўчаткам, хто сярод усіх прыўкрасней і мілей, усе люстэркі ёй будуць зайздросціць. Іво ажно ўбачыла перад вачыма гэты парк атракцыёнаў, гэты кірмаш, калі ўсё ў агнях, у выблісках, і яна пад усім гэтым святлом, аточаная мігценнем, будзе найпрыгажэйшай… яна адразу адправіць Флорыяна са старэйшымі дзецьмі гуляць… ну, можа не адразу, мо сама пракоціцца на парачцы каруселяў, галоўнае яшчэ прасачыць, каб Якаб не пераядаў… бо, нягледзячы на яго здароўе, рост і моц, ён усё-ткі злоўжывае ўсім на свеце – і ежай, і алкаголем, а часам яшчэ і курыць!

Іво глядзелася ў люстэрка, разважала і разумела, што яна ўсіх апантана падхапіла праз тое, што яны спазняюцца, іх ужо мусяць чакаць, а сама ізноў прыліпла да люстэрка!

– Усё, хопіць! Усе сабраліся?! Выклікаем таксоўку! – хутчэй сабе, чым камусьці іншаму прамовіла Іво, адвярнулася ад люстэрка і ўбачыла, што абодва яе мужчыны стаяць перад уваходнымі дзвярыма. Адзін выклікае па мабілцы таксоўку, другі размаўляе са сваім вясёлкавым шакарпэткавым сабачкам.

– Фло, што я табе казала?! Каб не гуляўся са шкарпэткамі, іх трэба насіць на нагах, а не на руках і з прышытымі гузікамі!

– Гэта не гузікі, гэта вочы майго Старкі… – прамовіў хлопчык.

### *Пра тое, як сям’я Флорыяна дабіралася да парку дзівосаў*

Таксоўка нарэшце выскачыла з маленькіх вулачных кішак і трапіла на праспект, а гэта значыць, што яны паедуць утрая хутчэй і не трэба будзе чакаць на светлафорах і зэбрах, пакуль пройдуць мінакі, пакуль праедуць усе тыя раварысты, якія і так праскочаць, парушаючы правілы, на чырвоны. Вядома, горад невялікі, можна і на роварах было ехаць, але

толькі не тады, калі спазняешся і збіраешся ўвесь вечар весяліцца, – там потым ніякі ровар, нават трохколавы, не адвязе цябе дамоў. Але цяпер галоўная вуліца, і кіроўца таксоўкі не будзе так часта карыстацца клаксонам… брукаванкі больш не будзе… толькі прамы праспэкт да моста і такі ж роўны, як страла, пасля. А там глядзіш – і на гарызонце ўжо будзе не толькі кола агляду, але і іншыя забаўляльныя будынкі, велічэзныя чырвоныя цыркавыя намёты і агні, шмат ліхтароў, лямпачак, сцяжкоў, канфэці і гірляднаў.

– Значыцца, так, будзе Валерыя і дзве яе дачкі-блізняткі…

– Ох, ізноў гэтая твая Ва-а-алерыя! Дурная жанчына, балбоча без супыну! Адны плёткі, абмяркоўванні адзежы і суседзяў!

– А я цябе не прымушаю яе слухаць, можаш браць Флорыяна і шыбаваць з ім на атракцыёны, мо цябе, такога габарытнага, куды і пусцяць!

– Ладна, паглядзім, можа і пайду… хто яшчэ будзе?

– Джульета прыедзе, абяцала не спазняцца… са старэйшым будзе, бо малодшы дома з бацькам застаецца, хварэе.

– Ага, зразумела… ну, можа быць, ён і будзе даглядаць нашага…

– Ну і я яшчэ сваю Сафію паклікала. Толькі, калі ласка, не трэба на яе глядзець такім злосным позіркам, быццам ты збіраешся яе забіць. Ты яе заўсёды пужаеш!

– Ну, канешне! Пужаю я яе! Яна не разумее, што я на яе нармальна гляджу, проста яна часам такое выдае, што ажно хоць вушы адарві і з’еш! Чуць гэтага не хачу!

– Нармальная яна жанчына, проста такая, своеасаблівая!

– Ага, таму ў яе мужа і дзяцей няма!

– Слухай, я, можа быць, і сама была б радая, каб у мяне хаця б часова не было дзяцей і мужа! Мужа, які толькі і робіць дома дзве рэчы – спіць і есць…

– Бо я цяжка працую…

– Цябе ніхто не прымушаў так шмат і цяжка працаваць!

– Але я кармлю сям’ю!

– Гледзячы на цябе, ты хутчэй сам сябе толькі і корміш!

Таксоўка ляцела наперад, бацькі на задніх месцах, як звычайна, спрачаліся, а Флорыян, прыадчыніўшы фортку, высунуў вонкі свайго Старкі, і той, весела падставіўшы пыску ветру, трымаў на баку язык, створаны з нітак, і той разпіваўся, як сцяг.

Нягледзячы на тое, што ягоныя бацькі ізноў не маглі паразумецца і нацягвалі свой дыялог, нібыта другую струну на гітары, пакуль тая ня лопне, Флорыян марыў, што спачатку на кірмашы ён возьме палку салодкай ваты! І потым папкорн! А зап'е гэта цытрынавым сокам! А потым! А потым ён з'есць банан у шакаладнай паліўцы… і, калі застанецца месца, – мармеладных чарвячкоў! Але, напэўна, мама яму дазволіць выбраць штосьці адно з усяго гэтага хараства… сумна… але давядзецца выбіраць.

Але што рабіць, калі яму хочацца ўсяго і адразу!?

Можа быць, усё-ткі ён пагодзіцца, каб яму набылі цукровай ваты… ну, і аднаго мармеладнага чарвячка.

Машына, весела падскокнуўшы, ужо ехала па старым брукаваным мосце… пасажыры разам з кіроўцам пачалі дробна трэсціся на сваіх месцах, і ў гэты момант, Іво, якая, распачаўшы свой даўгі маналог пра мужа, пра яго працу, яго злоўжыванне ежай і нелюбоў да сябровак, пачала весела смяяцца, бо гэта было відавочна смешным, калі яна, уся такая злосная і пакрыўджаная, спрабуе штосьці прамовіць у бок Якаба, але атрымліваецца толькі "бэ-э-э-э-э", бо старая брукаванка моста не дае нармальна гутарыць.

Жончын смех падхоплівае Якаб, ён любіць, калі Іво сварыцца, яна становіцца такой напорыстай, жорсткай і адначасова такой прывабнай, а тут яшчэ да ўсяго і смешнай, што трываць немагчыма.

Флорыян глядзіць на іх – і яму таксама становіцца смешна, бо гэта заўсёды смешна, калі бацькі радуюцца, як дзеці. У такія хвіліны ён іх вельмі добра разумее!

Мост скончыўся, але смех – не…

На гарызонце ўжо бачныя агні парка, якія клічуць цябе, прымушаюць глядзець німіргаючы, гіпнатызуюць, кажуць табе на вуха: "Давай, хлопча, не марудзь… зазірні! Давай сюды, татку! Тут ёсць усё, чаго так не хапае тваёй ненасытнай

душы! Давай-ка, мамачка, што цягнеш, ты тут будзеш самай яскравай! Гераіняй ночы! Зорнай імянінніцай!”

Таксоўка спынілася. Сям’я маленькага Фло выйшла на ходнік, перад імі быў уваход у выглядзе вялікага вока, зрэнка якога была адчыненая наросхрыст, і, пераступіўшы праз прыступку, можна было апынуцца ўнутры шумнага карнавалу!

Над дзвярыма-вачыма пераліваласяўсімі колерамі свету шыльда “ДЖУСТУС, ВЯЛІКІ І НЕПАКОРЛІВЫ, ВІТАЕ Ў СВАІМ КАРАЛЕЎСТВЕ ЎСЕДАЗВОЛЕНАСЦІ І ШЧАСЦЯ” і больш дробнымі літарамі: “Пакінь увесь свой смутак вонкі”.

– Мне падабаюцца і назва, і парада, і гэты ўваход! Пасьпяшаемся! – амаль што пракрычаў Якаб і патупаў сваёй цяжкой хадой наперад, адчуваючы, як назапашваецца ў роце сліна, бо пахі вакол, такія пахі… і шашлык, і вэнджаны вугар… і нават магчыма рассмакаваць у паветры запечаную качку!

***Пра тое, як нарэшце сустрэліся ўсе, хто збіраўся сустрэцца***

Увесь гэты бліскучы кірмаш, увесь гэты рознакаляровы парк вяселля і забаваў месціўся на ўзбярэжжы мора, і калі паглядзець на яго зверху, і крыху з правага боку, можна будзе заўважыць, што атракцыёны бясконцыя і быццам ідуць пад ваду… быццам парк сам па сабе выпаўз з дна марскога. Так можна прымроіць, калі прыгледзецца да парку з левага боку, на самай высокай кропцы цэнтральнага моста, але ў гэты час сям’я Флорыяна не глядзела з моста, яны ехалі ў машыне і сварыліся і смяяліся. Толькі Старкі пазіраў убок і ўсё бачыў…

Навокал стаяў задушлівы пах тлустай рыбы… і недзе над галовамі тужліва і рэзка крычалі чайкі. Атмасфэра падтрымлівала ўсю загадкавасць і гатычнасць месца, але гэтага паху ніхто не адчуваў, як і не чуў жаласлівых крыкаў чаек, быццам яны пра штосці папярэджвалі Фло і яго бацькоў. Толькі кіроўца таксоўкі, разварочваючыся, злавіў тлусты пах рыбы, якая пачала псавацца, і чайкі неяк пужліва крычалі… Ён

апошні раз паглядзеў у люстэрка задняга віду ў спіны сваім пасажырам, і яго сэрца быццам ахінула холадам. Кіроўца паспяшаўся як мага хутчэй з'ехаць.

І вось усё сямейства апынулася за прыступкамі парку, у віры гучнай музыкі, крыкаў дзяцей. Хтосьці віскатаў ад радасці, а хтосьці з горкі ляцеў і крычаў ад вусцішы, захаплення і адрэналіну, што выкінула ў кроў буйной порцыяй.

– Я сказала, што сустракаемся каля ўвахода ў бліжэйшую кавяраньку, – сказала Іво і пачала шукаць вачыма сяброўак, стараючыся факусаваць зрок у гэтай шматкаляровасці кірмашу, дзе лёталі балёнікі рознай формы і адцення, хлопаліся хлапушкі і патокам ішлі людзі з дзецьмі, мяккімі цацкамі, мыльнымі бурбалкамі і салодкімі мармеладнымі чарвячкамі.

– Ага, чакай, я не думаю, што твая Джульета ці Валерыя пагодзяцца на бліжэйшае кафэ. Я думаю, яны будуць сядзець тут у самым патасным месцы! – прамармытаў сабе пад нос Якаб.

– Дарагі, ты ж бачыш, што мы на кірмашы, мы сярод каруселяў і салодкай ваты з папкорнам! Якія патасныя месцы? Хутчэй нейкая сталоўка будзе, ну, мо крыху лепей.

І тут перад вачыма абодвух сужэнцаў паўстала самая сапраўдная ці то рэстарацыя, ці то бар, а можа гэта і кебабная, бо Якаб адразу ўбачыў, што на шыльдзе ў іх у мэню – свіныя ногі і кебаб, а Іво прачытала, што тут сёння гатуюць кактэйль вечара – "Касмаполітан"… іх з дзяўчатамі любімы кактэйль".

– Вось гэта тое, што трэба! Я думаю, тут яны і будуць! Зараз пазваню Валі!

Пакуль Іво даставала мабілку, да іх з рэстарацыі выбеглі блізняткі Да і Ма і давай лётаць вакол Фло, Якаба і Іво і спяваць:

– Хэпі бёздэй ту ю! Хэпі бёздэй, дарагая цёця Іво! Хэпі бёздэй ту ю!

Усе заспяшаліся ў рэстарацыю, якая называлася "Гула", дзе за сталом сядзелі Валерыя і Джульета ды чакалі сям'ю Рычаў.

Усе паспелі толькі замовіць сабе кактэйлі і пачаць піць, таму Валерыя, а ёй шмат ня трэба, была ўжо расчырванелая.

– Сафія папярэдзіла, што не прыедзе, сказала, што не любіць усе гэтыя кірмашы і паркі, лічыць іх спараджэннем д'ябла, а цыркі ўвогуле мучаюць жывёл. Сказала, цябе асабіста потым прыедзе ў іншы дзень павіншуе, – прамовіла Джульета.

– Я ж табе казаў, што яна вар'ятка нейкая, – усміхнуўшыся, прамовіў Якаб, – магла б дзеля дня нараджэння і заплюшчыць вочы!

– Што ты такое кажаш! Яна мая сяброўка, і мае права! – рэзка вымавіла Іво.

***Пра тое, што злоўжыванне чым заўгодна можа нашкодзіць***

Вакол іх пачалася мітусня, такая ж, што трывала і за суседнімі столікамі. Ля кожнага са сталоў стаялі афіцыянты, падобныя адзін да аднаго не толькі працоўным строем, але і аблічам. І ўзростам – такія хутчэй падлеткі, якім наўрад ці ўжо можна працаваць. Перад кожнай з жанчын афіцыянт паставіў па кактэйлі, а Якабу – вялікі двухлітровы куфаль цікавай вадкасці, што колерам нагадвала нефільтраванае піва, але замест пены з куфля ішла пара і распускалася ў пrасторы. "Гэта за кошт рэстарацыі, наш фірмавы эль", – прамовіў афіцыянт і ўсміхнуўся, але неяк няўдала, на твары прамільгнуў змяіны разрэз вуснаў, але гэта было так незаўважна, што Якаб палічыў усё за гульню ценяў.

Якаб адхлёбнуў трыма глыткамі трацін элю, і ў ягонай галаве праляцелі выявы нейкіх цудоўных мясцін, казачны лес, возера, неба, празрыстае і чыстае, па якім лётаюць толькі феі. Смак напою быў такім неверагодна мяккім, чыстым і адначасова моцным і пеністым – ажно забірала дых.

– Гэта самае смачнае піва, якое я толькі каштаваў у жыцьці! – амаль пракрычаў Якаб і адразу папрасіў яшчэ два такія куфлі.

Побач, на канапе, сядзелі тры сяброўкі, п'ючы "Касмапалітан" за "Касмапалітанам", гучна гутарылі і кожная з жанчын спрабавала адна адну быццам перагаварыць, але ўдавалася трымаць тэмп і не збівацца нават на выдыху адно

Валерыі: яна так утрапёна малаціла языком, што за думкамі гэтай балаболкі было цяжка прасачыць. Нарэшце, стаміўшыся слухаць і таксама штосьці выкрыкваць, Іво ўзгадала, што Флорыяна трэба адправіць гуляць разам з Мікам, які, як сказала Джульета, адразу па прыездзе сюды кудысьці знік.

Іво павярнулася да сяброўкі і папрасіла тую пазваніць Міку. Пакуль Джульета званіла свайму старэйшаму сыну, Флорыян, седзячы на ўскрайку бацькавага зэдліка, ціхенька, нікім не заўважаны, бо на яго не звярталі ўвагі, карміў крышкамі хлеба Старкі, а той іх еў, і нават нічога не выпадала з тканевай пашчы.

– Ага, зараз прыйдзе Мік, забярэ Флорыяна і блізнятак Валерыі, дарэчы, дзе яны?

– А вунь, каля дзвярэй, балёнікі ловяць, якія ім афіцыянт надзімае, – кажа Іво і прымружваецца: – Слухай, Джу, а гэта не наш афіцыянт? Здаецца, наш! А мы ж ежу замаўлялі!

І тут, як чорцік з табакеркі, перад сталом з’яўляецца хлопец, і ў ягоных руках велічэзны паднос.

– Ух, ну вы і спужалі мяне! Малады чалавек! – ускрыкнула Іво.

– Выбачайце. – суха прамовіў хлопец і пачаў літаральна жангляваць талеркамі з шашлыком, свінымі нагамі, кебабам.

– О, як ён ладна гуляецца з ежаю! Во малайца! – Якаб, ужо нападпітку, ажно падскокваў на зэдліках, а тыя толькі рыпелі, але адчайна трымалі цела гэтага мядзведзя. І тут, калі афіцыянт нахіліўся паставіць талеркі на стол, Якабу здалося, што хлопец нейкі зусім малады, каб працаваць. – Слухай, а колькі табе год, дружа?

– Ой, не, ну, год колькі, ён запытваецца, – забалбатала яшчэ грамчэй Валерыя. – Ты паглядзі, дзе мы знаходзімся! Боўдзіла! Гэта цырк! Гэта ж цыганы! У іх дзеці ўсе на адзін твар, ды яшчэ з маленства працуюць, хто больш здольны – у цырку, хто размазня, як вось гэты, – афіцыянтам! Гэта такая тут рэальнасць, і я лічу, што добра! Бо яны не швэндаюцца галодныя і халодныя па вуліцах! – Валерыя казала ўсё хутчэй, і ў яе замест словаў пачалі выходзіць бязладныя гукі: – Мэвэ фэшэ э э э э э э я і так тактак і сю му-ну-мы!

Афіцыянт нічога не адказаў і сышоў, але на яго ўжо ніхто не звяртаў увагі. Якаб пачаў есці мяса рукамі, бо яно такое жаданае тут, што відэлец будзе толькі замінаць. Валерыя п’е, напэўна, пяты кактэйль і балбоча, але не так замінае Іво і Джу, бо гукі ўжо не так раздражняюць. Іво знайшла сваё адлюстраванне ў келіху і любавалася сабою. “Якая ж я ўсё-ткі прыгожая, якая зорная, можа быць, я дачка бога і багіні? Што я тады раблю з гэтым парсюком?” – так думала Іво, пакуль Джу шамацела ёй у правае вуха:

– Ну дык вось, я набыла вось гэтую кашулю, уяўляеш, у “Манга” і са зніжкаю 70 адсоткаў, разумееш, яна абсалютна крутая, я б яе і без зніжкі ўзяла… а потым, бачыш, не, ну, ты бачыш гэтыя акуляры ў мяне ў валасах? 450 еўра! Чатырыста пяцьдзясят еўра! ЧАТЫРЫСТА ПЯЦЬДЗЯСЯТ ЕЎРА! А? Крута, да?! Але я насамрэч не збіралася за так дарага іх браць, я іх памерала і бачу: ну ўсё, зорка! І кошт – дзвесце! Ну, я такая на касе ўжо чую: 450 еўра… але ўжо ж не адступаць мне, я ж прыўкрасная супэрледзі, за мною ўжо чарга, што яны падумаюць, што я галадранка якая? Я іх і набыла! Цудоўныя акуляры, ты толькі паглядзі, як яны мне пасуюць! – і Джульета перасоўвае акуляры з галавы на нос.

У рэстарацыю зайшоў Мік і з прыступак зразумеў, што за сталом усе ўжо добра выпілі, бо сталі гучнымі, неакуратнымі, няўважлівымі, вунь цёця Валерыя нават мову згубіла, а гэты мядзведзь… і як столькі можна есці? Напэўна, такіх у вайну першымі касілі з аўтаматаў…

– Ну што такое, мне цяпер увесь вечар сачыць за гэтымі трыма байструкамі?! – пачаў з першых крокаў да стала Мік.

– Так, і каб пільна за імі! – прамовілі Іво і Джу амаль уголас!

– Мэ ў а эээ оооо я уттут маку кака!

– Ладна, давайце мне малых.

– І каб на званкі адказваў! – цвёрда прамовіла Джульета.

### *Пра тое, як дзеці застаюцца сам-насам, і пра тое, як у рэстарацыі пачынаюць адбывацца дзіўныя рэчы*

Мік на пяць год старэйшы за Флорыяна, ён ужо быў падлеткам, таму і паводзіў сябе паводле ўзросту. Мік стараўся рабіць выгляд, што ён ідзе адзін, Фло і блізняткам даводзіла амаль бегчы за ім. Падлетак саромеўся, што на яго пакінулі гэтых малых, бо ён жа ўжо дарослы, а даводзіцца вазіцца з нейкімі дзецьмі. Не, ну ладна ягоны малодшы брат, Мік яго нават за руку можа ўзяць, калі яны пераходзяць дарогу альбо па краме ідуць, але гэта ж проста чужая малеча!

Мік не збіраўся бадзяцца па ўсім парку, тым болей у ягоныя планы не ўваходзіў выгул Флорыяна, Да і Ма, таму, калі хлопец пабачыў неабходную яму шыльду, спыніўся і абярнуўся да паспяшаючых за ім малых, ды так рэзка, што Фло, які ўсімі сіламі намагаўся не адставаць ад вялікіх крокаў хлопца, даўся яму галавой у жывот. А дзяўчынкі натыкнуліся на Флорыяна.

– Так, дробязь малая, я вам не нянька, грошы вам бацькі далі – ідзіце на свае каруселькі. А я ў цір. Калі што, сустракаемся праз гадзіну каля вось гэтага вялікага намёта, бачыце, што тут напісана?

– Так, – адказаў Флорыян.

– Ды ладна ўжо, – усміхнуўся хлопец, – мне цікава, ці малыя Да і Ма ведаюць, дзе мы сустракаемся і што тут напісана!

– “Цір”! – хорам, з ноткай крыўды адказалі дзяўчынкі.

– Вось тут сустракаемся. Калі што, заходзіце ўнутр і знаходзіце мяне, але прашу вас, толькі не турбуйце мяне проста так, таму што вам сумна. Толькі па тэрміновай справе! – і Мік развярнуўся і пайшоў у цір.

А ў гэты час у рэстарацыі пачыналася кульмінацыя застолля, ну ажно цэлы сімпозіум пітва, ежы і іншых перабольшанняў, калі словаў у роце столькі, што яны замінаюць галаве працаваць, апрацоўваць тое, пра што гаворыш, калі так сябе любіш, бачыш сябе такім прыгожым, што люстэркі пачынаюць цябе ненавідзець, альбо спрабуеш пацалаваць

свой адбітак у кактэлі, альбо калі толькі і думаеш, як бы дзе што новае набыць і апрануць, і, і, і…

Якаб на вачах акругляўся да дзіўных памераў, ягоныя пальцы на руках так апухлі і раздуліся, што ў складках схавалася шлюбнае кальцо, пазногці павыкручвала вонкі, але ён гэта не прыкмячаў, ён трымаў сакавітую смажаную на барбэкю каўбаску, макаў яе ў соўс кары і еў, адзін раз надкусіць, другім разам рэшткі закідвае ў рот… трэба адзначыць, што гэтыя пульхныя нямецкія братвюрсты, гэтыя каўбаскі па памерах у ягоных руках ужо выглядалі меншымі за пальцы. Якаб аблізваў свае тлустыя, выпацканыя вусны, далонню выціраў вусны і бараду, запіваў усё добрымі глыткамі элю. На ягоным целе па швох пачала разыходзіцца кашуля, а рэмень на пузе быў расшпілены, бо калі яго не расшпіліць, то ён бы лопнуў. І тут Якаб на секунду спыніўся, знерухомеў, адчуў, як штосьці клякоча ў велічэзным пузе-акварыуме… і як рыгнуў!

А тым часам жанчыны, старыя сяброўкі, якія за доўгі час так і не навучыліся гутарыць адна з адной, яшчэ ніколі ў жыцці не былі так адкрыта сканцэнтраванымі толькі на сваіх любімых справах. Зразумела, калі яны заставаліся на самоце, то Іво абсалютна свабодна любавалася ў люстэрках сваёй прыгажосцю, а другая, Джульета, як вар’ятка ў нейкім сне ці гіпнозе, хадзіла па крамах і называла гэта шопінг-тэрапіяй, кожны дзень набываючы нейкія бразготкі, а трэцяя, Валерыя, магла балбатаць да чацвёртай раніцы, седзячы ў ложку, распавядаючы мужу, які паспеў паснуць яшчэ да адзінаццатай вечара, пра новыя плёткі ў раёне і што яна дзе чула за дзень у школе, на працы, у краме і нават пад вакном ад суседзкіх бабулек… Валерыі, трэба сказаць, пашчасціла з мужам, бо ён за сваё жыццё з ёй прамовіў толькі некалькі словаў: “бяру” і “згодны” – гэта падчас роспісу і “буду есці”, “не буду есці”, “смачна”, “прыемнага” – за сталом, а ўвесь астатні час гэты мужчына альбо сядзіць за кампутарам і піша праграмы, альбо грае ўвечары за тым жа кампутарам у “танчыкі”.

І вось калі сяброўкі апынуліся тут і цяпер у гэтай рэстарацыі, іх самыя любімыя рысы характару, іх самыя і галоў ныя рысы характару ператварыліся ў гратэск.

– Не, ну я не магу, гэта ж на табе апошняя калекцыя “Армані”, я такую кашульку тыдзень таму набывала, хадзіла ў ёй увесь вечар па кватэры, во якая хатняя вечарынка была!

– Слухай, а чым тут вакол пахне? Фе!

– Ну што такое, ты што! Паглядзі, якая ў цябе кашуля! Цуд!

– Эээээ! Да! Цу-цу-цу вывывыхахаха… ууууу!

– Ой, я вас так люблю, дзеванькі, давайце вып’ем.

І ў кожнай у руцэ з’явілася па свежым кактэйлі… і ніхто з іх не звяртаў увагу на наваколле, на тое, што Якаб жарэ і ўвесь стол проста завалены ежай, і тое, што навокал афіцыянты ўжо не хаваюць сваіх змяіных ратоў, і што суседнія сталы жывуць асобным жыццём: жанчына непадалёк смяецца і плача, бо ёй даводзіцца есці гэтыя смачныя сушы, але ж яна так ніколі не дакрочыць да сваёй вагі ў сорак кілаграм, і таму яна з’есць тры кавалачкі з сёмгай, норы і сырам Філядэльфія і адразу адварочваецца – і два пальцы ў рот… а вунь зусім маладое дзяўчо ніяк не можа перастаць смяяцца, і ўжо напэўна і хацелася б, гэта бачна па спужаных вачах, але вусны ўсё цягнуцца ў розныя бакі і цягнуцца, а хлопец побач з ёй такі радасны, што можа яе смяшыць, што, ужо не ведаючы, чым бы яшчэ яе пазабаўляць, круціць галавою ў розныя бакі, а шыя ягоная спружыніць зусім як у балванчыка – цацкі для аўто.

Кожны атрымлівае сваё задавальненне, сваю бязмежную радасць, сваю слабасць па жыцці…

### ***Пра тое, як свята і радасць множацца і становяцца ярчэй, і пра тое, як сплanаваць свае манеткі на колькасць атракцыёнаў***

Свята ў парку рабілася ўсё ярчэй і актыўней, мінакоў, якія б проста бадзяліся сярод балёнікаў і канфэці, няма ніводнага, кожны знайшоў сваю ўлюбёную гульню на аўтаматах, кожны знайшоў свой любімы шапік з яблыкамі ў шакаладзе, альбо з папкорнам, альбо з разліўным півам, паўсюль дарослыя і дзеці згуртаваліся вакол сваіх найулюбёнейшых рэчаў, і на кожнага знаходзіцца па афіцыянце, тым самым хлопчыку, які,

здаецца, размножыўся на тузіны, і гэтых хлопчыкаў цяпер столькі ж, колькі адпачывальнікаў… ну можа быць толькі не столькі, колькі ў чарзе ў Цырк, але трэба набываць квіткі і заходзіць адно за адным… Цырк абяцае дзікае штучнае сафары зэбраў на львоў – смешна гучыць, цікава, асабліва гэта цікава вунь тым хлапчукам, якія гучна абмяркоўваюць, пасапраўднаму будуць паляваць зэбры на львоў ці не, мо дрэсіроўшчык не дазволіць?!

І тут Да і Ма захоплена ўскрыкваюць і паказваюць Флорыяну сваімі ўказальнымі пальчыкамі ў бок шапіка з салодкай ватай:

– Хочам, хочам, хочам! Наша! Наша! Наша! – крычаць дзяўчынкі і, не слухаючы, што скажа Фло ў адказ, бегам да салодкага.

Флорыян на хвіліну спыняецца, назірае за тым, як дзяўчаткам нейкім магічным чынам накручваюць на палку велічэзную ружовую салодкую вату, ды такіх памераў, што гэта цуд, як такі аграменны пухнаты шар увогуле трымаецца на палачцы. Да і Ма з абодвух бакоў акунаюцца ў салодкую пульхнасць і ядуць з вялікім задавальненнем.

– Ну і ежце сваю вату, а я затое пайду на горку, на якую вас і так ніхто не пусціць па росце! – крыкнуў дзяўчатам Флорыян.

“Эх… Шкада, што мама дазволіла набыць толькі мармеладных чарвячкоў… але трэба правільна траціць грошы. Калі я набуду толькі трох чарвячкоў, то змагу чатыры разы пракаціцца на каруселях… спачатку можна на горках, потым у пакой жахаў, потым завітаць у люстэркавы лабірынт, ну і потым на электракарах”, – разважаў пра сябе Флорыян, пакуль ішоў на горкі, і левай рукой у кішэньцы пералічваў манеткі, а на правай руцэ быў надзеты Старкі, які, высалапіўшы язык, удзельнічаў у сваім атракцыёне-арэлях: зямля – балёнікі – атракцыёны – ліхтары – атракцыёны – мінакі – балёнікі – канфэці – зямля…

Вось і арэлі для Старкі скончыліся, Флорыян набыў чарвячкоў і зацiснуў іх у правай руцэ, акурат у шкарпэткавай пашчы ягонага сабачкі. Старкі гэта спадабалася, і ён аблізнуўся сваім ніткавым языком.

***Пра тое, што праз вялікую весялосць можна пачаць губляць самога сябе***

– І ведаеце што, даражэнькія мае сябровачкі? А вось гэтыя чаравічкі вы бачылі? – і Джу падымае над сталом нагу і кладзе як каля талеркі з салатаю.

– Я думала, у мяне дзень нараджэння! А ты ўсё пра сябе ды пра сябе, а пра мяне ніхто? А? – пачала нападпітку абурацца Іво.

– Тыыыыыы ўўўўў ааа ноооррррмммм су ппппп уппп еееее яяяяррр!

– Ты сёння зорка! Ік. Ты для – ік – нас – ік – Свята! Ік звя ік лікай ік літары да ік рагая! Ік. Ік. Ік! – Якуб нават знайшоў, што адказаць сваёй жонцы, бо ад пераядання яго апанавала ікотка і вызваліла час пагутарыць.

– Слухай, не падабаюцца чаравікі – так і скажы, бо зайздросціш, што не твае! – Джульета дэманстратыўна зняла нагу са стала і адвярнулася ўбок.

– Ну, ік пупсычак ік, ну ік, не ік… ік… прабі к праб ік праб ік ач…

– Ой, ды заткніся ты там ужо! – Іво пачаў раздражняць яе тупы муж.

– Тыыы ўўў ааа нооорррмммм су ппп уппп еееее яяяяррр!

– І ты заткніся! – раўкнула Іво на Валерыю.

І магчыма, пачатак гэтай сваркі Іво мог бы выратаваць вар’яцкую вечарынку і страшную весялосць, яны маглі б разысціся ў розныя бакі, бо часам лепей разысціся, чым сядзець пакрыўджанымі, але цярпець адзін аднаго, моўчкі дапіваючы і даядаючы, бо не пакідаць жа так проста, бо аплачана ж, і ў торбу не напіхаеш з сабою, бо непрыгожа неяк. Але за суседнім сталом штосьці гучна бабахнула! Усе пачалі рагатаць, падумалі, што хтосьці не вытрываў і пачаў газаваць, бо шмат у каго ўжо ўзнікала жаданне пусціць ветрыкі. Але ўсе пакуль стрымліваліся, і вось адзін мужчына, які шмат еў і піў, вырашыўся ўсё-ткі акуратна шапатнуць у сваё крэсла, але не разлічыў сваёй здольнасці і замест гучнага пуку лопнуў, як вялікі надзіманы шар.

Афіцыянты з розных бакоў кінуліся падбіраць рэшткі мужчыны, нехта з гэтых дзіўных падлеткаў паслізнуўся, упаў і зашыпеў, як змяя… але гэта ўсё падняло яшчэ большы рогат у рэстарацыі.

І сапраўды, свята тут буяла, як і было напісана на шыльдзе перад уваходам: "ДЖУСТУС, ВЯЛІКІ І НЕПАКОРЛІВЫ ВІТАЕ Ў СВАІМ КАРАЛЕЎСТВЕ ЎСЕДАЗВОЛЕНАСЦІ І ШЧАСЦЯ: пакінь увесь свой смутак звонку".

За сталом сям'і Рычаў усе таксама смяяліся, весела і неяк вусцішна, бо гэты смех гучаў як штосьці пустое і суцэльна бязглуздае, калі чалавек смяецца не з анекдоту ці жарту, а вось проста пачынае смяяцца, пачынае ад смеху ліць слёзы, трымаецца за жывот… і вы разумееце, што гэта не смех, што гэта тое ж самае, як і ў гіенаў: калі яны хіхікаюць, яны насамрэч не смяюцца.

І таму падчас усеагульнай весялосці, пасля таго як хтосьці лопнуў, у кожнага з галавы павыляталі ўсе крыўды і можна было працягнуць гулянне. Джульета нават не заўважыла, як яе правая рука ператварылася ў пухнаты зімовы бэжава-пастэльны шалік з новай калекцыі Вэрсачэ. Шалік акуратна адштурхнуўся ад пляча і мякка лёг на стол, напалову звесіўшыся долу.

### ***Пра тое, як можна лёгка памяняцца месцамі і падацца спакусе, але як важна памятаць, што нават радасці мусіць быць столькі, колькі трэба***

Мік адразу купіў пяцьдзясят пулек і ўзяў пнеўматычную вінтоўку… каленам напапалам перагнуўшы стрэльбу, ён яе зарадзіў і прыцэліўся. Хлопец адчуваў сваё сэрцабіцце, адчуваў як кроў пульсуе ў скронях, гэтае прыемнае пачуццё, што ты ў кагосьці цэлішся.

Бах! І мэталічная качка, якая ехала за сваёй сяброўкаю, была трапна зрынутая долу. І праз секунду яшчэ раз – бах! Яшчэ качка.

Вінтоўка зараджаецца на дзесяць стрэлаў – і Мік праз хвіліну збіў шэсць качак, аднаго зайчыка, але ў мядзведзіка ён усё-ткі не трапіў, бо той хутчэй астатніх прабег па сваёй

стужцы. У Міка ажно сліна назапасілася ў роце, ну, літаральна, як паводле першасных жывёльных інстынктаў.

Мік ізноў пераламаў стрэльбу напапалам, трэба ўставіць яшчэ дзесяць пулек, як раптам адчуў, што пакой быццам пачаў павялічвацца, хіба такое можа быць, і “ваздушка” паляцела долу! Напэўна, ён пачаў страчваць прытомнасць, бо перахваляваўся ад радасці страляніны. Але ж не, ён прытомны, і вось хлопец, які страляў побач, не памяняўся ў памерах, але сам цір неяк змяніўся.

Мік азірнуўся і ўбачыў дзяўчо, якое страляла з іншага боку ад яго, і праз секунду ў дзяўчо трапляе велічэзны снарад, быццам вінтовачная пулька, павялічаная ў дзесяць разоў. Міку загайдала, але ён не ўпаў і не пабег хутчэй… ён усё яшчэ не разумеў, што з ім. Дзяўчыну штурханула ўбок, яна ўскрыкнула, але праз секунду паднялася, прычым вертыкальна, неяк незвычайна для людзей, і Мік убачыў, што дзяўчо – плоскае, як 2D-фільм.

“Ну нічога сабе!” – выгукнуў хлопец, і перад ім у дзесяці метрах паўстала качка са стрэльбаю, прыцэлілася – і як пальне з вінтоўкі… Міку трапіла па нагах, адкінула ўбок, але праз секунду падняла на сваё месца. Мік адчуў боль, быццам яму далі палкаю па нагах, але не да злому, каб жыў далей. І Мік зразумеў, што трэба бегчы, ён запрацаваў нагамі, але пад ім толькі пачала рухацца лента, ён бег амаль на адным месцы, з хуткасцю недзе сантыметр у гадзіну. І тут ізноў. Бах! І яшчэ раз. Бах! Побач з качкаю стаяў зайчык. Вінтоўкі птушцы і жывёле зараджаў хлопец-афіцыянт і задаволена шыпеў.

Блізняткі Да і Ма ўжо з паўгадзіны патаналі ў салодкай ваце, а яна ўсё не заканчвалася, і дзяўчаткі так смачна яе елі, адно замілаванне, вось толькі яны не заўважалі, як іх скура паступова мяняецца, становіцца ружоваю, і такою пухнатаю, і салодкаю і… ЛІПУЧАЮ! І вось ужо сястрычкі пачынаюць прыліпаць адна да адной і да суседніх дзетак, якія так шмат з’елі салодкага, што самі ператварыліся ў салодкае і пачалі зліпацца ў адну вялікую цукерку.

А ў гэты час Флорыян знайшоў пачатак экстрэмальных горак, сеў у кабіну. Яго зашпіліў падлетак-афіцыянт і, прайшоўшыся па астатніх кабінках, упэўніўшыся, што ўсе на сваіх

месцах, запусціў гэтую машыну суперэкстрыму, супергорак, радасці, вар'яцтва і адрэналіну.

Так Фло літаральна імгненна праляцеў тры колы смерці, упаў з чатырох вертыкальных спускаў і пакружляў каля шасці разоў па коле. Неверагодная насалода! Калі кабінкі вярнуліся на месца старту, Фло адчуў, як усім сэрцам жадае яшчэ раз паўтарыць, але ў яго яшчэ тры каруселі, трэба расцягваць задавальненне!

І тут афіцыянт прамаўляе: для ўсіх, хто сядзіць у кабінках, бясплатна яшчэ адзін заезд! Суперджустусны заезд у падарунак ад нашага Майстра! Катайся вечна!!! І ўсе закрычалі "ТААААК!!! Ура!!! Джустусны! Майстра! Вечна!"

І маленькі Флорыян не паспеў падхапіць агульны крык шчасця, як Старкі балюча ўшчыпнуў яго за шчаку.

Фло паглядзеў на свайго сабаку, а той яму: "Трэба ведаць меру ва ўсім, нават харошым, эканом радасць, эмоцыі, і давай, пабеглі на іншыя атракцыёны, вось табе мармеладны чарвячок". Фло, нават не разважаючы, кінуў у рот чарвячка, адкінуў рэмні бяспекі і, ужо калі кабінкі зварухнуліся, саскокнуў на міні-перон.

Калі Флорыян так апантана выскачыў, адразу сэрца перастала ашалела біцца, і ён быццам выплыў з туману. "Дзякую, Старкі", – прамовіў хлопец, азірнуўся навокал… і знерухомеў.

### *Пра жаданні, слабасці, пакуты і суцэльнае ператварэнне*

Тым часам у рэстарацыі быў сапраўдны вэрхал. Якаб наеўся да абсалютна круглага стану, хоць бяры і пускай з гары – будзе каціцца і падскокваць да самага неба.

Валерыя ўжо нават не магла прамаўляць ніякіх гукаў, яна, як сабака, высалапіла вонкі язык, такі даўгі, што літаральна ляжаў на плячы, і жанчына, прымружыўшы вочы, стомлена мычала.

Джульета працягнула ператварацца ў сваё любімае адзенне, і яе другая рука стала саколкай, ногі пад сталом – моднымі джынсамі з высокай таліяй, а цела на канапе ляжала неахайнай купкай з пінжака і кашулі, а паверх усяго гэтага

хараства сядзела велічэзная вязаная шапка – твар Джу з двума гузікамі – вачыма і шнурком, які торгаўся, – вуснамі Джу…

А Іво глядзела па баках і адзіная, якая магла больш менш нармальна прамаўляць, рагатала, ёй усё падавалася такім забаўным, але яна пакуль яшчэ не бачыла сябе ў адлюстраванні, бо ейны прыгожы твар, яе зорная скура суцэльна спаўзлі на плечы і грудзі, і кожным разам, як яна смяялася альбо штосьці казала ці варушыла галавою, уся гэтая скура трэслася і варушылася, як жэле.

Паўсюль наведнікі ператвараліся ў свае слабасці, сваіх жаданні… Звонку рэстарацыі таксама адбываліся пакуты, жахі і вар’яцтва.

Флорыян глядзеў на ўсё гэта і не верыў сваім вачам. Хтосьці, аб’еўшыся папкорну, бегаў, скакаў, і ад яго цела па маленькіх круглых кавалачках лопалася і адлятала, быццам ён сам стаў адной вялікай папкорн-машынай… іншыя дзеці зліпаліся ў салодкія цукеркі…

Флорыян пабег праз гэтую страхотную масу да Ма і Да. Знайшоўшы іх у агульным ліпучым змесціве з целаў і салодкай ваты, прыклаўшы ўсю сваю моц, нарэшце адляпіў дзяўчат. Яны пабеглі ў бок рэстарацыі – ратавацца і ратаваць бацькоў… Фло нават не ўяўляў, што можа адбывацца за бацькоўскім сталом.

Прабягаючы паўз цір, яны забралі з сабою Міку, то-бок Флорыян, падкраўшыся са сваім Старкі, адламаў знойдзенага Міку ад ленты для мішэняў і, схаваўшы яго у кішэньку на саколцы, пабег з блізнятамі далей. Мік аказаўся зусім маленькім, лёгкім і плоскім, але нават у такіх абставінах для малых ён быў дарослым і яны яго баяліся.

Калі дзеці прабягалі праз цырк, яны заўважылі ў прыадчыненыя дзверы, як па коле бегаюць людзі, а ў цэнтры імі кіруюць зебры, а львы стаяць звонку арэны і пільнуюць – цэлае шоў стварылі… а на месцах гледачоў сядзяць адны хлопчыкі афіцыянты, і іх там процьма, сотні…

Флорыян пачаў здагадвацца, што тут уся справа ў гэтых афіцыянтах.

### *Пра тое, як пачынаецца неўтаймоўнае хваляванне ў парку забаваў*

Флорыян разам з Да і Ма, Старкі і Мікам у кішэньцы спяшаюцца.

Яны бягуць і крычаць, спрабуюць абудзіць мінакоў, адначасова прыглядаючыся да хлопцаў-афіцыянтаў, да гэтых маленькіх джустусаў ці прыслужнікаў.

І з кожным новым метрам адлегласьць да бацькоў скарачаецца, але і колькасць тых, хто спрабуе з імі збегчы, таксама павялічваецца, як і павялічваецца колькасць варожых сілаў.

Вось дзеці дабеглі да рэстарацыі, расчынілі наросхрыст дзверы і як загарлаюць:

– Гэта пастка, гэта падстава, мама, тата, цёця Джу, Валерыя!!!

Але не так і проста іх усіх было разварушыць. Дзеці не адразу ўбачылі, як змяніліся іх родныя бацькі… вось да іншых сталоў таксама пачалі падбягаць дзеткі і таксама спачатку крычаць аб тым, што адсюль трэба бегчы, бо тут ужо зусім не весела, як праз секунду, калі вочы абвыкнулі да паўзмроку, пачалі крычаць ад вусцішы… Гэтая рэстарацыя ператварылася ў самы сапраўдны пякельны сад!

Першай з-пад чараў абудзілася Іво. Яна схапіла Джульету, як звычайна бяруць вялікую горку адзежы, каб аднесці ў пральную машыну, штурханула Якаба, той толькі скаціўся на падлогу, накрычала на Валерыю, каб тая ўставала на ногі. І тут на ўваходзе рэстарацыі з’явіліся афіцыянты. Іх было тузіны з два, як раптам хлопцы пачалі абдымацца і ператварацца ў аднаго вялізнага, гіганцкага чалавека. Пачвара ўжо не баіцца, што яе раскрыюць, шыпіць, высоўвае халодныя змяіныя языкі і сычыць:

– Заставайцеся тут, дарагія госці! Тут весела! Можна рабіць што хочаш і колькі заўгодна разоў катацца, страляць, забаўляцца! Вы-ы-ы ў гасця-а-а-а-ах у Джус-с-стус-с-са! А ён сам вырашае, калі трэба заканчваць гульні й весялосць!!! Весялосць будзе ве-е-е-ечнай! Ш-ш-ш-ш-ш!

“Так, дзеці, давайце ў гэтыя дзверы збоку, хуценька, ты, Фло, каці бацьку па падлозе!” – зашаптала Іво, і яны стрымгалоў пабеглі да суседніх дзвярэй у чатырох кроках ад іх…

За імі пабеглі і іншыя, але вызваліліся толькі адзінкі…

– Мам, я ведаю, вунь там будзе люстэркавы лабірынт, а потым цягнічок, мы не зможам выйсці праз цэнтральны ўваход! – пракрычаў Флорыян, але яму і не абавязкова было папярэджваць пра цэнтральны ўваход, бо ўсе ўжо ўбачылі, як процьма маленькіх афіцыянтаў аб’ядноўваюцца ў вялікага цмока.

І сям’я Рычаў разам з тымі, хто здолеў вырвацца, кінулася на ўцёкі… Іво бяжыць, скура на целе спаўзае ўсё ніжэй, Джульета ў яе руках лунае сваімі адзежнымі рукамі і нагамі, як некалькі сцягоў… за імі бяжыць Валерыя з языком на плячы і за рукі трымае прыліплых да яе салодкіх Да і Ма, а наперадзе бяжыць Флорыян і коціць круглага бацьку, які адлятае на колькі метраў наперад і смяецца, напэўна, ён яшчэ не зусім працверазеў. А ў кішэньцы сядзіць бляшаны Мік, увесь у пупырышках, бо пабіты пулькамі ад “вaздушкі”.

Яны бягуць паўз некаторых людзей, якія так і не ачунялі, і іх ужо і не пазнаць, не прызнаць за людзей… “Гэтыя наўрад ці выратуюцца”, – глядзеў на іх Флорыян, ледзь паспяваючы каціць бацьку як мага далей і раўней, каб той не адскокваў у бакі.

Перад люстэркавым лябірынтам афіцыянты пачалі ператварацца ў змеяў і падаць уцекачам пад ногі, спрабуючы ўкусіць. Нарэшце яны забеглі ў люстэркавы дамок, і тут пачалі лямантаваць усе, хто сябе не бачыў і не ўяўляў, як выглядае…

Іво крычала праз сваю згубленую прыгажосць.

Якаб равеў як мядзведзь, убачыўшы, у якое тлустае ліха ён ператварыўся.

Валерыя мычала…

З усіх бакоў даносіліся енкі.

Толькі Джульета не крычала, яна папросту не магла разабрацца, як і чым можна выдаваць гукі…

– Мы не можам затрымлівацца, вунь да нас з-пад дзвярэй выпаўзаюць змеі! – закрычаў Флорыян і павярнуўся, каб

пакаціць круглага бацьку, але той з вялікімі высілкамі стаў на ногі…

Змеі паўзлі ўсё бліжэй… джус-с-стус-с-с, джус-с-с-с, шус-с-с-с…

### *Пра тое, як усё ў жыцці проста так не заканчваецца*

Па лабірынце ўцекачы кружлялі дастаткова доўга, некаторыя нават пачалі смяяцца з адлюстраванняў… тыя, хто так бязглузда засмяяўся, адразу забываліся на тое, чаго шукаюць і куды бягуць, так і заставаліся сярод люстэркаў, смяяліся, ажно надрываліся.

Флорыян глядзеў на свайго Старкі, той нібы прынюхваўся да паветра і праз пятнаццаць хвілін вывеў усіх на волю.

У Валерыі значна паменшаў язык, але ўсё-роўна да канца не хаваўся ў роце… Джульета была яшчэ часткова складзеная з адзежы, але ўжо стаяла на сваіх джынсавых нагах, хоць яны і гнуліся ў розныя бакі. Скура Іво амаль разгладзілася, а вось Якаб пакуль так і заставаўся круглым, як вялікі паветраны шар, але галоўнае, у галаве бацькі Фло пульсавалі думкі, што, калі яны здолеюць адсюль выкараскацца, ён пачне хадзіць з сынам гуляць у дваровы футбол, і гэта як мінімум… Мік ужо больш не месціўся ў кішэньцы, але ўсё яшчэ быў пабіты і запужаны, наўрад ці яму захочацца калі-кольвек страляць, не істотна, у ціры, у сабак з рагаткі, альбо кідаць у качак каменьчыкамі на ўзбярэжжы або на мясцовым возеры. Блізняткі Да і Ма ўжо не былі такімі ліпучымі, і ім зусім не хацелася салодкага, ну мо толькі крыху, крышачку, але пазней.

### *Пра тое, як важна ўмець разам спяваць песні*

Рэшткі наведнікаў гэтага жудаснага месца кінуліся да маленькага цягніка, бо ён на колькі хвілін выязджаў за агароджу атракцыёнаў і рабіў невялікае кола па мясцовым парку каля ўзбярэжжа, а значыць, будзе магчымасць вызваліцца з валадарства змеяў і цмока…

Хтосьці з найбольш хуткіх мужчын кінуўся ў кабіну машыніста, адным рухам выштурхнуў адтуль хлопца-афі-

цыянта, які блеяў, каб яго не білі, але, калі апынуўся на зямлі, люта зашыпеў.

Літаральна за лічаныя секунды ўсе паскакалі па маленькіх вагончыках і цягнічок адчайна даў з месца, ды так рэзка, што ўсіх штурханула спачатку назад, а потым наперад, але кожны здолеў утрымацца на месцы.

Вядома, гэты цягнічок не мог набраць нармальную хуткасць. Людзі азіраліся, але за імі ніхто не поўз, не бег і не ляцеў, парк атракцыёнаў прыціх, чамусьці больш не было чутно ані музыкі, ані заліхвацкіх гукаў, ані воклічаў, што заахвочвалі набыць ці гэта, ці тое, ці паўдзельнічаць у якіх забавах.

Усе выдыхнулі з палёгкай – хутка будзе паратунак…

І тут цягнічок заехаў пад мост, што аб'ядноўвае два ўзбярэжжы, разарваныя падземнай ракою, якая то тут, то там выходзіць на паверхню. Аднак нават у гэтай цемры стала зразумела – гэта не праезд пад мостам, а нейкі тунэль. Перад вачыма бяссілых мужчын, жанчын і дзяцей пачалі з'яўляцца мяккія цацкі, шакаладныя пліткі, ананасы, і шампанскае, і віно, нейкія неверагодныя касмічныя гарнітуры, ровары, процьма ўсяго таго, пра што марыць і чым вельмі жадаюць валодаць.

Хтосьці ўстаў і намагаўся злавіць сваю мару, сваё жаданне, хтосьці адкрыў рот, каб менавіта гэтае піражнае трапіла яму на язык…

Так, людзі – яны такія, усё ў іхным жыцці трымаецца на жаданнях… Перад Флорыянам сядзеў мужчына, ён зусім ні на што не рэагаваў, толькі круціў носам, і хлопчык проста неверагодна запаважаў яго, бо сам, калі б не Старкі, ужо даўно б кінуўся па скейт, але ягоны шкарпэткавы сябра, здавалася, намёртва ўгрызся ў сядзенне вагончыка, не даючы хлопчыку падняцца…

Іво закрычала, каб усе заплюшчылі вочы і пачалі спяваць, бо толькі песні ўратуюць свет і адганяюць вусьціш, бо на песнях пабудаваны свет, бо песні запачаткоўваюць жыццё, песня і ёсць жыццё.

І вагончык заспяваў. Кожны цягнуў сваю песню, на свой лад і свой рытм, як мог. Здавалася б, мусіў атрымацца нейкі

нясkладны вэрхал гукаў, крыкаў і фальшывых нот, але вось і астатнія вагончыкі падхапілі спевы і цягнічок загучаў ладнай, неверагодна прыгожай песняй космасу, самога жыцця… І праз хвіліну на даляглядзе паказалася святло.

Як толькі пасажыры цягнічка пакінулі свае вагончыкі, то ўбачылі, што ад’ехалі ад парку забаваў на значную адлегласць, а над паркам узвышаецца неверагодных памераў неаднародны клубок змеяў, варушыцца, мяняе сваю форму. Некаторыя змеі ведаюць, як трымацца адна за адну, але тыя, што па памерах зусім кароткія, то падаюць уніз, то ізноў паўзуць наверх. Парк пачаў паціху рухацца назад, на ўзбярэжжа, спачатку да першых языкоў марскіх хваляў, потым далей углыб, глыбей, глыбей… пакуль над паверхняй вады не засталося толькі кубло змеяў.

– Гэта змяіны цар… Гэта карнавальны Джустус. Яго тут не было больш за сто год, мне мая бабуля распавядала, як бачыла яго на кірмашы на ўзбярэжжы, – прамовіла старая жанчына, якая стаяла побач з Рычамі. – Раней змяіны гэты доўбень проста так прыходзіў, выкрадаў людзей, але тыя пачалі яго лёгка раскрываць у чалавечых адзежах, і тады ён стаў больш хітрым, пачаў граць на чалавечых жаданнях, ператварыўся ў Джустуса – кірмашнага хлуслівага цмока… Але ён не хутка вернецца. Столькі душаў, якія ён забраў з сабою, ягоным гадзючкам хопіць на доўгі тэрмін.

Усе стаялі моўчкі. Ніхто не даваў веры, ніхто і слухаць не хацеў старую кабету, у кожнага было толькі адзінае жаданне: забыцца на ўсё… Людзі пачалі разыходзіцца. У кожнага перад вачыма стаялі ягоныя выявы скрыўлення і празмернасці.

– А насамрэч добра, што Сафія не прыехала, бо не любіць гэтых шумных атракцыёнаў. Няма за што іх любіць. Робяць з нас вычварэнцаў нейкіх… – Валерыю ізноў панесла: – Я ёй сёння пазваню, выкажу ўсё, што думаю пра гэтыя кірмашы!

– Ты так нічога і не зразумела, цёця Валерыя, – прамовіў Флорыян, і яны ўсе паглядзелі на Валерыю, якая з высока паднятым падбароддзем пайшла па дарозе ўглыб горада.

– І што гэта я павінна разумець, не, ну такія ўжо дзіўныя ўсе, дурні нейкія… Ма і Да, а ну хуценька за мной!

Шкарпэткавы Старкі, утульна ўладкаваўшыся ў кішэньцы Флорыяна, нарэшце вырашыў крыху адпачнуць… дзень быў доўгі, як бясконца расцягнутая жуйка.

Кастрычнік 2016
Вэнтспілс




Уладзімір Правідохін (Хін), *Абстрактная композиция*, 1990

**Герман ПАНЬКОЎ**

## ЗОРНЫ ШЛЯХ

Мой светлы сон, мая Радзіма!
Мой любы горад дарагі!
Ты ў вершах ратаваў Максіма
Ад чорнай долі і тугі.

Праз Новы Свет да Вострай Брамы
Ён асвяціў нам зорны шлях,
Каб рыцары сыйшлі святыя,
Ў даспехах срэбных, на канях.

Каб песняй загучала слова
Ў шырокі Нёманскі прастор,
На вуснах каб чароўнай мовай
Нам заспяваў санетаў хор.

У свеце вобразаў і рыфмаў
Бясконца льецца зорны час.
У шчырых вершах і малітвах
Максім вяртаецца да нас.

## ЗАБЫТЫЯ ВОБРАЗЫ

Не кранай мяне здзіўленым позіркам
І не кліч у празрыстую даль!
Я пайду да задумлівай восені
Запытацца пра любы мой край.

У ціхім золаце сцежак бярозавых,
У павуцінні грыбных верасоў

Заблукалі, забыліся вобразы
Самых верных яго Песняроў.

Зніклі моўчкі з апошнімі кветкамі
У сціплых кроплях халоднай расы
Над палямі і пералескамі
Паляцелі да цёплай вясны.

Веру я, што праз век яны вернуцца
Ў край, дзе Янка жыве і Кастусь –
Там і Колас з Купалам сустрэнуцца,
Каб убачыць сваю Беларусь.

## МАЛІТВА ЗА РОДНЫ КРАЙ

*Будзь смелым, зацісні ў далонях свой лёс,*
*Трымайся, калі целу дыхаць страшна.*
*Таму што чакае цябе родны край...*
К. Герман

Ці часта мы задумваемся над сэнсам паняццяў “шчасце”, “жыццё”, “свабода”, “радасць”? А з якімі эпітэтамі мы спалучаем гэтыя словы? Шчасце бясконцае, вечнае, доўгачаканае, пастаяннае, таемнае… Жыццё нам хочацца бачыць як багатае, вольнае, вясёлае, захапляючае, здаровае, прыгожае, сонечнае, шматкаляровае. Бязмежнай, запаветнай, неабмежаванай, поўнай, цудоўнай, шырокай можа быць свабода. А калі радасць, то безумоўна, асаблівая, бесклапотная, бяскрайняя, легкакрылая, светлая. Нам хочацца, каб менавіта так і было. Шчасця і радасці, мірнага неба над галавой жадаем мы нашым блізкім і сябрам з нагоды розных святаў, на імяніны і дні нараджэння.

Жадаем… Ведаем, але не хочам верыць у тое, што шчасце можа стаць кароткім, немагчымым, разбітым, хісткім, палахлівым. Само жыццё пераўтворыцца ў беспрасветнае, гаротнае, горкае, надламанае, суровае, цяжкае. На месца свабоды, радасці прыйдуць няволя, смутак, жах, адчай. Жудасным рэхам адгу-

каецца ў нашых сэрцах слова “вайна”. І гэта натуральна. Чалавек не можа пагадзіцца з несправядлівасцю яе існавання. Таму і ўспрымаецца вайна як бязлітасная, жудасная, злачынная, ненажэрная, пачварная, разлютаваная, смяротная, шалёная… Стыхія, бестыя або служка смерці? Колькі разоў яна прыходзіла на зямлю, урывалася ў шчаслівыя дамы, нішчыла сем’і, апальвала лёсы людзей і забівала. Забівала абыякава, нахабна, няўхільна. Чаму так хутка забываюцца ўрокі мінулага? Чаму бяскарна вайна вяртаецца да чалавецтва?

Нашы суайчыннікі заўсёды вельмі цанілі свабоду, згоду, справядлівасць. Падканцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега называў свабоду вялікім дарам, без якога не можа існаваць сапраўдны чалавек. У “Звароце да ўсіх саслоўяў Вялікага Княства Літоўскага” ён зазначаў: “А естли жъ чоловеку почъстивому ничого нетъ мильшого надъ тое, кгды, во отчызне своей безп[е]чне мешкаючы, не боитсе, абы его хто на доброй славе его змазати албо на теле и на здоров[ъ]ю его образити албо теж на власно[й] маетности его укрывдити могъ, тогды то ничому инъшому, одно праву причитати мает, за которым од кождого в покою седить, а жадного усилства, обелжен[ь]я и укривжен[ь]я на собе не поносить, бо тот цель и скутокъ усих правъ естъ и мает быти на свете, абы кождый добрую славу свою, здоровъе и маетност[ь] в целости мелъ, а на том всем жадного ущирбку не терпел”.

Адной з цэнтральных тэм паэмы Мікалая Гусоўскага “Песня пра зубра” з’яўляецца тэма вайны і міру. Паэта засмучае, што ўніверсальным сродкам вырашэння палітычных канфліктаў становяцца, на жаль, вайна, насілле, а не розум і справядлівасць. Мікалай Гусоўскі выказваўся супраць любых войнаў, супраць парушэння хрысціянскіх запаветаў міласэрнасці, братэрства і любові. Ён не мог пагадзіцца з тым, што людзі пакутуюць, адчуваюць страх.

Вольнасць роднай краіны – гэта мара і ў той жа час абавязак яе грамадзян. Нельга не ўзгадаць тут словы славутага Францыска Скарыны з ягонай прадмовы да “Кнігі Юдзіф”: *як пчолы/ бароняць вуллі свае –/ гэтак і людзі/ да месца, дзе нарадзіліся/і ўзгадаваны ў Бозе,/ вялікую ласку маюць.*

Скарыну захапляе вобраз мужнай Юдзіфі. Гэта прыклад годнай жыццёвай пазіцыі: *Таму і Юдзіф,/ любячы край, дзе калісьці/ на свет нарадзілася,/ не шкадавала/ самое сябе, каб*

*адвесці/ ад краю айчыннага небяспеку.*

Прыгожая жанчына магла жыць у багацці, сытасці, але яна выбрала годнасць. Свабодны чалавек – гэта той, які мае права выбару, які кіруецца свабоднай воляй. У гады вайны, у час жыццёвых выпрабаванняў асабліва востра гучыць праблема сутыкнення ў чалавеку добрага і злога пачаткаў, самаахвярнасці і інстынктаў самазахавання.

У гады Вялікай Айчыннай вайны Беларусь, як біблейская Юдзіф, не схіліла сваёй галавы, вытрымала чорную навалу. Кожны чацвёрты (ці не трэці?) жыхар нашай краіны – мужчыны, жанчыны, старыя і маленькія дзеці, юнакі (*мае равеснікі*) – загінуў. Ці не хацелі яны ўбачыць заўтрашні дзень, закахацца, пачуць водар майскіх садоў? Калі глядзіш на фотаздымкі людзей у час вайны, бачыш у іх вачах не жах, а веру ў перамогу, у прыгожае будучае — наш з вамі сённяшні дзень. Таму так блізкі нам вобразы простых, але такіх моцных духам людзей, як героі твораў Васіля Быкава. Яны ўсе *ўзыходзілі* да сваёй чалавечнасці, выбіралі ўнутраную свабоду. Яны перамаглі.

Ціхая, стрыманая Беларусь засталася незалежнай краінай. Польскі пісьменнік Тадэвуш Канвіцкі называў яе Дабрарусcю, краінай добрых людзей. Якія ўдзячныя словы гучаць у кнізе “Каляндар і кляпсыдра”: “Не ўрэзалася ты ў памяць людскую, Беларусь. Не адбірала ты ў іншых волі, не рабавала чужой зямлі, не губіла людзей дзеля спрэчак за межы. Ты мела павагу да чужакоў і гасцінны каравай, аддавала рабаўнікам апошнюю карову і апошні акраец хлеба са знакам крыжа. Аддавала гаротным сцякаючае крывёй сэрца і сваё беднае нярадаснае жыццё. Беларусь, Беларусь шэра-зялёная, з агромністым небам над бялявай галавой… Ты занадта добрая, занадта лагодная, занадта высакародная для нашых часоў”.

Калі мы думаем пра Беларусь, заплюшчваем вочы, першае, што узнікае ў нашых уяўленнях, гэта блакітныя азёры, васількі, касцёлы і цэрквы, з якіх узносіцца шчырая малітва за родны край. А мы, як героі “Сіняй птушкі” Марыса Метэрлінка, моцна трымаем у руках Шчасце Быць Свабоднымі, Здаровымі, Любіць і Спадзявацца.




Уладзімір Правідохін (Хін), *Зеленая абстрактная композиция*, 1989

Таццяна МАЦЮХІНА

***

Знакі і  словы. Маўчанне і голас.
Сонца і месяц. Зямля, жытні колас.
Зараснік дзікі ў кустоўі ажыны.
Кропля вады на галінцы рабіны.
Стол ля акна. Пахі цукру, маліны.
Дзеці на полі. Варэнне з каліны.
Восені водар. Натхненне сядзібай.
Вечнасць імгнення.  І гонар Радзімай.

***

Галінка  бэзу на акне…
Гарбата. Позірк. І ўсмешка.
Святло душы тваёй кране,
Нібы вясна, нібы пралеска.

Пяшчотны дотык. Успамін.
Урачысты сход.  І віншаванне.
Зямны палёт маёй душы
І нашых сэрцаў уз’яднанне.

Галінка бэзу на акне…

***

Вецер сваволіць. Вецер гуляе
З намі ў хованкі. І дазваляе
Нам зазірнуць  у акенца крышталю.
Сонца і дождж. І люблю, і кахаю…

Снежныя шаты. Чужыя ўсмешкі.
Холад  і лёд. У  становішчы – пешкі.

Сэрца параніў. Мяне не забыў.
Толькі кароль  мне мой шлях перабіў…

Вецер сваволіць. Вецер гуляе.
Я, улюбёная сэрцам, кахаю.
Сонечны позірк надзеі шукаю –
Ціхая радасць цябе напаткае!

***

Павітаю музыкай у вершы,
павіншую шчырасцю душы.
Калі неба – поўняй,
калі слова – песняй,
то маўчаннем стане: “Напішы!”.
Напішы мне,
калі светач-сонца
хмары занясуць за край
зямлі.
Напішы мне,
бо даўно, бясконца
пераходжу з “я” на слова “Вы”.
Прачытаю ліст у адну хвіліну.
Можа, і смяшынкай
зазірну
я ў акенца Боскага настрою
светлых думак  у сусвеце  déjà vu.

***

Маляваць  рысы твару бясконца
І ўдыхаць пах карыцы і кавы…
Я  – тваё запаветнае сонца
Ў невядомай  і стоенай мары.
Я  ў цябе закаханая сутнасць
І з’ядналая ў Боскім натхненні
Неспазнаная вераснем  радасць.
Я – падзея ў адвечным імгненні.

**Анатоль ДЭБІШ**

# БЕЛЫ АРКУШ СЛЯЗА НЕ ЗАПЛЯМІЦЬ

(трагедыя ў шасці дзеях)

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

Кейстут – малодшы Альгердавы брат
Ягайла – старэйшы з сыноў Альгерда, ад другой жонкі – Ульяны Цьверскай
Вітаўт – сын Кейстута
Скіргайла – родны брат Ягайлы
Бірута – княгіня, жонка Кейстута
Ганна – княгіня, жонка Вітаўта
Ядвіга – каралева Польшчы
Андрэй – япіскап Гнезненскі
Паслы, стражнікі, воі

## Дзея першая

Дзеянне адбываецца ў Вялікім Княстве Літоўскім і Польшчы напрыканцы XIII пачатку XIV стагоддзяў.

Вялікакняжацкі замак у Вільні. Толькі што адбылася трызна па вялікім князе Літоўскім Альгердзе. У зале за сталом, накрытым злататканым абрусам, сабраліся дзеці і родзічы вялікага князя Альгерда. Сцены залы аббітыя беласнежным ільняным палатном, упрыгожаныя срэбнымі і залатымі вывамі звяроў і птушак. На сценах вісяць зубрыныя і ласіныя рогі,ператвораныя ў падсвечнікі. На сцяне насупроць стала – ззяе агромістая ніша, выкладзеная шэрым палявым каменем, у якой гарыць свяшчэнны агонь Зніча. На драўлянай падлозе

ля невялічкіх гліняных місак з малаком поўзаюць свяшчэнныя паганскія вужы.

За сталом – шум і спрэчкі. З-за стала ўстае Ягайла.

<u>Ягайла:</u>
Гарыць агонь паганскі…
Для мяне ці?
Паразу мне ці славу ён нясе?
*(звяртаецца да вояў-ахоўнікаў)*
Агонь паганскі, воі, занавесьце,
*(воі выконваюць загад)*
Каб бачылі наўкол і чулі ўсе,
Сабраўся хто ў гэтым княжым храме,
Не галасы багоў, а голас мой,
Засведчаны што небам і багамі, –
Што я ваш князь.
<u>Галасы:</u>
Не князь ты наш – ізгой!
<u>Ягайла:</u>
Ваш князь – па праву я і па закону!..
<u>Галасы:</u>
Не князь ты нам!
Даволі блазнаваць!
Не дасягнуць табе ніколі трону!
Пасад вялікакняжы не заняць!
Ніхто не пойдзе за табою следам!
Ні сілай – не прымусіш, ні – дабром!
<u>Кейстут:</u>
Суцішцеся!
Па волі ён Альгерда
Прызначаны быць князем.
<u>Галасы:</u>
Чарнасцом,
Ці вешчуном між дзікага балота.
Няхай ідзе і правіць лесам ён!
Ён – труцень!
Не засмечвае хай соты…
Адвечны парушаючы закон,

Не намі ўстаноўлены аднойчы:
Пасад вялікакняжны мае той,
Хто з нас старэйшы…
Кейстут:
Хоць жанаты двойчы
Альгерд*, ды воляй княжаю сваёй
Прызначыў на пасад вялікакняжы –
Ягайлу ён, пакуль шчэ быў жывы!
Галасы:
Ён не старэйшы!
Кейстут:
Пэўна, князь разважыў,
Што будзе лепшым князем ён, чым вы!
Хоць кожны з вас, і пэўна, не адзіны,
Пасады гэтай вартыя, і ўсё ж.
Пра будучыню думаў ён Айчыны.
Пра любы край, які, як гостры нож,
З усіх бакоў няўмольнаю навалай
Тэўтоны і татары працялі.
Зірніце, што з Радзімай нашай стала!
А мы за ўладу б'ёмся?..
Што, калі
З нас кожнага, як птаха ў цянёты,
Заблытаюць?
Ратунку – не чакай!
Што будзе з намі заўтра?
Стане – потым?
Ці паасобку выжывем?..
Галасы:
Няхай,
Усё маланкай спаліць –
Лес і гоні,
І вынішчыць дарэшты ўсё кругом,
Не князь ён нам!
Ні заўтра!
Ні сягоння!

* Альгерд быў жанаты два разы. Першы раз на Марыі Віцебскай, другі раз – на Ульяне Цьверскай.

Ён нам – не князь!
Не брат!
Ідзём! Ідзём!

*(пакідаюць вялікакняжы палац. Застаюцца нешматлікія староннікі Ягайлы: Кейстут, Вітаўт, Скіргайла)*

Ягайла:
Ад іхніх спраў аж сэрца стыне.
Такія не даруюць – хоць радня.
Кейстут:
Цябе ў бядзе мы аднаго не кінем.
З табою будзем, княжа наш, штодня.
Ягайла:
Забыліся на суд, напэўна, Божы!
Вітаўт:
Ёсць Божы суд, ды ёсць і суд зямны.
Кейстут:
Скажы мне, княжа, што цябе трывожыць?
Ягайла:
Ды многае трывожыць…
І – яны!
Дзень сённяшні і заўтрашні таксама,
Што з павуціння здрады і маны
Сплятаецца…
Куды пайсці – да храма
Ці ў копішча?..
Кейстут:
Няма тваёй віны,
У тым, што ўзваліў табе на плечы
Уладу – бацька твой і час.
Такі ўжо лёс наш, пэўна, чалавечы,
Яго не выбіраем мы – ён нас.
Але і ў нашых сілах доўжыць межы,
Не паддавацца зману і журбе.
Што будзе заўтра – і ад нас залежыць:
Ад Вітаўта, мяне, і ад цябе.
Ад нас усіх…
Ягайла:
Тады давайце разам

Радзімы нашай межы бараніць
*(звяртаецца да Кейстута)*
Заходніх нашых межаў – будзь ты князем.
Я на ўсходніх буду суд вяршыць!
Кейстут:
Усё, што змагу, зраблю, вялікі княжа,
Ад ворагаў тваіх я не збягу.
Ягайла: *(звяртаецца да Скіргайлы)*
А што нам брат наш, Скіргайла скажа?
Скіргайла:
Зраблю ўсё, што толькі я змагу!.
Ягайла:
Тады – за справу!
У добрую дарогу!
Кейстут:
За – справу! *(пакідаюць залу)*
Ягайла: *(застаецца адзін)*
Нешта млосна... не заснуць…
Так мала часу, справаў гэтак многа.
Як быць далей?
Бяды не абміну,
Калі не буду з Кейстутам у саюзе,
Не здужаю я з ворагаў гайнёй,
Што топчуць гоні невыносным друзам –
Сябе згублю і тытул княжы свой.
Без Кейстута мне не ступіць ні кроку,
Ды з ім дзяліцца ўладай – не з рукі.
У зямлю ўрос, як дрэва, ён глыбока,
Не вырваць.. І халопы, і князькі
За ім гарой – ён мужны і харобры.
Ужо колькі летаў з імі, колькі зім –
І Берасце, і Ваўкавыск, і Кобрын,
Амаль уся Літва – стаіць за ім.
З прысутнасцю яго мірыцца трэба.
Усяму свой час – і сцюжы, і вясне.
Як кажуць: “спадарожнікам – не грэбуй!”
Хоць спадарожнік гэты для мяне,
Як костка ў горле – гострая, цяжкая,

Што не дае – ні крочыць, ні дыхнуць.
Не востры меч, цярпенне прабівае
Парою непарушную сцяну.
Пакуль не ўзмогся целам і душою –
Цярпі, вялікі княжа мой, цярпі.
Яшчэ ты будзеш з чашы залатое
Напой мядовы перамогі піць.
Яшчэ вялікакняжай моцы крылы
Узнясуць цябе за неба далячынь.
Я розумам сваім, калі не сілай,
Перамагу…
Сумненне – прэч!
Маўчы!
Не мець улады Кейстуту, як жабе.
Хай трошкі з маёй вотчыны пажне.
А прыйдзе час, і моц яго аслабіць
Тэўтонскі ордэн дапаможа мне.
Мне дапаможа зберагчы ўладу,
І гонар свой,
І княжацкі пасад.
Ды гэта – здрада…
Не, якая здрада?
Зімой квітнець не можа весні сад,
Ды і мядзведзі два ў адным бярлогу
Ці ўжывуцца?
Хто паміріць іх?
Хто ў бітве атрымае перамогу?
Той, хто хітрэйшы і мацнейшы.
Мніх,
Прызначаны служыць багам да скону,
Адмольваючы нашыя грахі.
У мяне ж другая мэта, і паклоны
Ім біць не стану.
Я да іх – глухі.
Я – сам закон пад гэтым вечным небам,
Дзе час бруіцца, нібы тлумны вір.
Пакуль не позна, паспяшацца трэба –
Усталяваць з крыжацкай зграяй мір.

А што пасля?
Што думаць – будзь што будзе!
А прыйдзе час…
А прыйдзе дзень…
Калісь
Ніхто мяне за гэта не асудзіць
Бо я, адзіны бог тут на зямлі.
А там – што лёс пашле, як карта ляжа.
Не час на роздум і сумненне мне…
*(звяртаецца да воя-ахоўніка)*
Брат мой Скіргайла ў замку?
Вой-ахоўнік:
У замку, княжа.
Ягайла:
Пакліч яго – хай прыйдзе да мяне!
Зусім адзін. А ворагаў – без ліку.
Мяне гатовы кожны знішчыць з іх.
*(заходзіць Скіргайла)*
Скіргайла:
Паклон табе! Мяне ты, княжа, клікаў?
Я твой увесь – і мой і зрок, і слых.
Ягайла:
Сядай, мой брат! Хай рэха не парушыць
Мячом ці дзідай ночы цішыню
І ворагаў размовы нашай вушы
Не ўчуюць…
Як нікога я цаню
Цябе.
Скіргайла:
Вялікі дзякуй, княжа,
За твой давер і ласку да мяне!
Ягайла:
Таму прашу абдумаць і ўзважыць
Усё тое, што пачуеш…
Не міне
Бяда,
Калі пра нашую размову
Даведаецца нехта.

Скіргайла:
Я заўжды
Любы загад твой выканаць гатовы.
Ягайла:
Ад слоў да спраў пяройдзем мы тады:
Ты ведаеш, цяжкі час і суровы
Настаў для нас,
Кажу я гэта з жалем, –
Руйнуе, нішчыць вораг край святы,–
Тэўтонцы і татары…
Нат паўсталі
Стрыечныя і родныя браты
Супроць мяне.
Ім бачыш – мала ўлады,
Літва патрэбна ім і Беларусь.
Паўсюль пануюць – ненавісць і здрада,
Паганская з балотаў лезе гнюсь.
Скіргайла:
Ды з намі – Кейстут!
Ягайла:
Кейстут, зараз з намі…
Ці з намі?
Не, не веру я яму!
Клянецца, а за пазухаю камень
Трымае, каб пакорнасці хамут
Зняць з зацуглянае колісь мною шыі, –
А прыйдзе час – пакіне ён мяне.
Патрэбны мне саюзнікі другія,
Інакш  бяды, мой брат, не абмінеш.
Пакорлівасць патрэбна мне  і згода.
Таму і даручаю, брат, табе –
У ордэн да магіста фон Негроды
Паслаць паслоў надзейных…
У барацьбе
За гонар свой надзеяцца на Бога
Ці варта толькі?
Гэткі  мой загад:
Вазьмі пергамент з просьбай дапамогі.

Без згоды – не вяртайся лепш назад.
*(Скіргайла збіраецца выходзіць)*
Пастой!
Яшчэ хачу спытаць цябе я.
Па шчырасці,
І хлусіць мне не смей, –
Браты мае што чыняць?
Скіргайла:
Звадкі сеюць…
Забраць пасад князь Полацкі Андрэй
Збіраецца. Казаў: дабром ці сілай,
І марыць княствам кіраваць адзін.
Ягайла:
Яго чакае смерць тады, магіла.
Скарыцца мне і ён…
Цяпер – ідзі! *(Скіргайла выходзіць)*
А мне падумаць трэба…
Калі адмовіць ордэн – што тады?
Тады – канец!
На плечы рухне неба…
Што мне рабіць?
Як быць?..
*(Ягайла ў роздуме. Раптам за сцяною чуе шум і крокі)*
Вось хтось ідзе сюды. *( заходзіць Скіргайла)*
Скіргайла:
Вітаю, княжа!
З добраю нагодай
Я завітаў:
Нам болей крыжакі
Не ворагі,
Далі дабро і згоду
На вечны мір,
Для божых дзей і спраў,
Вялікі сам магістар
Фон Негрода
Пацвердзіў гэта
І паабяцаў
Табе ва ўсім, мой княжа,

Дапамогу –
Малітвамі
І рыцарскім мячом.
І пакараць зласліўцаў
Божых строга.
Што замінаюць нам
Агульны дом
Пабудаваць, без веры што
І згоды
Жывуць між цемры вечнай,
Бы краты.
Табе рабіць не стане
Перашкоды.
Калі служыць тэўтону
згодны ты.
Ягайла:
Цудоўна.
Быццам знікнуў вечар шэры.
Саюзнік ёсць у нашай
барацьбе!
Што з Кейстутам?
Скіргайла:
Ён вораг нам,
Бо ён інакшай веры
Хрысту ён служыць. Вораг ён – табе!
Ягайла:
Так – вораг!
Скіргайла:
Пад крыжацкімі мячамі
Не выстаіць – ні Кейстут сам, ні раць.
Ягайла:
Пакуль ён будзе біцца з крыжакамі
І слабнуць, буду сілу набіраць.
Быць пільным трэба. Кейстут не адзіны,
Хто зычыць мне і княству ўсяму
Пагібелі…
Андрэй пасад пакінуў,
Збег у Маскву, з надзеяй, што яму

Маскоўскія дваране і баяры
Пасад вялікакняжы мой займець
Памогуць, аб якім заўжды ён марыў.
Ды не пасад – яго чакае смерць.
*(звяртаецца да Скіргайлы)*
І ты, у пэўны час, мяне пакінеш
І здрадзіш мне, мой даражэнькі брат!?..
<u>Скіргайла:</u>
Ніколі! Ні табе, і ні Айчыне.
Я за цябе…
<u>Ягайла:</u>
Веру!
Полацкі пасад
Аддаў табе, каб ты служыў,
Да скону,
Дарадцам быў каб і апорай мне.
Па волі княж і па майму закону,
Хай дом і край наш ліха пraміне!
<u>Скіргайла:</u>
Давер твой апраўдаю, княжа!
<u>Ягайла:</u>
З Богам!
З табою я заўжды і родны край.
Вось грамата на княжанне…
У дарогу
Даю табе пяць вершнікаў.
Бывай!
*(Скіргайла выходзіць, Ягайла застаецца адзін, падыходзіць да акна)*
<u>Ягайла:</u>
Ноч на двары. Як час ляціць імкліва!
Быў хлапчуком малым – стаў князем я.
Запальвае ізноў багіня Жыва
На небе зоркі…
Недзе і мая
Між бездані начнога неба ззяе,
У абдымках сноў і мрояў трапяткіх,
Каб дагарэць аднойчы, з небакраю

Зляцець на дол халодны ў пэўны міг
Астылай znічкай…
Як каменьчык, ляжа
У пух зямлі, дзе продкі паляглі.
Ніхто, напэўна, нават не заўважыць
Яе знікнення з неба?
На зямлі
Прадоўжыцца жыццё. Было спрадвеку
І будзе так аж да сканчэння дзён,
Бо так наканавана чалавеку –
І стрэлаў свіст, і вострых дзідаў звон.
О, каб хоць на кароткае імгненне
У дзень заўтрашні наш зазірнуць я мог!?..
Ды навакол нікога, толькі цені –
Паганскі бог і хрысціянскі бог.
*(уваходзіць Скіргайла са слязьмі на вачах)*
<u>Скіргайла:</u>
Якая ганьба, ганьба!
<u>Ягайла:</u>
Што з табою?
Няўжо ў крыжацкі трапіў ты палон,
Ці мо сустрэўся недзе з Сатаною?
<u>Скіргайла:</u>
Ды лепш палон, лепш – Сатана, лепш – скон,
Чым здзек такі брыдкі, нечалавечы,
Які ўчора зведаў… *(плача)*
<u>Ягайла:</u>
Гавары,
Што здарылася?
<u>Скіргайла:</u>
Полацкае веча
Мяне прагнала з ганьбай і дары
Мае ўсе растаптала, нібы смецце,
Пад дзікі роў натоўпу, крык і смех.
У мяне кідалі кпіны нават дзеці,
Халопы і жанчыны…
Для пацех
Сваіх

І крывадушнай асалоды.
Як нейкая пачварная гайня.
Прымусам, не пытаючыся згоды,
Гвалтоўна пасадзілі на каня
(маўляў за лік паганскі мой…
Як кару
За страчаную веру, за Хрыста)
І прывязаўшы тварам да хваста
Пагналі прэч, бы дзікія татары.
<u>Ягайла:</u>
Такія здзекі  не жадаю зверу,
Я ж прапаноўваў ім сяброўства ў дар.
<u>Скіргайла:</u>
Крычалі, што й табе яны не вераць,
І што не ты – Андрэй іх гаспадар.
<u>Ягайла:</u>
А дзе Андрэй?
<u>Скіргайла:</u>
Рыхтуецца вайною
Пайсці з Маскоўскім княствам на цябе.
<u>Ягайла:</u>
За здраду ўсе паплацяцца крывёю.
Збіраць каменне час, не час – сяўбе!
Збірацца час для хуткага паходу
На Полацак…  *(звяртаецца да Скіргайлы)*
Скачы, хутчэй, мой брат,
Да Кейстута і Вітаўта, і згоды
Прасі на дапамогу ў іх!  *(Скіргайла пакідае замак)*
Пасад Вялікакняжы
Не дазволю
Парушыць:
Ні чужынцам,
Ні радні.
Падманам дзесь,
Дзесь хітрасцю,
Дзе воляй –
Уратуюся,
Прадоўжу роду дні.

## Дзея другая

Вільня. Палац вялікага князя літоўскага Ягайлы. Ягайла толькі што прачнуўся.

Ягайла:
Ці гэта добры знак, ці знак бяды?
Прыснілася, нібыта ў родны дом
Сабраліся ўсе мае дзяды
І селі чынна разам за сталом
Мяне няма там толькі, я – адзін.
Халоднай сцюжай крочу між начы.
І Віцень за сталом, і Гедымін –
Маўчаць чамусьці,
Бацька мой маўчыць,
Як быццам анямелі, як сцяна,
Агню што подых чуе і вайны.
Да страў не дакрануцца і віна,
Хоць і даўно галодныя яны.
Бы з воску белыя – і твар, і зрок.
Чужыя быццам – і сабе, і мне.
Глядзяць панура ў шэрай ночы змрок,
Бы адшукаць жадаючы мяне,
Ды не знаходзяць аніяк, бо я,
У гэты час самотны і чужы,
Пустынным полем крочу і ніяк
Не дабрыду да бацькавай мяжы.
Да дому шлях ніяк я не знайду,
Паўсюль – чужыя гоні і палі.
І сее морак смутак і бяду
І зерне смерці сее па зямлі. *(заходзіць Скіргайла)*
Скіргайла:
Не спіцца, княжа, брат мой!
Ягайла:
Не да сну.
Калі на сэрцы смутак – як заснуць?
Скіргайла:
Усё зладзіцца.

Не бачу я прычын
Для скрухі і гнятлівасці тваёй.
<u>Ягайла:</u>
Здаецца, што застаўся я адзін.
Азін зусім. І вісне нада мной
Бяды шалёнае няўмольны знак,
Якое не стрымаць, не абысці.
Чужыя ўсе. І  Кейстут, бы чужак,
Ваўком глядзіць, ці не аслабну, ці
Зламлю сабе хрыбціну ў пэўны час.
Каб з асалодай знішчыць плоць маю…
Напэўна, нешта ведае пра нас?
<u>Скіргайла:</u>
Што можа ведаць?
Я не пазнаю
Цябе, мой княжа,
Цвёрдасць дзе твая,
Якой заўсёды ганарыўся ты?
Ён не замысліць злога…
Мы – сям’я!
Ён не пасмее..
Усё-ткі мы – браты!
Андрэй – другая справа…
Праз вякі
Ён не даруе нам, а што праз год
І гаварыць тут. Вось каб крыжакі
Раптоўна бы напалі на яго,
Сядзеў бы на жалезным ланцугу,
Нібы сабака. Захацеў пасад…    *(чуюцца крыкі)*
<u>Ягайла:</u>
Што там за крыкі?
<u>Скіргайла:</u>
Ведаць не магу
Ды паспяшу даведацца, мой брат!
*(Скіргайла выбягае з княжага пакоя. Амаль жа ў гэты час у вялікакняжы пакой уваходзяць Кейстут і Вітаўт)*
<u>Кейстут:</u>
Вітаем, княжа! Нешта ты не рады,

Ты ўвесь дрыжыш, аж не пазнаць цябе?
<u>Ягайла:</u>
Я вас сюды не клікаў *(крычыць)*
Здрада!
Здрада!
<u>Вітаўт:</u>
Ты не крычы, як п'яны пры гульбе,–
Ніхто твой крык шалёны не пачуе..
<u>Кейстут:</u>
Захочам, зможам нават і забіць.
Усе стражнікі – заснулі, і без збруі.
Іх соннаю травою напаіць
Змаглі мы. Спяць, бы жаваранкі ў жыце.
І поўня спіць…
<u>Ягайла:</u>
Не спіць – у грудзях мой гнеў.
Забіць мяне жадаеце?
Забіце!
<u>Кейстут:</u>
Цябе даўно б забіў – калі б хацеў,
Але не стану…
Гора і пустэчу
На землі нашы вораг наш нясе.
<u>Вітаўт:</u>
Ці можна давяраць ваўку авечак?
Ці можна давяраць курэй лісе?
*(звяртаецца да Кейстута)*
Ты – добранькі.
А ён не пашкадуе
Калісьці ні цябе, ані мяне.
Сягодня ён уладаю гандлюе,
Радзімай заўтра гандляваць пачне.
*(звяртаецца да Ягайлы)*
Пакуль мы край мацуем і яднаем,
І ў бітвах не шкадуем жываты, –
З крыжацкаю братаешся ты зграяй,
Таемна дамаўляешся з ёй ты.

Ягайла:
Дзе доказы?
Кейстут:
Не вінаваты, значыць?
Мо гэта толькі выдумкі, паклёп?
Сваімі, як цябе, вачыма бачыў
Дамову з крыжакамі…
Лоб у лоб
Нас з крыжакамі сутыкнуць жадаеш,
Каб патапіць ва ўласнай усіх крыві.
Што будзе з намі, з нашым родным краем?
Ці ты не бачыш?
Вітаўт: *(звяртаецца да Ягайлы)*
Ты пад носам звіў
Змяінае гняздо.
Сам з срэбнай чашы
Мядовы п'еш напой, усеўшыся на трон.
А ў гэты час дзяцей і жонак нашых,
Як скот, чужынцы гоняць у палон.
Кейстут:
Сам ворагу ты адчыняеш дзверы,
Каторыя, пакуль не сцякне кроў,
Павінен бараніць…
Табе я верыў.
Як бацька верыў лепшаму з сыноў.
Відаць, не аб такім ён сыне марыў…
Вітаўт:
Што з ім гаворку весці – прэч гані!
Так вырашылі – воі і баяры,
Так вырашылі ўсе мы…
Кейстут: (*звяртаецца да Ягайлы)*
Адпачні
Ад справаў і турбот вялікакняскіх.
Табе цяжар такі не па плячы,
Хай на мае цяпер ён плечы ляжа.
Яго цяпер мне несці…
Крывічы
Ніколі чорнай сіле не скарацца,

За край свой пастаім і родны кут.
Не біцца між сабою, а яднацца
Прыйшла пара.
Даволі тых пакут,
Што леглі, як ярмо, на нас.
Даволі!
Калі стралу пускае ў брата брат.
Табе, Ягайла, я дарую волю
І Віцебск наш магутны – у пасад.
Няхай між намі будзе мір і згода.
Ды толькі ты, шмыгнуўшы за парог,
Мне абяцай, –
Рабіць не будзеш шкоды?
Ягайла:
Клянуся Пяруном!
Кейстут:
А з намі Бог!

*(Ягайла апранаецца, выходзіць. У княжых пакоях застаюцца Кейстут і Вітаўт)*

Вітаўт:
Яго ты адпусціў і ўзнагародзіў
Дарма. Ён шмат нам гора прынясе!
Кейстут:
Крыві і спрэчак між сабою – годзе!
Яднацца трэба ўсім нам пакрысе.
Край мацаваць, што стогне ад знямогі.
І без яго ў нас ворагаў замнога.
Вітаўт:
Што думаеш рабіць?
Кейстут
Што раіш ты?
Вітаўт:
Любові, міру будаваць масты.
Найперш з Масквой нам памірыцца трэба,
Мутузіцца нам з ёю не з рукі.
Калі, як бура, як маланка з неба,
Руйнуюць край татары, крыжакі.
І ад імя прыдуманага бога

Знішчаюць гоні, льюць людскую kроў.
Вось і цяпер смяротнаю аблогай
Стаяць яны ля  Полацкіх муроў.
Ужо Гародня ўся ў агні і дыме.
Крывавым  ботам топчуць край яны
Бязлітасна. Брат наш Скіргайла з імі.
Кейстут
Не, нам не абысціся без вайны!
Аб нашы дзіды паламаюць шыі,
У сваёй жа захлынуўшыся крыві,
Ім не пабачыць Полацкай Сафіі…
*(звяртаецца да Вітаўта)*
Склікай народ!
На Веча ўсіх заві!
Вітаўт:
Збіраць харугвы ў Менск, Бярэсце еду.
За родны край яшчэ мы пастаім. *(выходзіць)*
Кейстут
Ён – верны сын  сваёй Радзімы. Ведаў,
Шчэ з тых гадоў яго, як быў малым,
Што воям мужным Вітаўт стане потым,
Хоць і хварэў ён часта, слаба рос,
Было яму мо шэсць сонцаваротаў,
Калі аднойчы з пушчы я прынёс
Жывога зайца, мяккага, як мячык,
І загадаў абед згатовіць мне
З зайчаціны. Ён з дзікім крыкам, плачам
Прасіў не забіваць, маліў мяне…
Спаў з зайцам тым ён на адной пасцелі
І сон, напэўна, сніўся ім адзін.
Так і раслі абодва, і мужнелі, –
І заяц, уратаваны ім, і сын.
Цяпер ён – вой. І спрыт, і сілу мае,
Трымае цвёрда меч яго рука.
У ім, як ні старайся, не пазнаеш
Таго, з гадоў мінулых, хлапчука.
Шкада, што ў час няісны і крывавы,
Яму наканавана лёсам жыць.

Цяпер яму мае прадоўжыць справы.
Калі мяне не стане…
Не спыніць –
Ні рух, ні подых дзеяў чалавечых,
Сатканых з нітак шчасця і бяды.
Пара ўсім нам гатовіцца да сечы…
Ні слова больш... Бірута йдзе сюды
*(заходзіць князёўна Бірута)*
Бірута:
Вітаю, любы муж! Ці мо не рады
Сустрэчы нашай – боль гняце ці гнеў?
Ці мо пад час паходаў, спрэчак, звадак,
Каханачку сабе займець паспеў?
Агню ў тваіх вачах я штось не бачу,
Як калісь. Бы нямко чаму маўчыш?
Абняць мяне і подыхам гарачым
Мне вусны апаліць не паспяшыш?
Ці дні любові нашай праляцелі,
Калі кружлялі мы, як матылькі?..
Кейстут
Ах, любая, не поўні сэрца хмелем
Былой вясны…
Узрост наш не такі!
Бірута:
Ні ўзросту, ні мяжы – любоў не мае,
Калі ў сэрцы цепліцца яна.
Мо не кахаеш, як раней?
Кейстут
Кахаю!
Бірута:
Я ў чымсці вінаватая?
Кейстут
Віна
Твая ў тым толькі, што са мною
Цябе звёў лёс у ліхалецця дні.
Што я не здолеў даць табе ўсё тое,
Што мог бы даць… (*абнімае Біруту)*

Бірута:
Сябе ты не віні
Ні ў чым.
Мы найшчаслівейшыя ў свеце,
Бо мы кахаем, дыхаем, жывём.
Ёсць – ты ў мяне, ёсць род наш, нашы дзеці.
Радзіма ёсць у нас і родны дом.
Квітнее сад, над намі ззяе неба
Мільёнам ясных знічак-светлячкоў…
І што яшчэ, скажы, для шчасця трэба?
Кейстут
Спакой і згода…
Зграі крыжакоў
Вісяць над намі зноўку чорнай хмарай.
Знішчаюць нашы вёскі, гарады.
Чакай, вось-вось тэўтонцы ці татары
Заявяцца раптоўна – і сюды!
Ды і свае, як гады, ўюцца, хлусяць,
Адзін другога прагнуць праглынуць,
Каб уварваць паболей…
Я баюся…
Я за цябе баюся…
За вясну,
Што ў небе светлай поўняю зазззяла
Для нас з табой, ужо ў каторы раз.
Мо лепш было б, каб ты перачакала
У іншым мейсцы – гэты змрочны час?
Бірута:
І не прасі!
Цябе я не пакіну.
Мне без цябе – не дыхаць і не жыць.
Калі загінеш ты – і я загіну
Ад адзіноты. Ля чужой мяжы.
Не бойся, што жанчына я, што – мама,
Што род прадоўжыць – абавязак мой.
Але, калі спатрэбіцца, таксама
У руку меч вазьму – каб быць з табой!
І ў асалоды час, і ў час бяды –

Павінна з мужам жонка быць заўжды!
<u>Кейстут</u>
Не ведаю я, што было б са мною,
Калі б цябе аднойчы не сустрэў
І пакахаў?
<u>Бірута:</u> *(смяецца)*
З каханкай маладою
У гэты час бы цешыўся… ласкаў!
<u>Кейстут</u>
Кінь глупства гаварыць, мне лепш у вочы
Ты зазірні…
Што бачыш там?
<u>Бірута:</u> *(смяецца)*
Туман…
Ты лепш скажы – як Вітаўт,
Наш сыночак,
Ці не знямогся ад турбот і ран?
<u>Кейстут</u>
Няма прычын табе для неспакою.
Не запляснела ў пограбе віно:
Даўно ён вырас, мужным стаўшы воем,
І абаронцам нашым стаў даўно!
<u>Бірута:</u>
Ты не сярдуй!
Дарослым стаў ён – знаю,
Але для маці ён дзіця нібы… *(цалуе Кейстута)*
Дабранач, любы!
Я цябе чакаю –
І днём і ноччу,
І ў час любы!
*(Бірута выходзіць, Кейстут застаецца адзін)*
<u>Кейстут</u>
Смыліць душа і сэрца боль крывавіць –
У агні гарыць. Палае родны кут.
Дарэмна я Біруту не адправіў
У мейсца больш бяспечнае, чым тут.
Шалее свет. Баяры чыняць змовы,
Няма любві і згоды між радні.

Ці вытрымаюць сцены  і засовы
Напору іх,
Пажаднасці, хлусні?
Яшчэ крыжацкі меч навіс над намі…
Нібыта згаладнелыя ваўкі,
На часткі рвуць – дзе сілай, дзе дарамі, –
Разлад і лютасць сеюць крыжакі.
Ды і арда татарская не дрэмле,
Чакае дні, калі аслабне край.
На волю, мабыць, адпусціў дарэмна
Ягайлу я…
Ды помста і адчай
Ці здольныя прынесці мір і згоду
І мне самому, і майму народу? *(заходзіць Вітаўт)*
<u>Кейстут</u>
Вітаю, сын!
Якія весткі мне
Прынёс з сабою – добрыя, благія?
Ці міру – быць?
Ці, можа – быць вайне?
<u>Вітаўт:</u>
І добрыя для нас ўсіх, і тыя,
Каторыя пачуць бы не хацеў:
Масква на вечны мір дала нам згоду.
І паклялася, што забудзе гнеў
І будзе нам дапамагаць заўсёды!
<u>Кейстут</u>
Усцешаны!
<u>Вітаўт:</u>
Яшчэ таму я тут,
Што пад крыжацкай хітрасцю і сілай,
Князь Ноўгарадскі Дзмітрый  Карыбут
І Навагрудскі стараста Вайдыла –
Рыхтуюць здраду – і табе, і мне!
Казалі: нас атруцяць, ці задушаць.
Хай гэтая бядота нас міне!
Хай светлы Зніч ўратуе нашы душы!
Пакуль у нашых сэрцах не патух

Агонь жыцця, не знішчылі марозы
Пасевы, іх  зламаць бунтарскі Дух
І іх хрыбет зламаць, пакуль не позна.
<u>Кейстут</u>
Выходзіць, што  жадаюць крыжакі
Заваяваць нас, нашымі ж рукамі.
Не быць  таму!
На вісельню такіх! *(звяртаецца да Вітаўта)*
Ягайла дзе?
<u>Вітаўт:</u>
Ягайла – з крыжакамі!
Дзе  ж быць яму!
<u>Кейстут</u>
Паскуда!
Тхор нікчэмны, і пусты!
Няма,
Ды і не будзе нам спакою…
Дзе твае воі?
Збірай іх у шыхты!
<u>Вітаўт:</u>
Збірайся, любы бацька!
Я – з табою!
<u>Кейстут</u>
Дзе крумкачы пад дахам гнёзды ўюць,
Не будзе міру ў той  крыклівай хаце.
*(звяртаецца да Вітаўта)*
Ужо на пляцы  воі збор пяюць.
Ці не жадаеш ты пабачыць маці?
*(загадвае стражніку паклікаць Біруту, Уваходзіць князёўна, абнімае і цалуе сына)*
<u>Бірута:</u>
Якім дарослым стаў, мой  сынку мілы!
Як памужнеў!
Як  вырас ты, сынок!
Мужчынам стаў!
І рукі, нібы крылы,
І позірк, як у бацькі!
Цвёрды крок!

Такі ж – высокі.
І такі ж – прыгожы *(плача)*
<u>Вітаўт:</u>
Не плач, матуля!
Знаю напярод:
Мы – пераможам!
<u>Кейстут</u>
Пераможам!
У літаўры біце – воі!
У – паход!

Кейстут і Вітаўт са сваімі харугвамі пакідаюць Вільню і накіроўваающца ў Ноўгарад-Северскае княства для падаўлення бунту і барацьбы з крыжакамі. У гэты час, у пакінутай без прыгляду Вільні, падкупленая Ягайлам Віленская знаць захоплівае вялікакняжацкі замак і адчыняе вароты Ягайлу з крыжакамі.

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Вялікакняжы замак у Вільні

<u>Ягайла:</u>
Я зноўку дома.
Думаў, не пабачу
Ужо ніколі гэты двор і сад,
Бы дні маленства, незваротна страчу –
Сябе, вялікакняжы свой пасад,
Што імем продкаў і па Божай волі
Мне ўручаны…
Яго я зберагу!
Дарэмна думаў Кейстут, што ніколі
Я віленскія землі не змагу
Вярнуць.
Паверыў ён дарэмна,
Што кожны пакладзе за край жывот.
У каго ёсць болей золата і срэбра,
Таму і будзе слугаваць народ.

Усе маюць кошт свой, – хто мядзяк, хто злоты.
Вільняне ўчора з Кейстутам былі,
А сёння адчынілі мне вароты
І замак захапіць дапамаглі.
*(уваходзіць усхваляваны Скіргайла)*
Скіргайла:
Вялікі княжа, я цябе вітаю!
Ягайла:
Якую мне прынёс ты навіну?
Скіргайла:
Харугвы Кейстут з Вітаўтам вяртаюць
Да Вільні. Лютай сечы – не мінуць!
Ці іх вяртанне – помсты не абудзіць,
Не ўсхвалюе кожны двор і дом?
Ягайла:
А можа, гэтай сечы і не будзе.
Абыдзецца ўсё – мірам і дабром?!..
Скіргайла:
Не, Кейстут не даруе нашай здрады!
Ягайла:
Якое здрады?
Здрады не было!
Мы проста зберагчы яму ўладу
Дапамаглі і пакаралі зло.
Не мы, а гэта чэлядзь і баяры
Збіраліся ў Вільні ўчыніць
Разбоі і страшэнныя пажары…
Мы не далі ім…
Нас за што вініць?
Што ў міры жыць нам трэба – кожны скажа.
Не прынясе варожасць нам і злосць
Спакою…
А пасад вялікакняжы
Ягоным – быў,
Ягоным ён і ёсць.
Наш доўг – яму служыць і шырыць межы…
Скіргайла:
А ці паверыць ён табе і мне?

Ягайла:
А гэта толькі ад цябе залежыць,
Ці нам паверыць Кейстут, а ці не!
І дзень і ноч у іхнім будзь абозе.
І не шкадуй – ні клятваў, ні віна…
Як атрымаеш згоду, па дарозе
Іх затрымай!
Скіргайла: *(разгублена)*
Як?
Ягайла:
Каб жа гэта знаць!
Усё ў Божай волі – смерць, выпрабаванне…
Скіргайла:
Мне іх забіць?
Ягайла:
У Крэве да пары
Схавай…
Глядзіш – а там кагосьці з іх не стане
*(Скіргайла пазірае разгублена)*
Ды Кейстута найперш, бо ён стары!
Усё зразумеў?
І каб ніхто дакор
І нам віну за смерць яго не ўзводзіў,
Усім абвясціць: “Вялікі князь памёр
Па старасці…
Раптоўна…
У паходзе!
Скіргайла:
Як з Вітаўтам, мой княжа, паступіць?
Ягайла:
Няхай жыве!
Ахвяр не трэба болей!
Калі ў змрочных лёхах пасядзіць,
Дык хутка ён маёй скарыцца волі.
Дзве смерці – ні баярства, ні народ
Не зразумеюць, хоць і выпадковых…
Цяпер – ідзі!
І ніякіх прыгод!

Твой лёс і мой –  хай вырашае слова!
*(Скіргайла выходзіць. Ягайла застаецца адзін)*
Ягайла:
Няма вяртання ўжо назад.
У адну не ступіш двойчы рэку:
У жыццё, дзе кожны – брату брат.
А прыглядзецца – кату кат,
Што вытварае гвалт і здзекі.
Былых надзей і светлых мар
Даўно мінулі летуценні.
Ні здрады, ні маны пажар
Не пагасіць ні на імгненне.
І не вярнуцца той вясне,
Дзе луг і сад заўжды квітнеюць.
Каб адалець бяду і гнеў –
Рваць трэба жылы, ці мяне
У жыцці мацнейшы адалее.
І нават у амбары мыш
Усеársткі абмінуць умее.
Калі не схлусіш, не зманіш,
Тады не выжывеш – скалееш.
Жыццё ў вечнай барацьбе,
Нібыта ў горне меч, куецца.
Не пашкадуе тут цябе
Ніхто, а толькі пасмяецца.
З тваіх нягегласцей,турбот,
З тваіх зыглівасцей  няўдалых.
Так праміне за годам год
І знікне, быццам не бывала.
І каб сваёй дабіцца мэты –
Забудзь на жаласнасць і боль.
Ідзі праз сцюжу, холад, золь
І смелым, моцным будзь пры гэтым!
Усё часова на зямлі,
Пачатак і канец свой мае… *(заходзіць стражнік)*
Стражнік:
Мой княжа, да цябе прыйшлі!

Ягайла:
Адкуль?
Стражнік:
Казалі – з Польшчы,
Што жадаюць
Пагаварыць з табою!
Ягайла:
Дык – заві! *(стражнік выходзіць)*
Сам уладар – Пярун ідзе за мною,
Стаміўся жыць між тлуму і крыві… *(заходзяць паслы)*
Ягайла:
Вітаю вас, шаноўныя панове!
Якая вас патрэба прывяла?
Япіскап Андрэй:
Пра гэта ў адным не скажаш слове…
Ягайла:
Ну, дык сядайце госці, да стала!
*(звяртаецца да воя-ахоўніка)*
Хутчэй, скажы, каб падавалі стравы!
*(вой ідзе выконваць загад)*
Відаць, з дарогі голад страўнік з'еў,
Няблізкім шлях быў ваш…
Япіскап Андрэй:
Ажно з Варшавы…
Ніхто пакуль памерці не паспеў.
Ягайла:
А мог бы?
Япіскап Андрэй:
Усё ў руках і волі Божай.
Ніхто яго суда не абміне.
Ён – і карае, ён – і дапаможа…
Ягайла:
І мне таксама?
Япіскап Андрэй:
І табе, і мне!
Ён вернікаў сваіх – навек праславіць.
Сасмяглага – напоіць ён дажджом…
Але, дазволь мне, княжа, тых прадставіць,

Хто завітаў у твой гасцёўны дом.
Пачну з сябе: “Адвечны раб Хрыстовы
Япіскап  Гнезненскі – Андрэй.
Пан – Янэк, мае выгляд хоць суровы,
Але пачцівей пана пры дварэ
Людовіка не знойдзецца, напэўна…
Любімец каралевы Польскай – Стась.
Парой бывае жорсткі ён і гнеўны…
Гнеў – не загана…
Так, вялікі князь?
Ягайла:
Магчыма – так!
Спрачацца  не хачу я,
Што лепей – дабрачыннасць ці юдоль.
Япіскап Андрэй:
Так – Бог суддзя.
Усё бачыць ён і чуе…
*(звяртаецца да Ягайлы)*
Мы дзякуем табе – за хлеб і соль.
Не дзеля гучных слоў і смачнай ежы
Мы завіталі, княжа, да цябе.
І не сабе мы – Госпаду належым.
І ведаем – нямала  розных бед
Ваш зведаў край,
І польскі люд таксама…
Нялёгкі час…
Ягайла:
Час змрочны і цяжкі.
Япіскап Андрэй:
А ўсё таму –
Забылі шлях да храма.
Мор. Голад. І лютуюць крыжакі.
Паўсюль, нібыта воўчая навала,
На продых ні хвіліны не даюць…
Нядаўна, вось, Людовіка не стала –
Памёр кароль…
Хто вотчыну маю
Ды і тваю ад зграі абароніць?

Нам паасобку д’ябла не змагчы,
У небыццё хаўтурны вецер гоніць
Наш карабель, між мораку начы.
Наш люты вораг рады так старацца
Нас пасварыць, паўсюль лютуе ён.
А што калі нам разам аб’яднацца –
Літве і Польшчы…
І адзін закон,
І ўладу каралеўскую ўвесці,
Змагацца побач з гэтым чорным злом,
Навісла што над Польшчай, над Бярэсцем...
*(звяртаецца да Ягайлы)*
Ці станеш, княжа, нашым каралём?
Ягайла:
Я згодны!
Падпішу я ўсе паперы!
Япіскап Андрэй:
Мы ўсцешаны без меры.
Яшчэ скажу табе, як брату брат.
Павінен каталіцкую ты веру
Прыняць –
І ты…
І княжы твой пасад.
Чакай ганцоў!
За гэты час павінны,
Хоць часу, як заўсёды, не стае,
Дазвол ад каралевы Катарыны
На шлюб з Ядвігай – дочкаю яе,
Як нам ні цяжка будзе, дамагчыся…
Ды з Божай дапамогай, веру я,
Што хутка станеш мужам ты Ядвісі,
І хутка мара здзейсніцца твая, –
Стаць каралём і верным служкай Бога,
Уладыкаю і Польшчы, і Літвы.
А мы табе акажам дапамогу.
Ты – наш…
Ягайла:
Будзем разам – я і вы!

Япіскап Андрэй:
Бывай, кароль!
А нам пара вяртацца.
Час не чакае.
Ворагі не спяць…*(выходзяць, Ягайла застаецца адзін)*
Ягайла:
Прыснілася?
Такія сны не сняцца!
Што будзе заўтра,
Каб жа гэта знаць?
Не ведае ніхто, як лёсы ўюцца,
І ў які нас прывядуць куток?
Але Скіргайлу час ужо вярнуцца. (*заходзіць Скіргайла)*
Скіргайла:
Вітаю, брат!
Ягайла:
І я цябе, браток!
Ты нешта ўсхваляваны?
Мо дарогу
Вуж перапоўз табе, а ці змяя?
Скіргайла:
Жывы!
Ды і здаровы!
Хоць і многа
Сцярпеў і зведаў
У час вандроўкі я…
Ягайла: *(перабівае)*
Што з Кейстутам?
Скіргайла:
Загінуў смерцю лютай…
Я думаў, што вяроўку разарве.
А жонку яго, любую Біруту,
У рове ўтапілі – не ўсплыве.
Ягайла:
Смуткую…
Ці не самым лепшым князем
І ваяром быў Кейстут між радні?

Скіргайла:
І лепшы князь,
І самы лепшы вязень…
Ягайла:
А Вітаўт як?
Скіргайла:
А Вітаўт – недзе знік!
Ягайла:
Ён зданню стаў?
Ці можа дух ягоны
Блукае ваўкалакам па зямлі?
Скіргайла:
Сцвярджаюць,
Што пазбавіцца палону
Яму служанка з жонкай памаглі.
Ягайла:
Служанка з жонкай у склепе быць павінны!
Скіргайла:
Ты сам не даў мне згоды на палон…
Зайшлі ў цямніцу, кажуць, дзве жанчыны,
І выйшлі дзве…
Адною быў з іх – ён!
Ягайла:
Ты – звар'яцеў,
Ці гэта проста жарты?
А можа дзіцянееш пакрысе?
Скажы мне лепш,
Што падкупіў ён варту,
Прадажныя...
Прадажныя вы ўсе! *(б'е па твары)*
Чаго стаіш?
Хутчэй сядлайце коней,
Пакуль не змог ён раць сваю сабраць.
Па ўсіх шляхах паслаць за ім пагоню,
І дзе б ні быў – знайсці і затрымаць!
*(Скіргайла выходзіць. За ім выходзіць і Ягайла)*

[працяг у наступным нумары – *рэд.*]

У 2017 годзе спаўняецца

# 60 гадоў ЮРЫЮ БАЕНЕ

Аўтару паэтычных кніг:

*Лісты блакітных успамінаў*, 1991
*Вечар над светам,* 1998
*Крык дзікай ружы,* 2003
*Пад нашым небам*, 2007
*Бераг надзеі,* 2009
*Шкатулка святла*, 2013
*Вочы зялёнай душы*, 2016



"Белавежцы" шчыра віншуюць Юбіляра
і зычаць яму далейшага жыццёвага і творчага плёну

**Дзмітрый ШАТЫЛОВІЧ**

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Маю беларускую мову
Пазнаў я, як быў юнаком –
Як гукі прыгожай дубровы,
Як плёскат вады над ракой.

Той мовай я быў ачарован,
Яна ў маім сэрцы жыла,
Па свеце яна, быццам човен,
Усюды за мною плыла.

Я зжыўся з той мовай навекі:
Калісь – юнаком маладым,
Цярпеў з ёй фашыстскія здзекі
Праз два на чужыне гады.

На ёй у шпіталі ваенным
На ложку паблізу акон
Алоўкам з павагай каменнай
Пісаў свае вершы пра фронт.

Пасля я гуляў з ёй па свеце,
І ў гуках моў розных другіх,
З'яўлялася многа ў газетах
На мове той вершаў маіх.

Хоць некалькі іншых моў знаю,
Адну я пры сэрцы нашу,
Сваю дарагой называю
І з ёю жыццё дажыву.

# КАЛІСЬ НА ПЕРОНЕ ВАКЗАЛА

Калісь на пероне вакзала
У тлуме людзей незнаёмых
Яна мяне зразу пазнала
І падышла пакрыёму.

І даткнуўшы пляча рукою,
Паціху мяне запытала,
Ці нашы сустрэчы зімою
Я помню ў ваенным шпіталі.

Прыпомніў я ўміг час ваенны,
Яе, санітарку ў шпіталі,
Сустрэчы мае з ёй штодзённа,
І ўсе пацалункі пры зале.

Калі зажыла мая рана,
Зрабілі й мяне санітарам –
Дзяжурылі ноччу і ўранак
Мы разам з ёю пры нарах.

Затым нас ізноў раздзялілі:
Павезлі мяне да Берліна,
Яе дзесь на ўсход пад Чукотку,
І слых пра яе як бы згінуў...

Сустрэла мяне на пероне,
З’явілася бы на ратунак.
І потым у спальным вагоне
Апошні наш быў пацалунак.

І доўга яшчэ паміж намі
Кружылі лісты, бы ў завеі...
Час знішчыў, як хвалі цунамі,
Ваенныя нашы трафеі.

**Аксана ДАНІЛЬЧЫК**

# ШЭСЦЬ ГІСТОРЫЙ

## гісторыя пра кітайскага студэнта

у цэлым гэта быў даволі нярвовы дзень я хвалявалася ад самай раніцы і разам з машынай ледзь не трапіла пад грузавік але мая машына сказала “нас не дагоніш” і так пабегла што грузавік і сапраўды нас ужо не дагнаў

і дзякуй Богу бо на гэтым гісторыя магла б скончыцца ўвогуле не пачаўшыся

пасля машына мая сказала: ідзі ты нагамі а я цябе пачакаю таму на ў некаторым сэнсе дзяржаўна-важнае мерапрыемства я і пайшла пешкі

не тое каб я чагосьці баялася але неяк няўтульна мне было

і пайшла я праз мост а насустрач мне кітаец ідзе і спявае

прыслухалася я і пачула оду да радасці

неба на тое яно і неба каб пасылаць нам добрыя звесткі я зразумела што баяцца няма чаго і мне захацелася спяваць разам з кітайцам

добра што па вуліцы Багдановіча ходзяць кітайскія студэнты і спяваюць зусім не кітайскія песні

а то іначай што б я зразумела

## гісторыя пра супэрмэна

быў такі перыяд архіў-праца-архіў і ўсё бягом ды бягом і так блізка здаецца але пакуль прабяжышся то і сілы ўсе патраціш вось былі б крылы я б лётала туды-сюды

а так я толькі па лесвіцы лётаю туды-сюды зверху ўніз знізу ўверх

дык вось лячу я так зверху ўніз па лесвіцы а насустрэч мне супэрмэн

валасы ў яго цёмныя майка сіняя супэрмэнская а правая рука ў гіпсе

я гляджу на яго і пачынаю спачуваць што маўляў палёт не задаўся

а ён глядзіць і ўсміхаецца ну не задаўся, халера

і я ўсміхаюся а потым узлятаю над Нямігай над мостам над Петрапаўлаўскай царквой ажно да самай вуліцы Ракаўскай і так мне файна ляцець быццам усё жыццё я толькі гэта і раблю

а супэрмэн памахаў мне незламанай рукой і стаў падымацца па прыступках

пакуль яшчэ тая, другая, зажыве

## гісторыя пра зялёныя пазногці

купіла я неяк зялёны лак і пафарбавала ім пазногці сяджу сабе ды радуюся што праца ў мяне сёння выключна ў канторы і ехаць нікуды не трэба

дык вось гляджу я так на свае зялёныя пазногці, ажно раптам выклікаюць мяне і ка-жуць едзь з начальствам

што зробіш трэба ехаць а часу на тое каб пазногці перафарбаваць ужо няма

паглядзела начальства на мае пазногці і спыталася а чаму зялёныя

а я спыталася ў якім сэнсе

а начальства адказала чаму не чырвоныя а потым пачало само сабе разважаць чырвоныя азначаюць каханне, зялёны азначае надзею, то зялёныя пазногці азначаюць надзею на каханне

чырвонага ў мяне няма адказала я а потым спыталася а блакітны што азначае у мяне яшчэ блакітны ёсць

спакой напэўна адказала начальства

каціласся нашая машына па горадзе М. а я ўсё думала а чаму ж такі ў мяне няма чырвонага лаку для пазногцяў

## гісторыя пра бабульку з "Беламорам"

перасялілася я ў новы дом ну не тое што новы дом стары але для мяне новы хоць і жывуць у ім у асноўным пенсіянеры

жанчына я ветлівая з суседзямі вітацца стараюся хоць і не ўсе адказваюць

і заўважыла я што ля суседняга пад'езда часцяком сядзіць на лавачцы бабулька п'е каву і паліць "Беламор"

ці часта вы бачыце што ў нас бабулькі паляць ды яшчэ на вуліцы ды "Беламор" я дык упершыню

і стала я думаць, а дзе ж гэтая бабулька навучылася паліць "Беламор" можа яна ў маладосці была яшчэ тая авантурыстка і трапіла ў мясціны не надта аддаленыя а можа яна з рэпрэсаваных а можа змагалася на фронце і захавала звычку да "Беламора" на ўсё жыццё

так хаджу я і ўсё пра гэта думаю але не

магу ж падыйсці і спытацца хоць іншым разам мне і хочацца папаліць разам з ёю

выходжу я раніцай восьмага сакавіка на працу а мая бабулька ўжо п’е сабе каву ля пад’езду і “Беламор” паліць

яна мне са святам здароўя там кахання і я ёй са святам і вам таго ж

хто ведае можа гэта і ёсць так званая жаночая салідарнасць

**гісторыя пра анёла**

снег усё сыпаў да сыпаў, а яго усё не чысцілі і не чысцілі

пастаяла мая машына некалькі дзён і засумавала, і я без яе засумавала хоць кожны божы дзень яе з-пад снегу выкопвала

і вырашыла я нарэшце паехаць бо колькі ж можна без машыны

з месца мы скрануліся а далей забуксавалі бо дарога зусім не прыбраная

выйшла я з машыны ў лакірках узяла шуфель думаю што рабіць буду сама дарогу чысціць і раптам бачу ідзе па дарозе проста да мяне чалавек у будаўнічай спецоўцы і гаворыць

не трэба вам шуфель вы і так выедзеце

падказаў мне як на счапленне націскаць як на газ падштурхнуў ззаду і я паехала

падзякавала я яму аварыйкай выехала на шырокую дарогу і зразумела што быў гэта не хто іншы як анёл божы бо адкуль пасярод пустой зімовай дарогі чалавеку ўзяцца

і радасна мне стала што не адна я ў гэтым свеце і што анёлы іншым разам з'яўляюцца ў самым нечаканым выглядзе

## гісторыя пра дзяўчынку на арэлях

вось і прыйшла вясна і гарачыня з ёю нечуваная хмары час ад часу праплываюць панад даляглядам і бліскаўкі недзе бліскаюць але каб сапраўдны дождж пайшоў то не на нашай вуліцы ён чамусьці не ідзе

выходжу я на двор вечарэе двор пусты усе разышліся па хатах дажджу чакаць а паветра і праўда дажджом поўніцца і бэзам а ён у нас усіх колераў але белы самы прыгожы

праходжу я праз двор настрой у мяне паганы бо жыццё здаецца бессэнсоўным а дзе той сэнс узяць я не тое што не ведаю але хочацца як снайпер патрапіць дакладна

і чую я раптам песню ў пустым двары а гэта дзяўчынка гайдаецца на арэлях размахвае рукамі і спявае пра горад мары ў які яна павінна вярнуцца

і так усё гэта было кінематаграфічна што спынілася я і стала слухаць а калі яна скончыла то пapляскала ёй а яна сказала дзякуй

і падумала я што двор у нас нейкі таямнічы і жывуць у ім незвычайныя людзі і што ўсё гэта невыпадкова

а навальніца-такі грымнула і маланка так асвятляла наваколле быццам гэта былі пробліскі геніяльнасці што час ад часу надараюцца ў гэтым свеце




Μαρια Σταματη, *Δοηικά.* 2015, (Грэцыя)

**Ян ЧЫКВІН**

# ВЯСЕЛЛЕ

Вясковыя жанчыны ўжо пару добрых месяцаў гаварылі паміж сабою пра тое, што восенню Яначкавыя збіраюцца жаніць свайго адзінага сына, Васіля. Людзі ведалі, што хлопец ён неблагі, працалюбны. Няраз бачылі, як касіў з бацькам на дзве касы на лузе высокую траву, потым сам сушыў яе і вазіў у клуню, як вывозіў калі-нікалі гной, араў, капаў бульбу і валачыў цяжкія кашы ды перасыпаў іх у вялізныя мяшкі, а потым і мяшкі клаў з бацькам на доўгі воз.

Кабеты крыху шкадавалі, што Васіль быў мізэрны, хударлявы, як бы цалкам пайшоў у бацьку, і ў свае дзевятнаццаць гадоў выглядаў падлеткам. Нічога, што ад вайны, як трапіла асколкам, прыкульгваў на правую нагу. Аднак усе маглі бачыць, як бурліла ў ім жывая сіла жыцця. Васіль меў добры голас, любіў спяваць і танцаваць, прападаў за маладухамі. Вечарам, бывала, выйдзе на вуліцу і слухае-наслухоўвае, дзе, у якім сяле гучаць музыка ды спевы. Тут жа склікаў кампанію дружкоў, хлопцы сядалі на ровары і ехалі ў зорны вечар пагуляць пад адкрытым небам сваёй маладосці.

І ў іхнюю вёску прыязджала моладзь з наваколля – часам парамі, у светлых кашулях юнакі са сваімі каляровымі дзяўчаткамі-нявестамі. Нашы вольныя хлопцы, убачыўшы тых заручаных, пачыналі на пляцоўцы хадзіць козырам. Музыканты падгарталі жару, і зрэдку пачыналіся бойкі. У адзін такі выезд Васіль і пазнаёміўся з Маняй з Істока, басаногай жамчужынкай. Адкуль і чаму яна так прыпала да яго, Васіль і падумаць не падумаў. З таго вечара ён не мог забыць няведамага яму дагэтуль цяпла вёрткага, рухлівага ў ягоных руках цела танцоркі і сваёй трымклівасці ад неспадзеўных шчодрых дотыкаў яе грудзей.

На другі ці трэці дзень пасля той першай іхняй сустрэчы дзяўчына сама прыбегла, босая, да Васіля. Разгубленай на парозе хаты Аўдосі ў першы момант паказалася, што падзіцячаму шчаслівымі вачыма глядзіць на яе іхняя Надзейка. Нямецкі солтыс, пракляты людзьмі Саўка, прычапіўся да іх і адправіў дзяўчо на прымусовыя работы. Яшчэ не вярнулася яе крывіначка ад тых германцаў. А хлопец так узрушыўся гэтакай ранняй нечаканасцю, што пры бацьках пачаў цалаваць Маню ў губы, нос, вочы, абцалоўваў яе галаву, шыю. Маці там жа і сказала ўслых:

– Сына жаніць трэба, Іваначку!

І каб маглі яны набыцца адно з другім, адпусцілі іх разам, будзем моў як-небудзь самі спраўляцца сёння на гаспадарцы. І Васіль павёў Маню на рэчку пакупацца ды проста паляжаць на траве, нічога не робячы, як у нядзельку або ў якое вялікае свята.

На другі дзень і Васіль не вытрымаў, надзеў свежую кашулю і, бачачы ў вачах маці лагоду, пабег напрасткі праз знаёмыя пакошаныя лугі да шырокай пясчанай дарогі. Там, за непрацярэбленай гушчэвінай сасняку ды чужым ужо полем, жыла Манечка.

Адны людзі між сабою гаварылі пра іх, што такое чыстае шчасце даецца маўляў аднаму на ўсю вёску – каб ані дня не маглі жыць адно без другога. Такога на іх памяці яшчэ не было. Іншыя жанчыны ківалі галавою, як бы шкадуючы Васіля, як бы разумеючы, што ў такім полымі згараць яны абое без часу. От, казалі, трапілася дзеўка, прываражыла чужаніца нашага кавалера. А можа да таго даведалася, што ў ягоных бацькоў колькі гектараў адной толькі ворнай зямлі, а яшчэ ж Яначка першы шавец ва ўсёй акрузе – адусюль, гляньце, ідуць ды едуць да яго з просьбамі.

А сонца ўзыходзіла ды заходзіла. Дні стаялі яшчэ палетняму расхістана цёплыя. Аднак па белых аблачынах на ўсё яшчэ высокім небе ды апусцелых і ўчарнелых доўгіх палетках сенажацяў, вытаптаных і парэзаных коламі вазоў, бачна было, як з чатырох бакоў свету цягнецца сюды са сваім табарам восень.

Зладзіць вяселле задумалі Яначкавыя не на паказ, але ж і не скупячыся на непазбежныя выдаткі – толькі ж адно дзіця жэніцца. Вернецца Надзейка, угаворвалі сябе, збярэмся і яе добра выдамо замуж. Надоечы пасватаўшыся, цяпер ездзілі сын з бацькам па бліжэйшых вёсках запрашаць блізкіх крэўных, дваюрадных ды траюрадных сваякоў. Пазвалі на вяселле некалькі добрых людзей, сваіх сяльчан, а таксама праз плот суседзяў.

У вёсцы Мікалая ўсе ведалі як рабацягу і добрага чалавека – пакуль не выпіў. Але ж як не запрасіць такога, калі ён зроднены з Аўдосяй. Сусед паабяцаў, што з пустымі рукамі не прыйдзе, пашле старэйшых сваіх дзецюкоў налавіць рыбы – будзе смакаты на ўсе сталы, для маладых і гасцей.

У суботу раніцай Мікалаевы гадунцы, Грыша і Ванік, маладзейшы на год за брата, узброеныя вялікім кошыкам ды дзвюма торбамі, у якіх яны часам насілі ў школу свае абшарпаныя першыя кніжачкі і пару сшыткаў, пайшлі з яшчэ двума сябрукамі ўздоўж могілак лясной сцяжынаю на раку, якую добра ведалі – што ў ёй водзіцца рыба, што месцамі яе вада плыве вірамі і хто таго не знае, можа ўваліцца ў глыбокую вадаяміну.

Злёгку ўжо прыгравала сонца, дзень па праўдзе толькі пачынаўся. Пажвавелі, убачыўшы, што над ракою, як вокам кінуць, ні жывога духа. Рыба яшчэ на месцы, не перапуджана. Сябрукі пападалі на траву адпачыць. Адышоўшы ад іх, ведаючы, што прыйшлі яны сюды толькі паляжаць, Грыша і Ванік знайшлі нарэшце плыткае месца, раздзеліся і ўвайшлі па калені ў яшчэ халаднаватую, струменістую вадзіцу.

Дзве-тры хвіліны пастаялі нерухома, ахопленыя блізкай цішынёю зялёна-сіняга існавання. У манатонным бурбатанні цячэння перад імі пляснула хвастом па люстры вады рыбіна. Амаль ля самых ног паволі праплыла чародка плотачак. На адно імгненне з’явіўся велікаваты шчупачок і, пастаяўшы момант на асветленай глыбінцы, імклівым зігзагам схаваўся ў ценю навіслага над вадою берага.

Ванік, як малады бусел, падымаючы высока ногі, ціха пайшоў паглядзець, куды падзеўся той касяк плотак. Смажаныя, яны ж вельмі смачныя. Аднак голымі рукамі рэдка

калі ўдавалася іх злавіць. Прыгаршчамі бралі толькі тады, калі старэйшыя перакрывалі цячэнне малой рэчкі плацінкай – і тады з невялікіх ямін вада не адплывала, а рыба ў іх заставалася і адтуль выцягвалі рукамі, бывала, і большую жывую рыбу.

Ванік бачыў, як брат пайшоў з кошыкам, здаецца, за тым шчупачком, што схаваўся ад яго недалёка. Не можа ж рыба ўцячы, пакінуць сваё месца нажывы. Падышоўшы ціхенька да берага, Грыша наставіў кошык і некалькі разоў таўкнуў нагою ў мулістую ягоную сценку. І пачаў асцярожна вымаць сваё рыбацкае абсталяванне. У кошыку пружыніліся і скакалі два шчупакі – адзін вялікаваты, другі меншы. Па адным Грыша шпурнуў іх на бераг. Выскачыўшы з вады, Ванік ускрыкнуў ад радасці, аднак з ракі, з-пад берага, брат сыкнуў на яго, каб маўчаў, не тупаў на беразе, не пужаў рыбы – яна моў усё чуе. Прыказаў і тым дваім, што схапіліся і прыбеглі паглядзець першы ўлоў, каб не тапталіся ды не гагаталі. І сам зноў схаваў кошык пад ваду.

Грыша хадзіў, кругляючы, па адным невялікім месцы. Ставіў кошык так і гэтак, муліў перад ім і з яго бакоў ваду, цягнуў яго сярэдзінай, уздоўж і ўпоперак цячэння. Аднак торба запаўнялася рачной драбнатою – серабрыстай плоткаю і ракамі і толькі раз выцягнуў з кошыка тры мянёчкі.

Выйшаўшы на бераг, ён, як бы ў сваё апраўданне, сказаў прыглушаным голасам ні то сабе, ні то брату:

– Большая пайшла на глыбіню, схавалася. Палезу... не вяртацца ж з пустымі рукамі.

Ванік глядзеў на брата моўчкі. Пабыўшы на сонцы столькі часу, яму хацелася піць. Думаў, што Грыша таксама засмяглы – і махне рукою і яны пойдуць дахаты. Аднак брат зноў саскочыў з берага, у тое месца, дзе лавіў і дзе вады было яму па пояс – і пайшоў далей, пакуль не схаваўся з галавою. Праз колькі хвілін вынырнуў пры самым беразе і, аддыхваючыся, схапіўшыся адной рукою за доўгую грыву дзярніны, другой выкінуў на бераг трэцяга шчупака.

Ванік пабег шукаць яго ў густой, шчацiністай, даўно някошанай траве. Шчупачыска цяжка ляжаў на баку і бязгучна адкрываў свой рот, прагна глытаючы не тое, што яму трэба

было для жыцця. Ён быў на лузе такі бездапаможны! І такі прыгажун! У адно імгненне Ванік пашкадаваў яго: каб брат кінуў яго не так далёка ад ракі, сказаў бы, што з рук выслізгнуўся... Узяў дзвюма рукамі, асцярожна, не спяшаючыся занёс і паклаў бязвольнага ў другую торбу. І зіркнуў на ваду. Паўзіраўся. На ёй стаяла шапатлівая гладзь і цішыня вады. Раптоўна схапіўся на ногі, падбег туды, дзе бачыў Грышу, вярнуўся ўздоўж ракі, зноў пабег на месца, адкуль ён выкінуў шчупака. І закрычаў што моцы, нахіліўшыся над самай вадою, у яе прадонне:

– Гры-ы-ыша!..Гры-ы-ыша!..

І бегам кінуўся туды, дзе ляжалі торбы, схапіў іх, вярнуўся зноў да таго месца, дзе апошні раз бачыў Грышу, і, зноў голасна клічучы брата, стаў карміць ненажэрную глухую раку паснулай рыбаю.

Прыбеглі паўсонныя сябрукі. Уцяміўшы, што сталася, з крыкам і віскам кінуліся на злом галавы, напрасткі дахаты. У вялікай пустэчы суботняга полудня, усё клічучы брата, Ванік хадзіў сюды-туды, не ведаючы, што яму рабіць. І плакаў наўзрыд.

На той ягоны роспачны крык з суседняй вёскі прыбегла трое дарослых хлопцаў. І доўгім басаком намацалі пад берагам тапельца. Пакуль прыехаў на падводзе Мікалай, падлетка вынеслі з ракі, прабавалі адкачаць, вылілі ваду. І цяпер ён з шырока раскінутымі рукамі ляжаў тут адзін, на ўвесь свет, такі адпачыты, бесклапотны. І не дыхаў.

Даведаўшыся, што сталася ў суседа, захліснулася плачам Аўдося, залямантаваў Яначка:

– Ах, Божачкі мой, нашто мне тая рыба?! – загаласіў ён. – Каб ведаў!.. Каб жа я ведаў – не згадзіўся б, не запрашаў бы... Божа, Божа міласэрны! Нашто нам тая рыба, нашто?! Заўтра хаваць будуць! І заўтра ж вянчанне... Госпадзі Усявышні, злітуйся!.. А каго першага?.. Каб не разам у царкве...

Вырашылі пайсці да бацюшкі даведацца, што і як, прасіць на каленах. Вярнуліся маці з сынам хутка і з нічым. Святар з парога да іх: "Ведаю пра няшчасце, але... Перад Госпадам нашым усе мы роўныя. Каяцца трэба... Царква прымае тых і тых..."

Пасядзелі, гледзячы адно на другое, шукаючы ратунку. Яначка не вытрымаў дакорлівага позірку хатніх і пайшоў да Мікалая. З родным братам у расчыненых дзвярах клуні яны габлявалі дошкі. Ён падышоў да іх і, не прывітаўшыся, стаяў моўчкі, глытаючы раз-пораз камякі, што падкатваліся да горла.

Тыя заўзята шоргалі гэблямі, пахіленыя, не падымаючы галавы. Толькі ў кароткім перапынку на перадышку першы азваўся Мікалай:

– Каму радасць, каму гора... От так! – пачаў і запнуўся.

Яму, напэўна, хацелася выказацца, можа, выплакацца па-мужчынску, можа нават вылаяцца. Яначка бачыў тое, адчуваў скураю і таму маўчаў, баючыся нейкім сваім непатрэбным тут словам параніць бацьку, скалануць хаду яго ўнутраных перажыванняў, пякучых мучэнняў і згрызот. І ўсё стоячы на адным месцы, даведаўся, што Грышку ягонага злавіла карэнне – і не адпусціла, і часу было замала выняць нагу, і ён захлынуўся. “Так сказалі тыя, што вымалі адтуль майго... Не змог усплыць наверх, не змог... падыхаць”.

Зноў запалі ў мёртвае маўчанне, перажываючы, мусіць, кожны па-свойму безабароннасць чалавечую перад прыродай і – як мала трэба было, якіх усяго дзве-тры яшчэ кароценькіх хвіліны, каб застацца ў жывых.

– Зараз памерым, парэжам, – загаварыў ужо іншым тонам Мікалай, як бы даючы зразумець, што ўсё, што на гэты час можна было сказаць, сказалася, – і будзем збіваць труну. А што рабіць?!

І тым разам нічога не сказаўшы, Яначка пастаяў пры іх яшчэ крышку і, убачыўшы іх занятасць, павярнуўся ісці дадому. І толькі тады ўспомніў, чаго ён на самай справе сюды зайшоў у такі нядобры час. Аднак не затрымаўся. Думкі хадзілі хадуном, увесь уздрыгваў. Хацелася як найхутчэй застацца аднаму, каб хоць на трошкі, на самую невялікую маласць супакоіцца перад заўтрашняй нядзелькай.

Назаўтра Яначка, хоць і намагаўся ўспомніць, што ён рабіў, куды заходзіў, выйшаўшы з падворка суседа, ніяк не мог уцяміць, як і не мог сказаць сабе, ці здрамнуў ён у прыцемку ночы хоць бы на адзін кароткі курыны сон. У

галаве ад учарашняга дня засела балючая стрэмка – як весяліцца, калі за плотам ляжыць нябожчык? Штохвілінна, як бы падаючы ў паўсон і раптам зноў нібыта цверазеючы, не мог для сябе вырашыць – хто каму павінен саступіць з дарогі: мёртвы жывому ці жывы тапельцу? Чаму такое даецца чалавеку?.. Сваімі сіламі, мусіць, і не даведаецца. А народу столькі ж запрасілі!

Ён устаў на світанні, як заўсёды, перахрысціўся перад абразамі. Сына тым разам не будзіў. Выйшаў паглядзець парачку сваіх коней, аблашчыць авечак. Пры каровах ужо тупала маці. Стала неяк радасней. “Госці гасцямі, а гаспадарка, а жывёліна – якое ім вяселле! – падумаў. – Коні застануцца, а астатніх незадоўга забяруць на выган”. Пахадзіў па падворку з граблямі, падмёў, дзе трэба. “Нічога, – зноў сказаў сабе, – малымі крокамі і з гэтым управімся...”

– Каб на галаву не паліло, – прамовіў, каб адазвацца да Аўдосі.

– Не трэба дажджу на полі ў такую пору, – адказала яна, ведаючы сваю справу.

Госці, далейшыя і бліжэйшыя, бы змовіўшыся, з’ехаліся ды папрыходзілі амаль у адзін час, як і дамаўляліся, як і во-дзіцца – каб перад вянчаннем пасядзець разам за вясельным сталом. На падворку, распрогшы коней, маладзейшыя, ужо ў добрым настроі, пачалі весела важнічаць, пацяшацца. Адзін з дваюрадных узяў у рукі гармонік і ва ўсю расцягнуў мяхі.

– Міця, – схапіла яго за рукаў Аўдося. – Пачакай, зараз пад’едзе маладая і тады...

У дзвярах сенцаў з’явіўся Васіль.

– Усіх запрашаю ў хату, да сталоў. Заходзьце, прашу...

Разгублены ў сваёй няёмкасці Яначка, калі ўсе паселі, дзынькнуўшы нажом па пустой шклянцы, трымаючыся стала, пастаяў крыху, як бы шукаючы патрэбнае слова на пачатак і ўрэшце сказаў, што сталася ўчора і папрасіў уважыць суседа.

Госці на колькі добрых хвілін зніякавелі, заціхлі, асунуліся. Калі на падворак ўкаціліся падводы вясельнікаў нявесты, толькі тады ўсе дружна выбеглі вітаць іх. І зноў маладзейшыя пачалі прыспеўваць, весяліцца, прытанцоў-

ваць. Васіль схапіў на рукі Маню, шчаслівы, зняў яе з воза і яны збеглі ў хату. За імі падаліся і госці.

Жанчыны потым гаварылі, што маладая прывезла з сабою аж два сундукі прыданага, і што жаніх і нявеста пад вянцамі былі як маляваныя – яна пад вэлюмам у белай сукенцы, а ён у цёмна-сінім касцюме. Абое такія прыгожыя! Такая з іх прыгожая пара. А народу столькі ў царкве, што не прабіцца ў дзвярах. Такога яшчэ не бачылі! Шкада, гаварылі, што былі і нядобрыя вочы. Нашы бабы ведаюць – чые.

Калі з суседняй хаты выносілі труну, з Яначкавых ніхто не выйшаў правесці Мікалаева гора хоць бы вачыма. Жалобная працэсія прайшла пад самымі вокнамі. І вясельнікі зноў павесялелі на пару часцейшых чокаў. Чужая бяда яна ж не наша, іхняя, казалі старэйшыя, падтрымліваючы і сябе і малодшых на духу. А тыя, што засталіся, яшчэ і ў панядзелак з самай раніцы зрабілі паправіны – завіхаліся каля сталоў, віншуючы чаркамі Манечку і Васілёчка, Васіля і Марыю з такой падзеяй, наперагонкі жадаючы ім дзяцей, любові і здароўя на ўсё жыццё, аж да канца. Спявалі, як і ўчора, “Многія леты”.

А сонца заходзіла і ўзыходзіла. Не прайшоў і год і Манечка нарэшце сказала мужу, што яна носіць дзіця. Ад радасці Васіль забегаў па хаце, замітусіўся, як бы праслязіўся. Пабег да сяброў пахваліцца. Вярнуўся, каб сказаць, што паедуць на роварах з таго ўсяго пакупацца.

– Можа злаўлю табе рыбку, – дадаў, цалуючы яе абедзьве шчаслівыя рукі.

Утрох і паехалі. А Віцька, аказалася, схапіў з сабою за пазуху бутэльчыну. Па дарозе яны раз глытнулі і яшчэ колькі разоў цягнулі пакрысе. На рэчцы Васілёк з берага першы даў нырца, галавою ўніз – і не выплыў.

# ДОЛЯ І МАРА

На ўсходзе займалася зара. Доля ўжо не спала. І гэтым разам прачнулася ад трывожнага сну, амаль таго самага, які ад вайны часта ёй сніцца і ад якога не можа вызваліцца. У ім, як тлумачыла сабе на свой розум, матэрыялізаваўся, відаць, яе страх. Жудасць зажыла і ў ёй і як бы поплеч, і ўсё здавалася да болю ў сэрцы, што тое сілкуецца ёю, не адыходзіць ні на крок далей, за парог сноў, сцеражэ і сябе і яе. Не памагалі ні малітвы, ні замовы, ні парады добрых людзей – калі з'яўлялася, прыходзіла пераадзетае ў жахлівую выпадковасць і рашучую недарэчнасць, у змешанасці сямейнай ганебнасці і смерці з бязмэтным жыццём.

Доля не магла супакоіцца, змірыцца з тым, што сталася, чаго была сведкам. І цяпер, устаўшы на зары, гледзячы праз акно ў прастору, прабавала пранікнуць праз нейкую цьмяную абалонку пакрыўджанасці і жаночай бязраднасці, зазірнуць туды, у святлейшую прастору, дзе цвіло яе і сястры Мары раней нікому ў свеце невядомае, як бы нікім незаўважнае, ціхае існаванне – каб у спляценнях непрадбачаных здарэнняў знайсці вытлумачэнне, зразуменне таго, хто ж такі і калі паварочвае сцежкі чалавечага лёсу? І не знаходзіла патрэбнага праяснення ні ў сабе, ні па-за сабою.

Іхні тата даўным-даўно закончыў вучылішча і ў пошуках працы вырашыў з маладою жонкаю з'ехаць з горада ў вёску, дзе нечакана адкрывалася новая школа. Фактычна яны вярнуліся ў тое асяроддзе, дзе раней жылі ягоныя бацькі, дзяды і прадзеды. Абсталяваўшыся, жылі тут як і іншыя, найперш з зямлі. Праз два гады паставілі новы дом. Неўзабаве ў дырэктара нарадзілася Адолія, а праз год прыйшла на свет і Марфа. Дзяўчынкі раслі, на шчасце бацькоў, здаровыя, разумныя. Тут яны і вучыліся, і выхоўваліся разам са сваімі вясковымі равеснікамі. Як і іншыя падлеткі, дзяўчаты то марылі падацца ў горад жыць вольным жыццём, то застацца на месцы, у родным бацькоўскім доме, у сваім знаёмым да

найменшага каменьчыка раздоллі, або проста выехаць у далёкую Амерыку, адкуль досыць часта прысылаў цукеркі Тамашуковым хлопцам іхні родны дзядзька Яўхім. У пісьмах ён хваліўся, відаць, наўмысна сваім заморскім дабрабытам. Магчыма, каб хоць гэтакім чынам, як думалі ў вёсцы некаторыя больш кемлівыя, кальнуць брацiка за тое, што той пазбавіў яго права валодаць зямлёю, а затым і цалкам выжыў з бацькоўскай сядзібы. У вёсцы Міхала ведалі як маёмаснага чалавека, які ўмеў множыць сваё дабро, але не любіў гэтым багаццем з нікім дзяліцца. Быў ён, праўда, гаварылі, някепскім сем'янінам, аднак тыя, хто меў з ім нейкія справы, выказваліся аб ім неахвоча, як бы пабойваліся казаць услых тое, што хацелі б ці маглі сказаць пра такога чалавека, які не вельмі адкрываўся перад людзьмі.

Ягоныя хлопцы, Дзёмка і малодшы на няпоўны год Паня, вучыліся разам у адным класе, як і дочкі дырэктара школы, толькі яны пачалі вучыцца годам пазней. Усе дзеці ў вёсцы, вядома, ведалі адно другога ад маленства. Міналі год за годам, і ў школе на перапынках некаторыя хлопцы, асабліва старэйшага ўзросту, штораз часцей заглядваліся на равесніц. З'явіцца на калідоры такая Мара і тут жа перастаюць буяніць і саступаюць з дарогі – і не таму, што яна дачка настаўнікаў. І Доля прымячала на сабе з боку хлопцаў радаснае маўчанне, іхняе першае салодкае сузіранне яе хады. Пасля пятага класа ў кожную вольную часіну, на школьных забавах ці экскурсіях у горад, усё бліжэй і шчыльней пры сёстрах займалі месца Дзёма і Паня. Каб не лезці з імі ў бойку, менш настойлівыя дзецюкі, анясмеленыя плячыстасцю сваіх дружбакоў, паступова самі ўстараняліся. Долі і Мары таксама падабаліся Тамашуковыя. Адзін і другі былі дужыя, някепска вучыліся, было з імі аб чым пагаварыць. Па душы была дзяўчатам іхняя ўсё яшчэ нейкая прымаміная незакончаная ў іх гаварлівасць, шчырасць, бязмэтная адкрытасць перад светам і перад імі. Было ў іх нешта такое прыцягальнае, чыстае, светла-вольнае, што не трэба было ім прыхарошвацца, як гэта рабілі ці стараліся рабіць іншыя.

Нейк у нядзелю, калі Доля з Марай выбраліся ў царкву, хлопцы на вуліцы перад сваімі варотамі затрымалі іх, пры-

віталіся, затым нечакана схапілі на рукі і, смеючыся, занеслі дадому. Бацькоў не было. Яны ўпершыню ўбачылі памяшканне, дзе жылі такія смелыя іхнія рыцары-скрадальнікі. У доме ўсюды было чысценька, прыбрана і свежа. У вялікім пакоі на сцяне вісела дубальтоўка, а над гасцінным сталом – у падоўжастай чорнай раме малюнак Гольбейна "Мёртвы Хрыстос". Хлопцы не ведалі, калі ён з'явіўся ў іх доме. "Заўсёды вісеў, – сказаў Дзёма, – Татуль любіць падоўгу пастаяць перад ім. Гэта, пэўна, яшчэ ад дзеда", – дадаў.

– Чула, што ўзірацца ў смерць гэта тое ж, што дазволіць, каб і яна ўзіралася ў цябе... А кажнюткі дзень – ці варта? – запытала перанятая дзіўнай выявай Доля.

– Для маладога жыцця не варта! – як рэха адазвалася за ёю сястрычка.

У той дзень яны амаль выбеглі ад Тамашуковых, не дапіўшы ні гарбаты, не пасмакаваўшы аніводнага цукерка. І ў царкву ўжо не пайшлі – у вачах так і стаяла цела нежывога, змучанага чалавека, з адкрытым ротам, з незаплюшчаным правым вокам, зрэнка якога ўсё не магла закаціцца за верхняе павека...

*

Доля сядзела пры вакне і як бы нечага чакала. Дзень для яе вырысоўваўся новым пейзажам – у раме акна, наводдаль з імглы свежай раніцы паволі выяўляліся абрысы стога сена, складзенага з учарашняга дня ці вечара. На кароткую хвілю ўсплыла з памяці бачаная ў музеі карціна Клода Манэ. І тут жа згасла. За яе спіною, у большым пакоі ляжаў выцягнуты ва ўвесь рост мёртвы... Дзямід пасля адыходу свайго татулі, затым і мамачкі, аднак, не зняў яго, хоць яна намякала...

Як сёння помніць, добрыя людзі, бывала, цішком гаварылі і маме, і тату пра Тамашуковых такое!.. Але не верылі ні яны, ні іншыя. "Ат, – адмахваўся тата, – гавораць, бо гавораць! Мала чаго кажуць адны пра другіх. А жыць сваім розумам трэба". Так яно хіба мусіць быць, думала і я, і Марфа. У чужую душу не заглянеш, каб ёй паверыць, каб ёй поўнасцю даверыцца. Маладое жыццё не азіраецца па баках, кіруецца сваімі домысламі і хаценнямі. А тыя няспелыя думкі вось

чаго нарабілі – паразрывалі напрацаваную многімі гадамі, пакаленнямі сваю праўду пра тутэйшых людзей, пра іхні свет...

Доля моцна шкадавала, што не слухала старажылаў. А яны ж папярэджвалі, каб дзяўчаты былі абачлівымі. Цяпер прыпамінае, што гаварыла ёй бабка Хвядора: "А ці ведаеш, дзіця – як бы пыталася ў яе самой, – што на вуме таго ж Міхала? А ці ведаеш, кім былі ягоныя продкі? Усе яны – драпежнікі, жадзіны і цягнецца за імі чутка, што і забойцы, і на ўсіх іх, на цэлым тым родзе вісіць цяжкі грэх, а калі такі грэх, то і людскі праклён".

Вельмі ж позна паверыла ў тое, у адну хвіліну ўспомніла, што гаварылі ёй і сястрычцы! У вайну яна выпадкова стала нямым сведкам забойства – яе муж, яе такі блізкі чалавек, бацька двух яе сыноў забіў роднага брата. Нізашто. Наводдаль, над рэчкай, дзе былі акопы, сярод белага дня раптам засакатаў кулямёт, спачатку адзін, затым далучыўся другі і пэўна трэці. З акна хаты яна бачыла, было ж відаць, што з поля па дарозе ідзе з касою Павел. Пачуўшы стральбу, ён прыхіліўся да прыдарожнай вярбы. Доля кінулася да другога акна пабачыць, дзе яе Дзямід. А ён, Доля бачыла тое сваімі вачыма, падбег да варот, выняў з-за пазухі пісталет і, калі кулямёт зноў адазваўся, разрываючы вясковую цішыню, у той страляніне і сам стрэліў. І Доля вачам сваім не верыла – Паня ўміг, там, пры тым дрэве, там жа і паваліўся.

Прорва расступілася пад ёю. Не магла ні крыкнуць, ні ступіць кроку. Асунулася пры вакне, там, дзе стаяла, сама не свая. Бачыла сваю адсутнасць і чула ў вечнасці падзення тупат. Калі ачнулася, здалося, што пры ёй стаіць старэйшы сын Віктар. Але ж ён не мог з'явіцца, стукала ў яе скронях – дзеці былі далёка па-за домам.

Пахавалі Паўла на другі дзень як яшчэ адну бяссэнсоўную ахвяру нікчэмнай вайны. Ніхто з родных і блізкіх людзей і падумаць не мог, уявіць сабе, як тое сталася. Ведала толькі Доля...і сэрца яе разрывалася... Старалася не глядзець на забойцу.

*

Здавалася, у бяскрайніх, надрэчных паплавах, якія належалі Тамашуковым, калісь шчасліва гулявіла іхняе летняе юнацтва. Падлеткамі яны прыбягалі сюды, босыя, неаднойчы. Заплюшчыўшы ад сонца вочы, беглі вольныя ў сваю светлую будучыню, а іх даганялі Дзёма і Панік. Дабегшы да сясцёр, на імгненне сашчэпліваліся даверлівымі пальцамі рук і адпускалі, каб Доля і Мара маглі яшчэ адбегчыся – і зноў лавілі дзяўчат на ляту, а потым самі ўцякалі перад імі, каб тыя іх даганялі. Божа міласэрны, Божа літасцівы, а каго яны тады даганялі, а хто іх даганяў у тыя, здавалася, вечна маладыя, непаўторна-шчаслівыя часіны. Здавалася...

Пакуль ішло адпяванне, каб не плакаць, Доля глядзела на мігценне свечак. Марфа, дарагая сястрычка, як яна пастарэла! Страціла такую апору. Сагнулася... А Паня ляжаў у труне як бы па-школьнаму здзіўлены тым, што яго выклікаюць да дошкі, а ён, непадрыхтаваны, маўкліва кажа ўсяму класу, што моў не яго сёння чарга. Людзі бачылі, заўважылі, што ягоны брат увесь час стаяў у прытворы і цішком пакашліваў у кулак. І не падышоў развітацца, калі пачалі збірацца выносіць. А згараваная Мара і не бачыла гэтага.

Прыйшоўшы дадому, ад парога абняўшыся, Мара і Доля разрыдаліся, як тады, калі даведаліся пра невылечную хваробу даражэнькай іх мамы. У бацькоўскім доме, здалося Долі, нічога асабліва не змянілася ад той пары, калі Марфа, выйшаўшы замуж, перабралася сюды. Столькі ўжо часу! У гэтым яе цераме сястру наведвала не часта – абедзьве былі занятыя дзецьмі, гаспадаркаю і як бы сама сабою выпарылася іх ранейшая бесклапотная жаночая шчырасць. А ў такі маўклівы, пусты халадок яе не цягнула. Некалькі разоў напачатку, калі Доля тое адчула, у яе ўспыхваў жывенькі агеньчык цікаўнасці, каб папытацца – а што сталася, мілая мая? Пламеньчык з тае запалкі хутка, на жаль, згасаў і час адсоўваў тую цікаўнасць усё далей і далей.

Цяпер стаялі ля парога, не рашаючыся адыйсціся адна ад другой, як быццам кожны іх наступны крок туды ці сюды будзе апошнім для іх крокам у гэтым парваным свеце. Марфанька выцірала слёзы і маўчала. Здалося, што адусюль патыхала бяскрылым самотным жалем. Нарэшце Доля пады-

шла да стала, запаліла свечку і прыглушаным голасам пачала чытаць малітву. І ўсё цішэй шавелячы губамі, яна ўвесь час пыталася ў сябе самой – гаварыць ці прамаўчаць? Ці скінуты з сваіх грудзей камень зможа яна ўтрымаць? І Доля рашылася сказаць.

Промні заходзячага сонца доўга стаялі ў шклянках нерухомай гарбаты на стале. На адно імгненне Долі ўявілася, што з гранёных шклянак сярэбранымі зрэнкамі спазірае на іх здзянелая вечнасць. І яна жахнулася, схамянулася..

Доля ўбачыла, што твар Маранькі крыху паружавеў ад гэтай прывячэрняй паўнаты святла. Яна як бы паспакайнела, адчыніла шырока дзверы ў пакой, дзе стаяў яе ложак і як бы памкнулася нешта паказаць ці сказаць. Але тут жа запнулася. Пачала перад Доляй хадзіць туды і сюды, быццам набіраючы разбег, быццам хацела ўзляцець над ёю. Раптам спыніўшыся перад сястрою, глытаючы нейкую аскоміну ў горле, амаль плачучым высокім голасам выбухнула:

– А мой Ванік – сын Дзяміда. Так, так, Доленька! То ён згвалціў мяне, перад шлюбам.

Яна села пры Долі, абняла яе правай рукою, палажыла сваю галаву на яе пляччо.

– Я толькі часу маўчала. Не хацела нікога раніць. І цябе. Не крыўдуй. Думала кожны дзень... Мне здавалася... А чаму, здаровая, я не маю больш дзяцей? Пасля таго не магла, заракласся, не хацела раджаць ім – ні Дзяміду, ні Паўлу. Падлюгі яны аказаліся... Як мы таго раней не заўважылі?! Доленька, дзе тыя нашы мілыя маладыя шалавілы? Калі яны з прывабных махаонаў паспелі ператварыцца ў агідных пачвар? Дзяміду ўсяго было замала, бачыш, – і зямлі, і будынкаў, і быдла. І па мяне выцягнуў рукі. Шалёны. Я чула сваімі вушамі, як ён хваліўся сваім глумленнем над людзьмі. Магчыма, тое рабіў і Паша. А потым ўбачыла, што ад нейкай пары яны ўзненавідзелі адзін другога, зайздроснікі. А бацечку іхняга, нашага свёкра, такога, як і яны, відаць, таксама ж нехта ж не вытрымаў, калі той пайшоў на паляванне. І дарагую дубальтоўку, і грошы, і гадзіннік сярэбраны на ланцужку – усё, усё пакінуў, нічога не ўзяў. Не, не выпадкова!

– А пра Івана, – азвалася ледзь жывая Доля, – пра сына, ці сказала Дзяміду?

Мара змаўчала. І зноў заплакала. Па яе бледнаватай змарнеласці сястра здагадалася, што ўсю тую рухомую ношу бедная Мара ўзваліла на сябе. І ўсю сваю сутаргу думак і пачуццяў загнала глыбока ў сваю збалелую душу, надрываючы яе дарэшты. Толькі цяпер зразумела Доля, адкуль той ахутваючы яе з даўняга часу ледзь адчувальны халадок і нібыта какетлівая, здавалася, жаноцкая абыякавасць. Нават да сястры. Доля падышла да Мары, узяла яе галаву па-мацярынску ў свае рукі і пацалавала ў лоб, затым у шчокі.

– Маранька мая, ты вельмі мужная! Прабач мне! Каб я тое ведала! – і Доля таксама заплакала. Марфа ледзь падушачкамі пальцаў рукі злёгку даткнулася да пальцаў яе правай рукі.

Селі пры стале, які паціху засцілала плямістае сутонне. Тут, пры ім калісь, у такія часіны, часта сядзелі разам з імі, маладымі і прыгожымі, іхнія татка і мама. Аб чым яны апошні раз гаварылі з імі?

– А жыць трэба, Маранька – сказала Доля. – Так напэўна параілі б нам мама і тата.

– Трэба, Долечка, – як рэха паўтарыла Мара.

– Жыць трэба, – яшчэ раз паўтарыла Доля. – Такі наш лёс. Мы самі яго, аказваецца, выбралі, здаецца... І нічога паправіць ужо немагчыма ў ім.

– Немагчыма, – зноў пакорна паўтарыла Мара.

*

З адкрытага вакна дыхнула свежасцю далёкага жыцця. Такі дзень, падумала Доля, гледзячы на стог сена, будзе для кагосьці першабытна маладым і, можа, самым шчаслівым. А для яе ад таго дня забойства Пашы ўсе дзянькі сталіся аднолькава страшнымі і аднолькава тайна-дзіўнымі. Яны прыходзілі і адыходзілі перад яе вачыма як чужыя, за кожным разам ні адзін непадобны да папярэдніх, трывожных – і прыгожых. Доля бачыла, што яны мінаюць яе бокам – і яна перастала пужацца сваёй смерці, але жахліва баялася дурной пулі ад Дзяміда.

Памяць з пазачасся зноў выразна вырысавала ёй тую неадчэпную, абвостраную карціну... Пару дзён пасля пахавання швагра кінулася шукаць пісталет. Пры сабе Дзямід яго не насіў – яна незаўважна, са страхам, назірала за ім. Абшарыла ўвесь дом, усе гаспадарчыя закуткі, перавярнула ягонае хламоце, агледзела гарышча – і не знаходзіла. Па звычцы на астатак заглянула ў куратнік. Загорнуты ў анучу ён ляжаў спакойна пад гняздом, адкуль праз квадратны невялічкі праём у сцяне можна было, як тое яйка з гнязда, засунуць руку і спакойна ўзяць яго ў любы момант або зноў пакласці туды.

Ад той знаходкі ёй крыху як бы палягчэла – і стала яшчэ страшней: жалезны забойца быў тут, побач, пад самай рукою. Не вытрымала такой прысутнасці і праз дзень кінула яго ў старую студню.

*

Доля ведала, што Дзямід збіраўся сёння, з самай раніцы, араць. Яна чула, як ён завіхаўся пры каровах, як адправіў і авечак на папас. Увайшоўшы ў хату, моўчкі памыў рукі, зняў шапку і сеў пры стале паснедаць. Доля крадком зірнула на яго і ў яе нечакана для яе самой у грудзях зашавялілася ні то спачуванне, ні то шкадаванне: Дзямід палысеў. З пакоя выйшаў Віктар. Расчмухаўшыся ад сну, ён прысеў на столачак і пачаў абувацца.

– Куды збіраешся? – запытаў бацька.

– Трэба ж нешта рабіць, – неахвотна адказаў сын.

– Прывядзі каня з паплаўка і пайдзі да Харытона. Ён прасіў узяць каня да прыпражкі – у яго ён малады, каб вучыўся хадзіць у баразне.

Віктар, нічога не кажучы, накінуў на сябе пінжачок і выйшаў.

– Ты, – Дзямід павярнуўся да жонкі, – не ганяй да работы Пецю. Ён учора дужа напрацаваўся. Цэлы дзень хадзіў за мною, памагаў.

Доля толькі кіўнула галавой, як бы гаворачы: “Так яно і будзе”. Дзямід устаў ад стала, накінуў сваю неразлучную шап ку і выйшаў з хаты. За ім праз хвіліну выйшла і Доля.

– Араць дзе будзеш? – запытала, гледзячы ўбок, на куры. – Трэба ж абед прынесці.

– Сам прыйду. Араць буду тут, – і ён махнуў рукою ў напрамку клуні.

Віктар чамусьці доўга не вяртаўся з паплаўка. “Пэўна, зноў не можа да яго падысці. Натурыцца, шэльма...” – падумаў Дзямід. Ён закурыў люльку, заглянуў у хлявы, потым накіраваўся за клуню. І здубекаўся. Хацеў аклікнуць незнаёмца, які нешта рабіў паблізу ягонага ўчастка. Але прыгледзіўшыся яшчэ, Дзямід пасунуўся за вугал клуні. Там гаспадарыў Ванька, сын удавы. “Значыць, вярнуўся пляменнічак! – ці то падумаў, ці можа нават услых сказаў сабе Дзямід. – Аднак вылізаўся...” Той хадзіў па полі з крокваю, мерыў сваю палоску і ставіў слупкі.

Іван, вярнуўшыся з бальніцы, дзе ён праляжаў даўжэйшы час у няпэўнасці, ці ачухаецца ад хваробы, даведаўся ад маці, што Дзямід самавольна заняў ці не палавіну іхняй ворнай зямлі па ўсёй даўжыні і без сораму карыстаўся ёю. І на другі дзень, не гаворачы нічога дома маці, ён пайшоў адрэзаць назад мацярынскую зямлю.

Вечарэла. Дзьмуў паўночны вецярок. Вуліца была пустая. Восень замацоўвалася ўсё шчыльней. Віктар любіў пастаяць сам-насам са сваімі думкамі. Адчуваў ад нейкага часу, што ў сярэдзіне ад чагосьці яму нядобра, што там варушыцца нешта неназванае, не ягонае ў ім. Затуліўшыся ад ветру, стаяў каля бярозы, што расла ад вуліцы ў самым куточку іх падворка. “І яна змагаецца”, – падумаў, адчуваючы спіною яе хваляванне.

Віктар не мог здалёк пазнаць чалавека, які спяшаючыся ішоў па вуліцы. Калі ж постаць падышла бліжэй, ён пазнаў Ванюшу.

– Куды так? – запытаў.

– А, гэта ты! – Іван прыпыніўся. – хадзіў да Лук’янавых. Прасіў каня, заўтра думаю араць.

– А то ж, – пачаў Віктар. – работы хопіць, калі яе чалавек шукае. А я, Ванюша, стаю тут і думаю: эх, нейкае праклятае наша жыццё! Рабі, рабі, а карысьці толькі, што з’есці. І з братам не ладзіцца. Не здабраваць хіба нам разам. Чую нутром.

Хоць у Амерыку якую падайся. А, можа, разам паехалі б у горад...

Заядліва забрахаў наводдаль нечый сабака.

Нечакана падышоў да іх Дзямід. Іван прывітаў дзядзьку, але той ці не пачуў, ці проста знарок не адказаў.

– Ідзі дахаты, – звярнуўся адразу да сына.

– Тата, – азваўся ён да бацькі, – Івану трэба памагчы. Каня яму дамо...

– Мой конь і не ты будзеш ім распараджацца, – з непрыхаваным раздражненнем у голасе адрэзаў Дзямід.

Івану стала няёмка.

– То я пайду, – сказаў ён, – а то заварожыўся толькі часу. – І няспешна пагрукаў ботамі па вуліцы.

А Дзямід, як толькі Віктар зачыніў за сабою дзверы хаты, кінуўся праз пакошаную, але яшчэ несабраную сырадэлю да прасёлкавай дарогі. Дабег да вярбы, што расла пры самай дарозе. Здалёку на фоне адкрытай прасторы ён бачыў, як Іван прыпыніўся, закурыў і рушыў наперад. Агеньчык папіроскі то разгараўся, то зноў гаснуў. І ўсё бліжэй і бліжэй падыходзіў той агеньчык. І калі зраўняўся з вярбою, Дзямід выхіліўся з-за дрэва і пырнуў нажом у спіну таму на дарозе.

Доля адчула бяду па тым, як толькі вярнуўся з вуліцы растрэсены Віктар і, нічога не кажучы, зачыніўся ў сваім пакойчыку. Не з’явіўся гэтай ноччу дадому і Дзямід. Раніцай пачула, што людзі знайшлі ўчора на дарозе мёртвага сына Марфы. Доля адразу дадумалася, яна не памылялася, яна была пэўная... “Божа міласэрны, не ўпільнавала...”, – на ўсю хату крыкнула ў духу.

Пабегла да сястры. Пляменнік ляжаў яшчэ не ў труне, а на доўгай лаўцы, накрыты прасціною. Каля ўзгалоўя стаяла з запаленай свечкай Мара і адно вачыма мітусліва як бы пыталася атачэння,  дзе яе паставіць.

Раптам адчыніліся дзверы і ў іх праёме з’явіўся сівенькі халадок, а праз міг ўвайшоў і Дзямід. Доля рэзка павярнулася ў той бок і, не даючы ўвайшоўшаму адкрыць рот, спакойным голасам, ужо не гледзячы на яго, сказала, вымаўляючы амаль кожнае слова асобна:

– Бачыш, Дзёма, каго ты забіў! Ванюша – твой сын! Ты сына свайго забіў! – і праз хвіліну так крыкнула, як ніколі не павышала голасу пры ім:

– Ты першага свайго сына забіў!

Дзямід пастаяў пару імгненняў нерухома, памкнуўся павярнуцца да дзвярэй, але грузна зваліўся на падлогу ля парога.

На другі дзень іх разам і пахавалі.

## ЖЫЦЦЁ ПАЧЫНАЕЦЦА НАНАВА

За вакном варушылася халоднае цела зімы. Мароз нікога не прапускаў дарам, дзёр за вушы і нос, сцябаў па твары, залазіў за скуру, ламаў косці. Снегу намяло роўна з платамі. У такую пару найлепш сядзіцца ў хаце, пры цёплай печы. Добра, што нікуды сёння не трэба ўжо выходзіць з хаты, падумала Дарка. Даўшы жывёліне палуднаваць, яна зноў села за калаўротак. Яе пальцы спрытна пралі кудзелю, і доўгая, бясконцая нітка бегла з рук. Вочы Даркі, прывыклыя да кудзелі, былі спакойныя, час-ад-часу паглядалі на шпульку, ці не трэба пералажыць ніткі на друті зубок.

Дарка пачула, што каля хаты раней, чым калі, праехалі з лесу людзі, везучы горы дроў. Асабліва пад вечар сані затрымліваліся каля калодзежа, каб напаіць коней. Зімою гэтак было не адзін дзень. Ад таго часу, як выгладзілася санная, пад захад сонца, а нават і познім вечарам, чужыя людзі, бывала, заходзілі ў хату, каб пры нагодзе пастаяць у цяпле, а часам сказаць і добрае слова ці перадаць кароткую навіну пра нейкую чужую бяду. Шчасцем у гэтых мясцінах не хваліліся.

За вакном у густых спляценнях бэзу чырыкалі вераб'і.

Начамі Дарка мала спала. Адвучыла вайна. І калі не спіцца, сядзе ноччу каля акна  і задумаецца, заглядзеўшыся ў цемень ночы, наслухоўваючы па звычцы, як тое было яшчэ зусім нядаўна. Цяпер жа некалькі дзён, як найменшы расхварэўся,

злёг у гарачцы. Хіба прастыў, не дапільнавала. Дарка прыадчыніла дзверы, дзе ён ляжаў. Убачыўшы яе, Паўлік папрасіў:

– Мама, пасядзі пры мне.

– Іду, іду... – загаварыла. Яна дакранулася рукою да шчакі сына. Жар крыху як бы паменшаў. Дарка паправіла кажушок, якім быў прыкрыты хворы. І ён праз некалькі хвілін заснуў. Прысеўшы ў яго нагах, зноў задумалася, яе зноў агарнула нейкае трывожна-прыгожае шкадаванне і адначасова адчувала сваю пакрыўджанасць лёсам – была ў свеце сіратою, нікога з родных: паўміралі рана сёстры, адышлі цёткі. А самой, тады маладой-маладой, у чужым людным доме з трыма дзяцьмі на руках... Балячка гэта сядзела глыбока ў ёй, распірала яе. Дарка ціха пераставіла калаўротак, дзе спаў сынок, і зноў стала прасці. Нітка бегла з яе пальцаў доўгая, тонкая, як яе думкі, што накручваліся ў адзін усё большы клубок.

Была ў Даркі свежая, адкрытая рана. І не гаілася – чым больш мінала часу, тым яна ўсё мацней дапякала. Мацярынскае сэрца балела па Ані і Верцы, якіх два гады таму назад забралі немцы і вывезлі ў Нямеччыну. Часам з’яўляліся нейкія быццам бы адтуль чуткі. Наслухоўвала, чакала. Не дадумацца ёй: жывыя яны ці можа на чужой зямлі даўно налажылі на сябе рукі або забілі іх. Выплакала Дарка ўсе слёзы, у грудзях баліць. Але недзе ў самай сэрцавіне душы тлела надзея, вера ў тое, што яны, яе дзве старэйшыя, вернуцца, і яна, маці, убачыць іх жывымі.

Сонца хілілася на захад. Чырвоныя плямы паволі лезлі па сцяне.

У хату прыбегла на пасядзелкі сяброўка Даркі, Яўдося. Яны былі як дзве сястрычкі, дзве зараня шчабятлівыя сарокі. Нават і ростам, і постаццю, і характарамі былі падобныя. Разам з бацькамі яны былі ў бежанцах, аж ля Царыцына, і гэта іх вельмі злучыла. Як толькі сустракаліся, найперш пачыналі ўспамінаць тыя дні, каб зноў уволю пагараваць і паплакаць адной перад другой, а потым і паўсміхацца. Успаміналі, як стаялі босыя на высокім беразе Волгі і глядзелі, як за аграмаднымі баржамі з веснавой крыгай плылі мерцвякі. І бачылі, як Волга, узбунтаваўшыся, дыбіцца – хвалі вышынёй

з хату перавальваюцца адна за другой з гулам, змываюць усё на беразе, і народжаная ракой-морам віхура калыша свет, аж енчаць бедныя хібарыны надволжскіх батракоў.

І цяпер у іх перад вачыма тыя ж краявіды. Ды дзіву даюцца штораз, крадком выціраючы вочы, як такія крохкія – адна нарадзіла пяцёра дзяцей, а другая аж сямёра. Вядома, казалі сабе, пацяшалі – колькі мацярынскай радасці, столькі ж і клопатаў, гора. Аднак без плачу няма і вяселля.

Успаміналі гады, калі ліхаманка трэсла бежанцаў, калі і Дарка ў сіняй гарачцы трапіла ў барак, адкуль штодзень выносілі па чатыры-пяць нябожчыкаў. Дарка вытрымала іспанку, прайшла ўсе няшчасці, якія налягалі на яе і сям’ю з усіх бакоў. Але здароў’е слабела. А працаваць трэба ж было. Усе яшчэ да сонца выходзілі на поле збіраць арбузы, пакуль не ўсталёўвалася нясцерпная гарачыня. А вады не было паблізу – недзе там, казалі. А поле такое вялікае, што дзеці губляліся і хадзілі, змораныя і заплаканыя, у пошуках сваіх бацькоў. Нехта часам вытра слёзкі і больш нічога, бо ўсе былі такімі ж парабкамі, як Дося і Дара. То не была ўжо тая жвавенькая дзяўчынка з доўгай касою з зялёнай краіны свайго дзяцінства. Тварык Даркі пачарсцвеў, пастарэў, на лобіку з’явіліся маршчыны заўчаснай задуменнасці і звышдзіцячых клопатаў. Носіць яна тыя гарбузы, робіць нешта і чуе, як рукі адмаўляюць ёй, млеюць. Пальцы пагрубелі і баляць. Такое было яе жыццё. Гады – як на далоні. Некалькі месяцаў пасля таго, як яны вярнуліся з бежанства, не стала ў Даркі бацькі, забіла яго на полі нейкая выараная ім панямецкая цацка. І замуж выдалі ў дзевятнаццаць гадоў, і пачаліся згрызоты-мучэнні ў вялікай сямейнай хаце, а не жыццё. І маці рана пакінула яе.

На двары з абсыпаных снегам дрэў пачынаў ссыпацца белымі завоямі серабрысты пыл.

Неўзабаве з лесу прыехалі бацька з сынам. Дарка бачыла праз акно, колькі яны прывезлі дроў, як выкідалі іх з саняў, змучаныя і галодныя; бачыла, як гаспадар тупаў па падворку, парадавалася, калі і сын увайшоў у хату...

Вечар лажыўся на белую зямлю цёмным бокам. Мілая, даўняя прыгожая, светлая душа, Дося грэла пры печы сваю

цяпер схудзелую спіну.

Тым часам незнаёмыя людзі, чужы конь і воз, заязджалі на падворак. Адзін з мужчын памог высесці жанчыне з падводы.

– А мая ты родная, – загаласіла Дарка, выбягаючы распранутая з хаты. – Вярнулася... вярнулася маё дзіця, Вера-Верачка!..

Яўдося, каб не быць сведкам чужога шчасця, ледзь прывітаўшыся з такімі дарагімі гасцямі, нічога нікому не кажучы, пабегла дамоў. Загарэлася надзеяй, што, можа, разам з імі вярнулася і яе Людачка. Ад спадзявання ўбачыць родненькую забылася нават перапытаць пра яе прыезжых.

У хаце маці яшчэ раз абняла дачку, усхліпваючы з радасцяў, і раптам, як бы ўпершыню ўбачыўшы за яе спіною мужчыну, што стаяў моўчкі, не зняўшы нават шапкі, запытала таго:

– А ты хто?

– З Вітава хлопец, наш, мама. Разам вярталіся, – адказала за таго Вера.

– А чый конь з возам? – зноў запытала маці. Але пачуўшы ад дачкі невыразнае, што падвёз іх чалавек ці то з Чахоў, ці, можа, з Вярстоку, сказала рашуча:

– Ну і слава Богу, у адным напрамку і табе, хлопча. Ну і з Богам у дарогу. Сваіх бацькоў таксама ж трэба яшчэ сёння паспець парадаваць.

Сцяпан, які сядзеў пры стале і толькі слухаў камандаванне сваёй Дар'і, устаў, высокі і дужы, напрацаваны.

– Але! – сказаў ён коратка, падтрымліваючы гэтым жонку. – Яшчэ ж усё няпэўны час. І невядома, якая ўлада будзе праз месяц. Невядома, хто просіцца пераначаваць. У вайну прыходзілі розныя – і тыя, і тыя. А мы паплаціліся за тое. Яна, – Сцяпан паказаў рукою на разгубленую дачку, – не гаварыла, за што яе забралі на прымусовыя работы? Так што...

Хлопец як ціхамоняю з’явіўся ў хаце, так і крадком змыўся з яе бе слова.

Калі Вера распранулася і нечага корпалася ў сваіх прывезеных ванзэлках, Дарка раз і другі вострым мацярынска-жаночым вокам адным махам пераправерыла дачку. Той яе прыдзірлівы позірк перахапіў Сцяпан.

– Пазнавата робіцца. І ўсе мы змучаныя за дзень, адпачыць трэба. І заўтра будзем радавацца, на свежую галаву. Распытаем. Паслухаем, – сказаў ён, асцярожна падбіраючы агульныя словы, каб супакоіць жанчын. – Лажыцеся спаць, – дадаў, – а я выйду паглядзець, ці браму зачынілі і ці дзе чаго не пакінулі, ці не забралі.

*

Моцны мароз і вяртанне дадому Верачкі ацвярозілі Сцяпана і ён раптоўна прыпомніў, што сказаў тады прама ў вочы свайму траюраднаму брату, калі той, стаўшы нямецкім солтысам, нечакана, у святочную нядзельку з'явіўся няпрошаны на парозе хаты і, нахабна азіраючы ўсіх хатніх як быдла пагаспадарску, аб'явіў, што яму трэба выслаць у вялікую Германію з вёскі дзесяць працаздольных маладых людзей – не калекаў, не інвалідаў і не хворых.

– І з гэтай хаты я вырашыў адправіць Анну і Верку.

– А сваіх дзяцей аддасі? – запытаў Сцяпан.

– Мае хворыя, – тут жа, доўга не думаючы, адказаў Саўка, пасмейваючыся пад носам.

Дарка кінулася прасіць, каб адступіўся, што моў адплацім, колькі трэба, нічога не пашкадуем.

– Як жа так, – пыталася ў злыдня, – блізкія людзі, сваякі, лічы, родзічы і каб такое рабіць?! Няраз са Сцяпанам раней, перад вайною, то ў нас, то ў вас выпівалі, кумаваліся... Адпусці іх, не высылай, – маліла яна.

– Калі адправіш іх, помні, добра запомні, заб'ю цябе, – праз сціснутыя зубы сказаў Сцяпан. – Заб'ю!

– А ведаеш, чаму яны паедуць у Германію? А пару тыдняў таму назад хто ў тваёй хаце начаваў? А яшчэ раней – каго ноччу прыгрэў? А пры саветах, што ты рабіў? Думаеш, я не ведаю. Пісулька ўжо падрыхтавана, каб яе паказаць таму... ну, як яго, Гельмуту, таму іхняму Моцарту – і не вядома, хто першы з нас згіне, калі пакажу. Не паказваю, бо мы ж радня... далёкая, праўда.

Сказаўшы тое, ён павярнуўся спіною, каб ісці. Аднак, зрабіўшы крок, павярнуўся і праз плячо да поўных адчаю Сцяпана і Даркі і, амаль крыкнуўшы, гыркнуў:

– Я сказаў. Не хачу сабе клопатаў, а вам крыві. Праз два дні прыедуць забраць кантынгент.

– Ой, дагуляешся, Савелій! – наўздагон яму крыкнуў Сцяпан.

У той самы дзень ён так ускіпеў, так узбурыўся, што аж сам забаяўся, каб ад таго свайго бяссілля перад такой цяперашняй уладай чаго з сабой дрэннага не зрабіць або не пусціць з дымам палавіну вёскі. “Няхай яно згарэла б тут усё з такой праўдаю, з такой справядлівасцю! І з такім солтысам!” – крычаў.

Добра, што паблізу была неадступна памяркоўная Дар'я. Сцяпан помніць, як яна супакойвала яго. “Ну, спаліш яго – а як нашы меншыя дзеткі і ўсе мы? – разважала, напалоханая. – Прыедуць. Разнюхаюць. Расстраляюць усіх нас. А куды вернуцца тыя дзве, Анечка і Верачка, калі ацалеюць?”

Сцяпан помніць, што вечарам, пры вячэры, як бы з нагоды нядзелькі, святочнага, рэдкага ў іх, адпачынку, яна наліла сабе пару кропелек і яму паўшклянкі самагонкі. Потым як бы незаўважна яшчэ даліла яму, затым паціху яшчэ. Ён прачнуўся, калі світала. І адчуў, што бура ў ім трохі сцішэла.

Цяпер усё-усё тое прыпомніў – як карыў сябе за тое, што не прыбіў Саўку адразу, калі ён зайшоў тады да іх. Ад той нядзелі ўвесь час рыхтаваўся ўнутрана да таго, каб прыкончыць гада, шукаў і вышукоўваў у кожным дні той зручны момант, каб вечарам ці ноччу яшчэ раз перасякліся іх сцежкі. Быў напагатове, наструнены, каб адпомсціць – і датрымаць слова, сказанае яму на ганку.

Прайшоў месяц які ці, можа, болей, як забралі Аню і Веру, а тут на ровары з Кляшчэляў прыехаў раптам паліцай, у мундзіры, з пісталетам. Аказалася, свой чалавек з-пад Чаромхі, хоць паслугач. "Яшчэ сёння явіцца трэба – там і там, а такой гадзіне, – сказаў дзелавіта і, паглядзеўшы ў вочы, дапоўніў ад сябе. – І не жартуй!” Сеў на ровар і ад’ехаў. А ты што хочаш, тое і думай.

Вырашыў ісці пехатою, хоць далекавата, кіламетраў з дзесяць. Бо ж не браць каня. Калі заб’юць ці пасадзяць, конь прападзе. Па дарозе зноў карыў і папракаў сябе, што ў час не прыбіў таго, свайго далёкага сваяка. “Гэта ён, – думаў, – на-

пэўна ён напісаў усё-такі, не вытрымаў, данёс падлюга”.

Як сёння помніць таго афіцэра, што сядзеў насупраць. Побач быў той жа паліцыянт і перакладаў. А той нямчура адразу запытаў, ці памагае партызанам, якая хата, колькі пакояў, а потым усё дапытваўся пра сям’ю – колькі дзяцей у хаце, як часта хварэюць, якімі хваробамі перахварэлі, чым харчаваліся. А ён сам чым хварэў, а жонка, а чым хварэла Анна? Затым задуменна ўстаў, падышоў як бы з намерам падаць руку Сцяпану, але толькі паляпаў яго па плячы, сунуў у рукі паперку. Аказалася, як патлумачыў на парозе паліцыянт, каб не баяўся ісці дадому, маўляў, прапусцяць, калі што.

Выйшаў адтуль збіты з панталыку, не ведаў, што й думаць. Вечарэла. Адзін на дарозе баяўся быць у такую пару. Вайна ж! Але нікуды не дзенешся – пайшоў і з кожным крокам зноў набіраўся злосці на Саўку. “Каб цябе зямля не насіла!” – праклінаў услых. Падышоўшы да роднай вёскі, намацаў у кішэні запалкі. Хацелася закурыць, але раздумаў. Навокал стаяла непрабіўная цемень. “Пушчу з дымам”, – вырашыў, падышоўшы прасёлачнай дарогай пад пабудовы солтыса. Змораны дарогаю тут жа прысеў на прыдарожны валун, прама насупраць Саўкавай клуні, каб крышку адпачыць, пільна наслухоўваючы, ловячы вушамі цішыню, кожны яе гук. І, відаць, здрамнуў, бо неведзь калі пачуў, што побач стаіць і дыхае Саўка.

– Падпаліць задумаў? У руках запалкі шалясцяць, – сказаў той, стоячы крокі два за спіною Сцяпана, які як сядзеў, так і не варухнуўся. І, падышоўшы бліжэй, лагоднейшым тонам, на паўголаса, быццам па-братэрску дадаў: – Ідзі дахаты, Сцяпан. Пакуль я добры.

Толькі тады ён па праўдзе і прачнуўся. І прыйшоўшы дахаты заламваў рукі ў роспачы: як жа так, заснуць?! І чаму ён не ўзяў з сабою нажа? От жа, зышліся ў той найлепшы для яго час, каб забіць...

Помніць таксама, што калі немцы адступалі, Саўка, відаць, адчуў, што пачнецца і для яго чуханец, і забегаў па вёсцы. Прыбег на падворак і да Сцяпана. Як паказалася, гэтым разам ён быў перапуджаны да смерці, змарнелы і ці не п’яненькі.

Вечарэла і Сцяпан рыхтаваў у клуні пашу для каня. Пры ім побач стаялі вілы, каса адна і другая, амаль пад рукою быў бязмен, ляжала сякера. І той падышоў амаль упрытык, хоць ты яго рукамі душы. Адразу нахлынула старая злосць. “Цяпер не ўпушчу” – прашыла ўсяго думка. Рука самавольна схапіла цясак.

– Так будзе справядлівей, – упаўшы на калені, ціха азваўся знізу Саўка. – Усё роўна заб’юць. Лепей, каб свае...

Сцяпан з паднесеным уверх цясаком застыў над ім, як укопаны.

– Ідзі, Савелій, адсюль, – не верачы сам таму, што гаворыць, сказаў Сцяпан. – Помніш, што ты мне гаварыў? Цяпер я кажу: Ідзі, пакуль я добры!

*

Неба было адкрытае, адтуль з нябесся міргалі яму зоркі, хораша там было, мароз узмацняўся, а Сцяпан хадзіў па сваім двары, узбуджаны ўспамінамі, разгортваючы ўсё глыбей набрынялае ў ім, незадаволены сваёй нерашучасцю. Адчуваў, аднак, кожнай сваёй жылкай і думкай, што кінутае тады ім у нядзельку слова “заб’ю!”, сказанае ўслых, нават пасля таго, як вярнулася Верачка, не зняло з яго бацькоўскага абавязку і мужчынскага гонару. Зараз, калі прыйшла новая ўлада, рашыў пачакаць з адпомстай за Аню – калі яна не вернецца. На ўсякі выпадак рашыў насіць пры сабе нож.

Занепакоеная, відаць, доўгай адсутнасцю мужа выйшла з хаты на двор і Дар'я. Убачыўшы Сцяпана на месцы, пераказала яму тое, што паспела ўжо пачуць ад дачкі.

– Не спіць, усё пхімкае, з-за таго кавалера. Хоча, кажа, заўтра паехаць адшукаць яго.

– Калі любіць, сам прыедзе. Тут рукі патрэбныя, – адрэзаў Сцяпан.

– Пра Аню нічога не ведае, кажа. Завезлі іх у Гайнаўку, загналі ў вагоны, а за Беластокам на нейкай станцыі раздзялілі на групы. Ад таго часу і не бачыла яе больш. А працавала, кажа, на кансервавай фабрыцы. Чалавек пад сто, дзень у дзень па дванаццаць гадзін, на змену. Там, дзе яна стаяла, гаварыла, есці не забаранялі, а вынесці – расстрэл. А

колькі з’ясі сырога без хлеба? Але галодныя не былі. Прывыклі да такога харчу, ведалі, што і калі можна сырое ўкінуць у рот, каб не расхварэцца на месцы або і здохнуць ля зачыненых дзвярэй.

Нейкі час Сцяпан маўчаў.

– Значыць... – і запнуўся, – значыць, па жаночай лініі як бы тое... – І зноў, памаўчаўшы хвіліну, дадаў: – Добра, што вярнулася. – І яшчэ, памаўчаўшы на пару ўздыхаў, сказаў: – Мой даўжок паменшыўся.

– Ты пра што? Зноў Саўка?

Аднак Сцяпан, нічога на тое не кажучы, першы накіраваўся ў цёплую хату.

*

Паабапал пясчанай дарогі шумела мора залатога жыта. Бачна было, як лёгкі ветрык бегаў-праходжваўся па ім сваімі дарогамі, знікаў на хвіліну з вачэй, здавалася, дзеля таго, каб раптам раз і другі завіраваць у нечаканым месцы, зрабіць нейкую мяккую загагуліну і зноў плысці ў іншы бок або падацца назад і несціхана ціха шамацець цяжкаватым калоссем, нашэптваючы штосьці вечна маладое, сваё, тут знаёмае да плачу. Неба было празрыстае, і вочы сінелі ад яго святога колеру.

Дарогай паміж жытамі ішла басанож Верка. На яе плячы, высока аскаліўшы рад зубоў, ляжалі граблі. Яна не спяшалася. Ёй хацелася ісці доўга-доўга, хоць вечна ў гэтай сваёй харашыні, знаёмай і блізкай душы і сэрцу. Ісці і дыхаць водарам пакошанай травы, пахамі тутэйшых вечаровых сенажацяў, слухаць турліканне перапёлак і гуканне драчоў. Хацелася зноў, як і да вайны, без страху плюхацца ў рачулцы і доўга глядзець, як па скошаным лузе ходзіць па гаспадарску небаязлівы бусел, як ён там-сям запавольвае хаду і, схапіўшы нешта дзюбай, падымаецца грацыёзна на вялікіх крылах і ціха, без шуму ляціць на сваё гняздо. Як яна любіла такую запаволенасць жыцця – навокал і ў сябе самой! “Мы ў хаце напэўна ўсе такія...”, – падумала і ўсміхнулася сама сабе.

Успомнілася светлае з даваеннага часу. Добра, што адышла тая бяда. Вось яна зноў ідзе, вольная і маладая, па

адкрытым полі, яе радуе дзіцячая радасць, што сёння вечарам зноў будзе назіраць на падворку за маланкавымі палётамі іхніх ластавачак, а потым будзе разам з іншымі хлопцамі і дзяўчатамі доўга спяваць на вуліцы.

Зямля дыхала сыпка-пясчаным цяплом. Сям-там на яе разлогах віднеліся бомбавыя ямы. Людзі не паспелі іх засыпаць, і яны чарнеліся сярод жытоў пустымі коламі нястачы.

Ззаду нехта пад’язджаў. Жарабец, пырскаючы, бег роўна, а воз падскокваў на выбоінах і гойдаўся ўбакі. На драбіне сядзеў Андруха, сын Савелія, яе аднагодак. Параўняўшыся з Веркай, ён прыпыніў бег каня.

— У поле выбралася? — запытаў.

— А што, з граблямі на вечарынкі ходзяць?

— Сядай на воз, падвязу!

— Куды там, што людзі скажуць!

Андрэй ехаў памалу, а яна ішла побач.

– Ай, пагода, пагода! – ускрыкнуў, азірнуўшы раздолле, Андрэй. – Проста любата!.. Люблю нашу шырыню! А вашы ўсё ўжо выкасілі?

— Сёння, калі будзе пагода, управімся.

Дарога зыходзіла ў даліну. Вёска схавалася за гарой, вакол іх шумела адно жыта. Андрэй саскочыў з воза, перакінуў лейцы на бок і пайшоў побач з Верачкай. Маўчалі.

— А ў вас многа сена ў гэтым годзе? — запытала яна.

— Як штогод раней бывала. Еду забраць, першы раз у гэтым годзе, буду звозіць у клуню.

— А потым не агледзімся, калі і бульбу прыдзе пара капаць.

— Ну, яшчэ не так хутка, трохі пачакаць трэба, а то і больш, чым трохі, – весела адказаў ён.

З-за павароту паказаўся воз, на якім, апрача фурмана, сядзелі дзве жанчыны. Адна з іх раз-пораз аглядалася. Відавочна, падарожніца не ведала ваколіц або даўно іх не бачыла і таму так уважліва прыглядалася. “Можа, з Германіі едуць”, – падумала Вера.

— Хіба трэба з’ехаць з дарогі панначкам, – зажартаваў Андрэй і пацягнуў за лейцы. Калі тыя праехалі, нічога не гаворачы, аб нічым не пытаючы, ён, засланіўшыся рукою ад

сонца, нібыта наўздагон тым сказаў: – Наша Маня радзіла... тры дні таму ўжо, хлопчыка, зрабіла бацьку дзедам. Ён шчаслівы. От што!

— Гэта ж радасць, калі дзіця народзіцца, – сказала Верачка адразу, з першага памкнення жаночага сэрца. І тут жа ў ёй успыхнула мінулае: – Што ж, пабольшала ў свеце Савеліяў. Каб не ў дзеда...

Андрэй падышоў бліжэй да Веркі, як бы хацеў узяць яе за руку, але зноў адступіўся і, прыхілены да драбін воза, з нейкім прамілым хлапечым шкадаваннем у голасе сказаў на адну ім зразумелую душэўную адлегласць:

– А ведаеш, я нежанаты.

Паміж імі павісла блізкая, толькі ім бачная, маўклівасць. Вера глядзела на яго твар, шукаючы для Андрухі спагады. А ён як бы і засаромеўся таго і апусціў вочы. Хлопец падабаўся ёй.

– Але твой бацька, – з замінкай зноў азваўся сын даўняга солтыса, – хіба не захоча такога зяця: мы з вайны так заварагавалі, што сталіся амаль... шкада й гаварыць. Бацька цяпер шкадуе, што...

“Наелася я з-за твайго бацькі гнілога мяса”, – падумала Вера. Але дружалюбна заўсміхалася да Андрэя, як бы падаючы яму саломінку, як бы кажучы: “Калі будзеш залётны, то хто ведае! Мне ж таксама пара замуж”.

*

На другі дзень пасля таго, як хто-дзе першы ў вёсцы пайшоў жаць жыта, сабраўся і Сцяпан. Бачыў, што на вачах спелі сады і лугавіны пакрыліся новым квеццем. Адчуваў, выразна чуў, як усё жывое навокал, спаўняючы свой натруджаны абавязак, бясслоўна гамоніць паміж сабою, паўтараючы пасля кожнага глыбейшага свайго ўдыху і выдыху, нясконачаны запеў: жыць–жаць, жыць–жаць, жыць–жаць...

Уладкаваўшыся на падводу, адправіліся і яны ў тое ўрочышча, дзе з года ў год, як помніцца, жыта і грэчка даспявалі тут, на пясочку, значна раней, чым у іншых мясцінах. Цягавітая і разумная кабыла ведала дарогу, можна было пры ёй і здрамнуць, давяраючы яе, няраз праверанай, памят-

лівасці.

З самай раніцы прыпякала. “Будзе парна, душнавата. Не збяры тут жыта ў такі час, – падумаў Сцяпан, – і асыплецца зерне за два-тры дні”. Побач сядзела жонка, а ззаду на возе хлопцы, іхняя падмога, старэйшы і наймалодшае дзіця. Усе маўчалі – ці то загледжаныя ў адкрытую, цёплую прастору палёў, ці, можа, у свае разбеглівыя падумы.

Сцяпан, як толькі прачнуўся ўранку, думаў расказаць Дарцы свой сон. Аднак ад чагосьці забыўся. І цяпер стараўся яго ўспомніць, бо добра помніў, што ў сне сон для яго быў някепскі. І тое яго ўзбадзёрыла. Схапіўся задаволены, адпачыты, кінуў вокам на гадзіннік, затым у вакно – і як змыла, дасюль не можа ўлавіць тых сонных вобразаў ці тых нейкіх сардэчных падзей, у якіх, здаецца, і ён сам удзельнічаў. “Ці то ён сам рыбу злавіў, ці, можа, яму нехта выкінуў яе на бераг?”, – думаў, не могучы аніяк дадумацца, дайсці да яснасці.

– А табе, Дарка, што снілася сёння? – запытаў Сцяпан, павярнуўшыся да жонкі праз плячо.

Дар'я паглядзела на мужа раз, потым яшчэ раз і даўжэй, як бы пераправяраючы ягонае пытанне.

– А я думала, што ты маўчыш так заўзята пра Саўку, – адказала. І адчуўшы, што Сцяпан чакае-такі ад яе нечага яшчэ, сказала з палёгкай:

– Пад раніцу ўсё нешта плялося адно і тое ж: абуджуся ад таго, зноў прысну ды зноўку тое самае. А ўспомніць, пра што сніла, што мяне так вымучвала, не магу.

– А мне снілася нешта добрае, хіба. Хай бы хоць разок споўнілася добрае, а нядобрае – на сухі лес ідзе.

Калі даехалі, аказалася, што іхнія суседзі з правага і левага бакоў ужо заўзята жалі. Пачалі і яны ўтраіх даганяць тых у працы. Малодшыя жняцы, што былі пры бацьках на полі, падпявалі, жартавалі, перагукваліся, галёкалі. Пад абед па-дышла да Сцяпанавай палоскі бабка Дзямянчыха.

– А ці чулі? – запыталася адразу, нават не прывітаўшыся, і зноўку паўтарыла: – А ці чулі, Лідка Тумашова вярнулася і Нінка Тарасава таксама ўчора вярнулася з той Германіі, і Мішку Андрыянавага адпусцілі, прыехаў з тых работ. А ўчора Яўдося пісьмо атрымала. Яе абое дзеці там застануцца жыць,

так пішуць, яна сама казала. Коля ўжо жаніўся на тамашняй, а яе Людачка мае кавалера, – спынілася на хвіліну, а потым яшчэ дадала: – Мусіць, вайна і там закончылася, калі германцы нашы дарэмныя рукі адпускаюць. А ваша... Анначка?..

– Бабо, вайна для нас яшчэ не закончылася: не адпусцілі нашу, – адказаў на тое Сцяпан і, паківаўшы галавой нібыта ў знак падзякі для старой і кемлівай жанчыны за перададзеныя весткі, пачаў жаць з новай жменяй горычы. Зноў з’явілася дакучлівая думка: “Няўжо прыйдзецца прыбіць сваячка?!”

Дарка, жнучы, і не заўважыла, калі да яе падбег Паўлік.

– Мама, глянь, што я знайшоў на мяжы, – ён трымаў у руцэ блішчачую люльку.

– Кінь! — закрычала Дарка. – Зараз жа кінь!

Не паспеў Паўлік варухнуцца, як падбег Сцяпан, спрытна вырваў з рук сына ягоную знаходку і, доўга не разглядаючыся, шпурлянуў яе ў кусты. Як бы нехта кінуў камень на камень. Пачуўся выбух і пасыпалася лісце...

– Я табе гаварыла, кінь... Божа, Божа мой, якое яшчэ шчасце! А то без дай прычыны астаўся б без вачэй ці забіла б... – залямантавала Дар'я.

Сцяпан, нічога не сказаў сыну, толькі пагрозліва здаля памахаў яму вялікім пальцам сваёй цяжкай рукі.

— Лепш, чым шныраць па межах, пайшоў бы выглянуць на дарогу, ці не ідзе Верка наша, чаго яна там так доўга збіраецца, – тут жа адазвалася маці.

Чырвоная кашулька Паўліка нейкі час паказвалася то з аднаго боку мэндлікаў, то з другога, а потым і зусім схавалася за нязжатым жытам.

Жаваранкі то блізка, то далей узляталі з зямлі, з сваёй песняй падымаліся высока-высока і зноў, спяваючы нешта перарывіста-трапяткое, падалі ўніз, каб зноў падняцца ўверх. Жанчыны-жнеі ў перапынках часта падымалі рукі ўгору, засланяючы вочы ад бляску сонца, і шукалі іх у блакіце неба. І здавалася, што ў той немудрагелістай мелодыі жаваранкаў гучаў сам голас часу. І чым болей слухаеш тую жаўруковую кантылену, тым выразней спавальняецца ўся плынь жыцця – і ўжо не ведаеш, якая цяпер на свеце гадзіна, які дзень на

двары і на якім месцы ты стаіш пад сонцам. Дарка і Сцяпан з сынам, таксама заслуханыя ў шасценне сярпоў і несціханыя над імі музычныя акорды, губляліся ў тым вялікім часе, забываліся на ягоныя меры.

І раптам у песню жаваранкаў ўварваўся крык Паўліка:

— Ма-а-а-ма!

Дарка і Сцяпан спалохана пераглянуліся. Ці не знайшоў ён зноў якую «цацку»? Столькі ж гэтага паўсюль валялася пасля вайны. Але Паўлік бег да іх радасны, размахіваючы пустымі рукамі.

— Мама, тата!.. хутчэй!.. Анечка прыехала. У хаце яны.

Тут жа пацалаваўшы Паўліка ў галаву, Дар'я перахрысцілася і застыла ў шчаслівай нерашучасці, спаглядаючы міласэрна на Сцяпана. А ён, уздыхнуўшы, пачаў піць ваду.

— Значыць, вярнулася, — сказаў ён як бы сабе ўслых. — Ну і добра! Будзе падмогай табе, маці. І з мяне камень... нарэшце. Добра, што граху не набраўся. – І, глянуўшы на поле, па-гаспадарску, рашуча абвесціў: – На дождж не збіраецца. Дажнем спакойна заўтра. А цяпер паехалі дахаты. Сёння ж у нас свята.

*

Назад ехалі той самай дарогай і кабыла, набыўшыся ўволю ў надрэчных травах, нават як бы руплівей ішла дахаты, у цянёк канюшні, дзе адпачне нарэшце ад назойлівай авадні. На возе зноў маўчалі. Мабыць, кожны перажываў ужо сваю сустрэчу з любімай усімі ў хаце Аняй – яна была па праўдзе як другая маці, а трох наймалодшых то і выношвала на сваіх руках, паіла і карміла іх.

І трэба ж было ў такі перадсвяточны настрой сутыкнуцца на перакрыжаванні дарог з Савеліем. У возе з ім сядзела дачка Марыся з сысуном на руках.

– І трэба ж на тое... – незадаволена буркнуў Сцяпан. Але тут жа, успомніўшы Аню і звязанае з ёю сваё адчуванне раптоўнага вызвалення з той усё яшчэ ваеннай напружанасці, спыніў каня і, разняволены, цяпер нават з нейкай дапытлівай, бесцырымоннай радасцю глядзеў на Саўку. Той, відаць, таксама не прадбачыў такога і цяпер не ведаў, што яму рабіць.

Седзячы на возе, нямоглымі рухамі ён толькі тузаў лейцы, як бы стрымліваючы свайго каня, хоць той стаяў амаль грыва ў грыву з кабылай Сцяпана, зацікаўлены такім суседствам.

Сцяпан нечакана саскочыў з воза і, не спыняючыся, падышоў да атарапелага Саўкі.

– Не бойся, Савелій, – сказаў ён і сваёй рукою ўзяў ягоную правую руку на запясці. – Скажы, сваяк, але скажы як на споведзі – тую пісульку пра мяне таму немцу з Кляшчэляў ты перадаў?

Саўка маўчаў, апусціўшы галаву.

Мабыць, ад гучнага паблізу чужога голасу азваўся дзіцёнак. Маня з просьбай у вачах паглядзела на бацьку.

– Татку, – сказала, – карміць яго пара. Паедзем.

Сцяпан адпусціў руку Савелія.

– Значыць, Савёлка, я не памыліўся. Трэба было цябе... – пачаў, аднак спахапіўся, глянуўшы на ягоную дачку з шырока адкрытымі ад страху вачыма, і не дакончыў таго, што хацеў яшчэ разок сказаць яму ў вочы. – Хто цябе, чалавеча, так пакрыўдзіў, што ты ўздумаў таптаць сваіх жа людзей? Мяне ж расстраляць маглі! – і памаўчаўшы добрую хвіліну, зноў узяўшы яго за аслабленую правую руку паверх локця, яшчэ сказаў: – Савелій, сыходзь людзям з дарогі – ты мог абудзіць у іх Каіна. Добра, аднак, добра сталася, што нікога, здаецца, з-за цябе не забілі. За людзей не ручаюся, але я, гавару табе, пальцам цябе не крану. Усё! Добра, што вярнулася мая другая дачка. Сёння, толькі што з’явілася... Маё шчасце! І тваё...

Сеўшы на воз, бакавым зрокам Сцяпан бачыў, што Савелій прыпаў шчакою да ўнука на руках дачкі і, відаць, не так мілаваў яго, як суцяшаў сябе самога, маўляў, чакаў горшага, а рассталіся па-людску. І стаяў так на раздарожжы, пакуль Сцяпан не ад’ехаў першы.

*

Не паспелі заехаць на падворак, як выбегла з хаты Анечка, а за ёю і Верка. Маці з дачкою тут жа абняліся, ад радасцяў расцалаваліся, расплакаліся. Сцяпан стрымліваў сябе доўгай вазнёю пры выпражцы кабылы, а потым яшчэ павёў яе да студні, дзе ў халадку чакала яе вядро паўнюткае вады. Усе

сямейнікі ці не з асаблівай любасцю глядзелі ў такую хвіліну, як пыса іхняй Зоркі паволі хаваецца ў яе вялікім ацынкаваным начынні.

Калі ўвайшлі ў хату, Анечка адразу адкрыла свой не тутэйшага вырабу чамадан і пачала вымаць падарункі, кож-наму нешта іншае, а пяцігадоваму Паўліку выняла з іншага пакунка белага, плюшавага мядзведзіка з чырвонымі вачыма. Бачачы тое, Верка, мусіць, разгубілася, збянтэжылася, заёрзала. І як бы ні з таго, ні з сяго сказала:

– Тату, а ведаеце, Аня гадавала там трое чужых дзяцей, а адно з іх было нават груднае.

– Ну і што з таго? Што ты хочаш сказаць, Вера? – перапыніла яе Аня. – Я ж ужо гаварыла табе і яшчэ раз паўтару. Там, куды нас завезлі, на пляцы горада, ці гэта не Аленштэйн быў, немцы выбіралі з нашых людзей сабе патрэбных ім да працы. Худая, але дагледжаная, прыгожая немка з паругадовай дзяўчынкай таксама шукала. З яе дзіцём мы і сустрэліся вачыма. Мне ўспомніўся наш Паўлік, калі паглядзела на яе, і я ўсміхалася ёй. Яна і павяла сваю маму да мяне. І з таго пляца на яе машыне мы паехалі ў Гайльсберг.

Аня паглядзела на сястру.

– Ну і што? – зноў працягнула. – Так, я служыла там няняй, трапіла да багатых. Яе муж, Гельмут Мэцарт, быў высокім афіцэрам. Фраў Грэта і дзеці палюбілі мяне адразу, як мне здалося. Я бачыла і адчувала, што з пачатку за мною яна назірае, правярае. Некалькі разоў, як бы выпадкова, яна перапытала мяне, ці я хварэла апошнім часам. Грэце падабалася тое, што я люблю чысціню, клапачуся пра парадак у доме, што дбаю, каб яе дзяўчаткі адзяваліся прыгожа. І праз нейкі месяц, можа, болей, пасля таго, як прыехаў з фронту на тры дні яе муж, яна поўнасцю даверыла мне займацца сваімі дзяцьмі, бо сама, як казала, не мела ўжо ні здароўя, ні часу для іх. Так, я карміла іх, няньчыла, выхоўвала, вадзіла на шпацыр, клала спаць. Грэта з’яўлялася нанач, а ў дзень досыць часта прыходзілі пабачыць нас яе родная сястра Агнеса і кузіна Элеанора. А з Норай мы проста дружылі, як найлепшыя сяброўкі.

– От табе, як доля распараджаецца чужым жыццём, –

сказала Дарка, уважліваназіраючы за Аняю. – Тут мела на руках трое і там зноў трапіла на трое.

– А тое грудное, – запытала сястра, – чым ты карміла?

Аня стражэй паглядзела на яе.

– Ай, ты і раней мне зайздросціла невядома чаго. Помніш, як ты выганяла з хаты Тошу. А ён палюбіў мяне змалку, ты ж ведаеш і, можа, за мой характар, і нават тату даўно сказаў, што я буду ягонай жонкаю. І Грэта прасіла мяне, калі немцы адступалі, застацца жыць у іх, у Германіі. Да апошняй хвіліны іх ад'езду гаварыла, калі хачу застацца, каб ехала з імі. Добрыя былі. Прынялі мяне як сваю.

Сцяпан слухаў, што расказвала Аня і, неяк самавольна звяраючы ў ёй даўнішняе з цяперашнім, не адчуваў у яе голасе і паводзінах нічога наноснага, чужога, фальшывага. У галаве засталося толькі пытанне "а чым ты карміла грудное?" і яшчэ – ці той Саўкаў Моцарт, ці часам то не той самы Мэцарт? Вырашыў пагаварыць з Аняю пазней, сам-насам, калі ўлягуцца першыя хатнія страсці жанчын.

Устаўшы з-за стала, Сцяпан паглядзеў на кожнага з дзяцей асобна, быццам гэтым багаславіў усіх і адначасова аб'яўляў, што, маўляў, нарэшце прыйшла тая іх святочная пара.

– Зноў наша сям'я, дзякуй Богу, усе мы разам, – пачаў ён. – І, памаўчаўшы, відавочна як бы шукаючы падтрымкі для сваіх далейшых думак, узяў са стала адну з прывезеных Аняй кніжак і прачытаў з напісанага на вокладцы ўслых: – Фрылінг! – і паўтарыў, не гледзячы на вокладку: – Фрылінг, фрылінг!.. Я чуў такое слова ад таго афіцэра ў Кляшчэлях, які мяне дапытваў. – І, зноў крышку памаўчаўшы, мовіў: – Душа і рукі мае чыстыя. А праз гэта і ўсе вы чыстыя, – і, убачыўшы, як Дар'я пару разоў перахрысцілася, дадаў, – І таму забудзем пра саўкавых. Добра, што зноў мы разам, жывыя і непакалечаныя. Вайна закончылася для нас па праўдзе толькі сёння. І жыццё нашае, яшчэ вельмі маладое ў нас саміх, прадаўжаецца і, здаецца, што яно зноў толькі пачынаецца, як бы да нас прыйшла другі раз у гэтым годзе вясна.




Μαρια Σταματη, *Χωρις τιτλο*, 2015, (Грэцыя)

**Радзім ГАРЭЦКІ**

# Жыццёвы меланж – 2016-2017

## Аповесць “Дзве душы” Максіма Гарэцкага ў тэатры

У газеце “Народная Воля” (10.04.2014) быў надрукаваны артыкул Лявона Баршчэўскага пра прэзентацыю ў Берліне кнігі Максіма Гарэцкага “Дзве душы”, якая стала першай у рэйтынгу найлепшых кніг, выдадзеных па-нямецку. На гэта звярнуў увагу Мікалай Пінігін, а прачытаўшы аповесць, быў вельмі ўражаны яе зместам і мовай. Ён вырашыў па гэтаму твору Максіма Гарэцкага паставіць спектакль “Дзве душы”.

У жніўні 2015 года ў газеце “Народная Воля” прачытаў пра прэм’еры Купалаўскага тэатра: *Мастацкі кіраўнік Купалаўскага возьмецца яшчэ і за складаны і некалі забаронены па ідэалагічных прычынах твор Максіма Гарэцкага “Дзве душы”.* У верасні пазваніў, а затым разам з Вольгай Губскай[1] сустрэліся з рэжысёрам-пастаноўшчыкам мастацкім кіраўніком тэатра Мікалаем Пінігіным і загадчыцай літаратурна-драматургічнай часткі Вольгай Бабковай. Я перадаў галоўныя выданні твораў Максіма Гарэцкага (у тым ліку аповесць “Дзве душы”), шэраг літаратуразнаўчых прац пра творчасць М. Гарэцкага, а таксама свае кнігі “Браты Гарэцкія” і інш. Я ўзгадаў, што пасля першага выдання ў 1919 годзе аповесць ўбачыла свет толькі праз 70 гадоў. Пералічыў шэраг сучасных выданняў, у тым ліку і пераклад на нямецкую мову. Шчыра падзяліліся думкамі пра будучы спектакль, выказалі свае меркаванні пра гэты твор і дамовіліся аб магчымым супра-

[1] Вольга Губская – кандыдат філалагічных навук (дысертацыя па творы М. Гарэцкага “Віленскія камунары”), літаратуразнаўца, вывучае жыццё і творчасць Максіма Гарэцкага.

цоўніцтве праз В. Губскую.

Ужо 25 красавіка 2016 года мяне разам з жонкай запрасілі на апошнюю генеральную рэпетыцыю новага спектакля, на якім прысутнічалі адказныя прадстаўніцы з Міністэрства культуры і НАН Беларусі.

Добра зроблена праграма спектакля ў выглядзе брашуры з вокладкай, на якой на фоне крывава-чырвонага колеру – драўляная лыжка і срэбраны відэлец з шляхецкім гербам. На беларускай і ангельскай мовах прыведзены звесткі пра Максіма Гарэцкага (1893–1938) з яго аўтографам *Найдаражэйшай за ўсё на свеце ёсць воля. Воля – змысл нашага зямнога існавання. М. Гарэцкі* і некалькі фотаздымкаў пісьменніка, яго хаты і вокладак яго твораў; пра "Дзве душы"; звесткі пра твор "Адвечным шляхам" Ігната Абдзіраловіча (псеўданім Ігната Канчэўскага), пададзены пералік артыстаў-выканаўцаў ролей (а ўсіх у пастаноўцы задзейнічана каля 40 чалавек); адзначана, што інсцэніроўка Уладзіслава Ахроменкі і Максіма Клімковіча, рэжысёр-пастаноўшчык Мікалай Пінігін, сцэнаграфія і касцюмы Барыса Гарлавана, кампазітар Андрэй Зубрыч, харэограф Наталля Карчэўская, стварэнне відэакантэнту – Сяргей Тарасюк.

На наступны дзень адбылася прэм'ера спектакля, на якую я зноў быў запрошаны разам з жонкаю і В. Губскай. Кіраўніцтва тэатра (М. Пінігін, В. Бабкова і інш.) адразу пазнаёмілі нас з намеснікам прэм'ер-міністра РБ Наталляй Іванаўнай Качанавай, якая курыруе ідэалагічную сферу краіны – культуру, літаратуру, адукацыю, інфармацыю і інш. Мікалай Мікалаевіч хваляваўся за ўражанне і ацэнку спектакля не толькі гледачамі, але і адказнымі прадстаўнікамі кіруючых улад, ад якіх залежылі вынікі нягласнай цэнзуры і канчатковага дазволу пастаноўкі ў існуючым выглядзе. Галоўная місія ў гэтым сэнсе была адведзена мне, што я і стараўся апраўдаць і ў час перад пачаткам спектакля, і ў перапынак, і па заканчэнні. Галоўнае, што ўсе жанчыны з кіраўніцтва згадзіліся з наступнымі ацэнкамі аповесці і адпаведна сцэнарыя спектакля: 1) Твор Максіма Гарэцкага – першая ў беларускай літаратуры аповесць, у якой раскрыта сутнасць бальшавізму і дадзена прадбачанне найбольш маг-

чымага будучага Беларусі; 2) Актуальнасць матэрыялу для сучаснасці, асабліва ў сувязі з незалежнасцю дзяржавы.

Перад аўтарамі інсцэніроўкі і рэжысёрам-пастаноўшчыкам стаяла цяжкая праблема: як увасобіць такі складаны і шырокамаштабны твор у адным спектаклі. Яны справядліва вырашылі зрабіць гэта шляхам своеасаблівых пункціраў – у выглядзе 32 асобных найбольш важных сцэн, выкінуўшы шэраг даволі шматлікіх і цікавых эпізодаў і падзей. Таму я хваляваўся, ці зразумеюць гледачы, асабліва моладзь, якая была далёкая ад тых часоў і падзей і якая складала значна большую колькасць прысутных у поўным зале. Але рэакцыя ўсіх гледачоў была вельмі адэкватная і эмацыянальная. Спектакль захапіў гледача: нягледзячы на тое, што многія сцэны паказваюць жудасныя падзеі таго часу – жорсткасць, забойствы, бязглуздзіцы і таму абцяжарвалі, выклікалі цяжкасці ўспрыняцца, злосць і нават брыдоту да насільнікаў, але і значныя эмоцыі шкадавання, пяшчоты да асобных пакрыўджаных персанажаў. Як прызнаўся Сяргей Дубавец у сваім фэйсбуку, ён тройчы плакаў на спектаклі.

Закончылася пастаноўка. Гледачы, стоячы, шчыра апладзіравалі артыстам, якія па чарзе зноў і зноў выходзілі на сцэну. Многіх падзякавалі кветкамі. Мікалая Пінігіна сустрэлі асабліва моцнымі авацыямі. Ён выклікаў на сцэну інсцэніроўшчыкаў спектакля. Я ўзяў у маёй Галі вялікі букет чырвоных руж, падышоў да сцэны і падаў Пінігіну. Той паклаў букет на падлогу сцэны, павярнуўшы ў бок залы прыгожыя ружы і ўсхваляваны прадставіў мяне як роднага пляменніка Максіма Гарэцкага, былога віцэ-прэзідэнта НАН Беларусі. Усе плёскалі – я ўдзячна схіліў галаву. Узрушаны Мікалай Мікалаевіч раптам саскочыў са сцэны да мяне, і мы шчыра, з удзячнасцю адзін да аднаго абняліся. Ён аддаў мне свой букет белых ружаў, зноў лёгка ўскочыў на сцэну, а я перадаў букет Галі.

Усе пайшлі да выхаду. Праз пару радоў ад нас па другі бок ад праходу паднялася і віцэ-прэм’ер Н.І. Качанава. Убачыў яе вельмі ўсхваляванай і нават узбуджанай спектаклем. Я быў рады такой станоўчай рэакцыі чыноўніцы высокага рангу. Зноў яшчэ далей абмяркоўвалі і дзяліліся

мліваю гэтую вельмі своечасовую ініцыятыву. Патрэбны помнікі ўзгаданым суайчынікам у месцах іх масавых расстрэлаў, як гэта зроблена ахвярам Другой сусветнай вайны; у імя будучага неабходна асэнсаваць трагічнае мінулае, усім адчуць за гэта адказнасць; на дзяржаўным узроўні асудзіць бальшавіцкі тэрор, правесці грамадзянскае пакаянне і іншыя дзеянні, каб такая з’ява больш ніколі не спасцігла народ. Свой вялікі артыкул Ігар Кузняцоў заканчвае вельмі правільнымі словамі: “… без принятия на себя этого в самом деле тяжелейшего груза ответственности за прошлое у нас не будет никакой национальной консолидации и никакого возрождения”.

## 500-годдзе беларускага кнігадрукавання

6 жніўня 2017 года ўвесь культурны, асабліва беларускі, свет будзе адзначаць найвялікшую дату ў гісторыі нашай краіны: 500-годдзе беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання. Калі Францішак Скарына адгарнуў новую старонку нашай культуры, зрабіўшы кнігу даступнай шырокаму колу грамадства – у чэшскай Празе надрукаваў першую Біблію на “рускай” мове. Шэраг дзеячоў у галіне культуры, навукі, мастацтва, у тым ліку і я, звярнуліся да грамадства і ўладных структур з прапановамі па ўшанаванні памяці Францішка Скарыны. Я хачу звярнуць увагу толькі на адну вельмі важную і яскравую прапанову пра наданне Нацыянальнаму аэрапорту “Мінск” імя Францішка Скарыны, што адразу б павысіла імідж нашай культуры ў свеце. Людзі з розных краін ведалі б, што ў нас ужо на пачатку XVI стагоддзя на старабеларускай мове друкавалі кнігі, быў створаны Статут Вялікага Княства Літоўскага – самы дасканалы ў той час у Еўропе збор законаў і інш. Пасажыры аэрапорта даведаліся б не толькі пра савецкае мінулае нашай краіны, але і пра багатую самабытную культуру. На жаль, в.а. дырэктара Дэпартамента па авіяцыі І.В. Марозава адказала, што наша прапанова “адмоўна адаб’ецца на тэрмінах і кошце работы па маштабнай мадэрнізацыі, якая звязана з будаў-

ніцтвам другой узлётна-пасадачнай паласы і наступным капітальным рамонтам дзейснай. Нам жа не зразумела, як дадатак "імя Францішка Скарыны" да назвы аэрапорта перашкодзіць мадэрнізацыі – наадварот, яна сведчыць, што цяпер на гэта самы час.

Створаны Грамадскі аргкамітэт па правядзенні свята, які выпрацаваў вялікую праграму канкрэтных мерапрыемстваў (у тым ліку святкаваць дзень друку 6 жніўня). Вельмі прыемна адзначыць, што гэту выдатнейшую падзею ў гісторыі нашай краіны вырашана правесці на дзяржаўным узроўні.

## 100 гадоў Усебеларускаму з'езду 1917 года

Першая сусветная вайна, рэвалюцыя прывялі да развалу Расійскай імперыі, што спрыяла нацыянальнаму самавызначэнню народаў, у тым ліку і беларускага. У кастрычніку 1917 года ў Менску была створана Вялікая Беларуская рада, якая разам з Цэнтральнай беларускай вайсковай радай і Беларускім выканаўчым камітэтам Заходняга фронту звярнулася з адозвай да беларускага народа – прысылаць 5 снежня 1917 года дэлегатаў у Менск на Усебеларускі з'езд. Адначасова Беларускі абласны камітэт пры Усерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў у Петраградзе таксама прапанаваў "надзвычайны беларускі з'езд". Беларуская народная грамада ў Маскве, распрацаваўшы сваю схему арганізацыі ўлады ў Беларусі, збіралася правесці выбары ў Беларускую краёвую думу, але пазней далучылася да працы менскага і петраградскага цэнтраў. Краёвае арганізацыйнае бюро, якое ўтварылася ў лістападзе 1917 года ў Менску, таксама выступіла ініцыятарам Усебеларускага з'езда ў самым канцы снежня.

Нарэшце галоўная праца па падрыхтоўцы да з'езда сканцэнтравалася ў Вялікай Беларускай радзе (Менск) і Беларускім абласным камітэце (Петраград), паміж якімі разгарнуліся вострыя спрэчкі і суперніцтва. Калі першая прапанавала накіраваць дэлегатаў 5 снежня ў Менск, дык другая – паміж 10 і 15 снежня ў Рагачоў. У атмасферы недаверу і ўзаемнай падазронасці ў Менску і Петраградзе

сустракаліся прадстаўнікі зацікаўленых бакоў, каб выпрацаваць супольны план падрыхтоўкі з'езда. Дзеля агульнанацыянальных інтарэсаў паступова намячалася збліжэнне іх пазіцый. Калі з месцам правядзення з'езда – сталіца Беларусі Менск – дамовіліся, дык наконт пачатку "абласнікі" (петраградцы) цвёрда настойвалі толькі на 15-ым снежня. Яны адцягвалі пачатак з'езда, бо спадзяваліся атрымаць ад бальшавіцкіх улад фінансавую падтрымку, якой вельмі не хапала для правядзення з'езда. 2 снежня СНК пад старшынствам У.І. Леніна пастанавіў выдзеліць Беларускаму абласному камітэту 50 тыс. рублёў для арганізацыі з'езда. Такі крок бальшавікоў тлумачыцца складанымі палітычнымі абставінамі. У Берасці пачыналіся мірныя перамовы выхаду Расіі з вайны. Бальшавіцкі ўрад падкрэсліваў сваю прыхільнасць да дэмакратычных прынцыпаў, праводзіў палітычныя манеўры з мэтай расколу сялянскай і нацыянальнай дэмакратый, каб пасварыць "радаўцаў" і "абласнікоў", але пакуль што не насмеліваўся скончыць з беларускай праблемай сілавымі метадамі.

5 снежня 1917 года ў Менск пачалі з'язджацца прадстаўнікі арганізацый па запрашэнні Вялікай Беларускай Рады, а 7 снежня было ўжо 500 чалавек з вырашальным голасам і 200 – з дарадчым. Многія дэлегаты патрабавалі не цягнуць з афіцыйным адкрыццём з'езда да 15 снежня, а зрабіць гэта ўжо ўвечары 7 снежня. У Менскім гарадскім тэатры паміж 20 гадзінамі 45 хвілінамі 7 снежня і першай гадзінай начы 8 снежня пачалося паседжанне, якое адкрыў урачыстымі словамі С. Рак-Міхайлоўскі, закончыўшы воклічам: "Няхай жыве вольная Беларусь!" Дэлегатаў уразілі беларускія гімны ў выкананні хору, апранутага ў нацыянальныя касцюмы. 9 снежня быў выбраны прэзідыум у складзе 15 чалавек на чале з С. Рак-Міхайлоўскім. Ганаровымі старшынямі з'езда выбралі рэвалюцыянера-народніка А. Бонч-Асмалоўскага і акадэміка Я. Карскага. Пачалося фармаванне секцый і камісій.

З прыездам ў Менск Беларускага абласнога камітэта і яго прыхільнікаў узнікалі вострыя канфлікты, якія прыводзілі амаль да расколу. Але перамаглі цяжкія крокі насустрач у імя агульнанацыянальнага адзінства. 14 снежня з'езд выбраў новы прэзідыум на чале з Я. Серадой. Для аператыўнага

разгляду палітычных пытанняў была сфарміравана Рада з’езда ў складзе 60 чалавек. Ад 5 да 17 снежня мандатная камісія (старшыня П. Крачэўскі) выдала 1872 мандаты, у тым ліку 1167 – з правам вырашальнага голасу і 705 – з правам дарадчага.

Перамовы ў Берасці без удзелу беларусаў выклікалі небяспеку ў захаванні цэласнасці тэрыторыі Беларусі, і таму неабходна было закласці асновы дзяржаўнасці. 15–17 снежня на з’ездзе разгарнуліся вельмі вострыя спрэчкі: “радаўцы” выступалі за абвяшчэнне Беларусі незалежнай рэспублікай, “абласнікі” – толькі ў складзе федэратыўнай Расіі. Нарэшце выпрацавалі кампрамісную формулу, па якой умацоўваецца права на самавызначэнне Беларускай рэспублікі, утвараецца орган краёвай улады ў асобе Усебеларускага Савета сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў – аўтаномнае кіраванне ў агульнарасійскай супольнасці народаў і краёў. Паколькі лінія бальшавікоў на раскол правалілася, яны ноччу з 17 на 18 снежня 1918 года ўзброенымі салдатамі на чале з п’яным начальнікам Менскага гарнізона М. Крывашэіным і членам СНК Заходняй вобласці і фронту Л. Рэзаўскім гвалтоўна разагналі з’езд, а членаў прэзідыума і некаторых дэлегатаў нават арыштавалі (дасканала і глыбока ўсе гэтыя падзеі разгледзеў Станіслаў Рудовіч у кнізе “Час выбару: Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе”, Мінск: “Тэхналогія”, 2001. – 201 с.)

Усебеларускі з’езд 1917 года – першы ў гісторыі агульнанацыянальны форум беларусаў, які дазволіў атрымаць аўтаномную сістэму кіравання краем. Ён стаў падмуркам абвяшчэння 25 сакавіка 1918 года нацыянальнымі дэмакратамі-адраджэнцамі ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі як вольнай і незалежнай дзяржавы. Стварэнне ў 1918 годзе БНР – першай незалежнай беларускай дзяржавы – вялікае свята беларусаў усяго свету, якому на наступны год будзе 100 гадоў. Калі б не адбыўся Усебеларускі з’езд 1917 года, не была б абвешчана БНР. Толькі дзякуючы апошняй, 1 студзеня 1919 года ўзнікла БССР, на базе якой у 1991 годзе была створана суверэнная Рэспубліка Беларусь. Улічваючы вялікае значэнне ўсіх пералічаных падзей, беларуская гра-

мадскасць адзначае іх, асабліва стварэнне незалежнай БНР і яе 100-годдзе, таму гэтую дату як вялікае свята павінна падтрымаць і кіраўніцтва дзяржавы РБ, якое ўвесь час падкрэслівае, што яно змагаецца за незалежнасць Беларусі, бо сапраўдным падмуркам гэтаму з’яўляецца БНР.

У 1922 годзе ў віленскім тыднёвым часопісе “Беларускі звон” ад 1 верасня з’явілася апавяданне “Усебеларускі з’езд 1917 года”, падпісанае псеўданімам Я.С. Толькі пасля вяртання імя і твораў рэпрэсаванага пісьменніка стала вядома, што аўтар гэтага апавядання – Максім Гарэцкі. І яно было зноў апублікавана ў кнізе “Творы” (Мінск: “Мастацкая літаратура”, 1990. – С. 128–132). У “Спісе маіх твораў”, зробленым у ліпені 1928 года, М. Гарэцкі пазначыў “Усебеларускі з’езд 1917 года” як адзін з пунктаў плана да аповесці “Дзве душы”. Аўтар тады меў намер перапрацаваць гэты твор.

М. Гарэцкі вельмі праўдзіва і дасканала асвяціў шэраг яркіх падзей і агульны настрой з’езда. Пісьменнік у той час жыў у Смаленску і лічылася, што ён на з’ездзе не прысутнічаў. Але адкуль М. Гарэцкі так падрабязна мог ведаць пра тыя падзеі, як быццам сам іх бачыў? Магчыма, мае рацыю Зоська Верас, якая сцвярджала, што як быццам на з’ездзе бачыла сярод прысутных Максіма Гарэцкага, аб чым у 2010-м годзе паведаміў Уладзімір Содаль, які спаслаўся на адзін з лістоў Зоські Верас да яго, дзе яна ўзгадвала пра Усебеларускі з’езд 1917 года.

## Найстарэйшы пісьменнік Беларусі

8 траўня 2017 года ў Менску на 98 годзе жыцця памёр знакаміты паэт, празаік, публіцыст, перакладчык Мікола Якаўлевіч Аўрамчык.

З Міколам Аўрамчыкам я пазнаёміўся яшчэ ў канцы 1970-х гадоў, калі ён працаваў загадчыкам аддзела паэзіі часопіса “Маладосць”. Я ведаў пра яго трагічны лёс, які двойчы прывёў яго на мяжу жыцця і смерці, але абодва разы ён нейкім цудам ацалеў. У канцы чэрвеня 1942 года радавога Волхаўскага фронту Аўрамчыка камандуючы здаў разам з усім падраздзяленнем у палон, і ён да канца красавіка 1945

года аказаўся ў пекле Рурскіх шахтаў. Вызваліла яго англійскае войска, і Мікола апынуўся ў руках СМЕРШаўцаў, якія тых, хто не выканаў загад Сталіна "не здавацца ў палон, а канчаць жыццё самагубствам", звычайна расстрэльвалі, але тут пакінулі яму жыццё і зусім слабога адправілі ў савецкае падзямелле – шахты Данбаса, дзе ён зноў, як зняволены ваеннапалонны, быў у голадзе, здзеках, невыносных умовах. Аднак увесну 1946 года працягнуў вучобу ў Менску.

Мяне Мікола Якаўлевіч уразіў сваёй высокай чалавечай годнасцю, надзвычайнай добразычлівасцю, жыццярадаснасцю, шчырасцю адносін да аўтараў часопіса "Маладосць", асабліва да маладых паэтаў, радасцю за поспехі сваіх калег і найбольш вучняў, поўнай адсутнасцю зайздрасці. Але Мікола Аўрамчык і сам настойліва працаваў, выдаў шэраг кніг, у якіх паэт апавядаў пра сваю любоў да Бацькаўшчыны, пра вайну і сваё жыццё, каханне, роздум пра гістарычны лёс народа і г.д. За кнігу "Сустрэча былых канагонаў" (1963) ён атрымаў Літаратурную прэмію імя Янкі Купалы, а пазней стаў заслужаным работнікам культуры Беларусі (1980).

У 1980 годзе Мікола Аўрамчык звольніўся з працы і паехаў пажыць у Ялту, каб падлячыць лёгкія, якія ўвесь час турбавалі паэта пасля таго, як надыхаліся вугальным пылам Рура і Данбаса.

Ён напісаў раман "У падзямеллі" (1986) і аповесць "Палон" (1989), у якіх на аўтабіяграфічнай аснове праўдзіва паведаміў пра жудасныя цяжкасці такіх пачуццяў як ганьба, страх, голад, нуда па Бацькаўшчыне, жаданне скончыць усе мукі самагубствам, і ў той жа час – пра малыя, але выратавальныя радасці, успаміны і надзеі; важна, што аб'ектыўна паказаў – сярод "сваіх" ёсць "звяры", а нават сярод "чужых" ёсць "людзі".

У штольнях Рура і Данбаса крапежныя сосны нагадвалі яму беларускую сасну, родную Беларусь, што падмацоўвала яго сілы – менавіта там ён напісаў выдатны верш "Беларуская сасна". Як адзначыў Пімен Панчанка: *У многіх паэтаў ёсць адзін верш, у якім нібыта сканцантравана ўся сутнасць і асаблівасць іх паэзіі. [...] У М. Аўрамчыка такім вершам я назваў бы "Беларускую сасну"... Тут усё хораша: і думка і*

*сюжэт, і вобразнасць. Адразу адчуваеш і гордасць за сваю працу лірычнага героя, і любоў да роднай Беларусі з баравымі соснамі. Але галоўнае – верыш шчыраму даверліваму голасу паэта*.

Мікола Аўрамчык пакінуў вельмі цікавыя ўспаміны, эсе пра многіх пісьменнікаў, дзяржаўных дзеячоў, ён зрабіў шмат перакладаў на беларускую мову з розных моў. Шчырыя, сардэчныя адносіны да родных, сяброў, пісьменнікаў Аўрамчык часта перадаваў праз жанр прысвячэння. З вялікай удзячнасцю і гонарам успамінаю, што і я трапіў у пералік асоб, якім Мікола Якаўлевіч прысвяціў свой верш. 7 снежня 1998 года мне споўнілася 70 гадоў і атрымалася так, што шэраг устаноў і згуртаванняў, у якіх я працаваў ці ўдзельнічаў у іх справах, вырашылі адзначыць 70-годдзе. Такога больш ніколі ў мяне не было. Але самая выдатная і незабыўная юбілейная су-стрэча адбылася 18 снежня ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, якую арганізавалі Ядзвіга Юльянаўна Раманоўская і Жанна Казіміраўна Дапкюнас. Вяла сустрэчу Людміла Сцяпанаўна Давыдоўская. Вось тады Мікола Аўрамчык падараваў мне дзве свае кнігі: “Запрашэнне да роздуму” (1994) і “Анкета” (1990). На першай ён зрабіў надпіс: *Дарагому Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму – на добры ўспамін. 7.XII.98. Мікола Аўрамчык*. На другой ён пад сваім вельмі прыгожым фотаздымкам напісаў: *Дарагому Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму – у дзень яго 70-годдзя, па-сяброўску, шчыра. Мікола Аўрамчык. 7.XII.98 г.* На фарзацы кнігі сваёй рукой напісаў верш “Род акадэмікаў”, які прысвяціў мне і які я пазней надрукаваў у кнізе “Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы. Да 100-годдзя з дня нараджэння” / Ук. Р.Г. Гарэцкі, Р.А. Зінава; пад рэд. Р.Г. Гарэцкага. – Мінск: Тэхналогія, 2000. – 420 с.

## ***РОД АКАДЭМІКАЎ***

*Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму*

*Мо таму, што ў Малой Багацькаўцы*
*Як бы добра ні працаваў народ,*

*А ўсё роўна мала багацця меў, –*
*Нарадзіўся акадэмікаў род.*
*Як на баравіне праўдзівікі*
*Пасярэдзіне верасоў густых,*
*Вылюднелі ў вёсцы на дзіва ўсім*
*Два крамяныя родныя браты.*

*Большы з іх, згодна дару божага,*
*Апярэджваючы ходу падзей,*
*Словамі пісьменства прыгожага*
*Зачароўваў і захапляў людзей.*

*Лад не званне даў ганаровае*
*Акадэміка за гэта яму, –*
*Пакаранне вынес суровае,*
*Расстраляў, спярша кінуўшы ў турму.*

*З сілай волі і з цвёрдай мэтаю*
*Акадэмікам стаць і меншы змог...*
*Волата і асілка гэтага*
*Не зламалі ні ссылкі, ні астрог.*

*Ён умеў адшукваць радовішчы,*
*Ён нямала каналаў збудаваў,*
*Гідравузлоў і вадасховішчаў,*
*Акадэміка-сына ўзгадаваў.*

*Каб не толькі свае дый бацькавы*
*Сын задумы ажыццяўляў мудрэй,*
*А таксама і ў справах дзядзькавых*
*Мог пляменнік з годнасцю весці рэй.*
*7.XII.1998*

Паміж Міколам Аўрамчыкам і Нілам Гілевічам было даўняе і шчырае сяброўства, і раптам разыграліся вельмі гарачыя спрэчкі з-за аўтарства знакамітай паэмы “Сказ пра Лысую гару”. Памятаю, як Ніл чакаў падтрымкі ад Янкі Брыля, але той маўчаў. Неяк у мяне з ім зайшла гаворка на гэтую тэму. Янка мне адказаў, што Мікола такі ж яго добры

сябар, як і Ніл, і таму ён не хоча сварыцца ні з адным, ні з другім – няхай разбіраюцца самі. І прывёў прыклад калектыўнай творчасці над кнігай “Я з вогненнай вёскі”, якую пісалі не два, а тры пісьменніка. І калі кніга выйшла з друку, дык усе яе аўтары вырашылі проста спаліць свае рукапісы, каб не было ніякіх непаразуменняў паміж імі ні пры жыцці, ні пасля, і каб аматары (а такіх было шмат) не разбіралі, як, колькі і якую частку хто з аўтараў напісаў.

На светлую памяць выдатнейшы беларускі пісьменнік, змагар за беларушчыну, настаўнік маладых паэтаў, сардэчны і шчыры чалавек, дарагі мой сябар Мікола Якаўлевіч Аўрамчык, як бы на развітанне, пакінуў мне “Выбраныя творы” з серыі “Мастацкай літаратуры “Беларускага кнігазбора” (2015), надпіс на кнізе прадыктаваў сваёй любай дачцэ Святлане Мікалаеўне: *Дарагому Радзіму Гаўрылавічу з глыбокай павагай і сяброўскімі пажаданнямі ўсяго найлепшага ў жыцці і ў працы. 20.05.16 г.* Сам зрабіў толькі подпіс – М. Аўрамчык. Мая ўдзячнасць – бязмерная. Імя Міколы Аўрамчыка і яго таленавітыя творы будуць жыць вечна ў гісторыі беларускай літаратуры!

## Славуты беларус з Прапойску (Слаўгарада)

У адным з шматлікіх прыгажэйшых мясцін Беларусі, там, дзе рака Проня ўпадае ў раку Сож, у горадзе Прапойску ў 1926 годзе нарадзіўся Фелікс Уладзіміравіч Шкірманкоў – ветэран вайны, геолаг, паэт, грамадскі дзеяч. 15-гадовым юнаком ён пайшоў змагацца з фашысцкай зграяй, а потым, ужо танкістам, сустрэў перамогу ў Чэхіі. Пасля вайны Фелікс служыў у вайсковай частцы ў Львове. Тут у яго жыцці адбыліся дзве лёсавызначальныя падзеі: ён сустрэў Веру Васільеўну Ёжыкаву (дачку яго камандзіра-маёра), якая нарадзілася ў 1928 годзе ў Пензе, і ўзаемнае каханне з якой стала яскравай зоркай на ўсе гады; рамантык па натуры, ён атрымаў самую цікавую прафесію геолага, аб якой марыў з юнацкіх гадоў. У 1951 годзе, каб па-сапраўднаму адчуць поўнае зліццё з дзікай прыродай, праверыць свае сілы і

мужнасць, Фелікс і Вера вырашылі па дагавору на тры гады паехаць у геалагічную партыю аж у Магадан, але суровы край з яго найпрыгажэйшымі хрыбтамі, тайгой, прагай пошукаў багатых схаваных зямных скарбаў, знаёмства з рознымі людзьмі ачараваў іх так, што яны дапрацавалі там да пенсіі – да 1979 года.

У той жа час паэтычная душа геолага Фелікса Шкірманкова шчыра адгукалася на ўсё ўбачанае, і ён пачаў пісаць вершы, апавяданні, якія з’явіліся ў газеце “Охотско-эвенская правда”, а пазней ў шэрагу абласных і нават рэспубліканскіх газет. Так на Калыме нарадзіўся пісьменнік, які пісаў па-руску, але беларус, які памятаў сваю Бацькаўшчыну, не забыў родную мову і нават зрэдку самі сабой з’яўляліся вершы на беларускай мове. Цікавая чалавечая натура: пасля вяртання на Радзіму – у Слаўгарад Фелікс Шкірманкоў ніяк не мог пазбавіцца ад настальгіі па Поўначы, на што пайшло не менш пяці гадоў, у якія яго вершы пранікнуты ўспамінамі і нават тугой па тых часах. Калі быў на Поўначы, перыядычна яго душу сціскала настальгія па Радзіме.

Я з Феліксам Уладзіміравічам сустракаўся на розных нарадах, сустрэчах: Кангрэсах дэмакратычных сіл Беларусі, нарадах Беларускага экалагічнага саюза, з’ездах Таварыства беларускай мовы і інш. Мы ведалі адзін пра аднаго, але неяк не давялося больш зблізіцца. Нарэшце, на Усебеларускім кангрэсе за незалежнасць (21 снежня 2014 года) мы абодва былі запрошаны ў прэзідыум Кангрэса. У выніку кангрэса быў прыняты Маніфест у абарону незалежнасці Беларусі, які мы ўрачыста падпісалі. Мне давялося выступіць з дакладам, а Шкірманкоў зрабіў кароткі выступ, які закончыў сваім вершам на тэму дня і які прачытаў вельмі выразна, прыгожа, па-артыстычнаму.

Фелікс Шкірманкоў ужо стаў шырока вядомай асобай: сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў, які выдаў каля трыццаці зборнікаў; сябрам Слаўгарадскай раённай суполкі БНФ, Слаўгарадскага аддзялення Таварыства беларускай мовы і інш.

Значны рэзананс атрымала сустрэча Лукашэнкі з ветэранамі вайны ў Слаўгарадзе ў верасні 2015 года. Як пазней

паведаміў сам Шкірманкоў, яшчэ ў 8 гадзін раніцы да яго прыйшлі кіраўнікі раёна і прапанавалі яму ад імя жыхароў прывітаць прэзідэнта, які прыедзе ў Слаўгарад. Супрацоўнікі КДБ двойчы прыходзілі, каб удакладніць, пра што ён будзе пытаць Лукашэнку. Пасадзілі пяць ветэранаў, двое з якіх “фіктыўныя”. Прэзідэнт па чарзе падыходзіў да ўсіх, паціскаў руку. Слова далі толькі Шкірманкову, які прывітаў госця пабеларуску. Той таксама адказваў на беларускай мове і, як заўсёды на “ты”. Ветэран, які па ўзросту быў значна старэйшы, вырашыў адказваць на “ты”. Ён папрасіў кіраўніка дзяржавы адмяніць дарожны падатак для інвалідаў вайны, якіх засталося зусім мала. Той абяцаў, але і праз значны час усё было “глуха, як у танку”.

Нягледзячы на тое, што ў 2016 годзе Фелікс Шкірманкоў адзначыў 90-годдзе, ён застаўся такім жа актыўным грамадзянінам, якога хвалявалі ўсе сучасныя і магчымыя будучыя падзеі ў свеце і асабліва ў роднай Беларусі. Як у паэта, усе пачуцці, якія ўзнікалі ў яго, найбольш яскрава выказваліся ў вершах. Яго не пакідалі ўспаміны, прычым яны часта, як у чалавека, большую частку жыцця пражыўшага ў асяроддзі рускай мовы, усплывалі ў рускамоўных вершах. Хаця і цяпер яго вельмі турбаваў стан беларускай мовы, ён у сваіх вершах як бы ўвасобіў так званае “двухмоўе” у Беларусі. Фелікс Уладзіміравіч у прадмове да новай кнігі адзначыў: *Я не магу патлумачыць, што кожны раз уплывала на выбар мовы, але вершы не былі антаганістамі. Мне падалося тады, што іх можна аб’яднаць пад адным дахам – вокладкай новай кнігі. Так яны, на мой погляд, маглі б засведчыць прыгажосць абедзвюх моў. Так нарадзіўся рукапіс гэтай кнігі – “Сяброўскі дуэт: разважанні” (Мінск, 2017, – 120 с).*

Аўтар падараваў мне чарговае прыгожае выданне серыі яго кніг, якую выпусціла выдавецтва “Чатыры чвэрці” з аўтографам: *Шаноўнаму Радзіму Гаўрылавічу з самымі сардэчнымі зычаннямі моцы фізічнай і духоўнай, плёну ў працы, сямейнага цяпла і паразумення.*

*Дай Бог, каб мова наша ў Дзяржаве была на такім жа месцы, як у гэтым зборніку.*

*Ф. Шкірманкоў. 3 лютага 2017г.*

Кніга пачынаецца вершам "Сяброўскі дуэт", які напісаны ў зусім новым арыгінальным жанры сапраўднага "двухмоўя" – чаргаванне радка па-беларуску з радком па-руску:

*Мне лёсам так наканавана:*
*Вдали от мест родных пожить*
*І ў рускамоўным асяроддзі*
*Родной язык свой сохранить.*

Далей – 42 верша на беларускай мове, 35 – на рускай.

Паэта хвалююць падзеі вайны, адносіны да сапраўдных ветэранаў; з вялікай удзячнасцю ёнпіша пра творчасць Анатоля Вярцінскага, Генадзя Бураўкіна, Ніла Гілевіча, якая натхняе нас і будзе жыць вечна; выказвае шчырую любоў да Радзімы, да сваіх землякоў; напамінае пра аварыю Чарнобыля і гаворыць пра тое, каб магутны "мірны" атам зноў не прывёў да бяды; успамінае пра калымскую школу жыцця, якой удзячны і г.д. У вершы "Споведзь" піша:

*Суровы нораў Калымы*
*У сваім без прыдумкі малюнку*
*Быў школай мужнасці ў жыцці*
*Па справядліваму рахунку.*
*Там я пазнаў дабро і зло,*
*Сяброў надзейных, запраданцаў,*
*Каго там толькі не было –*
*Ад велічынь да самазванцаў.*

Паэт разумее непазбежнасць таго, як "імкліва час бяжыць", як многа пражыў таго, што "па-людску жыць мне замінала", але з гонарам адзначае:

*Але я гэта пражыў,*
*Сваёй сцяжынкай далей крочыў*
*І пра жыццё як ёсць казаў,*
*З яе на шлях хлусні не збочыў.*

Другая кніга з той жа серыі, "Ты осталась со мной…"

выйшла ў 2017 годзе на беларускай і рускай мовах і якую ён прыслаў мне з такім чуллівым надпісам: *Шаноўны Радзім Гаўрылавіч, прыміце, калі ласка, гэтую кніжачку-рэквіум маёй незабыўнай, дараванай мне Богам палавінцы, пакінуўшай мяне 2-га снежня 2016 года, дарыўшай мне шчасце чыстага кахання семдзесят гадоў, шэсць месяцаў і адзін дзень…*

*Ф. Шкірманкоў. 15.04.2017 г.*

12 верасня 2008 года ён пісаў жонцы:

*Зоранька ясная, зоранька чыстая,*
*Шчодрае сэрца тваё.*
*Ты як крыніца святая, празрыстая,*
*Поўніш мне шчасцем жыццё.*

З Элай Дзвінскай, якая напісала артыкул пра гэтую кнігу "Ад яе сыходзіла дабрыня, ласка, цяпло" ("Наша слова". 3 траўня 2017 г.), Фелікс Шкірманкоў падзяліўся некаторымі ўспамінамі, пачуццямі і думкамі: *[...] Ніколі мы не сказалі адзін аднаму крыўднага, абразлівага слова. У нас не было падзелу на "тваё" і "маё", а ўсё было НАША – агульнае і недзялімае…*

*Калі мы адзначалі 65 гадоў сумеснага жыцця, у Свята-Петра-Паўлаўскім храме вёскі Лясное нас павянчаў айцец Георгій. Святар, які набліжае людзей да веры, культуры і годнасці, уручыў нам памятны абраз-складзень. Гэты абраз стаіць зараз на стале ля майго ложка.*

*Калі яна пакінула мяне, у душы застаўся боль, які нічым немагчыма сцішыць. Я буду годна пераносіць гэты боль да скону. Але я застаўся тут на зямлі яшчэ для важнага задання. Я супакойваюся, разумеючы, што мне даравана жыццё для праслаўлення светлай памяці той, што паслана была, каб я пазнаў шчасце вернага кахання. Я павінен расказаць нашым нашчадкам пра шчасце, якое яна мне дарыла ўсе гэтыя семдзесят гадоў, шэсць месяцаў і адзін дзень.*

*У шаноўнага ветэрана і паэта, акрамя каштоўнага жыццёвага досведу, застаўся вялікі скарб: сын і дачка,*

*чацвёра ўнукаў і пяцёра праўнукаў.*

Успомнілася вялікае каханне Ніла і Ніны Гілевічаў – Ніна Іванаўна для Ніла Сымонавіча была светлым анёлам ва ўсіх яго жыццёвых праявах. Яе адыход у іншы свет стаў такім страшэнным ударам, ад якога ён ужо ніколі не змог адысці. Ніл Гілевіч як помнік у яе гонар надрукаваў цыкл кніг “Памяці Ніны”. Я сваё эсе “Семікніжжа – помнік у гонар добрага анёла” (Радзім Гарэцкі, “Жыццёвы меланж”, Мінск: Кнігазбор. 2013. – С. 269-273) закончыў такім абзацам: *“Гори, гори, моя звезда…” – гэтымі бессмяротнымі словамі верша і раманса канчае апошнюю кнігу семікніжжа Ніл Сымонавіч, паставіўшы на самую вяршыню пірамiды ўшанаванне памяці сваёй адзінай любай Жанчыны, і таму зорка Ніны Іванаўны будзе свяціць вечна!*

Фелікс Уладзіміравіч Шкірманкоў кнігай “Ты осталась со мной…” таксама ўзвёў непарушны помнік *сваёй адзінай, якая падаравала шчасце ўзаемнага кахання* – ён будзе вечным прыкладам не толькі іх дзецям і ўнукам, а ўсяму юнацтву, якое шукае і жадае мець сапраўднае шчасце.

Вялікае пачуццё кахання на працягу больш 65 гадоў было ў маіх бацькоў – Гаўрылы і Ларысы Гарэцкіх, што ратавала іх ад цяжкага і трагічнага лёсу пакутнага XX стагоддзя. У маёй кнізе (Радзім Гарэцкі “Лісты жыцця і кахання”. Мінск: Тэхналогія, 2013. – 124 с.) гэта асвятляецца праз іх багатае ліставанне.

Вельмі пажадана, каб пералічаныя кнігі дайшлі да нашага маладога пакалення, каб нагадаць важнасць і сур’ёзнасць такога пачуцця ў жыцці чалавека, як вялікае каханне, якое грунтуецца не толькі на фізічным паяднанні з каханым чалавекам, але і духоўным, бо апошняе дазваляе захаваць гэтае цудоўнае пачуццё да канца жыцця.

*Мінск, красавік 2016 – травень 2017 г.*



Фота У. Крука

**Янка Брыль (1917 – 2006)**

Так знамянальна сталася, што першы нумар “Тэрмапілаў” быў своеасабліва блаславёны **Янкам Брылём**. Яго ж лірычнаю прозай “Крынічнае” і распачалося творчае сумоўе на старонках выдання:

“Гэта ў мяне і загаловак, і назва вёсачкі над “Нёманам”, на паўднёвым узмежжы Налібоцкай пушчы. (...)

Тут, у гэтай чароўнай глухамані, я і пачуў прыемнае, што сябры-“белавежцы” задумалі добрую справу, новы часопіс, і мяне запрашаюць у талаку. З удзячнасцю і найлепшымі пажаданнямі слаўнаму пачынанню прапаную “Тэрмапілам” трохі сёлетніх запісаў-мініяцюр”.

Да канца жыцця Янка Брыль заставаўся верным “Тэрмапілам”. У нумары за 2000 год была надрукавана падборка “З лірычных запісаў”, у 2003 – “Цішыня”. Апошняя публікацыя “Жнівень” з’явілася ў 2005 годзе, а наступны нумар часопіса выйшаў, на жаль, ужо з партрэтам пісьменніка ў жалобнай рамцы.

(*Ад рэд.*)

## ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

# ЗАСТАЕЦЦА СУЧАСНЫМ

(некалькі меркаванняў падчас стагоддзя Янкі Брыля)

Со смерти
Все и начинается,
И выясняется тогда,
Кто дружен с кем,
Кто с кем не знается
И кем земля твоя горда.
И все яснее освещается,
Кто – прав, кто – прах,
Кто – раб, кто – знать…
А если смертью все кончается,
То нечего и начинать!
*Леонид Мартынов* (1971)

А што, хіба не так? Прынамсі для творцы. Па завяршэнні жыцця пачынаецца яго быццё ў прасторы культуры. Ужо не ў біяграфічным часе і навакольным асяроддзі, а ў пераасэнсаваннях, праекцыях на новую рэальнасць, у дыялогу з наступнымі пакаленнямі, можа, павінен пачацца новы этап спасціжэння асобы і спадчыны мастака.

Але ж як застацца патрэбным для нашчадкаў (бо без гэтага "няма чаго і пачынаць")? Тут сапраўдная таямніца, якая, дарэчы, вельмі цікавіла Янку Брыля. Сярод пакінутых ім меркаванняў на гэты конт ёсць і такое – з нагоды прачытанага, як нярэдка ў майстра бывала:

“Прышвін, «1930 год». А друкуецца гэта праз… пяцьдзесят дзевяць гадоў.

Вось на што асуджаешся, пішучы «для сябе».

І застаешся сучасным. Калі пішаш праўду” (“Вячэрняе”, 1985-92) [1, с. 188].

Усё проста. І складана, бо цяжка бывае ўлавіць дакладны змест самых простых паняццяў. Тлумачальнага слоўніка тут недастаткова, бо відавочна, што не толькі ў дадзеным кантэксце, але і наогул у лірыцы *праўда* – гэта далёка не толькі “тое, што адпавядае рэчаіснасці”, а перш за ўсё – шчырасць ды глыбіня *індывідуальнага* перажывання і асэнсавання гэтай рэчаіснасці, вернасць не проста фактам ці, значна горш, догмам, а ўласнаму светаўспрыманню і сумленню (“пішучы для сябе”). “Але каму ж гэта будзе патрэбна, апроч самога творцы?” – такім пытаннем спрабавалі ўшчуваць Я. Брыля ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, калі ён пасля вясковага самавуцтва і ваенных выпрабаванняў церабіў свой шлях у савецкую літаратуру і, па прыроджанай інтэлігентнасці, уважліва прыслухоўваўся да меркаванняў дасведчаных людзей, імкнуўся дый проста любіў вучыцца, пакуль канчаткова не пераканаўся, што “цяпер трэба назад адвучвацца”, каб не здрадзіць свайму дару. Тыя ж, хто спрабаваў тады “вучыць”, не бралі пад увагу цуд мастацтва, які ў тым і заключаецца, што вось гэта вельмі асабістае, аўтарскае “для сябе” можа быць настолькі ж асабіста ўспрынята зусім староннім чалавекам як блізкае, жыццёва важнае, таму што праўдзівае. У выніку – не адасобленасць, а ўзаемнае набліжэнне і нават шчасце саўдзелу ў творчасці. Усё гэта Я. Брыль перажыў сам яшчэ ў дзяцінстве, адчуўшы ў працэсе захопленага чытання абуджэнне ўласнага таленту, і вынес трывалую ўпэўненасць: вось у гэтым духоўным яднанні мэта і сэнс пісьменніцкай працы. Нават не працы – служэння.

У лірыцы нейкі асабліва цесны кантакт паміж мастаком і чытачом пачынае вырастаць з такіх “мікраэлементаў”, якія нават не заўсёды можна вытлумачыць рацыянальна. Вось хоць бы з уласнага досведу. Першая мая сустрэча з брылёўскай прозай адбылася ў дзяцінстве (цяжка нават уявіць сабе, колькі пакаленняў ужо ў нашай краіне падрасло пад такім

дабратворным уплывам!). Канкрэтна – праз апавяданне "Зялёная школа" (1950). Цьмяна памятаецца малюнак у падручніку, а вось вельмі жыва і трывала замацаваўся ў памяці момант, калі сонейка казыча промнямі малога Анатоля: "Чыхнеш, чыхнеш, усё ж такі!" [2, с. 204]. Менавіта гэтае "чыхнеш!" здзівіла найбольш: я ж думала, што толькі я так адчувала праз сон дотык сонца на твары, а пісьменнік адкуль гэта ведае? Альбо трохі пазней пры чытанні апавядання "Галя" (1953) асабліва кранула душу нават не калізія, у якой апынулася гераіня, а настрой стрымана-трывожнага, трапяткога чакання і шчымлівая мелодыя фразы: *Вярніся ты хоць як-небудзь назад, мая харошая, мая загубленая маладосць!* [2, с. 237]. Падкрэсліваю: уразіў нават не сэнс, а менавіта "гук", як называў гэта І. Бунін, а Я. Брыль уважліва для сябе адзначыў.

І вось гэта – момант, падрабязнасць, гук, тон, – нават страціўшы з цягам часу непасрэдную сувязь з канкрэтнымі творамі і іх аўтарам, стала маім, хвалявала як сведчанне вялікай, таямнічай сілы мастацтва. Самае цікавае, што Я. Брыль такі варыянт сумоўя як быццам прадбачыў і ўхваляў. Доказам таму запіс, выкліканы пачутай у дарозе па радыё "поўнай маладога шчасця і мілай грацыі польскай" песенькай. *І цудоўны – без слоў, як жаўранкава песня, – прыпеў, на цэлы куплет – «тра-ля-ля»!.. <…>*

*Трохі залішне расчулена думаю, што, можа я і нічога не варты, аднак, калі музыкай слова пакіну такое вось «тра-ля-ля» – некаму будзе таксама радасна.*

*Паходжанне гэтай радасці многія не змогуць вытлумачыць, але – такое бяды. Я ў ёй схаваюся, у людской радасці* ("Служэнне", 1952-75) [3, с.344-345].

Вось так незаўважна і пачынае дзейнічаць праўда пеpажытага, што застаецца сучаснай, бо зноў і зноў пацвярджае сваю неабходнасць, замацаваная ў духоўным набытку асобы.

"Ворагі шчырасці" (як сам Брыль іх называў) і тут паспрабавалі знайсці загану: маўляў, гэта ж усё дробязі. Але шчырасць зноў перамагла. Адразу было зразумела, а з цягам часу ўсё лепш відаць, як непарыўна знітаваныя ў гэтага майстра праўда падрабязнасці, прыватнага досведу ("што я

ведаю толькі адзін”) з вялікай праўдай краіны і народа. І ці не таму брылёўскае адлюстраванне беларускай гісторыі ХХ стагоддзя атрымалася такім выразным, непадробна праўдзівым (і ўжо сёння ўспрымаецца як дакумент эпохі!), што было прапушчана праз успрыманне прадстаўніка пакалення, чыё дзяцінства гуляла “на бачных-нябачных могілках і пажарышчах” [4, с. 432] Першай сусветнай вайны (“Сірочы хлеб”, “Золак, убачаны здалёк”), а маладосць устала ў шэрагі ўдзельнікаў Другой (“Ты мой найлепшы друг”)? Прапушчана таксама праз унікальны досвед беларуса, які шукаў адказу на пытанне “дзе твой народ?”, бо мяжа, што рэзала цела яго краіны, прайшла літаральна цераз ягоны лёс (“Граніца”, “Апошняя сустрэча”, “Птушкі і гнёзды”, “Ніжнія Байдуны”). І нарэшце праз боль чалавека, які шчыра паспрабаваў прыняць савецкую рэчаіснасць, дапамагчы ажыццяўленню ў ёй агульналюдскіх гуманістычных ідэалаў (“У Забалоцці днее”, “На Быстранцы”) і сутыкнуўся са страшным (“Муштук і папка”).

Так, праўда бывае і страшнай. А бывае нязручнай для дзяржаўнага рэжыму, функцыянеры якога адразу кідаюцца “прымаць меры”, тлумачыць мастаку, пра што пісаць трэба, а што нібыта не да часу. Прайшоў праз гэта і Я. Брыль, але, дзякаваць Богу, дачакаўся магчымасці ўсё ж перадаць чытачам, пераважна ў лірычных запісах, забароненую раней непрыемную, невыносную праўду пра вайну і не толькі.

З праўдай і прыватнаму чалавеку бывае як быццам непамысна: нялёгка прыняць чужую таямніцу, яшчэ цяжэй трымаць сваю. А ці лёгка пісьменніку-лірыку? Дастаткова ўзгадаць, як цэнтральны герой аповесці “Золак, убачаны здалёк” (1978) раптам бянтэжыцца: *Не, я такога пра сябе нікому не скажу* [4, с. 391], – а толькі што ўжо сказаў! Бо праўда вышэй за меркаванні камфорту, хоць бы і камфорту душэўнага.

І нават так яшчэ:

*– Вас когда-нибудь били по обнаженному сердцу?..*

*Ці чуў гэта дзесьці, ці чытаў (бо і думаецца па-руску) – не ведаю, не памятаю. Але гэта апошнімі днямі – вельмі маё…*

*Вось што такое «лірычная проза»* (“Служэнне”) [3, с. 34-8].

Вядома, беларуская лірычная проза пачалася не з Я. Брыля, але менавіта ён уласным прыкладам засведчыў, што гэтая з’ява ў айчыннай літаратуры не выпадковая, не запазычаная, а заканамерная, трывалая і перспектыўная. Сам жа ён і выпрабаваў яе вялікія магчымасці. Талент і майстэрства Я. Брыля, з якімі нельга было не лічыцца, прымусілі нарэшце як мастакоў, так і навукоўцаў прызнаць, што лірычная проза – гэта не аблегчанае самаспавяданне ды самалюбаванне пісьменніка, не здатнага дасягнуць “эпічнага размаху і паглыбленай аналітычнасці”, а складаны феномен слоўнага мастацтва і што яго патрэбна мэтанакіравана вывучаць. Брылёўская творчасць стала сапраўднай лабараторыяй для такога вывучэння і паспрыяла яго плённым вынікам, хоць “закрываць навуковую тэму” рана і цяпер.

Апошнім часам прынята лічыць, што лірычная проза – гэта “эсэізм”, гэта мініяцюры і запісы, якія Я. Брыль і адкрыў для беларускага прыгожага пісьменства. Але хацелася б нагадаць пра іншае ягонае адкрыццё, дагэтуль яшчэ, здаецца, недаацэненае і неяк нават засланёнае пазнейшым “малафармізмам”. Маю на ўвазе “Птушкі і гнёзды” (1942-44, 1962-64).

Аўтар стрымана назваў гэты твор “кнігай адной маладосці”, паколькі азначэнне “лірычны раман” выклікáла тады сур’ёзныя сумненні. Да таго ж не была забыта, хоць ужо старанна замоўчвалася, сумная гісторыя з лірычным раманам Б. Пастэрнака. Такія абставіны не надта спрыялі творчым эксперыментам. Але Я. Брыль рызыкаваў і зноў, як да самай надзейнай крыніцы, звярнуўся да асабістага досведу. Можа, і нядрэнна, што дзве першыя аповесці, напісаныя ім у 1942-44 гг. пад свежым уражаннем перажытага ў польскай арміі і ў нямецкім палоне, не былі адразу апублікаваны (у тым ліку і з ідэалагічных меркаванняў). Цяпер пісьменнік мог вярнуцца да іх на якасна новым узроўні майстэрства.

Дыстанцыя ў часе дапамагла Я. Брылю надаць адлюстраванню маштабнасць. Прычым не за кошт “шырокага ахопу падзей” (які стабільна ўхваляла тагачасная крытыка), а чыста лірычнымі сродкамі, – сканцэнтраваўшы перажытае ды перадуманае вакол магістральных тэм і вобразаў-лейтматываў: пошукі Радзімы, беларус “на перакрыжаванні лёсаў мно-

гіх народаў” (М. Стральцоў), выпрабаванне чалавечнасці, дом (гняздо), маці, мастацтва. Майстэрскае спалучэнне вельмі асабістага з нацыянальным і агульналюдскім зноў дапамагло пісьменніку дасягнуць высокага ўзроўню пераканаўчасці і праўды. Як адкрыццё было ўспрынята сучаснікамі і дагэтуль уражвае ў Брылёвым рамане псіхалагічнае даследаванне “хатняга фашызму”, празрыстая паралель паміж гітлераўскім і сталінскім рэжымамі, чыё палітычнае пагадненне ў 1939 годзе, здавалася, абнадзеіла заходніх беларусаў перспектывай свабоды ва ўз’яднанай краіне, але так хутка выявіла сваю пачварную, здрадніцкую сутнасць. Зараз жа наша сучаснасць, думаецца, асабліва актуалізуе ў “Птушках і гнёздах” праблемы нацыянальнай самасвядомасці беларусаў і фарміравання інтэлектуальнай, высокакультурнай асобы.

Нельга было не заўважыць, як нязмушана і натуральна разгортваецца ў рамане мастацкая думка пісьменніка – у чарғаванні выяўленчых планаў, калі парушэнні храналагічнай паслядоўнасці кампенсуюцца арыгінальнай логікай аўтарскіх асацыяцый і руху пачуцця. Адразу, і небеспадстаўна, узнікла меркаванне аб уплыве кінематаграфічнай паэтыкі з яе прыёмамі мантажа і кадрыравання (Ю. Канэ). Гэтая адметнасць мастацкага ладу твора звяртае на сябе ўвагу літаральна з першых радкоў:

– *...Тады яе, нашай любай і страшнай Зямлі, яшчэ ніхто не бачыў зводдаль, у блакітным ззянні.*

*Самотная, яна паволі, вусцішна круцілася ў чорнай бездані, загадкава паслухмяна і вельмі дакладна паварочвала да святла то адзін, то другі бок жывога глобуса, мокрага ад крыві і шурпатага ад руін.*

*На тым баку, дзе была ноч, па хрусткім снезе, да касцей прапякаючы босыя ножкі, у белай кашульцы бегла дзяўчынка. Ад вёскі, дзе лютавалі забойцы, у другую, яшчэ не знаёмую вёску, дзе таксама чакала – хто ведае што...* [4, с. 14].

У такім імгненным перанясенні позірку з касмічнай арбіты (узгадайма, што праца над раманам пачалася праз год пасля гагарынскага ўзлёту) да кропкі на паверхні Зямлі і кропкі болю ў сэрцы аўтара сённяшні чытач убачыць яшчэ і выразнае падабенства з камп’ютарнай графікай, распаўсю-

джанай у кінематографе XXI, але не 60-х гадоў XX стагоддзя. Таксама вельмі сучасна глядзяцца ў "кнізе адной маладосці" яе размаітыя інтэртэкстуальныя сувязі. Разам з лірычным героем аўтар узгадвае і пераасэнсоўвае прачытанае ў Я. Гашака і Э.М. Рэмарка, Л. Талстога і М. Гогаля, З. Серашэўскага і А. Міцкевіча, М. Танка і Я. Коласа, а таксама ўзоры шматмоўнага казачна-песенна-смехавога фальклору. Не каб дэманстраваць сваю эрудыцыю, а таму, што гэта натуральна для іх ладу мыслення. Зразумела, што пісьменнік чакае адпаведнага інтэлектуальнага ўзроўню і сустрэчнага руху думкі таксама ад чытача і сваім прыкладам спрыяе яго духоўнаму росту.

Што датычыць героя лірычнага рамана, то падобнае "віртуальнае" далучэнне да вечнага і агульналюдскага праз разнастайныя стасункі з высокім мастацтвам рэальна дапамагае яму і ў абставінах казарменнай муштры, і ў няволі фашысцкага шталагу пазбегнуць разбурэння асобы, захаваць *на душы <...> свой, чалавечы, вясёлы настрой.*

*Настрой гэты стварылі: кніга, першая кніга ў казарме, узятая напярэдадні ў батальённай бібліятэцы; сонца, урачыстае, добрае сонца, што ўстала над палямі за расчыненым акном і асвяціла цішыню яшчэ не шумна-мітуслівай, не рэкруцкай раніцы; блакнот, мяккі, запáзушны блакнот, якому ён ад паўнаты душы даверыў патаемную радасць той светлай, мудрай і пакуль што нібы свабоднай раніцы, сагрэтай сонцам і кнігай* [4, с. 18].

У нялюдскіх умовах герой застаецца чалавекам і не можа не быць мастаком. Пра гэта сведчыць не толькі прыхаваны ад староніх вачэй блакнот (дарэчы, дакладная аўтабіяграфічная падрабязнасць!), але і сам лад светаўспрымання юнака. У прыведзеным вышэй фрагменце ён дэманструе і дакладнасць у назіраннях, уважлівасць да дэталяў, і шчырасць, непасрэднасць эмацыянальнай рэакцыі, і нязмушаную арыгінальнасць вобразнага мыслення, уласцівыя таксама і аўтару. Кінутае нібы між іншым "сонца <…> асвяціла цішыню" Л. Талстой, верагодна, назваў бы "лірычнай дзёрзкасцю".

Магчыма, падобная здольнасць да метафарызацыі перажыванняў (таксама як і некаторыя паралелі ў біяграфіях)

абумовіла асаблівую прыхільнасць, якую Я. Брыль адчуваў, напрыклад, да творчасці Уладзіслава Бранеўскага. У эсэ “Рэха заўсёды са мной” (1970) пісьменнік спяшаўся перадаць сваё захапленне – ужо наўздагон, пасля адыходу з жыцця польскага паэта, нібы пацвярджаючы такім чынам справядлівасць ягоных радкоў:

Я книга, которую перелистывать
будущему поколенью…
(пераклад Л. Мартынава)

Набліжала абодвух аўтараў адно да аднаго таксама мудрая радасць, з якою яны гарталі вялікую кнігу сусветнай літаратуры, перадусім рускай класікі. Не толькі як чытачы, але і як перакладчыкі – з высокім разуменнем нацыянальнай і агульналюдскай значнасці гэтай справы. Таму Я. Брыль справядліва лічыў перакладчыцкую дзейнасць непасрэдным складнікам свайго пісьменніцкага служэння, знаходзіў у ёй крыніцу творчай энергіі і эстэтычнай асалоды, радуючыся поспехам таварышаў па пяру: *Учора позна ўвечары чытаў «Мёртвыя душы». Спачатку ў арыгінале, а потым у польскім перакладзе. І добра было, і насмяяўся яшчэ раз, з падвойнай прыемнасцю, з нейкім шырэйшым шчасцем, чым бывала над Гогалем раней. І таму, што гэта – Гогаль, якога я так даўно люблю, і таму што перакладчык – Бранеўскі, што тут і Польшча, паэт і краіна, якіх я ведаю, да якіх я не абыякавы. І нейкі шырэйшы сэнс і падтэкст* (“Свае старонкі, 1970”) [3, с. 476].

Прыведзены запіс дае яскравы прыклад таго, як, нягледзячы на нацыянальна-гістарычныя ды прасторава-часавыя межы і нават на ўсеўладнасць самой смерці, разгортваецца творчае сумоўе, як яно ўзбагачае, узнагароджвае пачуццём далучанасці да вечнага. А гэта і значыць застацца сучасным,

…Наперекор плывя –
Навстречу Веку!
(Л. Мартынаў)

Далучанасць да вечнага – для Я. Брыля гэта зусім не рытарычная фігура, а прага, мэта нястомнага імкнення і непахісная ўпэўненнасць:

*– Сапраўднае не праходзіць. Яно ўвайшло ў мой вобраз свету, у маё бачанне, разуменне яго. <...>*

*Я сам прайду. А ўсё ж агонь майго маленькага свяцільніка я перадам другім* ("Душа – не падарожніца", 1968) [5, с. 147].

Спраўдзілася. І цяпер нам – тым, хто яшчэ пабудзе і будзе, трэба гэты агонь не згубіць, не згасіць, цягнуцца і дасканаліць сябе, каб быць вартымі такога даверу.

СПАСЫЛКІ

1. Брыль Янка. Вячэрняе: лірычныя запісы і мініяцюры / Я. Брыль. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1994.

2. Брыль Янка. Збор твораў: у 5 т. / Я. Брыль. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1979-1981 – Т. 1: Апавяданні. 1979.

3. Брыль Янка. Збор твораў: у 5 т. / Я. Брыль. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1979-1981 – Т. 5: Лірычныя запісы і мініяцюры. – 1981.

4. Брыль Янка. Птушкі і гнёзды: кніга адной маладосці: раман; Золак, убачаны здалёк: аповесць / Я. Брыль. – Мінск: Ураджай, 2001.

5. Брыль Янка. Збор твораў: у 5 т. / Я. Брыль. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1979-1981. – Т. 4: Дарожныя нататкі. Артыкулы, эсэ, партрэты. – 1981

Вольга Нікіфарава
Гродна

# ПАМЯЦЬ І СЁННЯ

Свет вялікі, Радзіма – адна. Тая Радзіма, на пачатку і ў аснове якой той родны куточак зямлі, дзе ты нарадзіўся, дзе прайшло тваё дзяцінства. Якраз там і тады ты босымі нагамі адчуў жыццядайную сілу зямлі, удыхнуў пах траў і лясоў, адчуў казачнае цяпло сонца і таямнічую загадкавасць зор і месяца, увайшоў у плынь часу, пазначаную пастаяннымі зменамі дня і ночы, быў уцягнуты у бясконцасць і бязмежнасць навакольнага свету. Свет той прыняў цябе, прытуліў. Адчуў сябе ты тут утульна, свабодна, шчаслíва. Знайшоў тут сваё месца. То месца твайго існавання ў свеце, пачатак твайго шляху ў вялікае жыццё. Тут запачаткавана на генным узроўні, твая каранёвая сістэма, тут крынічны выток твайго жыцця.

Жыццё ў кожнага складваецца па-рознаму. Той самы крынічны выток уліваецца ў вялікую плынь жыцця. А яна непрадказальная, няўпраўная. І ніхто не ведае, ніхто не можа сказаць і прадказаць, куды і як далёка, на які час (а можа назаўсёды) яна занясе цябе. І ўсё ж як бы далёка плынь жыцця і часу не адносіла цябе ад тваіх вытокаў, таго кутка зямлі, дзе ты з'явіўся на свет, у якія невядомыя і нязведаныя мясціны, сувязь з ім ніколі не губляецца. Ніколі і нідзе. Яна жыве ў свядомасці і можа ў найбольшай ступені падсвядома. І ў розныя моманты жыцця твайго, асабліва ў цяжкія, яна ажывае, далучае цябе да тваіх вытокаў і ты бачыш, адчуваеш: жыццё светлае, прыгожае. У ім ёсць сонца, цяпло, радасць. Нават калі ў гэты час у тваім жыцці дзеецца нешта дрэннае, непрыемнае. І для цябе, і для іншых. Жыццёвыя токі ідуць адтуль, з твайго ўваходу ў жыццё. Адтуль ідзе падсвядомае адчуванне свету жыцця і пачаткі свядомых да яго адносін.

Нават тады, калі ў той час, у тых умовах творыцца штосьці цёмнае, дрэннае. Але ты расцеш, ты ўсё больш жыццё ўбіраеш у сябе. І ўсё светлае, добрае застаецца з табою ў глыбіні існасці тваёй і ў часы пазнейшыя не адзін раз усплывае ў памяці як сцвярджэнне сэнсу і радасці жыцця твайго, свету, у якім ты жывеш. У кожнага гэтыя эмацыянальныя ўспаміны, вяртанні ў часы далёкага мінулага свае, адметныя. Бо ў іх – сам чалавек, свет яго месца і яго часу, які ўвайшоў у яго сутнасць, яго існасць. Арганічна. З гэтага вырас гэты чалавек.

Думаецца так на схіле дзён сваіх. Думаецца тады, калі ўсё больш і больш, усё часцей і часцей застаешся сам з сабою. Са сваімі ўспамінамі, роздумамі.

Неяк па-новаму ўзгадваецца літаратура, усё тое мноства аўтараў і твораў, што ты прачытаў за жыццё сваё, шмат што па некалькі разоў. А прачытана было, ой, як многа. Нямала ўжо забылася ці то дзесьці цьмяна ўсплывае ў памяці. І рэдка. Найбольш помніцца і згадваецца тое, што ўразіла цябе эмацыянальна, сваёй асаблівай агульнай эмацыянальнай атмасферай. Не асобнымі апісаннямі, карцінамі. Пэўныя падзеі, сітуацыі, вобразы ўсплываюць у памяці не самі па сабе і не паасобку, а ў кожным выпадку ў своеасаблівай, адметнай эмацыянальнай атмасферы. Яна ў творы пранізвае ўсё, насычае, яднае ў адзінае цэлае. Узнімае над зямлёю, але не адрывае ад яе. Узнікае адчуванне, найперш на эмацыянальным узроўні, што жыццё ў творы – гэта аўтар, а аўтар – гэта ўсё жыццё, узноўленае ім.

Пачынаеш потым знаёміцца з біяграфіяй творцы, з мясцінамі жыцця яго, з вытокамі яго творчага лёсу, зменамі часу ў гады жыцця яго і бачыш, пераконваешся, што ўсё, найперш духоўна-эмацыянальны свет аўтара, ідзе адтуль – з часоў і мясцін дзяцінства і юнацтва яго.

*Мой родны кут, як ты мне мілы!..*  
*Забыць цябе не маю сілы!*  
*Не раз, утомлены дарогай*  
*Жыццём вясны мае убогай,*  
*К табе я ў думках залятаю*  
*І там душою спачываю.*

Так пачынаецца выдатнейшы твор нашай беларускай літаратуры – паэма Якуба Коласа "Новая зямля". Твор, у якім духоўна-эмацыянальны свет беларуса, яго этнічнае аблічча выяўлены, увасоблены ў мастацкім слове, дзякуючы яму, асабліва выразна і ярка. Тут аўтар і жыццё, аб'ектыўны свет зліліся ў адно. Той свет, які ствараў паэт, – гэта свет таго жыцця, таго часу, калі жыў ён і якія ўвасобіў у мастацкім слове. Жыцця і часу паэтавага дзяцінства, яго паяднання з навакольным светам.

Па сутнасці, тое ж сцвярджаў Іван Мележ на пачатку сваёй працы над "Палескай хронікай".

У артыкуле "Трохі згадак і думак" ён пісаў: "Ёсць у кожнага свой мілы сэрцу куток, які з бегам гадоў не толькі не цьмее ў памяці, а становіцца як бы яснейшы, даражэйшы. Багата можа быць у чалавека іншых куткоў, і больш слаўных, і больш выдатных, але гэты куток, і не слаўны, і не выдатны, можа, нічым, не забываецца, не адступае ўдалеч; сярод іншых дарагіх, хвалюючых успамінаў – ён самы дарагі, самы шчаслівы! Куток гэты – тая хата, дзе мы вучыліся хадзіць, дзе чулі цеплыню матчыных рук і матчынага сэрца, куток нашага маленства".

І далей – вывад творчы:

"З гадамі ўсё больш адчуваю я няўхільную справядлівасць таго закону творчасці, аб якім сказаў неяк Твардоўскі:

*Вся жизнь в одном-единственном завете:*
*То, что скажу, до времени тая,*
*Я это знаю лучше всех на свете,*
*Живых и мёртвых. Знаю только я...”*

І гэта не проста дэкларацыя. Усё пацверджана найлепшымі творамі і Якуба Коласа, і Івана Мележа, і Аляксандра Твардоўскага. Гэта сведчанні творцаў, майстроў слова адносна таго, як яны асабіста бачаць, разумеюць крыніцы, вытокі той высокай праўдзівасці і мастацкай сілы сваіх твораў. Чытач жа верыць іх натуральнай жыццёвай праўдзівасці і прыгажосці.

Думаецца пра ўсё гэта вось у якой сувязі.

Здарылася так, што ў апошнія гады, хутчэй, у апошні час, давялося мне адносна блізка пазнаёміцца з літаратурнай творчасцю многіх беластоцкіх аўтараў. Гэта найперш шэраг кніг асобных аўтараў, што выйшлі ў серыі "Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання <Белавежа>", а таксама аб'ёмныя нумары (з'явілася ўжо дваццаць) часопіса "Тэрмапілы". Кніжная серыя заснавана ў 1990 годзе, выйшла ўжо 102 кнігі. Паэзія, проза, крытыка, публіцыстыка. З 1956 года пачала выходзіць (і выходзіць дасёння) беларускамоўная штотыднёвая газета "Ніва". У 1958 годзе ў гэтым выданні з'явілася літаратурная старонка. У 1956 годзе на Беласточчыне было створана Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Як бачна, грамадска-культурнае (зразумела ж, і літаратурнае) жыццё актыўна ідзе з тых гадоў. За час гэты і зроблена нямала. Можна нават гаварыць пра нараджэнне і выспяванне адметнай літаратуры – літаратуры Беласточчыны. Як асобнай галіны беларускай літаратуры. Літаратура гэтая народжаная беластоцкай зямлёю, жыццёва (духоўна і эмацыянальна) яна сілкуецца яе сокамі. Таму яна нясе ў сабе вобразы людзей і малюнкі прыроды гэтай зямлі, увасабляе яе духоўную і эмацыянальную атмасферу. Зямлёй і светам Беласточчыны літаратура гэтая народжаная, іх яна ўвасабляе і нясе ў сабе. У гэтым яе галоўная і вышэйшая каштоўнасць – змястоўная. Мастацкая. Этнічная і нацыянальная таксама.

Я нарадзіўся і правёў дзяцінства, азмрочанае нейкі час страхамі і нягодамі вайны, на зямлі Беластоцкай. Пах лугоў і палёў, шум дрэў і вясновае шчабятанне птушак, боязь летніх навальніц, ціхі шэпт веснавога дажджу і чароўнае кружэнне сняжынак засталіся са мною, ва мне назаўсёды. Як і аблічча, характар людзей, свой лад жыцця, адметнасць побыту. Адчулася гэта, выявілася асабліва неяк выразна ў познія гады. Хаця сувязі з тым светам сталі наладжвацца дзесьці з пачатку 60-х гадоў. Пачаў часта чытаць "Ніву", шэраг нумароў альманаха "Белавежа", Беластоцкі каляндар. Плённымі былі выдавецкія гады. "Мастацкая літаратура" выпусціла шэраг кніг беластоцкіх аўтараў. З некаторымі з аўтараў пазнаёміўся асабіста – Віктар Швед, Ян Чыквін, Сакрат Яновіч, Васіль Петручук. Пашчасціла атрымаць іх кнігі з дарчымі надпісамі.

Чытаў з хваляваннем, з радасцю. У 1988 годзе, калі Беларускае літаратурнае аб’яднанне адзначала свае трыццацігоддзе, пашчасціла мне папрысутнічаць на ўрачыстасцях. Удалося пабываць у роднай вёсцы, у гасцях у дваюраднага брата Мікалая. Шмат што ў вёсцы змянілася. Але паветра, прыроднае асяроддзе, гаворка, яе лексічны змест, інтанацыйны лад, засталіся ўсё тыя ж. Як і дзясяткі гадоў назад. Доўгі час пасля ўспаміны гэтай паездкі цешылі душу, будзілі добрыя пачуцці. Новы перыяд (і, відаць, найбольш плённы) звязаны з супрацоўніцтвам з часопісам "Тэрмапілы". Здарылася гэта ўжо ў новым стагоддзі. Тут я бясконца ўдзячны галоўнаму рэдактару часопіса Яну Чыквіну і Галіне Твардовіч. Яны мяне далучылі да гэтага выдатнага ва ўсіх адносінах выдання. А гэта ў сваю чаргу хоць у малай ступені дазволіла вярнуцца ў незабыўныя дні дзяцінства. У такім унутраным стане пасаблівому пачала ўспрымацца літаратура гэтага краю, гэтай зямлі. Яе праблемна-тэматычны мастацкі ўзровень і, відаць, галоўнае – яе змястоўна-тэматычная сувязь з родным краем, яго прыродай, духоўна-эмацыянальнае адчуванне і ўвасабленне свайго краю, сваёй зямлі.

У сённяшняй (ды і не толькі сённяшняй) літаратуры Беласточчыны такая яе сувязь з жыццём роднай зямлі прысутнічае даволі выразна. У асобных аўтараў, асабліва ў прозе, яна адчувальная ў самых розных змястоўна-творчых момантах – жыццёвы матэрыял, вобразы, мова.

Выявілася і сцвердзілася гэта не адразу. Напачатку, калі стала нараджацца літаратура краю (а гэта дзесьці з другой паловы 50-х гадоў мінулага стагоддзя), адчувалася і ў паэзіі, і ў прозе панаванне сюжэтаў, вобразаў і матываў фальклорных ці то як бы ўзятых з беларускай літаратуры канца XIX – пачатку XX стагоддзя. Аднак паступова адбывалася тэматычнае ўзбагачэнне вобразамі і падзеямі сучаснасці, інтанацыйна-апавядальнае ўдасканаленне і прозы, і паэзіі, паглыбіўся іх духоўна-эмацыянальны змест і сэнс. Гэта ўжо была паўнавартасная частка беларускай нацыянальный літаратуры і літаратуры Польшчы.

Георгій Валкавыцкі, Віктар Швед, Алесь Барскі, Ян Чыквін, Сакрат Яновіч, Мікола Гайдук, Васіль Петручук –

пісьменнікі, якія нарадзіліся на беластоцкай зямлі, выхаваліся на ёй, сцвердзілі сябе як творцы беларускай літаратуры на польскай зямлі. Больш за тое, яны, як і некаторыя іншыя з іх пакалення, стварылі ўмовы, творчую атмасферу нараджэння і творчасці пазнейшых прадстаўнікоў літаратуры гэтай зямлі, літаратуры як адметнай духоўна-мастацкай з'явы. У яе свая жыццёвая аснова, свае эмацыянальныя жыццёвыя крыніцы, шмат у чым свая мова. Яна выяўлена, сцверджана ўжо ў розных жанрах – і паэтычных, і празаічных.

Сёння можна пэўна сказаць, што літаратура беластоцкай зямлі, менавіта беларуская літаратура, ёсць. Грунтоўна, доказна сцвярджаецца гэта і ў шматтомнай акадэмічнай "Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя" (т. 4, кн. 2): у раздзеле У.В. Гніламёдава "Літаратурнае жыццё на Беласточчыне".

Аб гэтым сведчыць і шэраг кніг беластоцкіх аўтараў, якія ўжо ў апошні час давялося прачытаць. Мною яны ўспрымаліся кожная не проста сама па сабе, а з улікам таго, што ведаў ужо пра літаратуру Беласточчыны, – як працяг сваёй традыцыі. Зразумела, і з адчуваннем кантэксту ўсёй беларускай літаратуры. Усе гэтыя кнігі – гэта проза. У розных яе відах і жанрах. Акрамя хіба жанру рамана. Чаму? Напэўна нацыянальна-этнічнае становішча краю не нараджае, не дае для яго эпічнага самаадчування і самаўсведамлення. У дадзенай сітуацыі з'яўленне тут сапраўды эпічнага рамана праблематычна. Так мне здаецца.

Прачытаныя ж мною кніжкі сваім жыццёвым зместам і мастацкімі якасцямі неяк міжвольна складваюцца як бы ў пэўную сістэму, дзе прадстаўлены не толькі грамадска-сацыяльныя падзеі, з'явы, факты, не толькі побыт людзей, прырода, але і духоўны свет, свет літаратуры гэтага краю. І вось тут асаблівае месца займае кніга Георгія Валкавыцкага "Віры" (1991). Жанр сваёй кнігі, паўнавартаснай кнігі мемуараў, аўтар сціпла пазначыў як "Нататкі рэдактара". Звычайна кнігі падобнага характару цікавяць нас найперш асобай самога аўтара. У дадзеным жа выпадку цікавасць выклікае не толькі, а можа нават і не столькі, сам аўтар, колькі той свет, у якім ён жыве, які творыць, за які змагаецца, які сцвярджае.

Зноў жа, свет гэты населены асобамі цікавымі, дзейнымі, значнымі.

І гэта натуральна і зразумела. "Нататкі" былі напісаны ў 1988–1990 гады. Апошнія радкі кнігі:

*Пра сябе чую:*

*... Быў ... быў ... быў ...*

*Значыць, мяне ўжо няма. І гэтыя радкі – з іншага свету. Ці прачытае іх мой унук?*

Радкі істотныя. Аўтар піша з жаданнем, каб напісанае прачытаў унук. Адсюль шчырасць размовы, даверлівасць тону. Кніга "з іншага свету", свету старасці, пэўнай аддаленасці жыццёвай ад таго свету, у якім быў раней. Таму згадваецца самае істотнае, асабіста найбольш важнае. Аб'ектыўнасць і шчырасць – вызначальныя якасьці гэтай кнігі. У кнізе сабраны багацейшы жыццёвы матэрыял, датычны аўтара. Ім асабіста ўведаны, пераўжыты, правераны часам, асэнсаваны. Гэта яго жыццё. Шматлікія жыццёвыя падзеі, сітуацыі, факты падаюцца аўтарам не самі па сабе, а ў іх далучанасці да лёсу аўтара. І не проста як назіральніка іх, а як творцы, носьбіта. Уся гэтая жыццёвая рэчаіснасць – духоўна і эмацыянальна ягоная, асабістая. Ён ёю і ў ёй жыве.

Георгій Валкавыцкі (1923–2013) – паэт, празаік, стваральнік і першы рэдактар штотыднёвіка "Ніва" (1956–1987 гг.), заснавальнік Беларускага літаратурнага аб'яднання ў Польшчы. Грамадскі дзеяч. Усе свае сталыя гады ён быў у сферы актыўнага грамадскага жыцця Беласточчыны, найперш жыцця духоўнага, літаратурнага. То быў выбар асабісты – свядомы і разам з тым дзесьці падсвядомы.

У самым пачатку "Віроў" аўтар піша:

*У 1954 годзе скончыў я Літаратурны інстытут ... У інстытуце прасяк ідэяй вяртання ў народ. Ведаў: жыццё багатае і чым ніжэй – гусцейшае. А што літаратура – адлюстраванне жыцця, не было сумнення. Сталічная прапіска пагражала творчым выпусташэннем, і я даўно яе з галавы выкінуў. Толькі ўніз! Там невычэрпная руда для тваіх твораў.*

....................................

*Значыць, цвёрда – Беласточчына!*

Кніга і ўяўляе сабою мемуарныя запісы жыцця Г. Валкавыцкага і літаратурнай дзейнасці на роднай Беласточчыне. Запісы па гадах: з 1954 і да 1987 уключна, па гадах, асабліва важных для аўтара і яго справы. Георгій Валкавыцкі – асоба выключна актыўная, таму ў творы, можа, больш бачыцца багатая сфера дзейнасці аўтара, чым ён сам, яго літаратурная справа, яго творчае аблічча. Бачыцца літаратурнае жыццё на Беласточчыне, яго зараджэнне, яго не заўсёды простыя шляхі, яго набыткі. Валкавыцкі ў сваіх "Нататках рэдактара", можа, менш за ўсё згадвае пра свае чыста рэдактарскія справы.

Усталяванне (да таго проста зараджэнне) беларускасці на Беласточчыне ў сярэдзіне мінулага стагоддзя як з'явы духоўнай, як самаўсведамлення, самасцвярджэння – вось што галоўнае для аўтара "Віроў". А гэта барацьба, нястомная праца, пошук, гарэнне.

*Кожная меншасць, у тым ліку і нацыянальная як правіла, хварэе на комплекс непаўнацэннасці. Наша грамада таксама падверглася спусташальнаму нападу гэтай немачы. Раслі шэрагі нацыянальных параноікаў, разбітых беларускім паралічам індывідумаў "з ніадкуль", а антывірусаў страшэннай хваробы мы не выгадавалі. Нашы дзяжурныя лозунгі, што пачыналіся заклінальным словам "любі", народ сур'ёзна не ўспрымаў (прыгожыя лозунгі людзям прыеліся), на больш арыгінальныя, накшталт Багушэвічавага "Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!", налажыў вета пільны цэнзар. Будзем тады карчаваць паразіта жыццём і справамі тых падляшукоў, што нягледзячы на "трэфнае" паходжанне, дабіліся выдатных поспехаў. Словам, даказаць, наша "горшасць" не прыродная!*

Гэтымі словамі пачынаецца раздзел, пазначаны 1967 годам. Дарэчы, усе мемуарныя запісы зроблены па гадах, чым нагадваюць дзённік. Праўда, на самым пачатку даецца ў некалькіх сказах змест раздзела. Атрымліваецца своеасаблівае спалучэнне ў апавяданні пэўнага абагульнення, прадыктаванага прайшоўшымі гадамі, і непасрэднасці, што вынікае з асабістага ўдзелу ў мінулых падзеях, ці то блізкай далучанасці да іх.

1967 год. Прайшло больш дзесяці гадоў актыўнай дзейнасці нацыянальнага беларускага асяроддзя свядомых патрыятычных сіл.

Але дзіўная рэч: словы гэтыя вельмі актуальна гучаць і ў нас – у самой Рэспубліцы Беларусь. Парадаксальнасць у тым, што там яны адносіліся да дзяржаўнай меншасці, тут жа, у нас – да большасці, што стварае дзяржаву.

Аўтар "Віроў", паказваючы ўсю складанасць станаўлення, дзейнасці Беларускага культурнага таварыства на Беласточчыне, дзейнасць штотыднёвай "Нівы", хочацца паўтарыць, ніколькі не акцэнтуе ўвагу на сваёй асобе. Галоўнае для яго – духоўнае, культурнае жыццё. А яго ён бачыць знутры, з ім і ў ім жыве, яго ў немалай ступені фармуе. Валкавыцкага цікавіць не толькі яго рэдактарская праца. Тут і развіццё літаратуры (зразумела ж, на беларускай мове), школа, радыё, мясцовая самадзейнасць, стасункі з уладамі. І ўсюды на першым месцы – агульная беларуская справа. Спачатку ўсё гэта пачыналася ў Беластоку, пазней пачало набываць усё большы размах – Варшава, Мінск, Гродна. І не было ўсё гэта проста, лёгка.

Пачала выходзіць "Ніва". Рэдакцыя ўсяляк імкнулася пашыраць межы яе дзейнасці. Нават у самой Польшчы. "Беларусы, расцярушаныя ў заходніх і паўночных раёнах Польшчы, – балючае пытанне. Якая сіла вырвала іх з родных гнёздаў? Тых, з зацеснай Беласточчыны – надзея на большы кавалак хлеба. Тых, з-за лініі Керзона, страх перад калгасамі ці белымі мядзведзямі. Усе абжывалі новую зямлю, але думкамі жылі "на старой". Менавіта да іх імкнуліся супрацоўнікі рэдакцыі і іх рэдактар данесці "Ніву", голас роднага кутка зямлі. Усяліць у іх свядомасць: "Не саромецца беларускасці!", "Ганарыся, што ты беларус!". Ды не так усё проста было. І як прызнаецца аўтар у мемуарах: *Мая маці, даведаўшыся, што я стаў беларускім рэдактарам, не падзяліла маёй радасці, засмуцілася і сказала:*

*– На беларускай справе яшчэ ніхто добра не выйшаў.*

А словы маці для Георгія Валкавыцкага значылі шмат. У 1979 годзе маці памерла. Страта для сына была вялікая. І вось ужо праз шмат гадоў ён напіша. Шчыра, балюча:

*А ў красавіку не стала маці. Была маёй самай надзейнай апорай. Колькі раз рабілася невыносна на душы, ехаў я да маці. Гаючымі былі яе зямныя клопаты і ласка. Кранала і празорлівасць: "Беларуская справа кожнаму выходзіць бокам", – папярэджвала. У эйфарыйны час мацярынскую трывогу ўспрымаў як празмерную ўражлівасць. Потым прызнаў маці рацыю. Цяпер адчуў у грудзях страшэнную пустэчу – не магла яе запоўніць ніякая справа.*

Запіс характэрны. У ім адчуваецца глыбока праўдзівы і шчыры стыль "нататак рэдактара". Са зместу запіса можна добра адчуць, якім рэдактарам ён быў на сваёй пасадзе. І, можа, самае істотнае: шчырае да болю прызнанне ў самым істотным у яго жыцці і працы – якое ўсё было складанае, балючае. А жыццё і справа, якой былі аддадзены многія гады, ва ўсіх адносінах выключна складаныя, драматычныя. Але, прызнаючы гэта, хутчэй разумеючы і адчуваючы, ён не здаваўся. Працаваў, змагаўся.

Так, справа, да якой быў далучаны лёсам – справа беларускасці – патрабавала не проста наяўнасці літаратурнага таленту, а значна большага – грамадскай мужнасці і актыўнасці, ведаў, шырыні падыходу да жыцця, унутранай здольнасці і ўменне супрацоўнічаць з іншымі людзьмі, мэтанакіраванасці і паслядоўнасці ў сваёй дзейнасці. Усё гэта ўласціва было ў высокай ступені жыццёвай пазіцыі Валкавыцкага. Спалучалася (і гэта добра бачыцца і адчуваецца ў кнізе) усё арганічна з сапраўднай чалавечай сціпласцю і нацыянальнай годнасцю.

Стаўшы рэдактарам "Нівы", Валкавыцкі імкнуўся як мага больш пашырыць аўтарскі калектыў. Аўтараў шукае не толькі на Беласточчыне, але і ў іншых рэгіёнах Польшчы, у Варшаве, таксама за межамі Польшчы. Зразумела ж, у Беларусі. Якраз тады было шмат паездак, сустрэч, ліставання. Апошняе дастаткова прадстаўлена ў кнізе.

І што датычыцца ўзаемаадносін "Нівы" з Савецкай Беларуссю, то тут часам узнікалі і пэўныя складанасці. Так, у запісах, датаваных 1957 годам (а гэта першыя гады "Нівы"), чытаем:

*Дзіўнымі маршрутамі хадзіла “Ніва”. З цяжкасцю прабіралася на Беларусь, без перашкод трапляла на Калыму.*

Запіс 1980 года пасля прыёму ў першага сакратара ПАРП:

*На Усходзе пра нас маўчаць. Забаранілі толькі доступ да горсткі бэсэсэраўскіх чытачоў. Які смяротны грэх убачылі савецкія бдители ў нас – без віны вінаватых?*

Горка чытаць такое. Але ж было... Няхай сабе і не ўвесь час. Няхай сабе часамі.

Тым больш значнай, калі хочаце, нават гераічнай прадстае дзейнасць стваральнікаў, абаронцаў, носьбітаў беларушчыны на Беласточчыне. То была дзейнасць штодзённая, па сутнасці, то было само жыццё многіх з тых, хто быў далучаны да гэтай удзячнай дзейнасці. Іх у творы нямала. Добра ўяўляюцца асобы пісьменнікаў – Сакрата Яновіча, Алеся Барскага, Яна Чыквіна, Віктара Шведа, Васіля Петручука... Як творцаў, як грамадскіх дзеячаў. Праўда, разгляду, аналізу іх творчасці тут няма. Гэта ж не кніга крытыкі ці літаратуразнаўчая праца. І гэтыя пісьменнікі, і іншыя пераважна падаюцца ў іх адносінах да пэўных грамадска-літаратурных падзей, у асабістых і творчых стасунках.

Тое вiраванне, што адбывалася ў духоўным грамадскім жыцці на Беласточчыне і якое звязана найперш з працэсам станаўлення і жыццядзейнасцю беларушчыны, неаднойчы набывала шырокі размах, выходзіла за межы свайго краю. Уцягвала ў свае абсягі ўсё новых і новых людзей. Іх прысутнасць, іх удзел надавалі працэсу іншы размах, актывізавалі яго, паглыблялі, выводзілі гэты працэс за межы Беласточчыны.

Аўтар падае тут лісты многіх беларускіх пісьменнікаў, гісторыкаў, датычныя таго, чым займаліся і чым жылі ён і яго паплечнікі. У гэтым сэнсе вельмі цікавая прысутнасць у кнізе Зоські Верас. У запісах, пазначаных 1966 годам, Валкавыцкі піша: “У красавіку люстравала нас таксама віленская магіканка Людвіга Войцікава (Зоська Верас). З’явілася як помнік далёкага мінулага. Замры і слухай. Таму і я захоплена замаўкаю, паўторна перажываючы сустрэчу з жывой гісторыяй”. Друкуюцца сем лістоў Зоські Верас, накіраваных яму як

рэдактару “Нівы”. Лісты гэтыя ўводзяць падзеі таго часу ў гістарычны кантэкст самасцвярджэння беларускасці.

Увогуле ж “нататкі рэдактара” (мемуары, успаміны) Георгія Валкавыцкага даюць даволі поўнае і адчувальнае ўяўленне пра тыя складанасці (гістарычныя, сацыяльныя, духоўныя, нават побытовыя), якія не проста спадарожнічалі працэсу (хутчэй былі ў самім працэсе) станаўлення, існавання беларускай літаратуры, а разам – усяго друку, школы, радыё на Беласточчыне ў другой палове XX стагоддзя. Складанасці паказаны актыўным удзельнікам, творцам гэтых падзей. Таму “нататкі” гэтыя так актуальна і балюча ўспрымаюцца ў суаднесенасці з тым, што сёння дзеецца ў нас, у самой Беларусі. На жаль, віры ў нас больш глыбокія і больш разбуральныя.

Па-свойму, ужо непасрэдна праз літаратуру, самой літаратурай, тэма духоўнага жыцця беластоцкага краю прадстаўлена тым жа Георгіем Валкавыцкім (як складальнікам) у анталогіі апавядання “Панароўе” (2003 г.). У невялічкай прадмове “Ад складальніка” ён піша: “У сваім памкненні наперад з самага нараджэння на Беласточчыне беларускага арганізаванага жыцця (1956 г.), літаратурная плынь, неад’емная частка гэтага жыцця, стварала вобраз сучаснага героя, імкнулася ўзнавіць гістарычную памяць. Выразна прасочваецца гэта ў апавядальным жанры”.

Аўтар-складальнік не проста сучаснік, сведка гэтага літаратурнага працэсу, ён яго актыўны ўдзельнік, творца. Таму знае асабіста адпаведнасць уключаных ім у анталогію твораў свайму часу, тагачаснаму жыццю. Адначасова ён з гістарычных пазіцый, з новага стагоддзя, глядзіць на створанае, бачыць тое, што перажыло свой час і што засталося ў літаратуры краю, стала яго мастацкім і духоўным набыткам.

У анталогію ўключаны апавяданні 24-х аўтараў. Час напісання першага пазначаны 1958 годам, апошняга – 2000. Размешчаны яны (за невялікім выключэннем) у храналагічным парадку, што дае магчымасць пры ўважлівым чытанні, хай сабе хоць у малой ступені, адчуць рух мастацкай думкі. Дарэчы, ён у сваёй сутнасці як бы паўтарае рух мастацкай думкі, уласцівы ўсёй беларускай літаратуры XX-га стагоддзя. Апавяданні розныя тэматычна, жыццёвым матэрыялам, пра-

блематыкай, стылёвай адметнасцю. У іх змесце, эмацыянальным ладзе, мове добра адчуваюцца мясцовыя асаблівасці, каларыт. Нядрэнна бачыцца жанравы рух і жанравая разнастайнасць: ад побытавых замалёвак да эсэ і твораў інтэлектуальнага зместу. Асабліва добрае ўражанне пакідаюць апавяданні Сакрата Яновіча, Міколы Гайдука, Міры Лукшы, Міхася Андрасюка, Віктара Рудчыка.

Сам час, другая палова XX стагоддзя, само становішча Беласточчыны, патрабавалі ад яе актыўнай творчай часткі вялікіх творчых, духоўных і арганізацыйных намаганняў. Дзейнасць Георгія Валкавыцкага – яркі таму прыклад. І не адзіны. Бо трэба было не проста тварыць, трэба было стварыць умовы, атмасферу творчасці, данесці створанае да чытача, даць яму, створанаму, ацэнку з пазіцый грамадска-духоўных і эстэтычных. Тыя ж Сакрат Яновіч, Ян Чыквін, Алесь Барскі, Васіль Петручук, Мікола Гайдук шырока вядомыя і сваёй выдатнай творчасцю, і сваёй грамадскай дзейнасцю, поспехамі ў галіне літаратуразнаўча-крытычнага асэнсавання імі зробленага. Умовы патрабавалі, час даваў магчымасць усё гэта рабіць. То быў іх час. Творчасць іх, грамадска-культурная дзейнасць заслужана высока ацэнены. І на Беласточчыне, і ў Беларусі – часткова.

Сваё адметнае месца сярод творцаў старэйшага пакалення займае Алена Анішэўская (1927–2013). Паэт, празаік, перакладчык. З 1954 года жыла ў Варшаве. На старонках “Нівы” дэбютавала ў 1983 годзе. Аўтар двухмоўнага (польска-беларускага) зборніка вершаў і апавяданняў “Смак жыцця” (1998 г.) і кнігі “Шчадруха” (2009 г.).

Як бачна, пісаць пачала даволі позна. І тым цікавей паглядзець, што яе пацягнула да творчасці, да якіх крыніц прыпадала. Адказ – у яе паэзіі і прозе. Творчасць А. Анішэўскай пазначана канцом стагоддзя, уся прадыктавана гадамі дзяцінства і гадамі акупацыі. Тыя гады, падзеі тых гадоў, дзіцячае ўспрыманне і адчуванне навакольнага свету, прыроды роднага кутка Белавежы засталіся ў памяці, у сэрцы навечна некранутымі. У іх узнаўленні яскрава адчуваецца час іх непасрэднага дзіцячага ўспрымання. Можна толькі здзіў-

ляцца непасрэднасці перажыванняў, назіранняў, адчуванняў тых даўніх гадоў.

У вершы “Люблю да болю” Анішэўская напіша:

*Люблю да болю зелень маладую,*
*Ірдзенне жоўтых кветак у траве,*
*Вясну на бацькаўшчыне ўсім сэрцам чую,*
*Здаецца – маладосць шуміць ізноў у галаве.*

Чытаючы, адчуваеш, верыш выказанаму пачуццю.

Столькі гадоў (а гэта больш за пяцьдзесят), пражыўшы ў Варшаве, у зусім іншым асяроддзі, Анішэўская ў глыбіні душы засталася вернай роднаму Белавежскаму краю і гэта было для яе галоўным, асноўным. Пераважная большасць пісьменнікаў-беластатчан старэйшага пакалення, па сутнасці, увесь час жыла і працавала ў сваім асяроддзі – пабытовым, прыродным, моўным. Іх беларускасць зразумелая: гэта іх жыццё. У Анішэўскай – памяць, памяць душы.

Вось пачатак апавядання “Шчадруха”:

*Платы амаль па верхні пояс стаялі ў душыстым снезе. Мяккія пярыны ляжалі на стрэхах хат. Сёлетняя зіма не скупілася: шчодра прымарожвала ды пасыпала белым пухам.*

*Вечарэла. Непрыкметна, нібы крадучыся, надыходзіў зімовы вечар.*

Або заканчэнне апавядання “Вясна”:

*Ішлі побач да свайго двара, чалавек і конь, ап’янелыя ад вяснянага паху прэлай зямлі, свежай зелені, кветак і чагосьці яшчэ ніколі да канца не выказанага, што аднолькава ўплывае на ўсё жывое. Вясна ...*

Проста, звычайна, але як паэтычна – такое трэба адчуць душою.

Увогуле ўсе творы зборніка “Шчадруха”, найперш празаічныя, носяць адкрыта выяўлены аўтабіяграфічны характар. Але асабістае ў жыцці вёскі, у яе побыце, працы, у апісанні прыроды, пораў года, настолькі эмацыянальна дакладнае, у дэталях і падрабязнасцях выразнае, што яно для чытача становіцца сваім. Вось гэтая асабістая перажытасць рэальных фактаў, падзей, сітуацый, пакладзеных у аснову твораў Ані-

шэўскай, складае іх мастацкую сілу. Бо яны насычаны той атмасферай, у якой пісьменніца расла, сталела, насычаны сокамі той зямлі, на якой яна ўзгадавалася.

Таму зусім зразумела, чаму такое важнае месца ў кнізе "Шчадруха" займаюць творы, звязаныя з падзеямі вайны на Беласточчыне. Гэта выгнанне з роднай вёскі, гэта знішчэнне яўрэйскага насельніцтва – *у гэтым пекле загінула каля 30 тысяч жыхароў Беласточчыны* (яўрэяў). Пакінула ўсё гэта ў памяці пісьменніцы незабыўны, несціральны след. Ужо ў канцы веку, праз многія дзесяцігоддзі яна піша: *Перажыванні ў беластоцкім гета пакінулі пякучы след у маёй псіхіцы на ўсё жыццё. Нават цяпер, калі пішу аб гэтым, амаль пасля кожнага сказа раблю перапынак, заплюшчваю вочы, зазглядаю дзесьці ў сваё нутро, і тады адкрываюцца ў мазгах клеткі памяці. Бачу, здаецца, усё так, як гэта тады бачыла, хаця з тае пары прайшло ўжо больш паўстагоддзя.*

Расказаўшы пра драматычны ваенны лёс і згадаўшы асобныя падзеі першых пасляваенных гадоў, Анішэўская завяршае твор "У ваенным Беластоку" сумнымі радкамі:

*Так прамінае ўсенька на нашай гаротнай зямлі! На месца старога прыходзіць нешта новае, але ці тое новае – лепшае? На жаль, не канешне яно лепшае.*

Той настрой суму, унутранай незадаволенасці пройдзенай жыццёвай дарогай, незавершанасці планаў і нявыпрашанасці задум, у такой ступені ўласцівы творчасці пісьменнікаў адпаведнага ўзросту, у дадзеным выпадку мае і пэўны сацыяльны змест, носіць сацыяльную абумоўленасць. І гэта зразумела, усё абумоўлена аўтабіяграфічным зместам і характарам творчасці, а аўтабіяграфізм у сваю чаргу – часам жыцця і творчасці.

Гэта відаць, адчуваецца ва ўсіх творах "Шчадрухі". І калі ў першых, прысвечаных дзяцінству, настрой смутку носіць, так бы мовіць, чыста суб'ектыўны характар, то ў пазнейшых, звязаных з настроямі агульназначнага зместу, асабістае ўзмацняецца, падпарадкоўваецца грамадскаму.

Пісьменніца на радзіме. Усё змянілася. Людзей у вёсцы мала. Кароў вяскоўцы не трымаюць.

*Мая Белавежа – ужо не мая?*

*Не тая, небагатая, але вясёлая, дружная і працалюбівая.*

*Але, што зрабіць, каб і ў гэтых умовах захаваць сваю тоеснасць? Нічога не зробіш.*

Высновы такога песімістычна-абагульняльнага характару ў гэтай кнізе грунтуюцца на канкрэтным жыццёвым асабістым матэрыяле. Тут абагульненні належаць менавіта гэтаму аўтару, яго жыццём народжаны.

Асобную адметную старонку ў кнізе "Шчадруха" займае раздзел "Трымаючы ў руках паходню". Адметны ён і сваім зместам і сваёй формай. У гэтай кнізе аўтабіяграфічнага зместу галоўным героем-апавядальнікам, па сутнасці, з'яўляецца не аўтар, а персанаж. А гэта – Масей Сяднёў, вядомы празаік, паэт беларускага замежжа. Узаемаадносіны аўтара і Сяднёва дзесьці як бы нагадваюць дэтэктыўны характар. Але не сюжэт для аўтара важны. Галоўнае – асоба Масея Сяднёва. Паэта, чалавека. Шчырага, добразычлівага, сардэчнага, якім ён выяўляецца ў сваёй творчасці (у дадзеным выпадку – у паэзіі) і ў сваім ліставанні. Аўтар заўважае, што *так абменьваліся думкамі ад 1992 да 2001 года*. Пераважная большасць твора – гэта непасрэдна лісты Сяднёва, шчырыя, адкрытыя.

На смерць пісьменніка Анішэўская напісала верш "Масею Сяднёву". Заключныя дзве страфы:

*Я разумею сум твой па Айчыне,*
*Хоць паўстагоддзя жывеш у чужым ты свеце.*
*Там працаваў ты на свой хлеб штодзённы,*
*Сям'я жыла там, жонка, дзеці.*

*Яны другой ужо нацыі і*
*Беларусь для іх – чужына.*
*А ў тваім сэрцы ўсё шчымяць успамінам*
*Бусел на клуні, ноччу салавей і першая дзяўчына.*

Моцна чуецца тут і штосьці асабістае для аўтара гэтых радкоў – адарванасць ад роднага кутка, набліжэнне заходу сонца.

Самапачуванне беларуса-беластаччаніна па-свойму выразна, ярка паказаў Сакрат Яновіч (1936–2013) у сваім "Дзённіку" (канец 2000 г. – красавік 2005 г.). І калі ў мемуарах Г. Валкавыцкага ў ацэнцы падзей моцна адчувалася дыстанцыя часу, у аўтабіяграфічных творах А. Анішэўскай – момант мастацкасці, то ўжо ў Сакрата Яновіча ўсё выказваецца адкрыта, прама, непасрэдна. Тыя пісалі пра тое, што было з імі, удзельнікамі і непасрэднымі сведкамі чаго яны былі, а Яновіч – пра тое, што адбывалася тут і зараз. Піша пра ўсё ён адкрыта – як для сябе.

Дарэчы, містычны знак лёсу: здарылася так, што ўсе яны адышлі ў іншы свет у лічаныя месяцы аднаго года – 2013. Алена Анішэўская – 17 студзеня, Сакрат Яновіч – 17 лютага, Георгій Валкавыцкі – 7 красавіка. Як кара. Толькі за што?..

"Дзённік" даволі сціслы: называюцца падзеі, асобы, аўтар дае ім сваю ацэнку, коратка паведамляе пра свае адносіны да іх ці то свае ўзаемаадносіны з імі. Ды гэтага дастаткова, каб мы ўбачылі, адчулі значную асобу творцы, грамадска-культурнага дзеяча, чалавека актыўнага, прынцыповага, для якога інтарэсы роднага краю вышэй за ўсё.

*Ужо ў лістападзе – пачаткі катастрофы здароўя (застуда, антыбіётыкі).* Так запісам ад 19.12.2000 г. пачынаюцца дзённікі. Гэты струменьчык самаадчування, не зусім добрага, прысутнічае, адчуваецца, па сутнасці, ва ўсім "Дзённіку". Але не ён вызначае эмацыянальны лад твора. Боль душэўны глушыць боль фізічны. А боль душэўны (гэта галоўны клопат і душэўны, і жыццёвы) – беларускасць. На Беласточчыне – паланізацыя, у Беларусі – русіфікацыя.

Вось запіс, 08.02.2002: *З пакутнаю неахвотаю адзначаю сваю аўтарскую сустрэчу ў бельскім ліцэі (5-га). Polonizacja w nim już się dokonała! Як у саветаў, паралельна, русіфікацыя состоялась. Няма з кім гаварыць. Чужы сярод сваіх.*

Ад сябе хочацца дадаць: у адным выпадку паланізацыя нацыянальна-этнічнай меншасці, у другім – галоўнай дзяржаваўтваральнай нацыі. Розніца немалая. У "Дзённіку" гэта не раз адзначаецца, падкрэсліваецца. Галоўную прычынаю русіфікацыі, што абрынулася на Беларусь у апошнія часы, С. Яновіч звязвае з палітыкай улады. Адзначаюцца часам і гіс-

тарычныя моманты, абумоўленыя пэўнымі тэндэнцыямі сусветнага руху.

*1.03.2002. Грамадская ціш. Татальны эгаізм. Толькі грошы на мазгах. Інтэлектуальнасць сплыла бы вада з гускі. Як доўга людзі вытрымаюць у такім разумовым бязруху? Беларусы доўга. З паншчыннымі генамі.*

Высновы ў пераважнай большасці – эмацыянальна насычаныя. Але зыходзяць з рэальных фактаў, сітуацый, на іх грунтуюцца. Ратунак для Беларусі Яновіч бачыць толькі ў Еўропе. Высновы яго катэгарычныя: *Беларусі аніколі не быць у Еўропе! Русіфікацыя засмоктвае яе ў Расію.*(...) *Нацыю магла б пабудаваць нацыянальная дзяржава, але такая ўяўляецца ўтопіяй на безнацыянальнай тэрыторыі*. (...) *Засталося трымацца не беларусаў, але беларускай культуры.* Запісы рознага часу і ў вялікім маштабе аднаго і таго ж. Усё быццам лагічна. Мэта да сёння не дасягнутая. Хаця ўсё мяняецца. Сама Еўропа ўжо не тая. І яшчэ на што варта звярнуць увагу: у развіцці культуры, літаратуры, арыентуючы іх развіццё на вышэйшыя мастацкія ўзроўні, не забываць пра нацыянальную яе жыццёвую і духоўную аснову, сутнасць. Сакрат Яновіч – палеміст, аўтар выключна эмацыянальны, у сваіх высновах, ацэнках бывае, як мне здаецца, і занадта катэгарычны.

25.12.2003. На польскія Каляды. І творчая радасць, і сум, нейкая хваравітасць.

*“Новая зямля”. Усё ж нашмат слабейшая за “Пана Т.” Талент талентам, але адукаванасць Коласа не тая. Усяго семінарыя. Настаўніцтва яго ў глухамані, а не ў Парыжы.*

Супастаўленне некарэктнае. З такім жа поспехам можна называць Пушкіна, Гётэ, Шэкспіра... У чым негатыўна ці то недастаткова пазітыўна выявілася яго “не тая” адукаванасць ці тое настаўніцтва “у глухамані”?

Ёсць твор, які выдатна падае наш нацыянальна беларускі свет, твор, які ў аснове нашага прыгожага пісьменства, вяршыннае наша мастацкае дасягненне. А што такое для беларускага мастацкага свету “Пан Т.”? Які яго ўнёсак у наш духоўны свет? Я адказаць не бяруся. І такія выказванні для мяне не зразумелыя.

Чытаючы творы літаратараў Беласточчыны – творы розных жанраў, але напісаныя прадстаўнікамі старэйшага пакалення ў канцы мінулага стагоддзя і ў дні сённяшнія, бачыш, адчуваеш пэўную падобнасць ва ўспрыманні часу, гісторыі, у выяўленні сваіх чалавечых эмоцый і адначасова індывідуальную адрознасць, адметнасць агульнага настрою, яго выяўлення.

Так, у творах Георгія Валкавыцкага выразна праглядаецца імкненне перадаць усю паўнату, складанасць тых літаратурна-культурных падзей, удзельнікам і творцам якіх наканавана яму было стаць. Пераважае ў творчым падыходзе пачатак падзейна-аналітычны. Алена Анішэўская прыгадвае падзеі, эпізоды для яе асабліва помныя, таму іх тагачасны вобраз часам становіцца галоўным, пераадольвае сум успамінаў агульны настрой тугі на захадзе сонца.

У Сакрата Яновіча, мяркуючы па дзённіку, агульны настрой – незадаволенасць многім, што дзеецца навокал. У пэўнай ступені абумоўлена гэта, напэўна, незадавальняючым станам здароўя. Але асноўны змест гэтай агульнай незадаволенасці – справы агульныя, культура, літаратура, а, відаць, вызначальнае – яго ваяўнічы характар, актыўная жыццёвая пазіцыя.

Па-свойму бачыцца ў сённяшняй літаратурна-грамадскай сітуацыі адзін з самых актыўных прадстаўнікоў літаратуры Беласточчыны – Ян Чыквін. Творца і працаўнік. Прафесар, даследчык літаратуры, выдавец, паэт, празаік... Ва ўсіх галінах дзейнасці – поспехі, набыткі. І не малыя.

Вось хаця б дзве кнігі: навуковая канца стагоддзя – “Далёкія і блізкія” (1997 г.) і кніга паэзіі і прозы ўжо пачатку новага стагоддзя – “Здарылася быць” (2015 г.).

Кніга “Далёкія і блізкія” прысвечана “беларускім пісьменнікам замежжа”, разгляду іх творчасці. У прадмове аўтар піша: *З перспектывы гадоў у лёсе творцаў беларускай эміграцыі і “белавежцаў” мне выразна праглядае тыпалогія жыццёвых абставін. І адны, і другія, апынуўшыся за межамі Беларусі, без надзеі быць пачутымі, засталіся верныя роднаму слову, нібыта абраныя спавядаюць яго насуперак неспрыяльным сацыяльным варункам.* З боку даследчыка то

была спроба далучыць літаратуру замежжа і Беласточчыны да агульнай плыні нацыянальнай літаратуры. Акадэмічная навука, на жаль, зрабіла гэта пазней – гл.: “Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя”, т. 4, кн. 2 (2003 г.).

Аўтар патрабавальна паставіўся да адбору пісьменнікаў беларускага замежжа, што тлумачыў: *Асноўнай мэтай бачылася найперш асэнсаванне творчай індывідуальнасці тых майстроў прыгожага пісьменства, хто сваімі творамі, асаджанымі ў агульнаеўрапейскім літаратурным, культурным і філасофскім кантэксце, выразна выказвае сваё адметнае слова.* І гэтае слова – беларускае. Менавіта ў гэтым аспекце Чыквін разглядае творчасць Наталлі Арсенневай, Ларысы Геніюш, Масея Сяднёва, Янкі Юхнаўца, Сакрата Яновіча, Надзеі Артымовіч і іншых. У кнізе аналізуецца (у артыкуле Уладзіміра Конана “Быццё і час у люстэрку паэзіі”) і творчасць самога Яна Чыквіна. Назва паказальная ў вызначэнні характару і сутнасці творчасці пісьменніка. Сведчаннем таму – зборнік “Здарылася быць”.

Мяркуючы па датах, якімі пазначаны час напісання, па сутнасці, усіх твораў зборніка, то і паэзія, і проза народжаныя ў новым стагоддзі. І ў творах добра адчуваецца час агульнага чалавечага быцця. Як, дарэчы, і асабісты час пісьменніка. Рацыянальна-адчувальна гэта адзінае – паэтычны свет Яна Чыквіна. Паэтычны, бо і проза тут паэтычная.

Зборнік эмацыянальна, сваім светаўспрыманнем па-мастацку арганічна цэласны. Ёсць, зразумела, тут і ўзроставыя “хвіліны тугі”, але яны глыбока паглынуты захапленнем багацця навакольнага свету, бязмежнасці жыццёвых праяў, роздумам над усім, што навокал дзеецца. Скрозь пануе настрой здзіўлення, захаплення, жыццёвай таямнічасці.

*Быў ранні поўдзень жыццейка святога.*
*Жыццё расло паўсюль і пнулася ўгору*
*І расцякалася па ўсіх сваіх дарогах,*
*І калыхалася, куды ні глянь, як мора,*
*Аж дух займала, млела наваколле,*
*Аж сэрца трапяталася жывое,*
*А жыць ў жыцці хацелася найболей!*

Гэта сённяшняе паэтава ўспрыманне свету і адчуванне, бачанне сябе ў гэтым свеце. То не штосьці новае, ніколі не бачанае. Гэта той самы свет дзяцінства. Свой, блізкі, родны, здаецца, такі ўжо ўведаны, вядомы да драбніц. Але так толькі здаецца. Знаёмы свет прываблівае ўсімі сваімі дробязямі, дэталькамі, фарбамі, рухамі, іх невытлумачальнасцю, неадназначнасцю праяўлення, урэшце, заўсёднай сваёй таямнічасцю.

У апавяданні “Няскончанае маўчанне” Ян Чыквін зазначае: *Прырода была маім другім домам. Я вырас у яе атачэнні, калыханы ёю. І мая дзіцячая любоў да родных мясцін не слабела цягам часу*. Любоў тая пашыралася, захопліваючы ўсё большыя абсягі бліжняга свету. *І свет гэты, свет прыроды, быў напоўнены чароўнай музыкай.* (...) *Музыка венскіх класікаў, здаўна думаў я, тая самая па духу, што і прыродная.* Той свет прыроды, свет родных мясцін, у якім прайшло паэтава дзяцінства, для яго застаецца тым жа чароўным, напоўненым музыкай. Можа толькі больш загадкавым, таямнічым, неспазнаным. У апавяданні цудоўна спалучаны лірычнасць, філасафічнасць і містыка. Містыка ўзросту: чым больш знаеш, тым больш – таямнічага, непазнанага бачыш вакол.

Чыквін, як паэт, не проста лірычна-тужліва адлюстроўвае жыццё, якое засталося ў яго памяці, яго сэрцы, ён яго спас-цігае. Спасцігае сённяшняй лірычна-тужлівай сваёй настроенасцю, і ў гэтым ён сучасны. Сучаснасць жа яго, найперш у творах празаічных, эмацыянальна містычна-філасофская.

Гэтая сённяшняя адметнасць таленту Я. Чыквіна праяўляецца асабліва выразна і ў супастаўленні з творчасцю пісьменнікаў яго пакалення, і, асабліва, з творчасцю тых, чый талент выявіўся ўжо ў новыя часы. Найперш, гэта творчасць Міхася Андрасюка і Віктара Стахвюка.

Тры кнігі прозы Андрасюка з’явіліся на пачатку новага стагоддзя – “Фірма” (2000 г.), “Мясцовая гравітацыя” (2004 г.), “Белы конь” (2006 г.). У іх выказаўся прыкметны талент пісьменніка, добрае адчуванне свайго часу, вернасць роднаму краю. Творы разам уяўляюць мастацкае цэласнае бачанне

свету і чалавека ў ім. Свету канкрэтнага і чалавека жывога, рэальнага.

Андрасюк як пісьменнік ідзе ад сучаснасці, ёю народжаны. Сучаснасцю ва ўсіх яе праявах – грамадска-сацыяльных, побытова-гаспадарчых, у сферы асабістых узаемаадносін. Час адчуваецца ва ўсім, выяўляючыся ў самых розных момантах мастацкай структуры, прычым па-рознаму. Пачынаючы з жыццёвага матэрыялу, праз праблематыку твораў, вобразаў і канчаючы эмацыянальнай атмасферай, асобнымі заўвагамі, рэплікамі. Час гэты – 90-я гады мінулага стагоддзя. Час дэмакратызацыі і лібералізацыі грамадскага жыцця, час разняволення, нярэдка без усялякага разумнага абмежавання, асобы. Пра гэты час і знутры гэтага часу піша аўтар. Ён ім узгадаваны і сфармаваны. Тэмы, канфлікты, сюжэтныя сітуацыі, рэаліі штодзённага жыцця, побыту, матывы чалавечых учынкаў, паводзін у аснове сваёй народжаны, насычаны пераменамі, новым жыццём.

Моцная ўнутраная прывязанасць аўтара да канкрэтнага рэальнага часу не магла не выявіцца ва ўзнаўленні месца дзеяння. Тут Андрасюк зноў жа ідзе ад самага для яго блізкага, душэўна роднага, уведанага і перажытага ім – жыцця Мястэчка. Яно, Мястэчка – вось той цэнтр свету (сам свет), які імкнецца ўзнавіць, паказаць, спасцігнуць і зразумець пісьменнік. Мястэчка на беларуска-польскім памежжы, на самым ускрайку Белавежскай пушчы жыве ў творах. Яго своеасаблівую атмасферу, побыт, характар, адметную рэакцыю на агульназначныя падзеі аўтар перадае праўдзіва, эмацыянальна адчувальна, выразна.

Чытаючы творы Андрасюка, адчуваеш, бачыш і чуеш яго Мястэчка. Яго прэтэнцыёзнае самапачуванне і яго рэальную значнасць, яго жаданне быць на вышыні агульнадзяржаўных клопатаў і мізэрнасць яго спробаў рэальна вырашыць іх на ўзроўні пасядзелак у барах ці то кавярнях. У творах усюды добра відаць праявы новага часу ў іх местачковым увасабленні і творчым праяўленні: у вобразах, побытовых малюнках, дынамічных натуральных дыялогах, у падрабязнасцях і дэталях. Гэта, можа, самае важнае ў самой манеры апавядання – вельмі арганічнай, па-сучаснаму свабоднай і дына-

мічнай, з прымешкам немалой долі іроніі і гумару. У гэтым сэнсе, відаць, можна сцвярджаць, што аўтару ў самой апавядальнай манеры ў значнай ступені ўдалося перадаць рытм і інтанацыю часу. Рытм дынамічны, але нейкі разбэрсаны, няўстойлівы, з пэўнымі збоямі: інтанацыя характарызуецца тым, што ва ўсіх апісаннях, малюнках, дыялогах абавязкова прысутнічае папраўка на зніжэнне тону, прыхаваная, а то і адкрытая насмешка. І ў гэтых вызначальных момантах мастацкай прыроды твораў зноў жа моцна адчуваецца час, яго агульная атмасфера. Той перыяд, калі прайшло агульнае захапленне зменамі і пераменамі, калі падзеі, факты, высокія словы выявілі сваю рэальную сутнасць.

З цягам часу (ужо ў аповесці "Белы конь") заўважаецца ў творчасці Андрасюка паглыбленне гістарычнага мыслення. Для яго становіцца важным не проста паказаць якуюсьці падзею, расказаць гісторыю сённяшняга дня, а паспрабаваць выявіць яе ці то грамадскія, ці то бытавыя вытокі. Паспрабаваць паглядзець на Мястэчка гістарычна. У сувязі з гэтым узмацняецца і паглыбляецца ўвага да стварэння мастацкіх вобразаў. Творы набываюць больш эпічны характар. Увесь час у творы прысутнічае гісторыя: у асобных аўтаравых заўвагах, у разважаннях герояў, у руху падзей, у паказе змен побыту, нават у эмацыянальным ладзе. Не навязліва, не публіцыстычна завострана, а як народнае светаадчуванне. Не так у фактах, як у адчуваннях, у жыццёвай пазіцыі, штодзённых паводзінах. Але глыбока абагулена, рэальна.

Дзве характэрныя цытаты:

*Вайна заўсёды жыла побач, як блохі і хваробы, кармілася людзьмі. Вызначаючы адных у жывыя ахвяры, іншых – у мёртвыя героі. Пры тым, якая б ні была: сусветная ці суседская, завяршалася нязменна цырымоніяй – падзелам вялікіх краін або малых загонаў.*

*Дзеда Уладзіміра, што стаpгаваў у савецкага капітана невялікі драбок краіны сваіх беларускіх дзядоў, каб перадаць яго ў краіну сваіх польскіх унукаў* (падкрэслена мною, *С.А.*)*, я ніколі не бачыў.*

Так бачыцца свет агульны з пазіцый Мястэчка, так успрымаецца Мястэчка ў свеце агульным. А беларускія дзяды і польскія ўнукі – гэта ж адны і тыя ж самыя людзі Мястэчка.

Прачытаўшы творы Міхася Андрасюка, добра адчуваеш, што пісьменік знайшоў у жыцці, стварыў свайго героя, выпрацаваў свой стыль, дзе сучаснасць арганічна ўвайшла ў нацыянальную моўную аснову (асобныя словы, сучасныя іранічныя інтанацыі не прыўнесены, а як бы вынікаюць з адлюстраванай рэчаіснасці) і – самае галоўнае – стварыў свой мастацкі свет. Нездарма ж ён атрымаў у аўтара ўласнае імя – свет Мястэчка. Свет гэты мае даволі грунтоўную, даволі выразна выпісаную рэальную гісторыка-этнічную аснову, эмацыянальна і духоўна багата насычаны, наскрозь пранізаны непадробнай аўтаравай любоўю, яго роздумам і болем.

З тых аўтараў Беласточчыны, чые творы (кнігі) з’явіліся ў апошнія гады, вылучаецца Віктар Стахвюк, яго кніга “Пакуль змеркне дзень” (2014 г.). Кнігу складаюць дзве аповесці: “Мая Камчатка” і “Корсіка”. Творы носяць адкрыты аўтабіяграфічны характар: Стахвюк галоўны герой твораў, ад яго імя (героя, а не пісьменніка) вядзецца апавяданне і ў адным творы, і ў другім. “Мая Камчатка” ўяўляе сабою запісы шэрагу падзей, звязаных з гісторыяй, калі Беларусь на працягу трох гадоў была марской дзяржавай, а яе карабель пад бел-чырвона-белым сцягам плаваў па Індыйскім і Ціхім акіянах, лавіў рыбу. У назвах раздзелаў даецца дата падзеі, яе сутнасць і галоўныя яе персанажы. У аснову гэтай аповесці пакладзены падзеі рэальныя, даволі пэўна акрэсленыя і ў сваім пачатку, і ў завяршэнні. Ды аўтар не проста іх апісвае, узнаўляе. Вызначаны жанр твора. І жыццёвыя гісторыі падаюцца ў іх жанравым мастацкім увасабленні.

У аповесці “Мая Камчатка” асноўныя падзеі адбываюцца на фоне вельмі актыўных грамадска-палітычных падзей пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя ў Беларусі, Польшчы, Расіі. І вось гэты палітычны, гісторыка-палітычны кантэкст, няхай сабе пераважна публіцыстычна, у творы прысутнічае ўвесь час.

Галоўны герой твора, ён жа аўтар, ляціць у самалёце над Ахоцкім морам, Магаданскім краем. *Сонца ўвесь час асвят-*

*ляла, паміж рэдкімі воблакамі, Магаданскі край ды нераздзельныя копны невысокіх гор, сярод якіх блішчэлі сотні тысяч безымянных азёр і нітачкі рэк. Нідзе ні адной жывой душы. Часамі з'яўляліся нейкія баракі, дзесяткі кіламетраў дарог да адкрытых руднікоў і зноўку ніводнага следу чалавечай прысутнасці.*

*Бачыць усё гэта – чысцейшы водар для душы.*

*Адначасова гэта была сумная задума над лёсам мільёнаў бальшавіцкіх ахвяр, загінуўшых у нечалавечых умовах, створаных "халоднай, хворай нянавісцю кагановічаў, троцкіх, зіноўевых, свярдловых, дзяржынскіх, ягодаў, берыяў, цанаваў, бэрманаў і процьмай іхніх апрычнікаў.*

Думаецца шырэй пра трагічнае мінулае, якое закранула кожную сям'ю. *Пачынаеш тады усведамляць сабе, што вось упершыню сваімі вачыма датыкаешся да ран, якія шчымяць і ў тваіх грудзях.*

Бясконцасць, *багацце тайгі, тундра, дзявочая чысціня часткі нашай планеты.* Герой-аўтар прызнацца: *Гэты след – след бачанага, застанецца ва мне назаўсёды.*

Прызнанне істотнае не толькі для разумення сутнасці гэтай аповесці, але і спасціжэння сутнасці ўсёй творчасці Віктара Стахвюка, яе высока аптымістычнага гучання. Больш за тое – яе адметнасці ў сучаснай літаратуры, найперш прозе Беласточчыны.

Творчасць, па сутнасці, усіх творцаў Беласточчыны за ўвесь пасляваенны час тэматычна, праблемна, жыццёвым матэрыялам была моцна прывязана да роднага краю, да Белавежскай пушчы. Мясцовы каларыт адчуваўся ў побыце, эмацыянальнай атмасферы, пейзажных малюнках, мове. Той свет, які адлюстравала літаратура, які ўвасабляла, тварыла, то быў свет Беласточчыны.

Свет, які адлюстроўвае Стахвюк, іншы. Ён больш шырокі, вольны, бязмежны. Беласточчына адчуваецца, але толькі як нейкі адпраўны пункт. І можа не так сюжэтны, падзейны, а як эстэтычны, духоўны, светапоглядны. Як зыходная аўтарава пазіцыя ў яго адносінах да жыцця, да навакольнага свету, да чалавека.

Апынуўшыся на Корсіцы, убачыўшы, захапіўшыся навакольнай прыгажосцю, герой поўнасцю аддаецца марам, рэфлексіям: *Уяўленне на тое і дадзена Богам, каб ты мог вызваліцца ад шэрасці дня і зразумець, што свет, на які табе пашанцавала з'явіцца, не замыкаецца ў чорна-шэрых танах, у якія намагаюцца цябе зацыкліць непрыхільныя тваёй душы сілы, выкарыстоўваючы для гэтага людзей, якім дадзена чалавечым законам моц улады, здольнай кінуць цябе на гнойнае дно грамадскай экзістэнцыі. Калі толькі ты ўцягнешся ў іхнюю гульню, калі дазволіш ім кіраваць тваімі думкамі, яны ў змозе будуць распараджацца тваім лёсам. Усё гэта знікала, раствaралася ў нязмеранай прасторы космасу, адкуль пачыналі струменіцца вібрацыі і напаўнялі цябе радасным пачуццём, удзячнасцю, незразумелай, як сама свядомасць існавання.*

Так адчувае, пражывае рэчаіснасць і адлюстроўвае яе аўтар і ў "Маёй Камчатцы", і ў "Корсіцы". У "Корсіцы" асабліва адметна. Свет той бясконцы, таямнічы, ніколі да канца не пазнаны, не раскрыты. Гэта свет навакольнай прыроды, навакольнага жыцця, далучаны як яго арганічная частка да свету касмічнага, да свету бяздонных водных глыбіняў мораў і акіянаў. І менавіта вось гэты свет, вялікі, прыгожы, неспазнаны, для чалавека больш высокі, істотна важны, чым свет штодзённага чалавечага бытавання ў яго грамадскіх, бытавых праяўленнях. Ён вяртае чалавека да яго адвечнага прыроднага жыцця, адкрывае яму таямніцы і прыгажосць сваю. Перад ім, светам вялікім, усё звычайнае, штодзённае, чым чалавек жыве ўвесь час, губляе сваю значнасць, высокую патрэбу.

Ці не тое мы бачым у аповесцях Віктара Стахвюка? І ў адной, і ў другой. У "Маёй Камчатцы" прыгажосць і веліч Сібіры і Далёкага Усходу, таямнічасць і нязведанасць тайгі і тундры неяк прыглушаюць грамадскую і асабістую значнасць многіх падзей.

У "Корсіцы" галоўны герой вярнуўся з адпачынку на гэты востраў зусім другім. Яго непрыемнасці, звязаныя з судовай справай, якая яго чакае, здаюцца дробнымі, не вартымі ніякіх асаблівых перажыванняў. *Позним вечарам з вак-*

*на дзевятага паверха я паглядзеў на будынак беластоцкага суда, дзе для мяне прызначана роля крымінальніка. Я быў гатовы. Яна, Корсіка, ачысціла мяне ад пачуцця безнадзейнасці, характэрнай любому чалавеку, якога звыш года заганялі ў куток.*

Пісьменнік, ён жа герой твораў, адчувае ўсёй сваёй істотай веліч і прыгажосць навакольнага свету, адчувае яго рух, змены ў ім, імкнецца як мага больш пранікнуць у яго таямніцы, унутрана далучыцца да яго. Інакш не пранікнеш у тайніцы гэтага свету, не спасцігнеш яго таямнічасці. А не спасцігнуўшы да драбніц і, разам, не адчуўшы загадкавасць, чароўнасць гэтага свету, не зможаш паказаць яго словам. Не расказаць, а менавіта паказаць, намаляваўшы. Карціны прыроды, навакольнага свету ў “Корсіцы” – яркія, жывапісныя, дынамічныя, жывыя. Асабліва карціны, малюнкі падводнага свету. Прызнаюся, у жыцці прачытаўшы нямала твораў мастацкай літаратуры, чагосьці падобнага гэтым карцінам, малюнкам падводнага свету я неяк не магу згадаць. Тут Віктар Стахвюк – мастак. Да таго ж мастацтва яго жывое, натхнёнае.

Сярод кніг мастацкай літаратуры, што з’явіліся на Беласточчыне ў канцы XX – пачатку XXI стагоддзя, асобнае месца займае кніга Галіны Твaraновіч “Пайсці, каб вярнуцца”. Калі кнігі, пра якія ішла гаворка вышэй, створаны на зямлі беластоцкай, насычаны паветрам той зямлі, паказваюць жыццё таго краю, то кніга Твараловіч апавядае пра жыццё іншых мясцін. Мясцін Беларусі і зусім недалёкіх ад Беласточчыны, але іншых побытам, грамадска-сацыяльнымі ўмовамі.

Справа вось у чым. З канца мінулага стагоддзя Галіна Тварановіч – жыхарка Беласточчыны: так склалася асабістае жыццё, так атрымалася з працай, з творчасцю. Беласточчына стала таксама роднай, сваёй. І чаму б не падзяліцца з ёю сваім запаветным, з чым і, можа, галоўнае – расла, сталела, выходзіла ў людзі.

Кніга складаецца з трох частак: “Запісы вучаніцы”, “ Запісы студэнткі”, “Запісы аспіранткі”, заснаваных на шматгадовых дзённікавых нататках аўтара. Першы запіс вуча-

ніцы, зроблены 12 ліпеня 1969 года; апошні – 7 чэрвеня 1996 года. Час немалы. У чалавечым жыцці, у лёсе чалавека шмат чаго мяняецца. Сам чалавек мяняецца – фізічна, духоўна. Як? Да якіх межаў? Дзённік пра гэта гаворыць.

Дзённік – апавяданне аўтара пра сябе, канкрэтныя дзённыя запісы таго, што з ім здарылася, што ён бачыў, што перажыў, пра што думаў... Пра сваё бачанне, адчуванне, разуменне. Вось і кніга Галіны Тварановіч “Пайсці, каб вярнуцца” – пра сябе і для сябе.

Самы пачатак дзённікавых запісаў: *Хачу распачаць нарэшце сапраўдны дзённік. Шмат такога ўва мне ёсць і з мяне просіцца, пра што нельга сказаць каму б там ні было! Як часта незразумелая, зацяжская для іншых! Але ж часта і для сябе! Спадзяюся, што гаворка з гэтым сшыткам дапаможа пазбыцца чужога і адкрыць сябе ў сабе ...*

Адразу здзіўляешся: чатырнаццацігадовая дзяўчынка, васьмікласніца і такія сур’ёзныя разважанні?! Але чытаеш далей і пераконваешся: так, дзяўчынка гэтая такая – самапаглыбленая, мэтанакіраваная, засяроджаная на самапазнанні і самаўдасканаленні.

Зноў жа на першай старонцы дзённіка: *Галоўнае ў выхаванні характару – умацаванне сілы волі, што магчыма толькі ва ўпартай барацьбе з цяжкасцямі.*

Вось думкі гэтага зместу, думкі, звязаныя з самапазнаннем, самавыхаваннем, складаюць ці не галоўную змястоўную скразную лінію твора. І ў школьныя гады, і ва ўніверсітэцкія, і ў аспіранцкія. Тут шмат розных праблемных пытанняў, датычных прыроды чалавечай, узаемадачыненняў чалавека з часам, са светам навакольным, з іншымі людзьмі. Унутранае развіццё чалавека, яго самапазнанне і самаўдасканаленне – у гэтым змест і сэнс гэтай кнігі.  І гэта з вучнёўскіх гадоў. Якраз у гэты час узнікае шмат пытанняў адносна прызначэння чалавека, сэнсу і мэты жыцця. Служэнне людзям становіцца галоўным. Супадае з разуменнем сутнасці камсамольскай дзейнасці. Усе ўнутраныя сілы накіраваны на самаўдасканаленне, на тое, каб стаць лепшай. Ва ўсіх адносінах. Пажаданні сабе выказваюцца ў загаднай форме.

Характэрны запіс 31 снежня 1970 года. Роздум аб прайшоўшым годзе, аб тым, што зроблена. Але найбольш пра тое, што трэба зрабіць:

*У наступным годзе трэба паболей чытаць, крытычней адносіцца ў першую чаргу да сябе. Быць натуральнай, сціплай, вытрыманай. Больш працаваць над сабой. Займацца гімнастыкай, рабіць усё, каб выправіць здароўе, папрыгажэць. Навучыцца танцаваць вальс, варыць есці, вязаць, шыць.*

І тут жа:

*Наладзіць працу камсамольскай арганізацыі. Помні – ты – сакратар. Ты павінна быць наперадзе. Вучыць цярпліва, спакойна. Тваё слова павінна карыстацца аўтарытэтам, каб твая пахвала была ўзнагародай. Трымай слова.*

Дзённікавыя запісы школьных гадоў у пераважнай большасці насычаны настроем перамагаць, удасканальвацца, актыўна праяўляць свае журналісцкія здольнасці. І, па сутнасці, усё адбываецца.

Заключныя словы “З запісаў вучаніцы” 1 верасня 1972 года: *Студэнтка. Далося. Так чакала гэтага імгнення, колькі працавала на яго. Распачынаецца новы этап. У Мінск!*

У запісах студэнцкіх гадоў пры не меншай, а можа нават большай, засяроджанасці на ўнутраным жыцці, актыўнасці адносін да жыцця, дзесьці зніжаецца камсамольская задзірыстасць, самаўпэўненасць. Тут ужо больш бачацца жыццёвыя складанасці і супярэчнасці. Усё больш узнікае пытанняў, на якія не заўсёды ёсць адназначны адказ. І не ў якіхсьці пытаннях агульнага грамадска-сацыяльнага зместу. Не толькі. Нават на той дзялянцы, якую аўтар абраў для сябе галоўнай, не ўсё проста і адназначна.

Яшчэ ў школьныя гады прываблівала журналістыка, захапляла нават.

*Мне абавязкова трэба пісаць. Не змагу жыць, нічога не гаворачы людзям. Патрэба пісаць ідзе знутры* (12.01.1972 г.).

Гэта яшчэ школьны запал. Ён ажыццявіцца. Хаця пытанні ўзнікнуць і тут. Найперш пытанні становішча і лёсу беларускай мовы. Яны ўзнікалі яшчэ ў вучнеўскі час. Кан-

чаткова адносіны да беларускай мовы акрэсліліся ў студэнцкія гады. Як штосьці вельмі і вельмі асабістае, роднае.

Вось запіс 2 студзеня 1974 года:

*Сказала маме, што хачу гаварыць на чыстай беларускай мове, заўсёды і з усімі. Па-беларуску, па-роднаму шапаціць мая бярозка, гамоняць са мной дубы на беразе Пцічы, шчабеча і спявае птаства. Гэта мая аснова, той свет, які нашу ў сабе.*

Студэнцкае жыццё – багатае, рознае, супярэчлівае. Прытым ускладняюцца супярэчнасці ўнутранага, духоўнага зместу. Вучнёўскі, камсамольскі аптымізм прыціх. Жыццё аказалася вельмі і вельмі няпростым.

З апошніх запісаў студэнцкага часу.

14 верасня 1974. *Якое цудоўнае жыццё!.. Здорава адчуваць сваю маладосць, сілу. Любіць. Задыхацца ад неабсяжнасці свету. Гарэць прагаю ведаў.*

І тут жа (19 верасня 1974): *Я – чужая людзям, застаюся чужой, так прагнучы дабра ўсім. Пачуццё, быццам ведаю штосьці вельмі важнае для ўсіх і не магу выказаць словамі, назваць ... Працаваць. Працягваць вопыты над сабою ...*

Далей вялікі перапынак. Наступны запіс зроблены аспіранткай 11 мая 1979. Зразумела ж, у жыцці аўтара адбыліся змены. Рознага зместу і характару. Гэта адчуваецца. Асноўная ўвага, як у запісах ранейшых, звернута на ўнутраныя змены ў чалавеку, у яго адносінах да іншых людзей, да свету. А яны глыбокія, звязаныя з верай у Бога.

Запіс 5 мая 1983 года:

*Цяпер усведамляю, што вера ўва мне жыла заўсёды, доўгія гады стукалася ў замкнёныя дзверы душы, прасілася, каб прызнала яе, каб запатрабавала невымерны скарб, атрыманы разам з нараджэннем. Вяртанне да сябе?*

Апошнія “Запісы аспіранткі”, а гэта і апошнія запісы ў кнізе, красамоўна сведчаць, сцвярджаюць, што вера адамкнула, адчыніла дзверы душы, увайшла ў яе назаўсёды. Каб мацаваць яе, сілкаваць.

Увогуле ж кнігі такога зместу, такога духоўна-эмацыянальнага ладу надзённыя ў любой літаратуры, у любы час.

Усе творы, пра якія вялася гаворка вышэй, узяты як бы выпадкова. Ва ўсякім разе іх выбар ні ў якой меры не прадыктаваны неабходнасцю вырашэння якойсьці канкрэтнай тэарэтычнай  ці то гісторыка-літаратурнай праблемы. Проста ўзяты творы, якія на гэты час аказаліся ў маёй бібліятэцы і зацікавілі мяне: адчуваеш светлы сум па гадах дзяцінства, чытаючы іх, перажываючы, думаючы аб іх, бачыш, што разам яны ствараюць пэўную агульную карціну, даюць больш-менш цэласнае ўяўленне пра літаратуру Беласточчыны; яе зараджэнне, няпростыя шляхі развіцця, суадносіны з рэчаіснасцю, яе нацыянальна-этнічнае аблічча. Убачылася, стала зразумела, што літаратура гэтая, паводле свайго эмацыянальнага напаўнення, паводле сваёй рэальнай жыццёвай асновы, вобразнай сістэмы і, галоўнае, мовы, літаратура пэўнага краю – Беласточчыны. Адначасова яна адметная частка нацыянальнай беларускай літаратуры. У гэтай сувязі хацелася б, каб сама гэтая літаратура, яе творы і творцы, пытанні яе развіцця, рэальнага становішча сталі рэальнай паўнавартаснай часткай літаратуры Беларусі – у яе выданні, бытаванні, творчым асэнсаванні, вывучэнні.

Серафім Андраюк
Мінск

# «ВОСТРАЎ, НА ЯКІМ МОЖНА ПАСЯЛІЦЦА»

Роздум пра «Выбранае» Дануты Бічэль

Кожны раз, калі еду з Мінска на родную Лідчыну і мінаю мост над плыткаю ў тым месцы Гаўяй, пачынаю міжволі пазіраць управа, каб неўзабаве ў светлым бярэзніку за полем угледзець крыжы біскупскіх могілак. За многія гады маіх падарожжаў на радзіму гэта ўжо стала патрэбаю душы: хоць бы й вось так, праездам, памаліцца за памерлых родных і сваякоў нашай выдатнай паэткі і маёй зямлячкі Дануты Бічэль і такім чынам як бы прывітацца і з ёю самою, і з нашаю Лідчынаю, бо Дануцін хутар Загасцінец і яе родныя Біскупцы якраз уладкаваліся каля самай мяжы Іўеўскага і Лідскага раёнаў. Адным словам, наша з ёю Лідчына на сваім усходзе пачынаецца і заканчваецца Дануцінымі Біскупцамі…

Яшчэ зусім нядаўна праз радкавы прыдарожны сасоннік «з-пад саламянай страхі <…>, нібы спалоханы, выгнаны з лесу звярок», пазірала на бойкую гарадзенскую шашу родная хата паэткі. Пазамінулаю вясною, вяртаючыся са свайго хутара, я з’ехала з гэтай шашы і спынілася на поплаве Дануцінай сялібы: хацелася сфатаграфаваць высокі, разложысты куст бэзу, які рос каля самага вугла хаты і, здаецца, ахінаў усю яе духмянаю раскошаю квецені. Штовесну, мінаючы Біскупцы, я любавалася ім з вакна машыны, а ў той сонечны дзень знарок каля яго затрымалася. Хадзіла па ўтравелым падворку, фатаграфавала хатку з сінімі аканіцамі, атуленую бэзам, не могучы надыхацца яго тонкім, п’янкім водарам. Я вельмі люблю бэз. Менавіта такі, з дробным, далікатным бледна-ліловым кветам. Калі бачу ў маі гэтыя бэзавыя аблачынкі, прытуленыя ці то да адзінокіх хацінаў на асірацелых хутарах, ці то пакінутыя на месцы былых сялібаў, штосьці невымоўна-тужлівае пачынае шчымець на самым донцы маёй хутаранскай душы: сум па чымсьці незваротным, па тым жыцці, якога ўжо ніколі тут не будзе, па тых нашых

засценках, атуленых цішынёю, бэзам і малітваю... Зрэшты, я, здаецца, адхілілася ад тэмы, а можа, наадварот, наблізілася да яе, бо ў той травеньскі полудзень, сама таго не ведаючы, развітвалася і з гэтым бэзам, і з роднаю Дануцінаю хатаю, бо дажывалі яны на гэтым свеце сваю апошнюю вясну: літаральна праз пару месяцаў, напрыканцы лета, тут ужо застаўся толькі абгарэлы зруб і абпаленая, схіленая над ім бярозка…

*Хацелася ў хатцы сваёй памерці, // а наша хатка гарыць, як свечка*, – выдыхнула з болем Данута ў вершы «На досвітку», а мне, насуперак жорсткай яве, увесь час згадваюцца яе іншыя радкі з даўняга верша «Вёска Біскупцы». Часавая адлегласць паміж імі ажно ў цэлае маё жыццё, але *Бог вяртае тое, што мінула*, і ў гэтым вяртанні таксама праяўляецца Яго міласэрнасць, бо іначай – як было б перажыць боль страты?..

*Каб у стозе духмяным выспацца,*
*я паеду ў мурожныя Біскупцы*
*пад страху дзяруг, дываноў,*
*на прастору жытнёвых палёў…*

Цытую першапачатковы варыянт верша, да якога прывыкла і які палюбіла, назаўсёды запомніўшы. Апошнюю аўтарскую замену «прасторы жытнёвых палёў» на «прастору вольных вятроў» пакуль прыняць не магу, бо здаецца яна мне тут чужою, адцягненаю ад вясковай вобразнай канкрэтыкі, у якой вытрыманы ўвесь верш...

Менавіта гэтым светлым вершам з Дануцінай паэтычнай маладосці распачынаецца кніга яе «Выбраных твораў». Прыгожае, дыхтоўнае выданне на 600 старонак з’явілася напрыканцы мінулага года ў серыі «Беларускі кнігазбор». Калі трымаеш у руках важкі, вішнёвага колеру фаліянт, то міжволі згадваюцца словы Умбэрто Эко: «Свет існуе, каб завяршыцца кнігаю». Тым больш, што ў гэтую кнігу Данута ўключыла лепшыя свае вершы, пераклады, успаміны і празаічныя творы. Сабраныя пад адною вокладкаю, укладзеныя, сістэматызаваныя самою аўтаркаю, яны сталіся не толькі своеасаблівым падсумаваннем яе творчага шляху, але яшчэ больш ярка выявілі самую сутнасць асобы Дануты Бічэль, акрэслілі

яе творчае крэда і тыя два асноўныя стрыжні, на якіх, на маю думку, усё ў яе творчасці і ў яе душы трымаецца: гэта яе бязмежная любоў да радзімы і да ўсяго роднага і яе па-дзіцячы даверлівая любоў да Бога – яе патрыятызм і яе хрысціянская вера…

Іншы раз мне здаецца, што я ўвогуле не памятаю сябе без Даннаціных вершаў. Такое ўражанне, што яны былі побач з самага маленства, разам з мамінаю навукаю любові да ўсяго жывога і Божага ў гэтым свеце. Яны дапамагалі прарастаць і ўзрастаць у маёй душы спачатку кволым парасткам гэтай любові, саграваці іх сонечным святлом роднага слова і жывілі яго жыццядайнаю сілаю і харaством. Я ніколі не забуду, якім радасным адкрыццём роднага свету стаў для мяне ў свой час Дануцін збор вершаў «Водар і шолах». Цяпер цешуся, што падказала яго ўключыць у гэты том выбранага, калі паэтка трохі разгублена раілася, што адабраць з усяго мноства напісаных за цэлае жыццё вершаў. Падумаць толькі: пра «Водар і шолах» яна проста забыла! Напэўна, так забывае багацей пра частку свайго багацця. А як можна ўявіць Дануціну творчасць без гэтай часткі яе паэтычнага скарбу, без незвычайнай, з усім непаўторным водарам і каларыстыкаю вязанкі зёлак, складзенай з бальсану, дзівасілу, купальніку, браткаў, цвінтарэю, варвялёў, пралесак, скочкаў і задумлівага верасу, перавязаных тугім перавяслам любові, з далучанымі да гэтых зёлак птушкамі, конікамі ды пчолкамі?

Менавіта ў «Водары і шолаху» (па сутнасці на самым пачатку творчага шляху) найбольш ярка праявілася адметнасць і свежасць яе паэтычнай мовы, яе тонкае адчуванне роднага слова і боль за яго, бо *разбіваецца слова аб прастору, як пташка*, бо столькі *слоў паўмірала – бабулек сівенькіх!*, бо

*словы, духі, сіроты*
*ад святой наіўноты*
*набіраюцца соладу,*
*нібы мёду асоты,*
*і мучацца ў цемрах стагоддзяў,*
*аж пакуль на праменьчыку*
*нехта іх знойдзе…*

А рэч у тым, што *нават дробнае слоўца // нам долю*

*звястуе…* Місія ж паэта: *Са светлай галавы, як ліпнёвае сонца, // здабываць сакаўное слоўца*. І ўвесь цуд сапраўднага творцы ў тым, што ён (яна!) гэтыя слоўцы і здабывае, і ўваскрашае, і ўдыхае ў іх новае жыццё, змушаючы мацней біцца сэрца чытача, як пры адкрыцці сапраўднага скарбу. У адным з ранніх вершаў паэтка прызнаецца: *Абняла мяне Беларусь, запаланіла, трымае*. І сама яна таксама трымае і падтрымлівае ўсё роднае, спаконвечнае, дадзенае ад нараджэння як дар і як заданне, з усведамленнем сваёй адказнасці перад Айчынаю з маладою няўрымсліваю ўпэўненасцю ў тым, што Беларусь без яе «прападзе». І таму, здаючыся «Нёману ў няволю», яна гатовая стаць… яшчэ адным ягоным прытокам. Мяне зачароўвае і захапляе Дануціна арганічная знітаванасць з усім родным, пачынаючы ад зёлак і птушак, ад рэкаў Гаўі і Нёмана, ад роднай хаты і бору і ўзвышаючыся да агульных нашых святыняў, да айчыннай гісторыі, да выдатных постацяў – Еўфрасінні Полацкай, Францішка Скарыны, Кастуся Каліноўскага, Цёткі, Янкі Купалы, Уладзіміра Караткевіча, Ларысы Геніюш, Васіля Быкава…

Нездарма ў вершы, прысвечаным Дануце Бічэль, Анатоль Сыс захоплена ўсклікнуў: «Якая паэтка айчынная!»

Вельмі гарманічна ў паэзіі Дануты са словам «люблю» спалучаецца слова «кахаю»:

*Яно празвінела над хвалямі ў рэчцы,*
*вятрыска шаптаў яго з лісцем між гаю:*
*– Кахаю, кахаю…*

Гэтыя два пачуцці – любові і кахання – так цесна пераплецены ў яе лірыцы, што здаюцца непадзельнымі:

*Да цябе працягваю я рукі —*
*абнімаюць рукі Беларусь.*

Калісьці ў прадмове да зборніка «Снапок» Данута напісала: *Мае Біскупцы агарнулі ўсю Беларусь*. І гэтая яе сентэнцыя не была дэкларатыўнаю, яна гучала і гучыць ва ўнісон з адвечным і драматычным для многіх з нас пытаннем, якое паэтка задае ў аднайменным вершы: «Як вярнуцца дахаты?» Як нам вярнуцца да сваіх жыватворных вытокаў, як не

згубіць сябе, не растрэсці самае важнае і сутнаснае ў сабе? Чым больш чалавек жыве на свеце, тым ясней усведамляе, што родны кут становіцца сапраўды цэнтрам сусвету, найбольш прыцягальным, важным і мілым сэрцу, бо там усё пачалося, там успыхнула ў сэрцы першая іскрынка любові, *там на Вербніцу, нібы вербачка, // распушылася маё сэрдачка…*

Можа, найбольш менавіта ў прозе пацвердзілася і сцвердзілася Дануціна думка пра тое, што яе *Біскупцы агарнулі ўсю Беларусь*. У кнігазбораўскім томе змешчаны вялікі празаічны раздзел «Пра тых, каго помню і люблю». Эсэйкі, як сама аўтарка іх называе, прысвечаны родным і блізкім людзям, а таксама вядомым асобам нашай краіны. Каля паўсотні рэальных, жывых і непаўторных вобразаў пасяліла на старонках сваёй кнігі Данута Бічэль. Яе эсэйкі чытаюцца як балады і паэмы ў прозе. Кранальныя да слёз, пра бацькоў – Яську і Марыльку, пра сястру Рэню і швагра Мікалая, пра аднавяскоўцаў і суседзяў Фадзея, Чынчыка, Толіка Кіеню. Уражвае гранічная шчырасць Дануты Бічэль у гэтай яе спавядальнай прозе, і мне згадваецца выказванне сястры Эмануэле, французскай манашкі, якая ў сваім служэнні наследавала святую маці Тэрэзу з Калькуты: «Калі адкрываецца голая праўда пра чалавека, тады лепш відаць Бога».

У Дануты гэтай «голай праўды» шмат, асабліва ў яе біяграфічных творах, у такіх як эсэ «Толік Кіеня, месячны дожджык», дзе яна апавядае пра першыя ўспышкі пачуццяў, пра абуджэнне жаноцкасці, пра пакутліва-светлае прадчуванне творчасці: *Сплаканая, стомленая, спаленая ўнутраным агнём, я засынала і сніла сон. У сне я ляцела высока за воблакамі над зелянінай. На зямлі маіх сноў яснелі пагоркі і нізіны, якіх не было каля вёскі, хіба што ў тым месцы, дзе Гаўя ўпадае ў Нёман, а ён так рэзка паварочвае сваё цела да сонца, што ажно падмываецца бераг і ўтвараецца круты схіл з аголенымі пластамі зямлі. Такія перапады высяў і нізяў сніліся мне. Я прачыналася, мне хацелася, каб сон працягваўся, каб яшчэ крыху ў мроях палётаць. Такое прыемнае адчуванне лёгкасці, святасці, здароўя, поўні дзявоцтва, поўні шчасця, захаплення ўсім сусветам і сабою ў сусвеце.*

*Я спрабавала ўжо лавіць словы і падбіраць музыку*

*рытмаў да словаў у такт хадзе. Паэзія майго сэрца і паэзія майго слова вярэдзіла летуценні.*

Прачытаўшы Дануціны біяграфічныя творы, можна паўтарыць сказанае ёю ж пра гарадзенскую самотніцу Элізу Ажэшку: «Пра сябе напісала ўсё сама»...

Асобнай гаворкі заслугоўвае духоўная паэзія Дануты Бічэль. Упершыню ў нашай сучаснай літаратуры з'явілася паэтычнае асэнсаванне малітвы «Ойча наш», вершаванае разважанне над стацыямі Крыжовага шляху, цэлыя малітоўныя вязанкі вершаў да Маці Божай: Вастрабрамскай, Будслаўскай, Кангрэгацкай, Снежнай, Тракельскай, да Маці Божай Белагрудскай – мая любімая «Белая навэнна», за якую я Дануце асабліва ўдзячная, бо яна прысвяціла гэтыя пранізліва-светлыя, шчымлівыя радкі памяці маёй мамы.

*Чыстая, поўная ласкі з Белае Груды!*
*Не адмаўляй аглядаць Твае белыя цуды!*
*У нябёсы прыцягвае нас Твой цудоўны абраз.*
*Белагрудская Божая Маці, маліся за нас!*

Рэлігійныя вершы Дануты Бічэль як бы аб'яднаныя адным высокім памкненнем-заклікам:

*Давайце заспяваем са святымі!*
*Няхай на крылах галубок падыме*
*Наш край з дрыгвы аж да нябесных брам*
*і прывядзе ў высокі Божы храм.*

Данута ўзвяла свой намолены храм паэзіі, у якім мы ўсе, па словах Леаніда Галубовіча, адзінаверцы, і пасяліла ў гэтым храме шмат сваіх улюбёных святых: Францішка Ксавэрыя, Антонія Падуанскага, Францішка Асізскага, айца Піо, стварыла да іх свае прыгожыя малітвы, якія ахвяравала за родны край і за блізкіх яе сэрцу людзей. У гэтых вершах-малітвах Данута не мудрагеліць. Творчая непасрэднасць, якая заўсёды кранала ў яе паэзіі, здаецца, асабліва ярка праявілася менавіта ў яе хрысціянскіх вершах. Гэта пазіцыя дзіцяці перад абліччам Айца, у міласэрную любоў якога яна верыць і якому бязмежна давярае. Старонкі духоўнай паэзіі ў Дануцінай кнізе – гэта яшчэ адзін яе «мост» (пасля «Мосту святога Францішка»), які яна перакінула над атэістычнаю савецкаю

прорваю, што на цэлыя дзесяцігоддзі перапыніла хрысціянскую традыцыю ў нашай літаратуры і культуры. Таму калі я чытаю духоўныя вершы Дануты Бічэль, я згадваю не толькі «духоўныя вершы» Сяргея Аверынцава, паэзію Яна Твардоўскага, Караля Вайтылы або Рамана Брандштэтара, я найперш згадваю паэзію нашых святароў-адраджэнцаў Казіміра Сваяка, Вінцука Адважнага, Андрэя Зязюлі, бо ўсімі імі кіравала любоў Божая, якая, па словах святога Паўла, «пераўзыходзіць усялякае пазнанне», бо «ўсё духовае вечнае».

У сваіх духоўных вершах Данута Бічэль спрабуе наблізіцца да тае Божай таямніцы, якой нікому яшчэ не ўдалося спасцігнуць, але якая заўсёды, на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва была самаю прыцягальнаю для лепшых творцаў усіх часоў і народаў, бо няма нічога больш хвалюючага, чым гэтая таямніца, няма нікога больш вялікага, чым Той, Хто стварыў гэты свет і кожнага з нас у гэтым свеце.

У хрысціянскім кантэксце кнігі вельмі важным здаецца таксама раздзел перакладаў, у які Данута Бічэль, апроч ужо названых польскіх паэтаў, святароў Яна Твардоўскага і Караля Вайтылы, уключыла вершы ксяндза Міраслава Качмарэка, хрысціянскіх каталіцкіх паэтаў Мацея Юзафа Кановіча і Анкі Кавальскай, а таксама перастварэнні малітваў, псальмаў, песняў святога Францішка Асізскага і святога Бонавэнтуры. Гэтыя творы дапаўняюць і напаўняюць кнігу святлом Божага слова, надаючы ёй высокую духоўную прыцягальнасць і сапраўды робячы яе тым утульным і прыгожым вострававам, на якім, па словах кс. Вацлава Бурылы, «можна пасяліцца».

Заахвочвае да гэтага і грунтоўная, напісаная з любоўю, захапленнем і вялікаю пашанаю да паэткі прадмова Марыі Новік «Паэтычны Ружанец Дануты Бічэль».

«У Беларусі вельмі вялікая адлегласць ад пісьменніка да чытачоў, але гэта аднойчы можа змяніцца», – заўважыла Данута ў сваім эсэ «Сям’я Геніюшаў»… Дай жа, Божа, каб так яно і сталася, бо выходзяць у нашым Краі кнігі, якія сапраўды варта чытаць.

Хрысціна Лялько
Мінск

# МЯЖА ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ПОЛЬШЧАЙ У ТВОРАХ СУЧАСНЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Сваёй значнасцю мяжа паміж Беларуссю і Польшчай пераўзыходзіць большасць астатніх межаў у гэтым рэгіёне. Вядома, дзве названыя краіны аб'ядноўвае доўгая – і часам сумная – супольная гісторыя. Таму перш чым звярнуцца да пытання беларуска-польскіх межаў, неабходны яе кароткі агляд. Шмат хто з беларускіх гісторыкаў моцна шкадуе, што, калі Вялікае Княства Літоўскае ўвайшло ў Рэч Паспалітую, у агульнай дзяржаве вяла рэй Польшча. Цікавы адваротны погляд на беларуска-польскія дачыненні выказваецца ў захаплямльным паўгістарычным рамане С. Балахонава "Імя грушы": старая полька сцвярджае, што "Польшчы патрэбна адзінства, якому рознага кшталту *беларускія дудкі-самадуйкі* вельмі моцна перашкаджаюць"[1].

Праз стагоддзі, калі паводле Рыжскай дамовы 1921 года Заходняя Беларусь апынулася ў складзе Польшчы, шмат нацыянальна свядомых беларусаў, у тым ліку буйныя паэты і пісьменнікі, за свае перакананні трапілі ў турму (напр. Максім Танк (1912–1995), Піліп Пестрак (1903–1978) і Валянцін Таўлай (1914–1947). Да самога гэтага рэгіёна, які па-польску завецца *kresy wschodnie*, палякі ставяцца як да памежжа сваёй краіны – часам паблажліва, але й з доляй рамантычнага сантыменту (напрыклад у творах Чэслава Мілаша). Аднак у белавежскім рэгіёне Польшчы ўзнік буйны беларускі літаратурны рух на чале з Янам Чыквіным (нар. 1940) і Сакратам Яновічам (1936-2013). Пасля ўз'яднання ў 1939 г. Заходняй і Савецкай Беларусі паводле Пакта Молатава-Рыбентропа ўтварылася Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка – адна з пятнаццаці саюзных рэспублік СССР. Яна жыла ў "братэрстве" з суседняй Польскай Народнай Рэспублікай –

[1] Балахонаў, С. Імя грушы, Мн: Логвінаў, 2005, с. 118.

адным са шматлікіх сатэлітаў СССР. Іншай значнай вяхой сталася ўваходжанне Польшчы ў траўні 2004 года ў Еўрасаюз: заходняя суседка Беларусі раптам ператварылася ва ўвасабленне Захаду і патэнцыйную браму на Захад. У Беларусі да гэтай падзеі з вялікай падазронасцю паставіліся не толькі ўлады, але і шмат хто з простых грамадзянаў, якія падпарадкоўваліся афіцыйнай лініі. Аўтар гэтых радкоў, калі набліжалася ягоная чарга на Мінскім паштамце, пачуў за сабой выкрык на адрас жанчыны, якая стаяла перад ім і спрабавала даслаць нешта ў Польшчу: “Не абслугоўвайце яе! Яна звязаная з ворагам!” Сярод іншых беларусаў, бадай, ніхто не спадзяецца, што ад заходняга суседа прыйдзе багацце – адрозна ад гераіні п’есы Галіны Багданавай “АС-лінія” (1997), якая спявае частушку:

*Мой мілёнак з’ездзіў ў Польшчу,*
*Адтуль долары прывёз.*
*Цяпер імі спакушае*
*Ён суседскіх кур і коз*[2].

У гэтым артыкуле разглядаецца сітуацыя XXI стагоддзя, асабліва тое, як беларуска-польская мяжа ажыла ва ўяўленні маладых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў – і як зямля, з якой шчыльна знітаваная беларуская гісторыя, і, з другога боку, як сімвал Захаду, дзе змаглі пабываць некаторыя, хоць і адносна нямногія, беларусы. Нашмат больш падрабязна польска-беларускія дачыненні аналізуюцца ў працы Нэлі Бекус[3].

Як сярод іншых мяркуе і гэткая шматбаковая асоба, як Уладзімір Някляеў, Беларусь – цэнтр Еўропы[4]. Апроч таго, яе

---

[2] Багданава, Г.. АС-лінія // М. Сіўчыкаў (рэд.). Сучасная беларуская драматургія: традыцыі і наватарства. Мінск: Сер-Віт, 1997. с. 552.

3 У даследзе Н. Бекус беларуска-польскія стасункі разглядаюцца вельмі ўсеахопна, з глыбокім экскурсам у гісторыю, а таксама з шырокім спектрам культурных адсылак XX–XXI стст., у тым ліку ў кінематаграфіі, тэлебачанні і мастацкай ды дакументальнай літаратуры. Bekus, N, ‘Constructed Otherness’? Poland and the Geopolitics of Contested Belarusian Identity’, *Europe-Asia Studies*, 69,2,242–61.

[4] Някляеў, У. Цэнтр Еўропы. Мінск: Медысонт, 2009.

часта разглядалі і цяпер разглядаюць, як адвечнае памежжа ці Польшчы, ці Расіі[5]. Між тым першы з маладых аўтараў, пра якіх пойдзе гаворка, зазвычай нястрыманы Сяргей Прылуцкі (нар. у 1980 г.), калі кажа, што ён "у памежнай правінцыі краю абсурду"[6], магчыма, мае на ўвазе сваё роднае Берасце. Нашмат больш узважаную, але пры гэтым яскравую карціну скрайняга захаду Беларусі малюе Наталка Бабіна ў рамане "Рыбін горад" (2007).

Перш як звярнуцца да літаратурных увасабленняў памежжа як такога, мабыць, варта згадаць колькі камічных карцінак дачыненняў Беларусі з суседзямі. У дзвюх кнігах Уладзіслава Ахроменкі (нар. у 1965 г.) і Максіма Клімковіча (нар. у 1958 г.) хоць і ў гумарыстычнай форме, але яскрава паказана, як жа цяжка было ў мінулым увогуле весці гаворку пра беларускія межы. Першая з іх – "Янкі, альбо Астатні наезд на Літве" (2007)[7]. Яе назва мае выразную адсылку да самага вядомага твора вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча, які, вядома, нарадзіўся на этнічных беларускіх землях Польшчы. Гэты шматахопны сатырычны раман ва ўсім сама мала забаўны, а праз два гады з'явіўся яшчэ адзін камічны твор тых самых аўтараў, "Праўдзівая гісторыя Кацапа, Хахла і Бульбаша: апокрыф-правакацыя" (2009)[8]. У ім ахопліваецца больш шырокі нацыянальны кантэкст і апісваюцца спробы трох прадстаўнікоў названых народаў, а таксама паляка (Пшэка) давесці свае правы на спрэчныя землі, выкарыстоўваючы ў якасці доказаў некаторыя вельмі вядомыя літаратурныя тэксты. Як таксама яскрава відаць з папярэдняга рамана, ніхто не збіраецца даваць беларусам

[5] Гл., напр., два цалкам адрозныя тэксты: класічны мадэрнісцкі раман польскай літаратуры "Граніца" Зоф'і Налкоўскай, дзеянне якога адбываецца ў XIX ст. у Горадні, і навуковае даследаванне Андрэя Саўчанкі *Belarus – A Perpetual Borderland*, Leiden and Boston: Brill, 2009, дзе Беларусь разглядаецца як перадусім расейскае, а не польскае памежжа.

[6] Прылуцкі, С. Дывертысмент для ІК // Дзевяностыя forever. Мінск: Медысонт, 2008. с. 134.

[7] Ахроменка, У. І Клімковіч, М. Янкі, альбо астатні наезд на Літве: Кінарама-фарс, Мінск: Медысонт, 2007. (далей Ахроменка і Клімковіч, 2007).

[8] Ахроменка, У, і Клімковіч, М., Праўдзівая гісторыя Кацапа, Хахла і Бульбаша: Апокрыф-правакацыя, Мінск: Галіяфы 2009.

ніякай незалежнасці, калі яны самі яе не возьмуць: "Як дзядзька Хросны азначае, 'Свабоду не падораць. За волю і долю трэба самім змагацца'" (Ахроменка і Клімковіч, 2007, 239). Гэтыя канфлікты і закалоты разглядаюцца ў бравурна-забаўляльным духу. Тое ж можна сказаць і пра саркастычна дасціпны верш “Тры народы галубыя...” (1996) Дзяніса Хвастоўскага, які трагічна зарана пайшоў з жыцця. Тут тры краіны: Расія (як заўсёды, у дамінантным становішчы), Беларусь і Украіна – выяўленыя як тры геі, якія стагоддзямі жывуць разам, а чацвёрты – Польшча – больш не завітвае да іх уначы:

*Тры народы галубыя*
*Жылі разам тышча лет,*
*Жылі разам і рабілі,*
*І хадзілі ў туалет.*
*Разам спалі, разам пілі.*
*Вобшчам – ладны арганізм.*
*І калі гаманілі –*
*То пра гомасэксалізм.*
*– Вось, – казаў старэйшы брацік, –*
*Почему ты, брат бульбаш,*
*Как законченный лунатик,*
*Вроде даже как не наш?*
*Мы пахали, мы потели*
*Вместе столько тысяч лет.*
*А теперь легли в постели,*
*А тебя как будто нет?*
*Или вот, скажи на милость,*
*Наш братанище, хохол,*
*Что с тобой, родной, случилось:*
*Бродишь ночью, гол как кол?*
*Может, я чего не понял?*
*Отвечайте, пацаны!*
*Поклянитесь на иконы,*
*А не то спущу штаны!*
*І сядзелі, і маўчалі:*
*Той жаніх, і той – жаніх.*

*Толькі Польшча ўжо начамі*
*Больш ня бегае да іх*[9].

Гэтыя кепікі можна разглядаць як забаўныя заўвагі на палях перадгісторыі беларуска-польскай мяжы, пра якую будзе весціся гаворка далей.

Мяжа ў сучаснай беларускай літаратуры ўспрымаецца па-рознаму. Артур Клінаў (нар. у 1965 г.) у "Малой падарожнай кніжцы па Горадзе Сонца" (2008) падкрэслена пазбягае ўсялякіх згадак пра Польшчу як такую. Гэта інтэлектуальна захапляльныя ўспаміны пра дзяцінства ў горадзе, які аўтар, адсылаючы да Тамаза Кампанелы, іранічна пайменаваў "Горад Сонца ў Краіне Шчасьця". А. Клінаў называе тое, што ляжыць на захад ад Беларусі, проста Еўропай[10]. Ён паказвае ў шматлікіх цікавых ракурсах змены ў абліччы і характары свайго роднага горада, але нават самы звычайны турыст, які перасякае польска-беларускую мяжу на цягніку, не можа не заўважыць гэткай праявы адрознасці, як змена колаў (Клінаў, 2008, с. 9). У іншым, трэба меркаваць, больш белетрыстычным творы "Шалом" (2011) галоўны герой – беларускі мастак – набывае ў Нямеччыне стары прускі шалом і вырашае ніколі яго не здымаць. Такія бязглуздыя, хамскія паводзіны выклікаюць непрыманне і ў тых, хто запрашаў яго на Захад, і суайчыннікаў па вяртанні на радзіму. Гэтая страта арыентыраў можа лічыцца сапраўдным складнікам сутнасці мяжы, што аддзяляе Беларусь ад Захаду.

Калі герой А. Клінава ледзь не агрэсіўна заяўляе пра сваю адчужанасць, некаторыя маладыя аўтары, наадварот, бачаць мяжу як своеасаблівае рамантычнае месца сустрэчы. Напрыклад, літаратурны журналіст родам з Расіі Ігар Пракоф'еў (нар. у 1973 г.) піша ў абразку "Сем пудоў кахання" (2007):

*Амаль кожны дзень яны сустракаліся на мяжы.*
*Дакладней, мяжа была ў любым месцы іхняй сустрэчы*[11].

---

[9] Хвастоўскі, Д. Лугназад:. Мінск: Логвінаў, 2006. с. 92.
[10] Клінаў, А. Малая падарожная кніжка па Горадзе Сонца. Мінск: Логвінаў, 2008. сс. 9, 32 і інш. (далей – Клінаў, 2008)
[11] Пракоф'еў, І., Сем пудоў кахання, "Маладосць", 2007. № 9. с. 29.

Таццяна Нядбай (нар. у 1982 г.) у нізцы вершаў “Жыццё працягваецца” (2012) малюе не менш рамантычную, але больш падрабязную карціну межаў. Не толькі адораная багатым уяўленнем паэтка, але і навукоўца, Т. Нядбай нарадзілася ў Полацку. Аднак названая нізка была створаная, калі яна выкладала ў Люблінскім універсітэце імя М. Складоўскай-Кюры; цяпер Т. Нядбай жыве ў Менску. У вершы без назвы са згаданай нізкі, “Забірай мяне ад мяне і ратуй ад скрухі...” (2012), паэтка шукае паратунку не толькі ў моцных руках каханага, але і ў надзеі, што ён возьме яе на мяжу, дзе ўсё перамяняецца іх шчырым каханнем:

*Забірай мяне ад мяне і ратуй ад скрухі –*
*Аддавацца салодка ў моцныя рукі. Рухі*
*Да мяжы, праз мяжу, паўз мяжу, у памежжа, дзе*
*Я сабе не належу і ты сабе не належыш.*
*Аўтамат заміж кавы налівае каньяк (і злізваю*
*Да кроплі апошняй), і памежнік пускае без візаў*
*І без мытных збораў, ап’янелы ад шчасця нашага,*
*Замест штампаў ён піша верш на старонках пашпарта.*

(Нядбай, 2012, с.166)

У паэтычнай нізцы Т. Нядбай значная роля адводзіцца вандроўкам. Напрыклад, у вершы “агульны вагон кругасветнага цягніка...” паэтка, думаючы пра Камю ў каланіяльным Алжыры, заўважае, што слухае надзвычай празаічную размову пра вырошчванне гародніны, размер гуркоў і т.п. Напрыканцы здаецца, што яна папросту прыязджала ў госці да бацькоў. У іншым арыгінальным вершы “Гэта як засынаць, гледзячы тэлевізар...” аўтарка, бадай, сумуе па квітках і візах, калі бачыць, што ейны каханы саступіў убок. Звычайная дарожная завядзёнка, як выглядае, асацыюецца з блізкасцю:

*гэта як засынаць, гледзячы тэлевізар*
*жыццё працягваецца, а ты саступіў на ўзбочыну*
*дзе ніхто не пытаецца ні квіткоў, ні візаў*
*але і няма каму зазірнуць у вочы,*

(Нядбай, 2012, с.164)

Марыя Мартысевіч (нар. у 1982 г.) – буйная постаць у сучаснай беларускай літаратуры. У яе ёсць забаўны вершаваны трыпціх пад назвай “Памежныя гісторыі”. У першай яго частцы “Выезд: эротык” распавядаецца, як валізу дзяўчыны, поўную жаночых рэчаў, старанна даглядае малады беларускі памежнік, быццам бы шукаючы кантрабанду – мікраплёнкі НАТА, але, калі ўладальніца валізы яму пярэчыць, той, зніякавеўшы, спыняецца і вяртаецца да сям’і:

*“Прашу вас, гражданка А., праследуйце вонкі*
*трэба праверыць, ці вы не зьвязаная з НАТА”.*
*“Ведаю вас, лейтэнантаў, спачатку абы мікраплёнкі*
*ў майтках пашукаць, а потым “прабач-я-жанаты!””*

*Яна зразумела яго, а ён разумеў, што болей няма чаго*
*лавіць яму ў гэтым вагоне і ўвогуле на зямлі,*
*і сышоў на пэрон, у ноч Берасьця; жонка зь дзецьмі ў яго*

Далейшы нечаканы паварот сюжэту: у пошуку сексуальных уцех памежнік не заўважыў вершы па-польску пра беларускага мытніка (Мартысевіч, 2008, с.65). У другой гісторыі, “Транзыт: гавэнда” гаворыцца пра вельмі абазнанага ў жыцці ксяндза, які галасуе ля мяжы, і яго падвозіць кіроўца фуры:

*Супакойся, пяць дзён транзыт,*
*тут у сьвеце мы ўсе транзытам.*
*Мне так сказаў адзін ксёндз,*
*я яго ўзімку падвозіў.*
*Уяўляеш, Вадохрыст, мароз –*
*і ксёндз стаіць пры дарозе.* [...]
*А жыцьцё, ксёндз казаў, – транзыт, доўгі шлях паміж межамі і да т.п.*

(Мартысевіч, 2008, с. 66)

Трэцяя гісторыя, “Въезд: абразок”, – пра 21-гадовага студэнта, які падарожнічаў аўтастопам па Еўропе, а цяпер цягніком едзе назад у Менск. Ягонае вяртанне параўноўваецца з вяртаннем ці прынамсі імкненнем ва ўлонне маці. Ён шчаслівы вярнуцца ў Беларусь не таму, што гэта Радзіма, а папросту таму, што тут усё знаёмае і сваё:

*але вось ён ужо чакае канца санітарнай зоны,*
*шчасьлівы, паршывец.*
*але не таму, што Палесьсе,*
*бярозкі ў восеньскім лесе,*
*карацей, не таму, што Радзіма,*
*а таму, што радзіма.*
*і нарэшце можна наперад вярнуць гадзіньнік,*
*і нарэшце можна расслабіцца і запаліць.*

(Мартысевіч, 2008, сс. 87-88)

Марыя Мартысевіч далей разгортвае тэму межаў у дасціпнай прадмове да кнігі Евы Вежнавец [псеўданім Святланы Курс, нар. 1972], "Шлях дробнай сволачы" (2008)[12]. Эсэ-прадмова мае назву "Адзін дзень з жыцьця Евы Вежнавец, трактаванай як абсалют" – у ім М. Мартысевіч уяўляе, як у прыгарадную вілу пісьменніцы з'яўляецца шэраг візітантаў. Першай прыходзіць пакаёўка з Цэнтральнай Афрыкі, за ёю – мужчыны, цікавыя, здаецца, толькі як крыніцы інфармацыі пра актуальную палітычную сітуацыю ў Польшчы, хоць Е. Вежнавец і частуе іх гарэлкай ды цыгарэтамі. З гуртком феміністак пісьменніца разбіраецца яшчэ хутчэй: "Я пішу не пра жанчыну. Я пішу пра чалавека" (Вежнавец, 2008, с. 7). За імі прыходзяць студэнткі філфаку, якія захапляюцца ейным стылем, мовай і смеласцю – іх яна прымае з нязмушанай цярплівасцю. Наступны наведнік – масавы чытач, які пытаецца, чаму яна заўжды гэткая злая. Але, бадай, больш цікавы і значны для нашай тэмы – візіт супрацоўніка Дэпартаменту па грамадзянстве і міграцыі МУС РБ, які кажа:

*– Ты ледзь ня ў кожным сказе згадваеш пра кагосьці, хто хоча зьехаць з так бы мовіць няўтульнай радзімы. Гэтыя дадзеныя разыходзяцца з афіцыйнай статыстыкай.*

Тая імгненна адказвае:

*– Я пішу тое, што бачу ў вачах людзей. Калі я бачу ў гэтых вачах, што чалавек хоча зьехаць, я пішу аб гэтым. Я бачыла гэтыя вочы на мяжы, я часта бываю на мяжы, я сама зьехала.*

---

[12] Вежнавец, Е. Шлях дробнай сволачы. Мінск: Логвінаў, 2008. с. 6. (далей – Вежнавец, 2008)

*– Мне цябе шкада. Кожны чалавек носіць свой саван з сабою, – сказаў супрацоўнік.*

*– Мне цябе таксама. У неба няма кішэняў,* – сказала Ева Вежнавец (Вежнавец, 2008, 7)[13].

Астатнія наведнікі ў меншай ступені звязаныя з тэмай гэтага артыкула, хоць самі па сабе яны цікавыя і дасціпныя. У кароткай гутарцы з Евай Вежнавец даўно памёрлая паэтка Яўгенія Янішчыц (1948–1988), якая верыць у моц кахання, пытаецца, чаму тая гэтак абразліва называе свой народ – "быдлам", а родную зямлю – "балотам", "дурдомам", "сваёй траўмай" (Вежнавец, 2008, с. 7)[14]. Больш прыемная – мроя пра візіт амбасадара Беларускай Народнай Рэспублікі ў Каралеўстве Антарктыда, які ганаруе яе ордэнам за адстойванне дарагіх ёй каштоўнасцяў: правоў чалавека, сацыяльнай справядлівасці, нацыянальнай сімволікі і г. д. І нарэшце Хохлік і Цмок, якія ад пачатку былі побач, вядуць з паэткай душэўную, не пазбаўленую крытычнага адцення размову. Калі браць пад увагу, як па-майстэрску Ева Вежнавец валодае літаратурнай мовай і прастамоўем, забаўна, што Хохлік крытыкуе ейную мову[15]. Пасля такога натоўпу візітантаў, Мартысевіч дае Еве заснуць на паўночным балконе сваёй вілы.

Перш чым звярнуцца да самога зборніка "Шлях дробнай сволачы", варта сказаць колькі слоў пра тое, з чым сутыкнулася яго аўтарка ў рэальным жыцці. Яе звольнілі ў 1995 годзе з працы на дзяржаўным радыё за крытыку беларускай унутранай палітыкі. Яна некалькі разоў спрабавала эміграваць: жыла ў ЗША, Нямеччыне, Польшчы і Украіне. Пераспрабаваўшы не адзін занятак, Е. Вежнавец цяпер працуе журналісткай незалежных СМІ.

---

[13] У цікавым апавяданні Е. Вежнавец "Сястра Марцэліна" з гэтым уяўным адказам Е. Вежнавец перагукаецца фраза адной з ейных тэмпераментных гераінь, Тэрэзы: "А ў мяне на небе блат". Вежнавец, 2008. с. 62.

[14] Як выглядае, гэтыя каментары адсылаюць да апавядання "Хутка вылупіцца цмок". Вежнавец, 2008, сс. 94, 98.

[15] Вежнавец, 2008, сс. 8–9. Апроч названага апавядання "Хутка вылупіцца цмок", гэтая міфалагічная істота фігуруе ў назве першай кнігі М. Мартысевіч.

Героі некалькіх ейных апавяданняў з’язджаюць у Польшчу – неабавязкова таму, што палякі лепшыя за беларусаў, а таму, напрыклад, у выпадку Ванды і Тэрэзы з аповеду “Ванда Калістовіч”, што маюць там сябра, на дапамогу якога спадзяюцца. У апавяданні “Богша Адзінцэвіч” у Польшчу ўцякае ад пераследу КДБ сябра БНФ. У гэтым самым аповедзе яскрава перададзены сон пра ідэал Беларусі, азмрочаны і зруйнаваны чорнымі хвалямі, што прыходзяць з Масквы: *І тут з-за даляглядаў зьявілася першая брудная хваля, сапраўды чорны вал, папаўзла па зямлі, заліваючы ўсё* (Вежнавец, 2008, с. 32).

Шмат якія апавяданні падзеленыя на часткі, названыя паводле імёнаў галоўных персанажаў. Гэта датычыць і “Агенцыі <Шчасьце>” – бясспрэчна, найбольш непасрэдна звязанага з тэмай межаў твора ў гэтай кнізе. Апавядальніца – беларуска Ева, якая ўзяла шлюб з палякам. Яна адкрывае шлюбную агенцыю для палякаў, якія хочуць знайсці нявесту з Беларусі. Як і варта было чакаць, жыхарам абедзвюх краін далёка да ідэалу юначага кахання. Два палякі: Яцэк і Юрэк – схільнасцю да ежы і пітва вельмі нагадваюць беларусаў. Пры гэтым Еве даводзіцца ўгаворваць і мужчынаў, і жанчын не зважаць на заганы будучых партнёраў. Апавядальніца кажа пра сваю місію як ледзь не пра сакральную:

*Жаніць Захад з Усходам цяпер справа богаўгодная. Можам сшыць наш кантынэнт і трохі пачысьціць мазгі заходнікам і ўсходнікам.* (Вежнавец, 2008, с.102)

Як правіла, больш за ўсё імкнуцца знайсці партнёра беларускія дзяўчаты. Напрыклад, Юлія звяртаецца да магіі: *Усё роўна ў пошуках партнэра памыляесься так часта, што магія – не найгоршы спосаб* (Вежнавец, 2008, с. 109). Мужчыны мяркуюць, што не варта браць шлюб любым коштам, але апавядальніца з іроніяй разважае:

*А я думаю: харошая ж дзяўчына. Бяры ды жыві. Хто цябе вырве з багны, Юлія? “Тут Польшча была, чаму б тут Польшчы не стаць?” Вось і ўся праўда пра квітнеючую Беларусь* (Вежнавец, 2008, с. 110).

Аўтарка малюе мужчынаў у непрывабных фарбах, а самі дзяўчаты – наіўныя і недасведчаныя. Пра недахоп адука-

цыі сведчыць іх няўцямная непісьменная моўная мяшанка, з якой, аднак, праступае хай сабе і сумбурнае, але моцнае жаданне трапіць у Польшчу:

*Кеды выежджам до Польскі, под'ежджамы до граніцы, і сэрца вэ мне росьне, і цось се сціска в бжуху! Ірэна тэж тэнскні за Польско і власьне длятэго постановілысьмы зналесьць ей поляка!* (Вежнавец, 2008, с. 111)

Аднак на кухні старая, якая памятае былое і асабліва сваю цётку, што выйшла замуж за мазура, згадвае палякаў толькі кепскімі словамі:

*Ой, кепскія, кепскія. Ганарыстыя, упартыя, а фанабэрыі той! А як мая цётка выйшла за мазура, дык вярнулася бяз вока. Ён яе біў, каб андаракі не насіла. А андаракі – гэта пасаг, сама ткала. Не, паляк – гэта табе ня нашага заводу. Нашаму як дасі ў плечы, дык і сьціхне. А паляк – ого-го!* (Вежнавец, 2008, 113)

Але думкі дзяўчат і самой апавядальніцы займае сучасная Беларусь і надзея эміграваць з яе. Адной дзяўчыне, Жане, проста ў лоб кажуць, што на Захадзе ёй будзе лепш:

*Бярэ толькі тое, што ёй патрэбна. Шчасьлівай дарогі на Захад. У Беларусі табе, відаць, і сапраўды дабра ня будзе. Тут ціск, як у Марыянскай упадзіне. Беларуса сплюшчыла і скрывіла, як камбалу, вока вылезла на бок, цела ў блін скамечыла, плаўнікі на задніцу вывернула – але ж плазуе трохі. А іншыя тут зусім не выжываюць.* (Вежнавец, 2008, с. 115)

Фінальная сентэнцыя Евы – абагулены заклік да шлюбу і эміграцыі:

*Забярыце нас замуж! Ну, забярыце нас замуж! Мы будзем шараваць вам сьпіну і рабіць пэдыкюр. Намустыла жыць пры сквапным і злым бацьку, а свайго дому ў нас няма.* (Вежнавец, 2008, с. 115)

Тэма межаў увогуле і беларуска-польскай мяжы ў прыватнасці трактуецца ў сучаснай беларускай літаратуры вельмі па-рознаму – у дыяпазоне ад рамантычнага захаплення да агіды, ад дасціпнай фэнтэзі да амаль поўнага рэалізму. Аўтары напоўніцу выкарыстоўваюць патэнцыял літаратурнай мовы і пры гэтым бліскуча імітуюць у дыялогах непісьменную моўную мяшанку. Магчыма, яна ў нейкай ступені адлюс-

троўвае прагу некаторых апынуцца па той бок мяжы ў пошуках лепшага, як ім падаецца, жыцця. А між тым іншыя пераадольваюць мяжу з таго боку ў пошуках лепшага, як ім падаецца, жаночага цела. Гэтая ўвага да адной праявы, аднаго кутка беларускай рэчаіснасці сведчыць, што маладыя пісьменнікі і надалей ахопліваюць жыццё навокал у дасціпнай і натхнёнай, але зусім не аднароднай манеры.

Арнольд Макмілін
Лондан

# НЕ КІДАЎ СЛОЎ НА ВЕЦЕР

Некалькі штрыхоў да творчай біяграфіі
Сымона Раманчука (1936–2017)

У звычайным разуменні смерць кожнага чалавека, калі б яна ні з'явілася да яго, жывымі лічыцца заўсёды заўчаснай, а ў дачыненні да архіяпіскапа Сімана – шматкроць заўчаснай з увагі не толькі на выключны ягоны статус у іерархіі праваслаўнай царквы ў Польшчы (ахіяпіскап Лодзьскі і Познаньскі, 1981–2017), але таксама незвычайную індывідуальнасць і непаўторнасць ягонай асобы, у якой арганічна аб'ядноўваліся два неразлучныя ў ім дзейнікі – вучань і настаўнік, слухач і аратар, паслушнік і эрудыт, чытач і пісьменнік, вернік і святар.

Калі перастала біцца ягонае сэрца, яшчэ мацней увідавочніліся ягоныя ўчынкі і здзяйсненні. З іх найбольш вылучаецца тое, што ў кожным чалавеку архіяпіскап Сіман умеў бачыць цэлы хрысціянскі космас і адначасова ў тым жа вялікім хрысціянскім космасе заўважаў простага чалавека з яго штодзённымі мадальнымі клопатамі, а не натоўп прыхаджан, царкоўную паству.

Такія адметныя рысы ягонага характару, узбуйненыя грунтоўнай вышэйшай філалагічнай адукацыяй, садзейнічалі выразнаму выспяванню ў ім патэнцыяльнага беларускага пісьменніка. З сённяшняй перспектывы можна ўжо сказаць, што ўсе тры ягоныя іпастасі (настаўнік – пісьменнік – святар) ад самага пачатку існавалі ў ім, як у зерні існуе ўся праграма ўсяго далейшага росту расліны: ад карэння да цвіцення і насення.

Невыпадкова пасля заканчэння ўніверсітэцкай вучобы ў Мінску Сымон Раманчук вяртаецца ў сваё роднае старонне і працуе ў Міхалове настаўнікам. І ў тым жа часе пачынае займацца літаратурнай творчасцю, далучаецца да літаратурнага асяроддзя беларускіх пісьменнікаў у Польшчы як асоба адораная, з шырока адкрытым кругасветам, тэарэтычна падрыхтаваная да творчай працы і якая не кідае слоў на вецер.

За кароткі час сваёй працы настаўнікам Сымон Раманчук напісаў адзінаццаць апавяданняў і большасць з іх апублікаваў на "Літаратурнай старонцы" ў "Ніве" Георгія Валкавыцкага, адно з іх у "Беларускім каляндары" (1965) і яшчэ адно ў альманаху "Белавежа № 2" ("Дзядуля", "Навагодні баль", "Вар'ятка","Чалавек", "Ануся", "Каштаны цвітуць", "Паўторны візіт", "Свята Максіма Макоўскага", "Сваячка", "Шчадруха", "Восень жыцця")

У гэтай першай кароткай рэфлексіі няма, вядома, месца для паглыбленага аналізу ягонай пісьменніцкай творчасці. Аднак ужо цяпер можна смела сказаць, маючы на ўвазе таксама і новыя празаічныя творы Сымона Раманчука, апублікаваныя ім у апошнія гады жыцця ў "Ніве" Яўгена Вапы ("Па Дону гуляе", "Фень-Фінь-Шуй", "Чаромуха", "Барадаўка", "Не рыдай мяне маці", "Аднойчы ў Венецыі", "Grande Valse Brillante") і асабліва неапублікаваныя (у тым ліку і ягоную аўтабіяграфію "Карэнні жывакосту"), што ў першы перыяд сваёй творчасці ён ішоў па жыцці, арыентуючыся ў выбары свайго далейшага шляху на культуровыя знакі, літаратурных герояў і сімвалы, каларытныя вобразы еўрапейскай культуры. Ужо ў сярэдняй школе, а затым і ва ўніверсітэцкія гады ён жыў, так бы мовіць, н а д грамадска-сацыяльнай

рэчаіснасцю, поўнасцю паглыблены ў яе мастацкае адлюстраванне – класічную музыку, песні, тэатр, оперу, кіно, высокую літаратуру.

Закладзены ў ім патэнцыял празаіка з цягам часу запатрабаваў ад яго, аднак, канкрэтыкі, ведання рэальнай і паглыбленай быційнасці жыцця. Ранейшы вопыт быў спаўна выкарыстаны. Напісаўшы дзесяць апавяданняў з бачанага і перажытага ім самім у ранішніх сваіх гадах, Сымон Раманчук піша і наступнае, але гэтым разам цалкам іншае па зместу ды вобразных і лагічных сэнсах. У творы “Восень жыцця” аўтар нечакана падводзіць вынікі сваёй літаратурнай працы. У апавяданні выступаюць два героі – Алег і Саша. Па сутнасці аўтар гаворыць ўсё ж сам з сабою, размаўляе са сваім двайніком. Ягоны alter ego, Алег, вядзе дзённік. Ён – тып гамлетычны, вядомы з літаратуры, аднак гамлетычны ён чыста па-беларуску – толькі напалову, бо ў ім даспявае патрэба зрабіць практычны крок. У сваіх кароткіх запісах (адрасаваных свайму сябру Сашу) Алег рашае расквітацца з жыццём – расчараваны не толькі ім, але найперш чалавекам сацыяльным, творчасцю.

Невядома, калі тое апавяданне было напісана Сымонам Раманчуком. Па неардынарным змесце можна меркаваць аднак, што напісаў яго прыблізна трыццацітрохгадовы аўтар, можа, у 1969 годзе (або годам-трыма пазней ці раней, а 1971 год друку амаль нічога ў гэтай справе не праясняе), калі даспела ў ім, як яму здавалася, нейкае неперамożнае перакананне, што быць шараговым, звычайным пісьменнікам і настаўнікам – яму выразна замала і зацесна стала выступаць яму ў гэтай менавіта ролі, бо ў тых досыць звычайных грамадскіх прафесіях, зніveліраваных і адначасова ўтрыраваных самой дзяржаўнай уладаю, няма для яго ўсё-такі чагосьці больш грунтоўнага, фундаментальнага, адзінага, узнёслага, па чым затужыла, відаць, ягоная душа. У свае “Ісусавы гады” Сымон Раманчук не мог не ведаць, што і для яго, сялянскага сына з вышэйшай адукацыяй, ёсць магчымасць узыйсці на вышэйшы ўзровень працы таго ж “настаўніка” і “пісьменніка” – пайсці па шляху духоўным, святарскім. І ў 1965 годзе Сымон Раманчук стаецца нанава

студэнтам, тым разам Праваслаўнай тэалогіі Хрысціянскай тэалагічнай акадэмі ў Варшаве.

Апавяданне “Восень жыцця” перадае якраз ненадуманае, глыбокае, псіхалагічна-праўдзівае і шчырае змаганне аўтара з самім сабою. Сымон Раманчук піша: “У існаванні многа дзён, якія да мяне не належаць”, “бачанае адпіхнула мяне ад людзей”, “Заўтра зноў дзень барацьбы з самім сабою”, “Хочацца ўцячы ў нейкі храм спакою і цішыні. Не знаходжу яго і ў гэтым уся мая трагедыя”. У сваю чаргу Алег кажа пра Сашу: “Твой погляд на жыццё і людзей зусім іншы”; “Вы, літаратары, і рынуліся ў псіхалагізм”. Затым голас Алега і Сашы зліваюцца ў адзін, у “мы” і чытаем: “Усе мы ўзялі на аперацыйны стол адзінку-чалавека. Трэм яго, быццам хірургі рэжам, варочаем, а які толк?”

А ў заканчэнні апавядання Сымон Раманчук выяўляе, відаць, сваё запаветнае, якое ў вобразнай форме гаворыць пра своеасаблівае перараджэнне ў ім “беларускага” Гамлета ў Дон Кіхота. Аўтар так і піша: “Ёсць яшчэ і іншыя людзі (...) Іх трагедыя ў наіўнасці, у донкішоцтве. Гэтыя людзі, што ваююць з ветракамі, не знаюць спакою. Гэта нейкае дзіўнае змаганне, гэта боскі парыў. Да якіх людзей належу я? Да гэтых апошніх”.

“Восень жыцця” Сымона Раманчука – твор, якім аўтар правёў, як паказвае ягоная далейшая біяграфія, непераходную мяжу паміж тым, што было да 1965–1969 гадоў і тым, што мела быць пазней. Зыходзячы з культуровых арыенціраў, вучань бельскага педагагічнага ліцэя, студэнт універсітэта ў Мінску і настаўнік з Міхалова мэтанакіравана тварыў свой зямны лёс па высокіх духоўных узорах еўрапейскай хрысціянскай культуры. І не кідаў слоў на вецер да канца сваіх дзён. І зноў невыпадкова ў апошнія свае пяць-шэсць гадоў зямнога жыцця вярнуўся да літаратурнай творчасці, падкрэсліваючы гэтым цэласнасць сваёй індывідуальнасці і застаючыся ўдзячным за падораныя яму таленты.

Ян Чыквін

# БІБЛІЯГРАФІЯ (1958–2016)

Беларускае літаратурнае аб’яднанне “Белавежа”


**1959**

1. *Рунь. Зборнік вершаў.* Выбраў і рэдагаваў Георгій В а л к а в ы ц к і. ГП БГКТ, Беласток 1959, 72 с.
2. [ Мікола Базылюк, Алесь Барскі, Янка Беразавец, Яша Бурш, Зося Бусловіч, Мікрла Гайдук, Уладзімір Гайдук, Тодар Грушка, Уладзімір Дарашкевіч, Янка Дубіцкі, Мікола Красоўскі, Алесь Свісёк, Андрэй Сошка, Анатоль Хлябіч, Дзмітры Шатыловіч, Віктар Швед]

**1961**

3. Д з я д з ь к а Л я в о н ь (Station Станіслаў Вагурка), *Фельетоны*. ГП БГКТ, Беласток 1961, 160 с.

**1962**

4. Алесь Б а р с к і, *Белавежскія матывы*, ГП БГКТ, Беласток 1962, 199 с.

**1963**

5. *Мой родны кут*, ГП БГКТ, Беласток 1963, 176 с. [Алесь Барскі, Мікалай Гайдук, Ягор Хлябіч, Алесь Свісёк, Яша Бурш, Уладзімір Гайдук, Іван Чыквін, Яўген Блізнюк, Віктар Швед, Віктар Рудчык]

**1964**

6. Яша Б у р ш, *Прамень думкі*, ГП БГКТ, Беласток 1964, 32 с.

**1965**

7. *Белавежа. Літаратурны альманах № 1*, ГП БГКТ, Беласток 1965, 320 с.[Алесь Барскі, Васіль Баршчэўскі, Яша Бурш, Антось з Лепля, Мікола Гайдук, Уладзімір Гайдук, Юрка Геніюш, Уладзіслаў Дваракоўскі, С. Заставін, Юрка Зубрыцкі, Мікалай Лобач, Уладзімір Паўлючук, Сымон Раманчук, Віктар Рудчык, Алесь Свісёк, Вінцук Склубоўскі, Янка Целушэцкі, Янка Чыквін, Дзмітры Шатыловіч, Віктар Швед, Сакрат Яновіч, Міхась Забэйда]

**1967**

8. Алесь Б а р с к і, *Жнівень слоў*, ГП БГКТ, Беласток 1967, 196 с.
9. Віктар Ш в е д, *Жыццёвыя сцежкі*, ГП БГКТ, Беласток 1967, 152 с.

**1969**

10. Ян Ч ы к в і н, *Іду,* ГП БГКТ, Беласток 1969, 84 с.
11. Сакрат Я н о в і ч, *Загоны*, ГП БГКТ, Беласток 1969, 281 с.

## 1970

12. Ян Ч ы к в і н, *Святая студня*, ГП БГКТ, Беласток 1970, 47 с.

## 1971

13. *Белавежа. Літаратурны альманах № 2*, ГП БГКТ, Беласток 1971, 200 с.[Адам Міцкевіч, Алесь Барскі, Яша Бурш, Мікалай Гайдук, Уладзімір Гайдук, Юрка Зубрыцкі, Уладзіслаў Дваракоўскі, Міхась Красоўскі, Уладзімір Паўлючук, Сымон Раманчук, Віктар Рудчык, Сяргей Сац, Алесь Свісёк, Вінцук Склубоўскі, Зося Стаськевіч, Леапольд Танкевіч, Янка Чыквін, Віктар Швед, Людвіка Войцікава]
14. Уладзімір Г а й д у к, *Ракіта*, ГП БГКТ, Беласток 1971, 30 с.

## 1973

15. *Літаратурная Беласточчына. Вершы і апавяданні*, Складальнік Георгій В а л к а в ы ц к і, "Мастацкая літаратура", Мінск 1973, 118 с.[Антось з Лепля, Алесь Барскі, Васіль Баршчэўскі, Яша Бурш, Мікола Гайдук, Уладзімір Гайдук, Юрка Геніюш, С. Заставін, Уладзімір Паўлючук, Віктар Рудчык, Алесь Свісёк, Ягор Хлябіч, Ян Чыквін, Дзмітры Шатыловіч, Віктар Швед, Сакрат Яновіч]
16. Sokrat J a n o w i c z, *Wielkie miasto Białystok*. W przekładach Jerzego Litwiniuka, Tadeusza Dżugaja, Jana Huszczy, Edwarda Redlińskiego, Leszka Kożuszki, Macieja Józefa Kononowicza, Wiktora Woroszylskiego, Wiktora Rudczyka, „Iskry", Warszawa 1973, 174 s.

## 1975

17. Алесь Б а р с к і, *Мой бераг*, "Мастацкая літаратура", Мінск 1975, 92 с.
18. Віктар Ш в е д, *Дзяцінства прыстань*, ГП БГКТ, Беласток 1975, 88 с.

## 1976

19. Віктар Ш в е д, *Дружба,* "Мастацкая літаратура", Мінск 1976, 32 с.
20. *Зборнік сцэнічных твораў*, Беласток 1976, с.

## 1977

21. Ян Ч ы к в і н, *Неспакой*, ГП БГКТ, Беласток 1977, 52 с.

## 1978

22. Міхась Ш а х о в і ч, *Прамінанне*, ГП БГКТ, Беласток 1978, 31 с.
23. Сакрат Я н о в і ч*,* Юрка Г е н і ю ш*, Не пашанцавала*, Ваяводская управа, Беласток 1978, 46 с.

